## У 10 нумары „Полымя“ заўважаны памылкі:

На картцы-портрэце між старонкамі 96 і 97 надрукавана: „Члены конфэрэнцыі беларускіх сэкцый РКП(б) у Маскве 21—25-XII—1918 г. **І. Усьціновіч**, а трэба чытаць **І. Блізьнюк**.

На старонцы 241, дзе абзац пачынаецца: „Пералік асоб, прывітальныя тэлеграмы і лісты якіх“, прапушчана—„ад Малчанава, Крэсіна, Вольнага (Ленінград), Усьціновіча, Ляшчынскага А. (Магілеў), Езавітава К. (Беларускае выдавецтва ў Латвіі, Рыга), ад вучняў і настаўнікаў сямігодкі г. Чэрыкава, Мядзёлкі (Сел.-Гасп. Акадэмія, Горкі), Гароніна (Магілеўскі архіў), працаўнікоў і вучняў мастацкага тэхнікуму (Віцебск), Ляцкага А. (Прага), Уладамірскага (Менск), Каваленка Я. (Гомель), Замешынай К. (Менск), А. Цітова (Менск), М. Быкаўца (Харкаў), Мялешкі, Васільлевай, Бахаева, Жаровінай (Менск, Цэнтрархіў). Імшэньніка (Рэчыца), Зэмеля Ю. (Менск) ды інш.“

# ПОЛЫМЯ

## БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

(СЁМЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ)

## № 10

## СЬНЕЖАНЬ

Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва
МЕНСК—1928

**Першаму беларускаму пролетарскаму поэту<br>і рэволюцыянэру, грамадзкаму і політычнаму дзеячу**

## ЦІШКУ ГАРТНАМУ—З. ЖЫЛУНОВІЧУ

### *ДАРАГІ ЗЬМІТРО ТОДАРАВІЧ!*

*Рэдакцыя часопісу „Полымя“ шчыра вітае цябе з тваім юбілеем 20-гадовай літаратурнай і грамадзкай дзейнасьці.*

*Дваццаць год ты аддаваў сваё творчае жыцьцё на справу вызваленьня працоўных, на справу рэволюцыі.*

*Дваццаць год шчырае твае працы, як мастака беларускага слова і як партыйнага і грамадзкага працаўніка, як рэволюцыянэра і змаганьніка за вызваленьне працоўных ад капіталістычна-абшарніцкага ўціску, і як будаўніка соцыялістычнага грамадзтва, будаўніка Ўсясьветнай Комуны, адзначае і ўшаноўвае сёньня ўся працоўная Беларусь.*

*Ты, як мастак слова, апісваў працу і творчае будаўніцтва новага жыцьця рабочых і сялян, і гэтым самым ты зьяўляешся піонэрам беларускай пролетарскай літаратуры.*

*Ты, як рэволюцыянэр-комуніст, ня толькі заклікаў да змаганьня, але і сам быў адным з найпершых сярод шчырых змаганьнікаў і будаўнікоў новай Савецкай Беларусі, новай грамады.*

*Ты адзін з першых ствараў савецкую беларускую журналістыку, ты быў організатарам і ўдзельнікам шэрагу рэволюцыйных часопісаў і газэт, якія служылі мэтам пролетарскай рэволюцыі і замацоўвалі ўсе дасягненьні яе*

*Твой шлях—творчае жыцьцё і змаганьне за новае жыцьцё, новы ідэал—Комуну.*

*Дык жыві, працуй і твары на карысьць працоўных, на справу рэволюцыі!*

*Будзь тым-жа Гартным, мастаком і рэволюцыянэрам!*

*Рэдакцыя часопісу „Полымя“.*

15/XII—28 г.



**Цішка Гартны—Зьмітро Жылуновіч**

Беларускі пролетарскі поэта і грамадзка-політычны дзеяч, былы старшыня першага савецкага ўраду БССР

# Драпежнікі*)

*Роман у трох частках*

**Я. Нёманскі**

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### I

Рог двох бакавых вуліц Менску канчаўся тынкаваным плотам, які сажняў на сто цягнуўся па кожнай вуліцы. Некалі белая фарба гэтага тынку даўно ўжо зрабілася шэраю, нават зялёнаю ад моху ў некаторых мясцох, асабліва там, дзе дрэвы, што расьлі на той бок плоту, ня толькі зьвісалі гальлём над плотам, але працягвалі свае магутныя лапы аж да сярэдзіны вуліцы. Гэтыя дрэвы, бадай старэйшыя за тынк, надавалі вуліцам патаемны выгляд, і ня толькі ўночы, але і ўдзень гэты рог іх прыцягваў увагу сваёю заглухласьцю, пустэльнасьцю. Цікаўны чалавек, які хацеў-бы даведацца, што робіцца за высокім старым тынкам, не адразу здаволіў-бы сваю цікавасьць, бо жалезная брама, выходзіўшая на адну з вуліц, была заўсёды наглуха зачынена. Толькі ўвечары, як сьцямнее, іншы раз забурчыць там сабака і пачуецца павольнае тупаньне чалавечых крокаў.

Цэлыя гады, нават дзесяткі гадоў гэты рог не ажыўляўся. Тынк усё больш плесьнеў, пераходзячы з шэрае ў зялёную фарбу. Брама чырванела ад іржы. Дрэвы ўсё ніжэй зьвісалі сваім гальлём над вуліцаю, і рэдкія праходжыя чапляліся за яго галавою... І вось у адзін дзень жыхары вуліцы былі нязвычайна зьдзіўлены грукатам калёс, ды не адных, а многіх. Усё жывое, што было на гэтай вуліцы, кінулася да варот, вокан, на плот. Сапраўды было на што паглядзець. Уздоўж усяе вуліцы цягнуліся адна за аднэю, доўгаю радоўкаю, каламажкі, фурманкі, кары, а на перадзе ішло дзьве ці тры карэты з пазалочанымі арламі і каронкамі на дзьверцах. Побач з карэтамі і каламажкамі ехалі конна, ішлі ўпешкі вусатыя дзябёлыя мужчыны ў шапках з уваткнутымі ў іх чорнымі пёрамі і ў цёмна-зялёных сурдутах з расшытымі блішчастымі каўнярамі і рукавамі. Брама была адчынена наўсьцяж і глытала адну фурманку за другою.

*) Гл. „Полымя“ № 7.

Насельніцтва вуліцы ўсхвалявалася. Мурзатыя дзеці з голымі пузамі несьліся побач з фурманкамі і, мусіць, праціснуліся-б у вароты, каб там не стаяў паважны палкоўнік або можа і сам генэрал з пугаю ў руках. Ён уважліва аглядаў кожны воз і не забываўся замахнуцца пугаю, калі які занадта цікаўны пузан запускаў свой нос за вароты. Кабеты паднялі страшэнны гармідар і сабраліся ў натаўп каля халупкі шаўца, якая была якраз супроць гэтае патаемнае брамы. Шмат каму з іх давялося ў першы раз убачыць, што за тынкам і дрэвамі знаходзіцца вялізарная камяніца з калёнамі, з ганкам, з высокімі, але вузкімі, як шчыліны, вокнамі. Наверсе над кожным рогам дому падымаліся ўгару, як сьвечкі, тоненькія, вострыя вежы з флюгаркамі на жалезных стрыжнёх.

— Няўжо-ж гэта князь прыехаў?—больш як быццам у сябе пытаўся шавец Мотка.—Я ўжо колькі жыву, вось сьляпы раблюся, а помню толькі два разы, як прыяжджалі сюды князі.

— Ой, Мотка!—загаласіла некалькі кабет, кінуўшыся да яго.—Можа ты запытаўся-б у іх, хто прыехаў!

Стары Мотка перш адмоўна пакруціў галавою, а потым усё-ткі падыбаў на вуліцу. Падышоўшы да аднаго з паноў у зялёным сурдуце, ён далікатна, як толькі мог, запытаўся:

— Пшэпрашам пана! Ці ня будзе пан ласкаў сказаць, хто гэта такі знатны прыехаў да нас?

— Да вас?—нават не абярнуўшыся да Моткі, кінуў зялёны сурдут.— Прэч, лайдак!

Мотка сагнуўся ў тры пагібелі і з выскачыўшымі вышэй вагнутае галавы худымі лапаткамі боязна адышоўся ад сярдзітага і ганаровага гайдука.

Але ўсё-ж праз некалькі хвілін уся вуліца дасканала ведала, што ў горад прыехаў, і надоўга, сам князь з княгіняю і дачкою. Толькі малады князь застаўся ня то ў Пецярбурзе, ня то ў Варшаве, дзе ён служыў афіцэрам у войску.

Князь Зыгмунт Друцкі належаў да аднэй з тых фамілій, якімі валадары іх выдзяляюць сябе ад усяе рэшты чалавецтва; больш гэтага, князь Друцкі лічыў сябе, як падобныя да яго, адным з першых прадстаўнікоў вышэйшае расы. Ён з гонарам хаваў, як асаблівую сьвятыню, усе паперы, якія сьведчылі аб былой крэўнай сувязі яго продкаў з былымі каралямі Літвы і Польшчы. У дадатак да гэтых рэліквій князь Зыгмунт меў і матэрыяльнае пасьведчаньне магутнасьці яго роду. У аднэй толькі Меншчыне ён меў зямлі, абшар якое, каб яна была ў адным кавалку, быў-бы ня меншы за цэлы павет. Вагромністыя лятыфундыі меў ён яшчэ на Віленшчыне і Горадзеншчыне. Іншы раз ён хваліўся, што ёсьць у яго маёнткі, дзе ён ніколі ня быў. Калі на гэта яму жартам напаміналі, што ва ўладаньнях караля Карла V ніколі не заходзіла сонца, дык ён адказваў, што па магутнасьці ён толькі крыху меншы за гэтага караля: у Друцкіх ёсьць асобныя ўладаньні, якіх не аб'езьдзіш ад сонца да сонца.

Князь Друцкі быў польскім патрыётам, марыўшым аб аднаўленьні крулеўства, аб аднаўленьні таго бліскучага сярэднявякоўя, якое захапляла, хвалявала дух магната, выклікала ў ім поцягі да тых імпульсаў, якімі жыў польскі крулеўскі двор у Кракаве. Яшчэ з маладых гадоў князь Друцкі захапіўся мінуўшчынай, накінуўся на вывучэньне гісторыі каралеўства, і трэба аддаць яму справядлівасьць—быў адзін з лепшых знаўцаў вайсковае і дынастычнае гісторыі каралеўства. У Кракаве ён вывучаў гісторыю, кракаўскім пэрыодам польскага двара захапляўся, у Кракаве і сам ажаніўся.

Ня дзіва, што пуставаў дом у Менску, ня дзіва, што намесьнік па Сіняўскай лясной дзялянцы, дзе быў паляўнічы замак князя, ня бачыў ні разу свайго высокага гаспадара. Ён амаль ўсё жыцьцё правёў па-за межамі, больш у Парыжы і ў Вене, з наездамі ў Кракаў, Варшаву і Пецярбург, дзе ўсюды былі ў яго ўласныя дамы з належнай колькасьцю прыслужнікаў.

Нязьмерна шырокія сенажаці і неаглядныя лясы менскіх уладаньняў князя забясьпечвалі яму шырокае жыцьцё. Беларускі селянін, надрываўшы сябе на працы ў князёўскім лесе або на сенажаці, польскі хлоп пад Кракавам у маёнтках жонкі князя, гнучы з вясны да восені сьпіну над бурачнымі палямі, не заўсёды дагадваліся, што яны вышукваюць у зямлі золата, якое зьбіралася ў рэчкі і цякло ў Парыж ці Вену. Асабліва шмат сродкаў траціў князь Зыгмунт на дапамогу розным патрыётычным аб'яднаньням, ці то гэта былі студэнцкія, ці эміграцкія, або проста з няведаўшых за што ўзяцца ў жыцьці людзей. Кожная такая або проста грамадзкая організацыя лічыла патрэбным зацягнуць князя ў свой склад, і ён рэдка калі ўхіляўся: ён быў ганаровым старшынёю шмат якіх патрыётычных суполак, з шмат якімі фактычнымі кіраўнікамі ён нават ніколі ня бачыўся. Сам ён непасрэдна стаяў на чале Венскага польска-патрыётычнага таварыства гісторыкаў, склад якога цалкам адпавядаў яго ўласным імкненьням. У гэтым таварыстве распрацоўваліся і вывучаліся такія проблемы, як стан паляўнічае справы пры двары Баляслава Харобрага, як правядзеньне роўналежнасьцяй між Янам Сабескім, Напалеонам I і Каролем XII, або як родавыя адносіны між польскімі каралямі і наймацнейшымі магнатамі каралеўства. На выданьне такіх „навуковых“ досьледаў князь Друцкі траціў вялікія грошы, з гонарам адзначаючы свае імя выдаўца на багата аздобленых вокладках шматлікіх кніжак. Гэтая яго чыннасьць захапляла яго цалкам, і ён лічыў сябе правадыром польскіх патрыётаў, хавальнікам вялікіх традыцый вялікае Польшчы.

Ня гледзячы на сваё нязьмернае багацьце, князь Зыгмунт Друцкі часта адчуваў няпрыемнасьці з-за недахвату грошай. Утрыманьне вялізных, звычайна пуставаўшых дамоў ва ўсіх сталіцах Эўропы, вялікія ахвяраваньні на розныя „грамадзкія“ патрэбы выцягвалі з сталёвае скрынкі князя Друцкага амаль ня ўсе сродкі, якія цяклі да яго з няведа-

мых палёў, лясоў і сенажацяй. Ня раз княгіня падказвала яму думку крыху прыспыніць сваю грамадзкую і навуковую чыннасьць, больш аддаўшы ўвагі гаспадарцы, але ён рашуча адкідаў такія прапановы.

— Шляхціц мусіць несьці свае абавязкі да канца,—адказваў ён.— На такіх двух-трох чалавеках, як я, трымаецца вялікая ідэя, вялікая гістарычная роля па адраджэньню бацькаўшчыны, яе вялікага мінулага. Нельга адмовіцца ад ролі прадстаўніка нацыі, а дзеля гэтага... патрэбны грошы.

І князь, не патураючы жонцы, вёў шырокае жыцьцё, будучы самым пажаданым гасьцём у самых найвышэйшых колах Вены, Парыжа, Варшавы. З неахвотаю толькі наяжджаў ён у Расію, дзе, аднак, знаходзіліся яго найбольшыя багацьці. Ідэі князя аб польскасьці, а таксама характар яго грамадзкай чыннасьці былі добра вядомы расійскім арыстократычным і дзяржаўным колам, і не сустракалі ўхвалы. Наадварот, губарнатары, вышэйшае расійскае панства адносілася холадна да князя Друцкага, глядзячы на яго, як на нейкага фрондэра.

Аднак, князю Друцкаму давялося ня толькі яднацца з няпрыемнымі яму расійскімі чыноўнікамі і дваранствам, але нават і застацца жыць у далёкім маёнтку на Беларусі. Калі не маглі пераламаць яго невялікія клопаты аб грошах, якіх яму траплялася спрабаваць з-за свайго ўласнага шырокага жыцьця, то зусім інакш стала справа з-за маладога князя. Сын князя Друцкага пашоў па тэй дарозе, якую выбіралі сабе іншыя маладыя людзі з вяльможных фамілій. Ён вучыўся ў унівэрсытэце і, ня скончыўшы, кінуў яго і пашоў у гусары. Вясёлае жыцьцё захапіла князька па вушы. Ён ганарыўся сваім таварышкаваньнем з рознымі князямі, графамі з расійцаў, якія служылі, як і ён сам, у гусарскіх або гвардзейскіх палкох. Бацьку гэтая блізкасьць маладога князя да расійскай арыстократыі зусім не падабалася, але ён мусіў дараваць сыну, лічачы яго яшчэ ня зусім сталым. Стары князь спадзяваўся, што яго сын, як паразумнее, пойдзе па яго, бацькавай, дарозе. Але гэтае мэтаморфозы трэ' было чакаць нямаведама колькі, бо час ішоў, а малады князь ня толькі не станавіўся на бацькаву дарогу, але ўсё часьцей ды часьцей даваў адчуваць вынікі свайго гусарскага жыцьця. Да бацькоў часта даходзілі чуткі аб розных вясёлых гісторыях, героем якіх быў іх сын. Не пасьпявала гісторыя яшчэ крыху астынуць, як налятала другая, і пасьля кожнае з іх зьяўляўся ліст ад маладога князя, у якім ён звычайна вымагаў грошай.

Так цягнулася гады два, і князь Друцкі ўжо прывык да гэтага невялікага распуцтва сына. Ён ня траціў надзеі, што яго лодысь перагарыць ткі і зьвернецца да больш разумнага жыцьця. Але раз, седзячы за нейкаю дварцовай хронікаю ў сваёй бібліотэцы, князь Зыгмунт атрымаў тэлеграму, на якую доўга глядзеў, нібы ня ўмеў чытаць. У гэты дзень князь не абедаў, ні з кім ня бачыўся, ні аб чым не гаварыў.

На другі дзень яго ня было дома, ён езьдзіў у банкі, да гандляроў, да вышэйшага панства Кракава. Увечары ён паведаміў сына, што перасылае таму трыста тысяч рублёў. Гонар князёўскага дому, які мусіў быць збэшчаны за картачным сталом, быў падтрыманы, застаўся непарушным.

Але гэтая ахвяра на падтрыманьне гонару зрабілася потым непасільнаю для князя. Трэ' было пройгрыш сына аплачваць за кошт скарачэньня іншых выдаткаў. Князь нават загадаў сваім цівуном павялічыць арэнду за сенажаці, за пашу. Але і гэта мала пасобіла. Тут-жа яшчэ здарылася надта няпрыемная гісторыя з дачкою ў Вене. Яна нечакана прыехала ў Кракаў да бацькоў. Абставіны з князёўнай Вацей былі такія, што і ў Кракаве заставацца было нельга.

Князь Зыгмунт кінуў свае палацы ў Кракаве, кінуў таварыства сваіх гісторыкаў і, нават не разьвітаўшыся з іншымі „прадстаўнікамі нацыі", са ўсёю сям'ёю і бліжэйшымі прыслужнікамі пакінуў старэйшую сталіцу крулеўства. Ён пераменіў свой раскошны кракаўскі палац, пабудаваны паводле тыпу сярэднявяковых замкаў, на больш просты дом сярод беларускіх лясоў.

Спачатку гэтая перамена была занадта прыкраю для князя. Прызвычаены з маленства да роскашы, да ўгодлівае ўвагі ніжэйшых, да бліскучага жыцьця розных сталіц Эўропы, ён упяршыню апынуўся сярод спакою і даволі монотоннага жыцьця. Маёнтак, закінуты далёка нават ад павятовага гораду, сярод лясоў, нічым ня мог прыцягнуць увагі свайго гаспадара. Ні поле, ні сенажаць, ні жывёла анізваньня ня цікавілі гэтага магната. Цэлымі днямі прастойваў ён каля вакна, гледзячы ў далячыню сівых лясоў, бадзяўся па пакоях, ня ведаючы за што зацяць рукі. Калі зьяўляўся да яго намесьнік з дакладам аб справах гаспадаркі, то ён моўчкі выслухоўваў яго, з нецярплівасьцю чакаючы, калі той скончыць і пойдзе. З дачкою ён стараўся як мага менш сустракацца, і за абедам або вячэраю, калі нельга было ня бачыць яе за сталом, звычайна маўчаў. Нават са старою княгіняю ён нібы разышоўся. Усё гэта стварала цяжкую атмосфэру, якая душыла ўсіх траіх, а разам з імі—і ўсіх дворных. Пакаёўкі, лёкаі, фурманы ня толькі ціха хадзілі ў пакоях, але нават на двары яны шмыгалі, як цені, прагнучы не пападацца на вочы яснавяльможнага пана.

Тыдні праз тры пасьля прыезду ў маёнтак Росаш князь, бадзяючыся па хвойніку, які пачынаўся адразу за дворнымі будынкамі, натрапіў на незнаёмага зараслага валасамі чалавека, які сядзеў пад дрэвам і пільна разглядаў разабраную стрэльбу. Князь, нават ні крыху не павярнуўшы галавы, хацеў прайсьці міма, быццам апроч дрэў нічога і нікога вакол ня было. Але бярэмя кудлаў падскочыла ўверх, а потым раптам—уніз, зрабіўшы нешта падобнае да ўклону.

— Хто ты такі?—запытаўся князь папольску.

— Выбачайце, ваша-мосьць, я тутэйшы!

— Цо то ест „тутэйшы“?

— Не разумею папольску.

Князь блёснуў вачыма, рука яго ўздрыгнула, сьціскаючы сланёвую косьць дарагога кія. Аднак ён стрымаўся і з агідаю на твары пусьціўся ісьці далей.

— Пачакайце, пане! Я вам што скажу...

Князь ня спыняўся, не адказваў. Але праз хвіліну ён адчуў, што касматы чалавек ідзе побач з ім. Разгневаны, князь кінуў, не паварочваючы галавы:

— Што табе трэба? Ідзі прэч!

— Я хацеў запытацца ў вашай-мосьці, ці ня цікавіць вас паляваньне. Я бачу, што вы нудзіцеся, а паляваньне, яно разганяе ўсялякую нуду.

Князь зрабіў яшчэ некалькі крокаў, нібы зусім не заўважыўшы гутаркі гэтага дзіўнага чалавека. Потым ён прыпыніўся і агледзеў свайго выпадковага спадарожніка з ног да галавы.

— Чым ты займаешся?—больш лагодна запытаўся ён.

— Я—лоўчы. Мой бацька таксама быў лоўчым пры двары вашай-мосьці. Але нешта пераваліся добрыя паны, цяпер ужо няма сярод іх паляўнічых.

Перад вачмі князя, мусіць, пранесьліся раскошныя паляваньні сярэднявяковых магнатаў, каралеўскія паляваньні пры дварох польскіх каралёў. Ён нездарма вывучаў гэтыя „гістарычныя“ здарэньні. Мусіць, пры словах непатрэбнага лоўчага ў ім прачнулася пагарда да сучаснасьці і новае захапленьне мінулым, даўно мінулым.

— А ты праўду кажаш,—зусім лагодна адказаў ён лоўчаму.—Шляхецтва адышло ад гэтага шляхетнага абавязку і занятку... Добра, я мушу заняцца паляваньнем.

З гэтага часу лоўчы зрабіўся самым першым чалавекам у маёнтку. Князь кожную раніцу клікаў яго да сябе. З яго дапамогаю ён ладзіў стрэльбы, рыхтаваў картушы, нацягваў на сябе знарочыстую вопратку вяльможнага паляўніка, якую яму пашылі ў Варшаве па здымках са старых гравюр. Кожны дзень князь у малінавай накідцы са срэбнымі галунамі, у высокіх ботах са стральчастымі шпорамі і ў бэрэце з сабалінаю выпушкаю і стравусавым пяром садзіўся на гнедага тонканогага каня і ехаў у лес. За канём бег сабака і ў развалку, з іржаваю стрэльбаю на плячы, матляўся кудлаты лоўчы.

Князёўскія лясы, пустыя, глухія, цягнуліся на шмат вёрст. У гушчарніку вадзілася бясконца ўсякага ляснога птаства і зьвярыны. Тут былі і ласі, і мядзьведзі; дзікія козы стралою несьліся прэч, пачуўшы зрадны тупат або шолах; воўк адыходзіў за яліну і пільна сачыў за падарожнікам чырвонымі іспонкамі нэрвовых вачэй; вавёрка спружыністым камячком пералятвала з дрэва на дрэва, прысядаючы на хвіліну і стрыгучы вострымі вушкамі. Цецярук з клохтаньнем важка падымаўся з зямлі і шрубай залятаў на самы верх высачэзнае старое хваіны.

Паляваньне кепска ўдавалася князю. Лоўчы з ухмылкаю, якой нельга было заўважыць з-за густых вусоў і барады, пазіраў, як князь нязграбна прыстаўляў да пляча стрэльбу, цэліўся і звычайна не пападаў. Блішчастачорная дубальтоўка хісталася ў яго руках, і калі спускаўся курок, падскоквала ўгору. Лоўчы падкідаў сваю задрыпаную стрэльбачку, ня цэліўся, а цецярук ужо сударжна біў крыламі па зямлі.

— Мусіць, пастарэў я,—кожны раз гаварыў князь, як яго стрэльба дарэмна бухала.—А калісь быў добрым паляўнічым, паспрачаўся-б у трапнасьці з панам Володыеўскім.

— З якім гэта?

— Няўжо-ж ты ня чытаў пана Сянкевіча?

— Няпісьменны я, нічога ня чытаў,—адказваў лоўчы.—А дзе жыве гэты пан Володыеўскі?

— Як жыве? Гэта даўно было, мо' і зусім ня было такога пана.

Лоўчы павольна вешаў на плячо сабе стрэльбу і пільна прыглядаўся да князя, быццам імкнучыся адгадаць, ці не шалёны той.

— Спрачацца з чалавекам, якога і ня было! Дзіўна!—мармытаў ён сабе пад нос.

Увечары паляўнічыя варочаліся дадому. Лоўчы цягнуў на сабе ўвесь свой здабытак: некалькі цецярукаў або рабцоў, іншы раз нават дзікую казу. Згінаючыся ад цяжару, ён стараўся пасьпець за канём князя.

— Вось колькі настраляў пан-князь,—хваліўся лоўчы дворным, калі дабіраліся абодва паляўнічыя да маёнтку.—Вось страляе, дык страляе—ніколі ня бачыў такіх паляўнічых! Кожная шрацінка б'е проста куды трэба. Мне, дык нават стрэльбу брыдка скідаць з пляча. Куды мне!

Выезды на паляваньне крыху зьмянілі князя. Ён зрабіўся крыху менш суровым і адасобненым. Калі-ні-калі ён дарыў словам-другім намесьніка, галоўнага пакаёўшчыка, нават фурмана. Аб лоўчым і казаць няма чаго: з тым ён даволі часта вёў гутаркі на паляваньні. Толькі са сваімі крэўнымі—з жонкаю і дачкою ён быў нязьменна маўклівы, нібы зашпілены на ўсе гаплікі. Князёўне Ваці нядужылася, яна цэлымі днямі праседжвала ў сваіх пакоях, акружаная трыма ўжо стараватымі пакаёўкамі. У старое княгіні толькі і было занятку, што даць інструкцыю старэйшай пакаёўцы, якая даглядала за Ваццяю. Больш ёй рабіць ня было чаго ў гэтай пустэчы.

Нарэшце, яна ня вытрымала. Адзін раз, як князь вярнуўся з паляваньня, яна сустрэла яго аж на ганку. Князь быў зьдзіўлены і зьбянтэжаны гэтым здарэньнем.

— Выбачайце, пані княгіня, зноў што здарылася?—непакойліва запытаўся ён.

— Нічога ня здарылася, князь Зыгмунт, нічога! Я толькі...

— Нічога? Дык чаму-ж пані княгіня забылася аб шляхетным этыкету—як гэта вы апынуліся на ганку? Трэба захоўваць шляхетнасьць нават і ў лесе, ня толькі пры двары аўстрыяцкага монарха.

— Даруйце мне, князь. Я маю патрэбу пагаварыць з вамі і хацела пабачыць вас, пакуль вы не зачыніцеся ў сваіх пакоях.

— Вы маеце патрэбу гаварыць са мною?.. Калі ласка,—пачакаўшы крыху, з царамонным уклонам, запрасіў ён.

Праз поўгадзіны пакаёўшчык князя, апрануты ў сурдут з блішчастымі нашыўкамі па баках і на каўняры, расчыніў шырака дзьверы перад княгіняю. Цягнучы за сабою хвост доўгае машаставае вопраткі, пасыпанае срэбнымі кветкамі, яна паважна ўвашла ў прыймовы пакой мужа. Той, таксама ў парадным адзеньні, пашоў ёй насустрач з вясёлым прыветным тварам. Паднёсшы яе руку да губ, князь павёў яе і пасадзіў у крэсла.

— Пакіньце нас,—загадаў князь пакаёўшчыку, які слупам стаяў каля дзьвярэй.

— Я вас слухаю,—прагаварыў ён ужо бяз жаднае прыветнасьці, як толькі ледзь чутна скрыпнулі дзьверы за вышаўшым лёкаем.

Твар яго стаў, як звычайна, суровым, нялюдзімым. Глядзеў ён кудысь у бок, абмінаючы месца, дзе сядзела княгіня.

— Зыгмусь... Зыгмусь!

Пакой запоўніўся глухімі прыдушанымі ўсхліпваньнямі. Князь падняўся з крэсла і прайшоўся па пакою з кутка ў куток.

— Зыгмусь, мы так больш ня можам... нам не пад сілу жыць у такой адчужанасьці. Зыгмусь, пашкадуй нас.

Княгіня паводзіла мокрымі бліскучымі вачыма сьледам за маршаваўшым мужам. Плач ускалыхваў яе мяккія высокія грудзі.

— Як пашкадаваць?—запытаўся, прыпыняючыся, князь.—Я не разумею вас, княгіня. Здаецца я ўсё зрабіў, што можна было зрабіць лепшага.

— Так, вы зрабілі! Але нельга-ж больш трываць тае адчужанасьці мужа ад жонкі і бацькі ад дачкі, якую вы выказваеце нам абедзьвюм. Бывае нават, што ў вас адчуваецца ня толькі адчужанасьць, але і выразная агіднасьць.

— Ах, калі вам так ужо дапякло, калі вы адчуваецца гэта, то і я скажу,—скідаючы зусім сьвецкі тон і выгляд, галасьней загаварыў князь.— Вось ты прышла прасіць пашкадаваць, а я да каго пайду? Вы ўсе пашкадавалі мяне? Змарнатравілі грошы, ледзь ня збэсьцілі—што я кажу?— збэсьцілі, збэсьцілі маё імя, прымусілі кінуць навуку, сваё кола людзей, загналі ў гэтую багну, адхілілі ад вялікае справы па адраджэньню бацькаўшчыны, як дзяржавы,—і пашкадаваць вас? Як шкадаваць? Я вас не катую, хоць вы гэтага варты. Я толькі ня маю, страціў ня толькі цёплае, але самае звычайнае слова да вас. Чаго-ж вы хочаце ад мяне? Цяжка залечваць раны, здабытыя ў старасьці.

— Можа праўда і ёсьць у тым, аб чым ты гаворыш. Але-ж паправіць тое, што здарылася з Вацяй, ніхто і ніяк ня можа,—перастаючы плакаць, прагаварыла княгіня.—Тым, што ты стаў чужым да мяне і да Ваці, яшчэ больш клопат можна нажыць.

— Горшага нічога ўжо ня будзе.

— А я думаю, што можа здарыцца такое, пра што і думаць усьцішна... Спачатку яна хварэла сам ведаеш ад чаго, а цяпер яна нэрвуецца, сохне ў гэтых абрыдлых пакоях і можа на сьцены палезьці ад нуды.

— Дык што-ж рабіць?

— Папершае, кінь ты сваю адмежаванасьць, гэтую маўклівасьць і агіду да нас, а падругое, трэба падумаць аб нейкіх людзях, бо нельга-ж жыць у поўным адзіноцтве, зачыніўшыся ў чатырох кутках.

— Ах, можа вам з дачкою ізноў артыстыя патрэбны?—упікліва і са злоснаю ўсьмешкаю запытаўся князь.—Я, вось, заўтра паеду шукаць павятовых ды губэрскіх музыкаў або комэдыянтаў. Можа знойдзеце каго па сэрцу.

— Не да кпін мне, Зыгмусь!—зноў заплакала княгіня.—Не ўспамінай ты больш пра артыстых—хопіць... А я вось аб чым думаю,—супакоіўшыся крыху, сказала яна.—Тут-жа вакол нас мусіць быць шляхта, а мо' і досыць вяльможыя паны. Трэба знайсьці новых знаёмых.

— Так, так! Княгіня Друцкая і павятовая або засьцянковая шляхта! Ну, што-ж, і Наполеон казаў, што ад вялікага да сьмешнага адзін крок... Урэшце,—дадаў, счакаўшы, князь,—як сабе хочаш: заводзь знаёмствы, наклікай паноў, напоўпаноў, толькі я застануся ў баку ад гэтай мясцовай чэлядзі.

— Гонар гонарам... а жыць замураваным усё-ж нельга. Будзем лічыць, што аб гэтым мы ўмовіліся, і я зраблю ўсё, каб падабраць належнае шляхетнае грамадзтва,—зусім супакоеная, прагаварыла княгіня.

Князь страсянуў срэбным званком. Пакаёўшчык слупам стаў каля дзьвярэй.

— Дык вы напішаце, князь Зыгмунт, у Вену, каб нам прыслалі ноты,—падаючы руку, весела гаварыла княгіня.

— О, пані княгіня, ці-ж магу я забыцца на гэта,—адказаў князь, схіляючыся губамі да яе рукі, з самым прыветным тварам.— Князёўна Ваця не павінна шкадаваць, што зьмяніла гоман прыдворных баляў на гоман нашых лясоў.

Лёкай адступіўся крок назад, прапусьціў княгіню ўперад і пашоў сьледам, нясучы за ёю даўжэразны шлейф.

## II

Няхай сабе маёнтак Друцкага Росаш і стаяў сярод лясоў, у баку ад больш залюдненых мясцовасьцяй, але ён быў добра вядомы шляхце не аднаго нават павету. Яго адлюдненасьць, на стары манер пабудаваны палац з патаемнымі ходамі, з скляпамі, былі належна скарыстаны ў 1863 годзе „жондам народовым“. Шляхетныя паўстанцы, з маўклівае згоды быўшага недзе далёка князя (бацькі князя Зыгмунта), зрабілі сабе ў гэтым маёнтку адзін з сваіх прытулкаў, дзе хавалася зброя і дзе зьбі-

раліся і гуртаваліся мясцовыя сілы шляхты. Пасьля ліквідацыі паўстаньня ў лесе, адразу за маёнткам, было расстрэлена казакамі каля дванаццаці сялян, паноў-жа быццам там не засталі. Гэтыя крывавыя падзеі, а таксама закінутасьць маёнтку з боку яго гаспадароў, абвалаклі Росаш нейкім флёрам патаемнасьці, жудасьці. Праз гэта прыезд сям'і князя ў гэты маёнтак выклікаў шмат гутарак сярод панства. У кожным маёнтку, фальварку і пані, і паненкі цэлымі днямі ламалі галовы і языкі, ствараючы самыя фантастычныя дагадкі аб прычынах такога нябывалага здарэньня.

Яшчэ больш мешаніны паднялося сярод вяльможнае і сярэдняе шляхты, калі кожны маёнтак аб'яжджаў князёўскі егер, перадаючы паном і паням урачыстыя канвэрты, аздобленыя каронкаю. Князь і княгіня, спасылаючыся на занядужаньне свае дачкі, прасілі прабачэньня, што ня робяць візытаў, і запрашалі дарагіх суседзяў наведвацца да іх. Гэтыя запросіны і ўсхвалявалі і задаволілі шляхту. Амаль усе былі абураны тым, што князь, мусіць з-за гонару, не аддае візытаў і, як кароль, патрабуе ўсіх да сябе. Усе аб гэтым гаманілі, а тымчасам надта старанна рыхтаваліся да прыёму ў Росашах. Трошкі жудасна было туды ехаць, куды ніхто з паноў не заглядаў ужо шмат гадоў. Але жудасьць заўсёды падказлытвае ўвагу і зацікаўленасьць, і праз гэта ня было такое панскае сям'і, з атрымаўшых запросіны, якая-б не рыхтавалася ад каламажкі да завіўкі валасоў.

У дзень, вызначаны для прыёму, князёўна Ваця яшчэ зранку пашла да бацькі, каб застаць яго да ад'езду на паляваньне, якое ён не хацеў пакінуць нават і ў гэты дзень.

— Татка, я прышла да вас, каб напомніць, што сёньня да нас зьбіраецца ўся шляхта,—зусім спакойна, як быццам яны былі толькі добрымі знаёмымі, сказала яна, спыніўшыся ля дзьвярэй.

Князь акінуў дачку халодным поглядам і адказаў, нацягваючы пальчаткі:

— За паведамленьне дзякую вас, князёўна, толькі яно для мяне значэньня ніякага ня мае. Вы склікалі з княгіняю, а я тут зусім у баку. Пранусь, падавай гарапнік і стрэльбу!—клікнуў ён за дзьверы.

— Цябе князь ня клікаў,—весела зьвярнулася князёўна да ўвайшоўшага лёкая.—Ідзі сабе!

Бацька акамянеў на месцы.

— Вы не паедзеце сёньня на „паляваньне“,—сьвідруючы зялёнымі вачыма яго бледны нярухомы твар, сказала князёўна, як толькі лёкай схаваўся за дзьверы.—Вы і стрэльбу трымаць ня ўмееце. Ха-ха-ха!—ігрыста-жудка залілася яна сьмехам.

Князь здрыгануўся, быццам сьцебанулі яго па твары гарапнікам. Сударга ахапіла яго рукі, пальцы. Толькі праз хвіліну ён змог адкрыць рот.

— Вы, князёўна, шалёнаю зрабіліся?—ледзь стрымліваючы сябе, каб ня крыкнуць, запытаўся бацька.

— Хвала богу—не! Але як сабе хочаце, так і думайце пра мяне, толькі я не дазволю вам ухіліцца сёньня ад прыёму гасьцей. Чуеце вы ці не?

Голас яе зрабіўся звонка-мэталёвым. Тонкія голыя рукі выгіналіся як гадзюкі. Чырвоныя поўныя губы ледзь дрыжэлі ад унутранага сьмеху.

— Як ты адважылася так гаварыць са мною... паскудніца?—засычэў князь.—Ты, апляваўшая маю сівую галаву?

— Ваша галава для мяне сьвятая,—агідна прамовіла дачка,—а да мяне вам справы няма. Даволі ўжо зьдзеку, адплацілі ўжо мне за ваш гонар...

Князёўна, лёгкая, тонкая, як малады явар, высьлізнула з апартамэнтаў бацькі. Ён доўга нярухома стаяў на месцы, а потым сеў у крэсла і закрыў рукамі вочы. Стравусавае пяро на бэрэце бязвольна схілілася і зьвісла ўніз.

— Пранусь, Пранусь... Я сёньня не паеду ў лес: нават забыўся аб гасьцёх, якія мусяць прыехаць да нас; добра, што панна князёўна напомніла аб іх. Трэба-ж мець такую кароткую памяць! Пастарэў, шмат пастарэў.

Пранусь скінуў з яго малінавую накідку, сьцягнуў высокія боты са шпорамі і пачаў апратваць у звычайны сурдук і гамашы.

— Пастарэў, пастарэў! — мармытаў князь, падстаўляючы ўкленчанаму Пранусю адну за аднэю свае ногі.

Княгіня была зьдзіўлена і ўзрадвана тым, што князь ажывіўся, цікавіўся зборамі да прыёму, сам распарадзіўся аб парадку, раіўся нават з ёю аб розных дробязях, так патрэбных у рытуале шляхетных абыходзін, асабліва з незнаёмымі. Ён нават падзяліўся з ёю аб тэй няёмкасьці, якую адчуваў, паводле яго слоў, ад таго, што прыходзілася за адзін раз мець справу з грамадою незнаёмых людзей. Нікога яны з сучасных суседзяў ня бачылі ніколі, нават ня чулі раней ні пра кога, за выключэньнем пана Ляскоўскага, які меў нейкую там сувязь з іх сынам.

З паўдня пачалі зьяжджацца ў Росаш паны. Па дарозе, якая роўнаю градою ўпіралася ў блізкі лес і хавалася там, як адрэзаная, паказваўся то крыху аблезлы фаэтон, то цяжкая крытая каламажка, аздобленая мітолёгічнымі малюнкамі на дзьверцах і напоўненая цэлым вывадкам якое-небудзь старраннае пані. Набліжаючыся да палацу, фаэтоны, каламажкі, аздобленыя і дапасаваныя да панскага карыстаньня, поўкаркі спынялі свой ход і, бадай, ад самага лесу коні пускаліся толькі ступой. Фурманы асьцярожна аглядаліся, нібы чакалі нечага нядобрага, паны выцягвалі шыі, напускаючы на сябе як мага больш сур'ёзны, паважны выгляд.

Князь сустракаў сваіх гасьцей у залі. Апрануты ў магнацкі каптан, спэцыяльна зроблены для ўрачыстых прыёмаў, князь рабіў на ўсіх уражаньне вялікасьці. Яго сьвецкія абыходзіны, кракаўскае вымаўленьне папольску, уменьне трымаць сябе разам і прыветна і з выглядам свае

недасяжнасьці падкрэсьлівалі яго выдатнасьць сярод гасьцей. Кожны з уваходзіўшых адразу падпадаў пад уплыў уражаньня вялікасьці магната, траціў той незалежна-сур'ёзны выгляд, які напускаў на сябе пад'яжджаючы да палацу: або апусьціўшы вочы, або з нізкімі ўклонамі, круцячы хвалдамі сурдута, шляхціц нешта мармытаў сабе пад нос у адказ на вычварнае прывітаньне гаспадара, або хаваўся за сьпіну жонкі, якую выпускаў уперад. Разуменьне вялікасьці гаспадара разам з нявыжытым яшчэ пахам былое пустэльнасьці палацу зьвязвала языкі паном, паням і паненкам: маўкліваю радоўкаю расьсядаліся яны паўз сьцены, толькі шэптам або прыдушаным голасам абменьваючыся словам-другім. Князь калі-ні-калі кідаў на гэты шнурок манекенаў погляд, у якім блішчэла іскра насьмешкі, але ніводным словам ня выказаў яе.

Не прыняла ў сябе гасьцей і князёўна Ваця. Яна зьявілася ў залю з такою вясёласьцю, што здавалася пасьвятлелі хмурныя сьцены і суровыя твары нейкіх рыцараў, намалёваных на столі. Абыходзячы гасьцей, яна знаёмілася сама, дзякавала за наведаньне, здавалася ад душы хваліла вопратку паняй і паненак. Але і гэтая прыемная прыветнасьць не магла расчухаць грамады: наадварот, бліскучыя дыямэнты князёўны на пальцах і ў валасох, яе празрыста-вострыя вочы, мусіць, асьляплялі засьцянковых шляхцянак, і яны чародкаю зьбіліся ў кучу ў адным кутку залі, вылупіўшы з тузін пар вачэй на грацыёзны прывід, які лёгка, як матыль, пераносіўся з месца на месца. Гэтая маўклівасьць і зьдзіўленьне, што ня сыходзілі з твараў кабет, нарэшце, мусіць, апрыкрылі і князёўне, яна стала менш гаварыць, чаравічкі яе ўжо мацней цокалі па падлозе, у вачох часта пачаў загарацца зеленкаваты бляск...

Але вось лёкай паведаміў аб прыезьдзе паноў Ляскоўскіх.

І гаспадар, і госьці лягчэй уздыхнулі, калі ў дзьвярах паказаліся спачатку панна Ядзя, а за ёю Станіслаў Ляскоўскі, вёўшы пад руку сваю яшчэ маладаватую матку. Князь быў узрадаваны, пабачыўшы першага госьця, з якім у яго магло быць што-небудзь супольнае і які рабіў добрае ўражаньне як манерамі, так і вопраткаю. Пан Ляскоўскі не саромеўся, ня згінаўся, як усе іншыя. Заварушыўся таксама і чатырохкутнік шнурка панскіх галоў: пан Ляскоўскі быў для іх сваім, знаёмым; хоць ён стаяў вышэй шмат каго па свайму багацьцю, але-ж ад яго ня несла такою недасяжнасьцю вялікасьці, як ад князя. Многія залівалі прыветна яму галовамі, нават адважыліся парушыць кляштарны супакой залі павышанымі галасамі. Словам, Ляскоўскія сваім зьяўленьнем зламалі холад гэтага першага знаёмства магната з мясцоваю шляхтаю. Пачаліся жвавыя размовы, госьці ўжо пачалі шукаць сваіх знаёмых, прыяцеляў, і гутарка напоўніла залю. Асабліва задаволена была князёўна такім паваротам справы. Яна адразу сышлася з паннаю Ядзяю, нібы яны былі знаёмы з маленства. Носячыся па залі, яна цішкам кідала погляды на пана Стася, які значна адасабняўся ад усяе грамады сваім выглядам.

Зьезд скончыўся. Лёкай ужо не дакладаў аб новых гасьцёх. Князь сышоў з свайго месца, якое ён займаў крыху ў баку ад уваходных дзьвярэй залі, пачаў хадзіць між гасьцей, прыслухваючыся да гутарак, устаўляючы тое ці іншае слова, але толькі папольску. Чым больш ён прыслухваўся, тым больш твар яго нацягвала маска ахалоджанасьці, нават часамі і несхаванае агіднасьці.

— Пане Ляскоўскі,—нарэшце ня вытрымаў ён і падышоў да Стася,— выбачайце мяне, што я можа, крыху займу вашу ўвагу.

— Калі ласка, калі ласка, ваша сьветласьць,—з гатоўнасьцю, адказаў той.

— Я буду гаварыць з вамі, як з радавітым польскім шляхціцам. Скажэце, наша шляхта зусім запамятала мову бацькаўшчыны?

— Ня зусім разумею вашае запытаньне, а таму мне цяжка адказаць.

— Не разумееце?—зьдзівіўся князь.—Ці-ж вы ня чуеце, што папольску гаворыць ня ўся шляхта, а тыя, хто і гаворыць, то ўжываюць нейкую сапсаваную мову... Нават вы, выбачайце мяне, гаворыце ня чыста папольску.

Пан Ляскоўскі пачырванеў, але адразу саўладаў з сабою. Ён нават крыху насьмешна зірнуў на князя, на яго малінавы каптан-казачыну.

— Дзе-ж нам мець чыстую высокародную польскую мову?—прагаварыў ён.—Жывем мы ў лесе, маем справу з зямлёю, скацінаю. Да варшаўскіх салёнаў або кракаўскіх замкаў нам, вядома, далёка. Апроч гэтага, такім маленькім людзям, як мы, не заўсёды зручна карыстацца польскаю моваю.

— Што я чую, пане Ляскоўскі?—вышэй падняўшы галаву, з лёгкім гневам запытаўся магнат.

— Ці-ж вы не разумееце, што іншы раз меркаваньні карысьці шмат большую вагу маюць, чымся што іншае.

— Ах, так, так! Бывае карысна дагадзіць расійскаму чыноўніку, і дзеля гэтага адмовіцца ад усялякіх нацыянальных ідэалаў?

— Так, так, ваша сьветласьць!—вясела пацьвердзіў пан Ляскоўскі.

Князь змоўк і адышоўся ад Ляскоўскага, апусьціўшы голаў. Даўгія сівыя вусы яго бясьсільна зьвісалі ўніз, кранаючыся яго расшытага малінавага каптана. Ён ужо не зьвяртаў больш увагі на гасьцей, з невясёласьцю, якую можна было лічыць за стомленасьць старога, праходзіў па залі, часта хаваючыся ва ўнутраныя пакоі. Жвавыя гутаркі, сьмех, сярод якіх выдзяляўся голас князёўны, да якога ўсе прыслухваліся, ані не закраналі яго. Некалькі разоў ён падыходзіў да княгіні і напамінаў, што прыём трэба скончыць, што паводле этыкету госьці павінны былі-б разьвітацца ды паехаць сабе дамоў.

— Яны і ня зьбіраюцца яшчэ,—адказала княгіня.—Кожны праехаў досыць дарогі, і галодны дамоў з гасьцей ня мусіць вяртацца.

— Дык што-ж вы будзеце з імі рабіць?

— Трэба наладзіць вячэру. Я да гэтага загадзя падрыхтавалася.

Тымчасам у залі загучэў рояль. Дзьве-тры пары закруціліся ў кракавяку. Але ніхто ня цікавіўся танцорамі, і яны дарэмна стукалі абсацамі. Танец так няпрыкметна спыніўся, як і пачаўся. Толькі князь крытычна разглядаў танец, спыніўшыся пры праходзе ў свой пакой. Ён хацеў ужо схавацца за дзьверы, як пасьля трох-чатырох спробных акордаў, па залі панесьліся салодка-спакусныя гукі танго. Але ня гэтыя гукі затрымалі князя, а яго ўласная дачка. Яна выскачыла на сярэдзіну залі, дзе нікога ня было, і пачала выгінацца ў тахт музыкі. Хутка каля яе апынуўся пан Ляскоўскі, і яны пачалі сьлізгаць па залі. То прыліпаючы зусім да мужчыны, то падстаўляючы яму губы, нібы для пацалунку, то праціnaючы яго зялёнымі іскрамі сваіх вачэй, калі ён абымаў яе і блізка прыцягваў да сябе, насілася яна нячутна сярод кола змоўкшых людзей. Твар яе то чырванеў, то бялеў, грудзі ўздымаліся і дакраналіся да грудзей кавалера. З абурэньнем глядзеў на гэту зьяву князь, агідна ўхмыльнуўся, пачуўшы нейкі шэпт з боку пажылога шляхціца. Зусім аслупянеў ён, калі дачка не пакінула скакаць нават як заціх рояль: чорная-белая пара, як у сьне, вілася, круцілася па маўклівай залі.

Князь павярнуўся і схаваўся за дзьвярыма. Вячэра, разьезд гасьцей адбылася без яго, хоць княгіня некалькі разоў пасылала па яго лёкая.

На другі дзень, як і заўсёды, князь паехаў у лес; за канём беглі сабака і лоўчы. Маўклівасьць зноў павісла хмараю над палацам і ў палацы. Калі высокая сям'я сыходзілася разам за сталом, то княгіня з дачкою знарок заводзілі гутарку аб суседзях, думаючы ўцягнуць у яе і старога князя. Але ён заставаўся нямым і глухім. Пералічваючы новых знаёмых, князёўна рагатала над іх гутаркаю, вопраткаю, над тым, як яны сапуць за ядою. Потым яна адразу змаўкала, і твар яе рабіўся злосным, зеленкаватым.

— Які цяжар, нязьмерны цяжар!—з вялікаю нудою вымаўляла яна, кідала на бацьку ледзяны позірк і пакідала полудзень ці вячэру нават у сярэдзіне або ў пачатку.

Толькі аб Ляскоўскім успамінала яна з прыемнасьцю і лічыла, што гэта адзін чалавек, які заслугоўвае ўвагі. Некалькі разоў яна пры бацьку выказвалася аб тым, каб зноў запрасіць яго. І на гэта князь нічога не адказаў. Тады княгіня ад сябе паслала запросіны да Ляскоўскага. Той наведаўся раз-другі. Але ніводнага разу князь ня прыняў яго, ня бачыўся з ім. Княгіня з дачкою тлумачылі Ляскоўскаму, што князь да сьмерці любіць паляваньне і часта можа забавіцца ў лесе. Але гэтыя тлумачэньні зусім сталі нічога нявартымі, калі князь не зьявіўся ў Ляскаўцы на запросіны на адчыненьне гуты. З гэтага часу Ляскоўскі, якога ўсё больш пачалі непакоіць зеленкаватыя вочы і чырвоныя губы князёўны, не паказваўся больш у Росаш, хоць і атрымліваў раз-два канвэрты, ад якіх пахнула вабячаю парфумаю.



**Чарвякоў Аляксандар**

Камісар Народнага Камісарыяту Асьветы першага савецкага ўраду
і цяперашні старшыня ЦВК БССР і СССР

— Чаму гэта пан Ляскоўскі не заглядае да нас?—адзін раз запыталася, нібы незнарок, Ваця ў мацеры ў прысутнасьці князя.

— Можа ён абразіўся, што мы не аддалі яму візыту,—паглядаючы на мужа, адказала раздумна княгіня.

Здарылася нешта нязвычайнае. Князь ускочыў з-за стала, цяжкае крэсла грукнулася аб падлогу. Кабеты крыху спалохана глядзелі на князя, губы якога дрыжэлі.

— Ці доўга давядзецца мне чуць ад вас пра гэтага шляхціца? Абрыдла, абрыдла мне чуць яго імя! Гаварэце, калі ласка, аб ім, аб кім хочаце, толькі ня пры мне.

— Чым вам, князь Зыгмунт, не падабаецца пан Ляскоўскі? І багаты, і добрае сям'і,—зусім сьвецкі чалавек. Чаго вы сярдуеце на яго?

— Я не сярдую! Ха-ха-ха! Сердаваць на пана Ляскоўскага! Каб князь Друцкі сердаваў на нейкага там шляхціца Ляскоўскага! Гэта быў-бы занадта вялікі для яго гонар.

— Дык у чым-жа справа, князь Зыгмунт? Я вас не разумею.

— Гэта ня дзіва, што вы не разумееце. Вашага пана Ляскоўскага я бачыць не жадаю, пані княгіня і панна князёўна!

— Усё-ж не зразумела, чаму гэта так?—востра ўставіла князёўна.— Можа таму ён вам не пажаданы, што ня носіць прозьвішча Патоцкіх або Радзівілаў?

— А хоць-бы і таму. Ні Патоцкія, ні Радзівілы не дазволілі-б сабе пры першым спатканьні з вамі, князёўна, пусьціцца ў гэты паскудны скок... Вы памятаеце ваш... ваш танго?

— Ха-ха-ха!..—Князёўна доўга не магла суцішыцца ад сьмеху.—Вам не даводзілася бачыць, як князі, графы, куды больш вяльможныя за вашых Патоцкіх, цэлыя ночы наскрозь тангуюць ды ня толькі з князёўнамі, а... а з выпадковымі дамамі, аб якіх яны на раніцу і забываюцца.

— Вы больш асьвечаны ў гэтым,—сумна, з гаркатой адказаў князь, зьбіраючыся пакінуць адных жонку і дачку.

Ён пашоў павольным крокам, быццам яшчэ хацеў што-колечы сказаць і ня мог адважыцца. У дзьвярах спыніўся.

— Пана Ляскоўскага я не хачу бачыць і таму,—выразна вымаўляючы кожнае слова, сказаў ён адтуль,—што ён шляхціц не майго густу: калі адзін з наймацнейшых прадстаўнікоў польскае нацыі блытаецца ў польскай мове, і нават лічыць карысным ня ўжываць бацькаўскай мовы, то ён ня можа разьлічаць на маю прыхільнасьць ці ўвагу. Au revoir, mesdames!

Пасьля гэтага гутарка аб запрашэньні Ляскоўскага ў Росаш больш ужо ніколі не падымалася. Пацягнуліся нудныя дні, калі абедзьве кабеты, прымаўшыя калісь у сваіх салёнах арыстакратаў розных краін і розных нацый, ня ведалі куды ім дзецца. Нават прыбіраць сябе ў найдаражэйшыя і найпрыгажэйшыя вопраткі не патрэбна было, бо ня было куды і каму паказацца ў іх. Князёўна сноўдалася па сваіх вялізарных, сумных,

як ваколічны хвойнік, пакоях, калі-ні-калі садзілася за рояль і агалашала магільны супакой дому гукамі Вагнеравых твораў. Але давесьці да канца якую-небудзь адну арыю або ўступ да Лёэнгрына ёй ніколі не ўдавалася. Рукі слаблі і бязвольна кляліся на клавіятуру. Прабавала яна чытаць— вершы, романы здаваліся занадта прэснымі, нічога захапляючага ў іх ня было. Больш падабаліся ёй—і нават захаплялі—апісаньні такіх, напрыклад, зьяў, як яванскі храм каханьня, заснаваны вяльможнымі і багатымі эўропэйскімі кабетамі; падабаўся ёй „Сад пакутаў“ Октава Мірбо; з палякаў яна прызнавала крыху Пшыбышэўскага. Яго „Моцнага чалавека“ яна дачытала нават да канца.

Так прайшоў амаль год пасьля прыезду князёў у Росаш. Невядома, колькі пражылі-б яны там сярод хмурных лясоў, у старым заглухлым палацы, каб ня здарыўся такі выпадак, які падштурхнуў старога князя на дзейнасьць. У тую вясну, калі пан Ляскоўскі пускаў сваю гуту, князь рабіў далёкія выпраўкі па сваім неабсяжным лесе. З двума-трыма кніжкамі хронік у кабуры сядла ды са сьнеданьнем—у другой, ён цэлыя дні бадзяўся па лесе, пудзячы чароды ласёў з маладымі ласянятамі. Іншы раз ён заяжджаў так далёка, што заставаўся начаваць у лесе.

І вось, варочаючыся ў палац аднэю раніцою, ён заўважыў у баку ад дарогі нейкую белаватую пляму, якая зусім не падыходзіла пад звычайныя рэчы, што можна бачыць у лесе. Зацікавіўшыся, ён зьлез з каня, прывязаў яго і пашоў глядзець. Стрэльбу, аднак, трымаў напагатове. Калі ён падышоў бліжэй, пляма заварушылася і набыла форму кабеты. Плечы і грудзі ў яе былі голыя. Князь зьбянтэжыўся, а потым нават плюнуў, забыўшыся на сваю вялікасьць. З агідай павярнуўся ён да свайго каня. Але нешта быццам укалола яго ў шыю. Ён азірнуўся назад— і скамянеў на месцы! Проста яму ў вочы ўрэзваліся стрэлы зеленкаватых жудасных вачэй дачкі. Вопратка яе была шмат дзе падрана, непакрытыя валасы ўскалмачаны, на твары, бледным, як крэйда, чырванелі дзьве-тры плямкі запёклай крыві.

— Што... што здарылася з табою, дачушка?—са страхам пытаўся князь.

Дачка моўчкі ўсё глядзела на яго. Яе погляд быў поглядам сомнамбулы, толькі нейкі нязвычайна востры, калючы. Князь ня мог вытрымаць гэтага погляду. Дапытвацца таксама ён баяўся. Падхапіўшы дачку на рукі, ён пасадзіў яе на каня і, трымаючы, каб яна не звалілася, павёз у маёнтак.

Пачаўшыя ўжо забывацца аб тым, што ў Росашы жыве князь, паны былі ўстрывожаны зноў, калі на гасьцінец выбраліся з князёўскіх лясоў вазы, на якія навалена была мэбля, куфры, пакаёўкі, лёкаі. За гэтымі вазамі, праз дзень, паказаліся карэты з гэрбамі, фаэтоны і брычкі з дзівачна апранутымі фурманамі, гайдукамі.

Праз тры дні гэты нязвычайны паезд уваліўся ў бакавую вуліцу Менску, нарабіўшы там таксама шмат мітусяніны. Стары шавец Мотка за сваю цікавасьць траха не зламіў па патыліцы, а „генерал“ ледзь адбі-

ваўся ад мурзатых дзяцей, якія нібы мухі, лезьлі ў вароты, прагнучы разгледзець цікавы стары дом з вежамі і флюгаркамі над яго вугламі. Стары дом аджыў. Закінуты, можа, на працягу дваццацёх год, ён пачаў рыхтавацца да таго, каб зрабіцца цэнтрам увагі ўсяго губэрскага шляхетнага стану.

## III

Пасьля ад'езду Друцкіх у горад Ляскоўскі нядоўга ўспамінаў пра іх. Толькі часамі ўставалі перад ім малюнкі, як гнуткае гарачае цела князёўны абкручвалася вакол яго ў танго. Замест князёўны перад яго вачыма часьцей зьяўлялася маленькая зграбная постаць канторшчыцы Зосі. Яе ўпартасьць, суровая адчужанасьць на працягу ўжо больш, як поўгода, толькі распаляла ўсё больш яго жаданьні. Доўга ня мог ён уцяміць сабе прычыны такое ўпартасьці. Яму здавалася, што такая дзяўчына, як Зося, у якое кофта з таннага паркалю і чаравікі з тоўстага шкурата, павінна адразу пайсьці да яго, абы ён паківаў пальцам. Здавалася, што і не такія аддаваліся яму пасьля двох-трох гутарак. Толькі ўжо пасьля хваробы Зосі, калі ён запытаўся аб ёй у бухгальтара Пісарэўскага, яму ўдалося, як здавалася, натрапіць на сьлед прычыны, па якой Зося была такою ўпартаю ў адносінах да яго.

— О, панна Зося ўсё харашэе,—лепятаў Пісарэўскі на запытаньне пана аб тым, як адчувае сябе канторшчыца.—Хвароба толькі надала ёй больш далікатнасьці ў твары, і яна цяпер стала яшчэ шмат прыгажэйшаю, як была.

— Ці не ўкахаліся вы, Пісарэўскі, у сваю памочніцу?—са сьмехам апытаўся патрон.

— Гэтым глупствам, ясны пане, я не займаюся, дый наогул каханьня не прызнаю.

Сказаўшы гэта, бухгальтар засароміўся, бо неяк няздатна яно вышла: ён добра ведаў, што пан Ляскоўскі займаецца шмат „гэтым глупствам“, а прыпісаць глупства такому вяльможнаму пану ён, Пісарэўскі, ніяк ня можа. Бухгальтар добра ведаў, як пан Ляскоўскі мяняў кабет; нават яму самому даводзілася быць ацэншчыкам кабет, якіх даставалі пану. Але ўсё пытаньне ў тым, ці было гэта каханьне. Мусіць, не! Вось і можна выкруціцца з няпрыемнасьці.

— Можна прызнаваць, ясны пане, толькі... толькі, як гэта сказаць? ну... фізычную блізкасьць да кабеты, жадаць яе цела, а іншае там—нічога гэта не патрэбна.

— А я і ня ведаў, што вы здольны разважаць,—вы-ж можаце стацца філёзофам.

Бухгальтар здаволена ўсьміхнуўся, нават на хвіліну напусьціў на свой твар звычайную міну агіднасьці, якая магла-б падыходзіць і філёзофу, асабліва ў якога няспраўна працуе жывот; але хутка ён схамянуўся

і сагнаў усё гэта, прыняўшы выгляд вясёлае дагоднасьці, удыглівасьці і адданасьці пану.

— Дык вы кажаце, што панна Зося зусім ачуняла?—запытаўся Ляскоўскі.

— Так, пане. Толькі яна занадта зьмянілася па натуры; стала зусім маўклівою, незачэпнаю, на мяне глядзіць ваўчуком.

— Ну, гэта яшчэ нічога! Можа на вас і нельга іначай глядзець.

— Ясны пане, каб яна так глядзела толькі на мяне, гэта-б яшчэ было ня так цікава. Але я думаю, што і на вас яна будзе глядзець ня лепш,—адказаў Пісарэўскі, але адразу прыкусіў язык.

Пан Ляскоўскі скрыва пазіраў у бок свайго даверанага. Мусіць словы бухгальтара абразілі яго, бо ён адразу кінуў свой прыяцельскі тон і ўжо з гострасьцю далей і пазіраў, і гаварыў з Пісарэўскім.

— Што за кпінкі дазваляеце вы са мною?—холадна запытаўся ён.— Вам можа і належала-б быць філёзофам, але не такога гатунку мне патрэбны філёзофы: ня ваша справа займацца маёю асобаю.

— Выбачайце, выбачайце, ясны пане!—і кароценькая постаць бухгальтара выцягнулася, бадай у нітку.—Я... я толькі меў сказаць вам, ясны пане, што панна Зося мае сабе кавалера і праз гэта, мусіць, так варожа... не! так стрымана да вас.

— Кавалера?

— Так, пане! Маю дакумантальныя таму доказы. Гэта—майстра з паперні.

— Зыкаў?!

— Ён, пане.

Пісарэўскі пусьціўся апавядаць аб тым, як часта Зыкаў хадзіў у школку, як нават ён начаваў там, калі „панна Зося была, нібы, хворая“, як яны езьдзілі ў чаўне па рэчцы.

Мусіць, доўга ён выкладаў-бы ўсе дробязі, занатаваныя ім аб адносінах Зыкава і Зосі, але пан Ляскоўскі перашкодзіў яму ў гэтым.

— Глупства гэта! Ніякага там каханьня няма і ня можа быць. Ну, але на кожны выпадак—наглядайце. Фізычнае блізкасьці, як вы кажаце, паміж імі не павінна быць дапушчана. Зразумелі?

— Зразумець, то я зразумеў. Ведаю, што пану патрэбна сьвежая... ягадка, але-ж як яе даберагчы, вось у чым справа?

— Дзеля гэтага вы і філёзоф, каб дадумацца.

Пісарэўскі зноў задаволена расплыўся. Гэта-ж ня жарты атрымаць ад такога пана, як Ляскоўскі, які і багаты, і вучыўся шмат, і быў там у гэтых Парыжах, дык вось атрымаць прызнаньне свайго розуму. Ён, Пісарэўскі, мусіць задаволіць даверанасьць пана і пастараецца зрабіць усё, каб той быў удзячны яму. А панская ўдзячнасьць для Пісарэўскіх—гэта-ж усё жыцьцё: апроч таго, што можна лепш жыць, разьлічаючы на падзяку, але ў ёй ёсьць нешта, нават на першы погляд

нематэрыяльнае—гэта пакой, прыемнасьць, якую адчувае такі чалавек, зрабіўшы ўслугу вышэйшаму за сябе.

Пісарэўскі пачаў сваю „філёзофскую“ працу. У кожнай філёзофіі адным з асноўных мэтодаў зьяўляецца нагляданьне. Іншых Пісарэўскаму і не патрэбна было, ды іх ён і ня ведаў. Што-ж да нагляданьня, дык ён не шкадаваў сваіх ні вачэй, ні вушэй. Увесь дзень ён прыглядаўся да Зосі, заўважаў усе рысы і водцені на яе твары. Звычайна цяпер ён прыходзіў у кантору раней часу. Стаўшы каля вакна, ён чакаў, калі пакажацца Зося, і сядаў на сваё крэсла, як толькі абсацы яе чаравік браскалі на сходках на ганак.

Ён бачыў, як сінелі вочы Зосі, і губы яе былі зложаны ў вясёлую ўсьмешку, калі яна ішла па двары, і як яны рабіліся сурова-цьмянымі, як толькі трапляла яна ў кантору. Увечары яна роўна ў тэрмін канчала працу, хутка апраналася і, прастукаўшы ў сенцах дробнымі крокамі, якія рабіліся часьцей, іншымі, як яна аддалялася ад канторы, здавалася на крылах ляцела ў бок гасьцінца, дзе стаяў заімшэлы будынак школы. Яе лёгкая чырвоненькая хустачка яскравым матыльком трапятала на шэрым фоне парку агарожы.

— Дурная,—мармытаў сабе пад нос бухгальтар, улазячы ў глыбокія калёшы.

Зося нездарма сьпяшалася дамоў. Кожны вечар цяпер Зыкаў наведваўся ў школу. Даўгія лістападаўскія вечары, калі за вакном гудзе вецер, кідаючы ў шыбкі цэлыя скруткі сухога лісьця ці адбіваючы па іх звонкі дроб кроплямі дажджу, зьяўляліся самымі шчасьлівымі для Зосі. Бацька звычайна сядзеў за сваім столікам пад лямпаю і старанна і ўважліва выпраўляў пісьмовыя працы сваіх вучняў. Зыкаў прыходзіў гадзін каля васьмі, адразу з працы. Яна нібы незнарок сустракала яго ў сенцах і неяк здаралася, што апякала свае губы аб яго ў кароткім, рыўком, пацалунку. Потым увесь вечар сядзелі каля аднэй лямпы, кожны заняты сваёю справаю: Пятрусь Мікалаеў, скончыўшы вучнёўскія работы, прымаўся за тоўстага Гельмольта або Ранке; Зыкаў даставаў аднекуль з-за пазухі жаўтаватыя, крыху скамечаныя лісты, у якіх нельга было збоку заўважыць пачатку ці канца, і ўважліва чытаў іх, нават па некалькі разоў адно і тое-ж самае месца. Зося заўважала гэта і пыталася ціха, ці не завучвае ён што-небудзь напамяць.

— Гэта трэ' было-б ведаць напамяць, але нешта не паддаецца.

— Чаму?

Замест адказу Зыкаў рабіў такі знак, з якога было відаць, што ў яго галава падзялілася на дзьве часткі: у аднэй кніжка і ўсё іншае, а ў другой—Зося. Зося разумела гэты знак, і здаволена чырванела, апускаючы свае сінія вочы над шытвом, з якім яна, звычайна, падсядала да стала.

Вісеўшыя ўжо з месяц на небе нізкія хмары, надаваўшыя ўсяму кругавіду сьвінцовы колер, разам, у адзін вечар, у канцы лістапада,

разарваліся. Праз шчыліну зірнула ружова-зялёнае неба. Палоска бадзёрага блакіту рабілася ўсё шырэйшай ды шырэйшай, і праз якую-небудзь поўгадзіну толькі вузенькая стужка чорнага мошасту на ўсходзе напамінала аб мінулых дажджох ды туманох. Увесь захад палаў ружова-чырвонаю зарою. Проста над галавою сям-там замільгацелі зоркі, якія ўсё ядранелі, як пакарочваліся хвалі ружовага полымя на захадзе. Пад поўнач зямля пачала касьцянець...

Дні праз два стала рэчка. Адтуль нёсься бязупынны гоман вясковых дзяцей. Коўзанка была самая лепшая. Яшчэ тонкі, гнуткі лёд быў роўны і блішчасты, як люстэрка. Праз яго відаць была на дне рэчкі трава, карчы, нават рыба, шукаўшая выйсьця на паветра... Дні былі сонечныя ціхія. Ночы—бліскучыя, з сінімі, трапяткімі зоркамі.

Выпаў першы тонкі сьняжок, які ледзь прыкрыў пажоўклыя сенажаці. Ральля на полі, калі паглядзець на яе здалёк, напамінала чараду курапатак: бела-чорныя плямкі мільгацелі ў вачох і, здавалася, варушыліся на месцы. Густая шэрань апранула ў срэбра дрэвы, кусты, якія дыямэнтамі блішчэлі на сонцы.

Зося ў гэты дзень яшчэ больш сьпешна выскачыла з канторы. Якраз гэты дзень быў перад сьвятам, і яна ўмовілася з Зыкавым пайсьці на рэчку або нават і ў лес. Бадзёры вечар з лёгкім марозам клікаў на вуліцу, клікаў туды, на рэчку, адкуль нёсься рогат і гоман ня толькі дзяцей, але і дзяцюкоў, і дзяўчат. Зося хутка ўпарадкавалася дома і чакала з нецярплівасьцю Зыкава, які і ў гэты дзень ня мог скончыць працу раней шасьці гадзін.

Дзеці цэлымі натаўпамі ішлі назад у вёску, калі Зыкаў з Зосяю сыходзілі да рэчкі. Там заставаліся толькі дарослыя, якія рагаталі, гукалі, пішчэлі, налятаючы адзін на аднаго або падбіваючы на сьлізкім лёдзе. Зося моцна ўчапілася за руку Зыкава, як толькі ногі яе ступілі на ненадзейную стужку закованае рэчкі. Але як ні імкнуўся цьвярдзей ісьці павадыр, моцна прыціскаючы да сваіх грудзей руку Зосі, ён ня справіўся са сваёю задачаю: нага яго раптам сунулася ў бок, і праз момант яны абое ляжалі на лёдзе, рагочучы на ўсё горла. Дарэмна яны спадзяваліся-б разам устаць, бо ногі зноў ляцэлі прэч і нельга было адарвацца ад гэтага імавернага лёду. Калі Зыкаў падымаў Зосю, ён блізка-блізка прыгарнуў яе да сябе і адчуў, нібы загойдаўся пад ім лёд. Зося падняла свой запалаўшы твар, на якім трапяталі дзьве-тры космачкі яе валасоў, і кінула доўгі гарачы погляд на Зыкава, ад чаго нешта зазваніла ў яго сэрцы.

Яны праходзілі міма натоўпу дзяўчат і хлопцаў, якія камячыліся на адным месцы, то роўным шнурком з гойканьнем несьліся па коўзелі. Калі хто падаў, то праз момант навальвалася цэлая куча і паднімаўся такі гармідар, што нельга было разабраць паасобных галасоў. Толькі адна постаць стаяла крыху з боку, ня прымаючы ўдзелу ў гэтай забаве.

Прыгледзеўшыся пры малочным сьвеце месяца, Зыкаў пазнаў Ганулю, дачку свайго хатняга гаспадара. У лыкавых лапцях, у стаі энькім кажушку яна выглядала нейкаю чужою сярод дзяўчат. Ніхто з хлапцоў не падыходзіў да яе.

— Ты што-ж сумуеш, Ганулян?—ня сьцерпеў запытацца ў яе, хоць і здалёк, Зыкаў.

Дзяўчына здрыгнулася, абярнулася на голас, але раптам зноў пачала пазіраць у другі бок.

Зося зашаптала Зыкаву:

— Давай пройдзем крыху ў лес. Там, мусіць, так добра цяпер!

Пад руку яны крануліся да другога берагу рэчкі, дзе стаяла белая, блісьцеўшая на месяцы сьцяна кустоў. Лёд гучна цо аў пад іх абсацамі, і яны ня чулі, як за імі ціха зашоргалі па люстэрку рэчкі лыкавыя лапці.

Пэрлямутравы сьвет ліўся з неба. Месяц глядзеў на зямлю скрозь лёгкі туманчык. У паветры насіліся дробненькія-дробненькія дыямэнцікі шэрані, якія мірыядамі зорак блішчэлі, трапляючы ў бляск месяца. На маладых хваінках, на канцох іх гальля стаялі тоненькія стажкі сьнегу, напамінаючы чыстыя белыя сьвечкі. Пад нагамі ледзь рыпаў тонкі яшчэ сьнег, і гэты рып надаваў бадзёрасьці, жыцьцярадасьці. Зося, блізка прытулілася да Зыкава. Яны моўчкі ішлі між калёнамі хваін, пад стрэхамі цёмных ялін, дзе яшчэ сьнег не закрыў мяккае коўдры імху.

— Памятаеш, Паўлючок, ты даклераваў мне многа аб сабе сказаць,— прагаварылася Зося, калі яны приселі на павалены пень адпачыць.

— Няпрыемна аб сабе гаварыць,—адказаў Зыкаў.

— Можа гэта і праўда. Але мне так хацелася-б ведаць што-небудзь аб тваім мінулым жыцьці. Я-ж так... так кахаю цябе,—нясьмела сказала яна і засаромелася.

— А я пакахаў цябе такою, як ты цяпер, і да твайго мінулага мне няма ніякае справы.

— Найгоршыя здарэньні са мною ты ўжо ведаеш, а раней, што было— драбніца. Я кахаю цябе першага, а раней—раней я была ў школе, гімназіі, толькі і ўсяго.

— Цяжка мне апавядаць пра сябе,—разважна, як быццам здалёк, адказаў Зыкаў.

— Можа, можа ты мяне і не кахаеш?—прагаварыла скрозь сьлёзы дзяўчына.

— Што ты, Зосечка? Ня можна нават і думкі такое дапускаць у тваю чыстую галаву. Я думаю, што нельга зьвязваць каханьне наша з мінулым ці будучым... Ну, але калі так хочацца табе—я скажу аб сваім мінулым жыцьці. Толькі... толькі адна мая вялікая просьба, такая моцная просьба, як маё каханьне: схавай маё апавяданьне глыбока ў сябе, толькі для сябе; ніхто іншы не павінен нічога ведаць аба мне.

Зыкаў доўга думаў, зьбіраючыся пачаць. Відаць было, што яму цяжка загаварыць. Зося нярухома глядзела яму ў вочы, нібы сваім поглядам імкнулася выклікаць думкі яго, надаць ім форму слоў. Нарэшце Зыкаў пачаў, але не адразу гутарка яго стала гладкай.

— Курная хата, як цяпер у майго гаспадара Кавальчыка—вось першае, што я помню з сваіх першых дзён... Зімою, бывала, нарасьце на шыбках шэрані столькі, што днём па кутках цёмна, хоць агонь запальвай. Дзяцей у нас было шмат: у майго бацькі і дзядзькі. Цэлымі днямі, асабліва зімою, стаяў нясупынны крык: там малое нема раве, там стогне іншае ў адры, там б'юцца за кавалачак хлеба, калі маці суне, бывала, таму, хто больш надакучыць крыкам. Уночы ўсю хату завальвала наша сям'я; спалі на печы, на лавах, услонах; пад палом жавалі салому авечкі, а на палу—упакат ляжалі людзі. Я дамагаўся спаць на палу, у куточку, бо там было цёпла ад гною Вось як я жыў у маленстве. Ня лепш стала, калі мой бацька аддзяліўся, перайшоўшы жыць у старую хату, якая да гэтага часу займалася пад каровін хлеў. Тая самая цесната, тыя-ж авечкі пад палом.

„Калі мне было гадоў з шэсьць, то два здарэньні надоўга запалі мне ў памяць. Першае, я заўважыў, што мой бацька кожнае сьвята лезе ў пустую пасу і сядзіць там увесь дзень. Звычайна, пасьля полудню, у гэтыя дні падыходзіў да вакна нейкі дзядзька (рыжая барада была ў яго) і пытаўся, дзе гаспадар. Мая маці адказвала, што яго зранку няма дома. Чужы дзядзька нешта лаяўся і ішоў за вароты. Праз поўгадзіны вылазіў з пасы і бацька. Мяне гэта надта цікавіла, і я кожны раз дапытваўся, чаго ён хаваецца, але мне не адказвалі. Толькі раз я крыху даведаўся: рыжая барада была ўжо на двары, а бацька еў бульбу.

— Сотнік ідзе, а чыншу-ж няма!—крыкнула матка, і бацька ледзь пасьпеў ускочыць у пасу.

„Але, мусіць, сотнік таксама пачаў хітраваць. Адзін раз ён зноў вярнуўся да нас праз гадзіну пасьля таго, як адышоў ад дзьвярэй. Паса ўжо не пасабіла. Прывялі двох яшчэ сялян і павалаклі бацьку да валасьці. Я пабег ззаду. І вось... бачу, як цяпер: зьнялі адзежу, і стораж пачаў прутамі біць па голым целе; кроў лілася, бацька енчыў, круціўся, але яго моцна трымалі, седзячы адзін на галаве, другі на нагах. Прышоў бацька дамоў праз тыдзень, прасядзеўшы гэты час у халоднай. Пакуль ён сядзеў, прадалі нашу карову. Маці галасіла па ёй, як па нябожчыку.

„Другое здарэньне было перад вялікаднем, як цяпер памятаю—у чацьвер. Маці памыла нас усіх дзяцей, а бацька запрагаў каня: мы зьбіраліся ўсе ехаць да царквы—прычашчацца. Увайшоўшы ў хату, бацька нешта доўга кошкаўся ў кутку, хадзіў бяз усякае патрэбы ўзад і ўперад, а потым зьвярнуўся да мяне: „Схадзі", кажа, „да Сьцяпана, няхай пазычыць поўрубля; скажы, што трэба нам усім на споведзь". Я пашоў у новай зрэбнай кашулі і нават у лапцях, хоць зімою іх і не насіў яшчэ

зусім. „Скажы бацьку, што я не паверу яму нават і поўрубля, і хоць нават на споведзь!“ адказаў мне сусед Сьцяпан, нават ня пусьціўшы ў хату. Калі я сказаў аб гэтым, бацька мой пачарнеў і стараўся не глядзець нікому ў вочы, маці праравіла сьлязы дзьве, мы, малыя, доўга плакалі, бо ўсіх зьнялі з воза, які павінен быў нас павезьці ў невядомую далячыню, дзе так, мусіць, многа цікавага, добрага. „Няхай ён задушыцца сваімі грашмі“, прагаварыў бацька. „А як-жа споведзь, Трахім?“ запыталася маці. „Споведзь? А ліха з ёю, ліха з папом!“ Маці толькі вохнула: так спалохалася яна кары боскае.

— Пачакай, твой бацька быў Трахім?—запыталася Зося.

— Т-так, Трахім,—не адразу адказаў Зыкаў.

— Як-жа гэта? Ты-ж завешся Павал Еўсьцігнеевіч?

— Пачакай крыху, і аб гэтым ужо скажу,—зусім непакойліва адказаў ён.

— Ну, дык вось як жылі. Ад гэтых двох выпадкаў, якія больш урэзаліся ў памяць, бо маюць адносіны да майго далейшага жыцьця, у мяне захавалася вострая пагарда і да гэтага часу. Ад успаміну аб іх у мяне і цяпер шчыміць на сэрцы... Калі мне было дванаццаць год, бацька раз увечары, вярнуўшыся аднекуль, спытаўся ў мяне, ці не хацеў-бы я ісьці ў горад на заработкі. „Можа там чалавекам станеш, а тут, на вёсцы, будзеш гібець усё жыцьцё, як і я“, дадаў ён. Вядома, я быў рады. Неяк згаравалі мне боты, і каля Пакроў, разам з матчыным братам, які прыяжджаў дадому з Пецярбургу, я паехаў па чыгунцы. Дзіўлюся я і цяпер з сябе, успамінаючы гэты ад‘езд: мне ані ня шкода было пакідаць вёску, сваіх родных. Можа ў гэтым вінна была мая жорсткасьць, якую я адразу адчуў адзін раз у сакавіку, калі вымушаны быў бегчы вярсты са дзьве босы па нерасталым яшчэ сьнезе да сваякоў маткі за палатном на труну мае памёршае сястры. Помню, тады апанавала мяне вялікая злосьць супроць усяго сьвету, нават супроць бацькоў. Можа і праз гэта я не шкадаваў вёскі...

„У Пецярбурзе аддалі мяне вучнем у мэталёвую майстэрню. Нас было чатырох такіх хлапцоў, як і я. Жылі мы ў самой майстэрні, якая зьмяшчалася ў сутарэньні. Духата і смурод ад газавых літоўнікаў ніколі ня выходзілі з гэтага памяшканьня. Спалі мы на голай падлозе, падлажыўшы пад галаў свае боты і анучы. Асабліва надакучаў голад: нам грошай не плацілі зусім, а толькі кармілі дарам—раніцою гарбата з хлебам, а ўвечары абед, ад якога заўсёды сьмярдзела кіслаю аўчынаю.

„Гаспадар наш, які яшчэ сяк-так абыходзіўся з падмайстрамі, нас біў часта біў насьмерць. Звычайна разы тры на тыдзень ён прыходзіў у майстэрню спахмельля, з распухлым тварам і абвязанаю галавою. За невялічкую недасьціпнасьць або нялоўкасьць ён агравуў чым папала. Адзін раз ён так трэснуў мяне літоўнікам па галаве, што я ледзь прышоў да памяці, а потым з тыдзень быў як няпрытомны. Чатыры гады

жыў я так, пакуль пачаў атрымліваць заработак грашмі. Пасьля гэтага хутка я кінуў майстэрню і перайшоў на вялікі трубачны завод.

„Тут я патаварышкаваў з адным рабочым, які спадабаўся мне сваёю цьвёрдасьцю і стрыманасьцю. У мяне, мусіць, яшчэ заставалася вясковая адчужанасьць. баязьлівасьць, і дзеля гэтага мне больш падыходзілі людзі ціхія. Але спакойнасьць майго новага таварыша была зусім іншага характару. Ён проста ня меў часу займацца рознымі гульнямі ці вадзіць шырокае знаёмства. Выгляд яго быў заўсёды задумены; вольны час ён скарыстоўваў ці на чытаньне, ці на гутарку з двума-трыма таварышамі. Ад яго і я даведаўся шмат чаго. Гэта ён першы пазнаёміў мяне ўвогуле з тым злом, якім зьяўляецца наш расійскі царска-панскі лад; ён першы вытлумачыў мне, чаму мой бацька хаваўся ў пасу ад соцкага, чаму рабочы на заводзе працуе іншы раз больш дванаццаці гадзін. Коратка кажучы, неўзабаве я зрабіўся блізкім сябрам гэтага чалавека, а праз яго—сябрам яшчэ некалькіх нашых рабочых. Я ведаў, што такія групкі рабочых маюцца і на іншых заводах, і з вялікаю ахвотаю хадзіў да іх па даручэньню маіх таварышоў. Мы адчувалі сябе моцнымі, бо мы былі аб'яднаны агульнаю думкаю і былі не адны. Лік нашых сяброў узрастаў хутка. Мы лічылі, што толькі аб'яднанымі сіламі рабочых можна скінуць царскі пасад, а разам з ім і соцыяльны ўціск, і пабудаваць новае вольнае жыцьцё“.

— Дык ты таксама быў рэволюцыянэрам, Паўлік?—ажывіўшыс я, запыталася Зося.

— Быў і застаюся. Праз тое, што быў рэволюцыянэрам, трапіў у вастрог, прасядзеў два гады.

— Як-жа там у водзыве напісана, што „ни в чем предосудительном замечен не был?“ Памятаеш паперку, што я знайшла ў пана Ляскоўскага?

— Памятаю, але там гэта не пра мяне напісана. Аб нейкім Зыкаве, якога я ніколі ня бачыў.

Зося адскочыла ў бок і здалёк неадчэпна-спалохана глядзела на таго, каго яна прызвычаілася лічыць Зыкавым. Аблічча і імя так асоцыяваліся ў яе, што яна ніяк не магла зразумець агчымасьці разлучыць адно з другім. Ёй нават здавалася часам, што ён або кпіць з яе, або мае нейкую недарэчнасьць у мазгох, аб якой яна дагэтуль ня ведала. Зося недаўменна і са страхам пазірала—яна нават ня ведала на каго цяпер.

— Я „не уроженец Тверской губернии Павел Евстигнеев Зыков“, а беларус... прозьвішча мае такое, што за адно яго, калі даведаюцца, павесяць.

Зося з жахам падскочыла да яго, да болі ўчапілася яму ў руку.

— Скажы-ж мне, як зваць цябе, цяпер я ня ведаю... як думаць нават аб табе.

— Мяне завуць сапраўды,—ціха прагаварыў ён,—Гаўрыла Трахімавіч Росяк, але ты павінна зваць мяне, як і ўсе, Зыкавым Паўлюком Еўсьцігнеевічам.

— Чаму гэта так трэба?

— Таму, што Росяк уцёк з вастрогу да пары і яго чакае далейшая кара, а майстар Зыкаў толькі захварэў, ачуняў і паехаў у іншае месца шукаць працы. Росяк з пашпартам Зыкава прыехаў да пана Ляскоўскага.

— Адкуль-жа ты ўзяў гэты пашпарт?

— Ну, гэта ня так цікава, я мажа калі больш падрабязна скажу аб гэтым... Дык вось мая гісторыя. Холадна, мусіць табе, пойдзем дадому.

Яны пакінулі пень, на якім сядзелі, і пашлі назад да рэчкі. Ззаду за імі рыпнуў сьнег і шаснула гальлё. Але яны не заўважылі гэтага, будучы заняты глыбока сваімі думкамі. Зыкаў адчуваў нейкую ўнутраную няёмкасьць ад таго, што ня стрымаўся расказаць Зосі аб турме і зьмене прозьвішча. Недзе глыбока казлытала думка, што нядобра ён зрабіў, уцягнуўшы дзяўчыну, якая толькі пачынае жыць, у такі складаны клубок яго жыцьця і чыннасьці. Яна кахае яго—гэта так, але ці здолее яна вытрымаць такую цяжкую таямніцу, ці варта было навальваць на яе такі абавязак, на такую яшчэ нясталую? А калі яна ня вытрымае? Тады ня толькі для яго небясьпека, а можа сапсавацца і тая справа, якую з такімі перашкодамі яму ўдалося крыху наладзіць. Дробку будучае арганізацыі ён ужо залажыў у гэтым, нават глухім, кутку: было-б вялікім злачынствам, калі-б яна загінула праз яго нястрыманасьць. Ну, але біць пакаянную—позна. Зося—шчырая дзяўчына, і нічога дрэннага ад гэтага прызнаньня ня будзе.

Зося ішла з ім побач. Хоць ён і трымаў яе пад руку, але не адчуваў таго прытульваньня, якое так лашчыла яго па дарозе ў лес. Дзяўчына глядзела перад сабою, глыбока думала, і толькі каля брамкі школы яна падняла вочы, у якіх засьвяцілася пяшчота і цяпло. Але як толькі Зыкаў адышоў, разьвітаўшыся, задуменнасьць зноў ахапіла яе.

*(Працяг будзе)*

# СКОК ШКІЛЕТАЎ

*П'еса*

**Удзяку Акіта**

А С О Б Ы

Ю н а к

С т а р ы

С я д з е л к а

В а й с к о в ы г а л о ў н ы д о к т а р

К а р э е ц

П р ы в а т н ы я в а р т а ў н і к і (*потым шкілеты*)

Ж о н к а н а ч а л ь н і к а г о р а д у

У ц е к а ч ы

І і н ш ы я

**Месца.** У паходнай шпітальнай палатцы для ўцекачоў ад жудаснай катаклізмы.

**Час.** У 1923 годзе, калі вялікае зямлятрасеньне і пажар нішчылі галоўны горад Японіі—Токіо.

---

С т а р ы. Пан... пан, я прашу!

Ю н а к. Вы клікалі мяне?

С т а р ы. Дазвольце мне сказаць з ложка. Дзе мы зараз знаходзімся.

Ю н а к (*паднімае галаву і разглядае старога*). Гэта М. станцыя. Куды вы ідзяце?

С т а р ы. Я зараз кіруюся на Хаккайдо. Гэта М. станцыя? Гм!.. А каторая зараз будзе гадзіна?

Ю н а к. Здаецца, ужо прабіла другая.

С т а р ы. Хутка пачне сьвітаць?

Ю н а к. Мы маем яшчэ дзьве гадзіны, пакуль расьсьвітае.

С т а р ы. Няўжо? Шкада! Яшчэ больш шкада, што мы пакутуем ад такой вялікай катастрофы ў такой старасьці. О, божа! Што гэта за шум?

Ю н а к. Супакойцеся, гэта шум цягніка. Калі вы вылезьлі тут з цягніка?

Стары. У апошнюю ноч... позна ўначы... Якое гора! Ці маглі мы прадбачыць гэтае няшчасьце?

Юнак. І вы таксама перажылі жудасныя пакуты ў Токіо? О! Што мы ўсе толькі перажылі!

Стары. Больш, чымся жудасныя пакуты! Я згубіў сваю дачку і свайго ўнука назаўсёды! Больш—я сам зрабіўся хворым, і ці-ж так-бы я езьдзіў на старасьці гадоў.

Юнак. Я вельмі шкадую вас. А дзе вы згубілі дарагіх для вас дачку і ўнука. У Хонжы?

Стары. Не, у Мукоожыма. Мы жылі там амаль-што 30 год. Мой знаёмы расказаў мне, што мая дачка ўцякла на грэблю Мукоожыма з маім унукам і вялікая хваля людзкая скінула іх у раку...

Юнак. О! Як я спачуваю вам! Кажуць, што там шмат хто загубіў сваё жыцьцё такім чынам. Аднак добра яшчэ, што вы засталіся жыць.

Стары. Не, было-б лепш, каб загінуў і я. Што цяпер можа даць мне радасьць і сілу жыцьця, цяпер, калі ўжо няма маіх дачкі і ўнука.

Юнак. Так, вы сказалі зусім правільна... Аднак жыцьцё нешта яшчэ дасьць на зямлі. Так... Я сам згубіў надзею. Аднак, я павінен жыць, пакуль я жыву.

Стары. Ці хто ляжыць каля мяне? Я адчуваю нешта цяжкае на маёй правай руцэ, нібы што ляжыць на ёй. Я прашу вас, паглядзеце, будзьце ласкавы.

Юнак. Ага! Нехта ляжыць на вашай руцэ. Хіба ваша правая рука скалечана?

Стары. Так, яна ў мяне засталася калекай пасьля хваробы тры гады таму назад.

Юнак. Я дзіўлюся вашай сьмеласьці ехаць з пакалечанай рукой... Вы павінны былі застацца ў Токіо. (*Да невядомага чалавека*). Пан, я прашу вас адвярнеце сваю галаву. Яна ляжыць на руце хворага. Я вельмі прашу вас!

Невядомы мужчына (*паднімае галаву і разглядае старога і юнака. Яго губы дрыжаць, нібы ён жадае нешта сказаць. Але з аднэй толькі ўсьмешкай ён мяняе сваё месца і, як і раней, укладаецца на сваёй сьпіне. У гэты час некалькі мужчын, якія ляжаць у другім канцы палаткі, паднімаюць галавы, каб паглядзець на іх*).

Стары (*уздыхаючы*). Дзякую вам!.. Мне зрабілася неяк лягчэй. Вы павінны спаць... Я таксама буду спаць да раніцы... О, божа! Я чую вялікі шум! Мо' гэта пажар?

Юнак (*сьмяючыся*). Не, гэта не пажар—гэта грукат паравоза; гэта месца знаходзіцца за 350 міль ад Токіо. І ні зямлятрасеньне, ні пажар—ня могуць данімаць нас аж да гэтага месца.

Стары. Праўда? Але кажуць, што карэйцы падпалілі дамы! Гэта сапраўды жудасна!

Юнак (*з дакорам*). І вы таксама гэтаму верыце? Мы павінны мець больш самадавер'я. Я правяраў гэтую чутку, як было толькі магчыма.

Стары. Аднак, вельмі страшэнная чутка, нават і тады, калі чуткай і застанецца. Кажуць, што шмат карэйцаў былі забіты каля гатае чыгункі.

Юнак. Гэта было сапраўды! Сёньня паказалі мне розныя факты. І гэтыя факты запалілі ва мне глыбокую нянавісьць да японцаў. Я думаў раней, што мы, японцы, народ з больш лагоднай душой... Але факты кажуць другое. І гэта другое абезнадзейвае мяне. (*У час гутаркі невядомы чалавек паднімае галаву і ўглядаецца ў юнака і старога і яго вочы бліщчаць неяк паасобнаму*).

Стары. Я ня ведаю ніводнага факту. Але, як няшчасны гэтыя карэйцы, калі яны нічога не рабілі! Аднак, што падштырхнула японцаў на такую жудасную расправу?

Юнак. Тое, што ў японцаў няма самадавер'я. Яны толькі носяць вопратку, у якую іх апранулі другія. Я згубіў веру ў людзей—у японцаў. Усе народы, пакуль яны застаюцца людзьмі, зьяўляюцца сардэчнымі і наіўнымі.

Стары. Аднак я веру, што японцы добры народ, бо я ёсьць адзін з іх.

Юнак. У гэта і я хачу верыць. Аднак, ці мы можам так лёгка верыць, ведаючы, што нашы браты паказалі сёньня карэйцам? Ніхто, ня ўбачыўшы гэтых падзей сваімі вачыма—не зразумее маіх перажываньняў.

Стары. Шкода, што мы бачым агідны сьвет! Ну, куды вы зараз ідзяце?

Юнак. Я іду ў Аоморы, дзе мяне чакаюць мае браты.

Стары. Дазвольце запытаць вас, чым вы зараз займаецеся?

Юнак. Я?.. Можна было-б сказаць, што я вучань.

Стары. Вучань? І вы цяпер вучыцеся? Благаслаўенны вы!

Юнак. А вы? Якую профэсію вы маеце?

Стары. Цяжка назваць—профэсія мэтальфармоўшчыка.

Юнак. Мэтальфармоўшчыка? Гэта частка скульптурнага мастацтва?

Стары. Але-ж! Аднак я просты фармоўшчык, які да ўсяго дайшоў сваім розумам.

Юнак. Сярод маіх знаёмых было некалькі скульптараў. Я памятаю аднаго з іх, які рабіў статую Мамоны. Цэлы год, але ён сам быў бядняк. Яго прозьвішча было І... і ён жыў, магчыма, каля Мукоожыма.

Стары. Пан І...? Здаецца, я чуў некалі гэта прозьвішча! О неба! Зноў вялікі шум. Ня гледзячы на тое, што я зрабіўся амаль-што напоўглухім пасьля зямлятрасеньня.

Юнак (*уважна прыслухоўваецца*). Нічога! Вы занадта знэрваваны. Вы павінны трымаць сябе спакойна.

Сядзелка (*аднаму з служачых шпітальнай палаткі*). Нішымура! схадзі ў нашу галоўную ўправу і прынясі крыху баваўнянай паперы, я вельмі прашу, зрабі гэта зараз.

Служачы (*моўчкі выходзіць улева*).

Сядзелка. Хто з вас адчувае боль?

Уцякач. Дзяўчынка, пакліч доктара... У мяне вельмі баліць жывот.

Другі ўцякач. Дзяўчынка, дай мне крыху вады.

Трэці ўцякач. Дзяўчынка, я баюся, што маё здароўе не дазволіць мне ехаць караблём?

Чацьверты ўцякач. Паненка, а ці дазволяць мне ехаць на караблі з гэтым білетам.

Сядзелка. Дарагія, супакойцеся! Не кажэце ўсе адразу, бо я не магу адразу ўсіх зразумець. (*Да старога*). Ці магчыма для вас сёньня ўвечары сесьці на карабель?

Стары. Гэта я хацеў запытаць у вас. Ці дазваляюць мне яшчэ паляжаць тут. Маё ўсё цела баліць.

Сядзелка. У такім разе пагутарце з доктарам, ён зараз прыдзе.

Уцякач. Дайце мне вады... маё цела гарыць ад смагі.

Сядзелка (*шклянкай чэрпае ваду з вядра*). Калі ласка, пан.

Другі ўцякач. Таксама мне дайце!

Трэці ўцякач. І мне!

Чацьверты ўцякач. І мне!

Сядзелка. Не магу-ж я даць усім разам.

Адзін з уцекачоў. Якая злая дзяўчына!

Другі ўцякач. Так, няўважлівая жанчына з гарэзным тварам. Нідзе, відаць, няма такой нядобрай жанчыны!

Трэці ўцякач. Праўда! На М. станцыі мяне прынялі вельмі добра. Людзі ў гэтым гарадку вельмі няпрыемна прынялі мяне, бо яны не адведалі пажару, ня ведаюць і літасьці.

Чацьверты ўцякач. Зьнімеце з мяне бандаж, сядзелка, бо мне больш баліць пасьля таго, як мяне забандажавалі... ой, як баліць, баліць...

Сядзелка. Зьняць ня можна. Хутка пройдзе боль, нават калі ён у вас і ёсьць.

Чацьверты ўцякач. Баліць, баліць... лепш ужо памерці, чымся ляжаць тут.

Уцякач. Замаўчэце, я прашу, мае дзіцё амаль-што памірае.

Сядзелка. Праўда, замаўчэце крыху, паны. Чалавек памірае.

Уцякач. Праклятая трухліна! Памірай к чорту! Наўда вялікая— дзіця паміраае. Усе пакутуюць ад болю, ня толькі вы!

Сядзелка. Замаўчэце, пан. Ён ужо добра зразумеў вас.

Жонка начальніка гораду (*з кошыкам, напоўненым рознымі рэчамі, уваходзіць у палатку*). Добры вечар! Вы крыху ўжо адпачылі? Ці яшчэ не?

Сядзелка. Добры вечар, пані. Чаму так позна ўночы, пані?

Жонка начальніка гораду. У галоўнай управе я прабыла ад учарашняга вечару. Нават і пані прэфэктарша таксама прабыла з намі ноч ня спаўшы.

Сядзелка. Няўжо, пані? Які гонар вас бачыць, пані.

Жонка начальніка гораду (*арыстократычна разглядае палатку*). Ці шмат ужо выехала? Вось падарункі ад галоўнай управы.

Сядзелка. О, дзякую вас, пані. Вы сапраўды парадавалі ўсіх.

Юнак. Вы не заснулі?

Стары. Вельмі цяжка спаць у такім становішчы. Я нічога не хачу, каб толькі заснуць... Але калі ўспомню пра дачку і ўнука...

Уцякач. Хто яна?

Другі. Яна прынесла нешта. Паглядзі, які брыльлянтавы пярсьцёнак яна носіць на пальцы. Мы скажам ёй, што мы хочам яго мець.

Трэці. Вопратку „шыроеры-куромонцукі [1])... Якая пыха!

Жонка начальніка гораду. Паны, я шкадую, што я не магу суцешыць вас, але скажэце мне, не саромцеся, аб усім, чаго вам не хапае.

Сядзелка. Паны, гэта пані—жонка начальніка гораду. Яна вельмі клапоціцца аб тых, хто пакутае пасьля зямлятрасеньня.

Жонка начальніка гораду (*сьмяецца, як дзяўчынка*). Ня трэба льсьліваць, дзяўчынка. Мне сорамна, паны, што нашы малыя запасы не здавольваюць вас. Аднак, мы клапоцімся, каб вам было добра. Мы робім усё, на што здольны і што можам. Дык не саромцеся, кажэце, што вам трэба.

Уцякач (*шэптам*). Э-э... усяго не хапае нам, як вы казалі.

Жонка начальніка гораду. Мо' хто адчувае голад, паны?

Уцякач. Я не галодны, але я адчуваю смагу, пані.

Жонка начальніка гораду. Добра, я вам дам сітра.

Другі ўцякач. Пані, мяне таксама страшэнна пячэ смага.

Жонка начальніка гораду. Я маю толькі 5 бутэлек сітра для вас усіх. (*Уцекачы абкружаюць жанчыну, як жабракі, каб выхапіць бутэлькі. Яна, пачырванеўшая, прабуе не дазволіць ім выхапіць бутэлькі. Уцекачы піхаюць яе*).

Сядзелка. Пані, даручэце мне раздаць. Вы вартуйце лепш сябе, пані. Я прашу вас, паны, супакоіцца. А калі не, дык я вам нічога ня дам, а аддам назад пані.

Уцякач. Мы будзем спакойны. Я не хачу сітра. Дайце яго жанчынам.

Другі. Але, дайце яго жанчынам.

---

[1]) Цырамоніяльная пышная вопратка японак.



**Чарнушэвіч Зьмітро**

Камісар Народнага Камісарыяту Забясьпекі першага савецкага ўраду БССР

Сядзелка (*бярэ кошык з рукі жонкі начальніка гораду*). Вы павінны былі гэта зрабіць. Вам, паны, я дам яблык.

(*Раздае бутэлькі жанчынам, яблыкі мужчынам. Уцекачы прагавіта хапаюць іх*).

Жонка начальніка гораду (*да сядзелкі*). Відаць, вельмі цяжкая праца раздаваць падарункі. Я толькі цяпер зразумела, як цяжка табе працаваць тут.

Сядзелка. Практыка вельмі палягчае маю працу. Дзякую вам, пані. Усе ўцекачы вядуць сябе, як дзеці. Але гэта натуральна, я так думаю.

Юнак. Ці ня хочацца вам есьці?

Стары. Не, я есьці не хачу.

Юнак. Неяк вельмі няпрыемна атрымліваць падарункі, ведаючы, што ў сто разоў больш няпрыемнымі зьяўляюцца тыя, хто дае гэтыя падарункі.

Жонка начальніка гораду. Ну, а цяпер я разьвітаюся з вамі. Глядзеце больш за ўцекачамі, дзяўчынка.

Сядзелка. Вы ўжо маеце намер ісьці? Дзякую вам яшчэ раз, пані. Маё сэрца вітае ўсіх з управы, пані.

Жонка начальніка гораду (*выходзіць з палаткі з пустым кошыкам у руцэ*). Заўтра таксама, здаецца, будзе добрае надвор'е.

Сядзелка. Дзякуй богу! Да забачэньня, пані.

Амбуляторны служачы (*уваходзіць у палатку са скрынкай у руцэ*). Ямада! Тысячу чарцей! Кажуць, што каля ўправы забілі карэйца.

Сядзелка. А што, можа ён рабіў што нядобрае?

Амбуляторны служачы. Па чутках, карэйцы натоўпам атакавалі дывізію.

Уцекачы (*амаль усе паднімаюцца*). Карэйцы?!

Уцякач. Сапраўды, ідуць карэйцы!

Другі ўцякач. Карэйцы—нашы ворагі!

Сядзелка. Супакойцеся! Зараз прыдзе галоўны доктар! Усё гэта хлусьня!

Уцякач. Не, гэта ня хлусьня. Карэйцы вінаваты ва ўсіх нашых няшчасьцях. Зьніштажайце, забівайце іх!

Сядзелка. Зараз-жа паклічце галоўнага доктара, Нішымура. Паны, супакойцеся, пакуль доктар прыдзе, бо я павінна наглядаць за вамі.

Уцякач. Пачакаем, пакуль прыдзе доктар.

Уцекачы. Так, так, мы пачакаем.

Уцякач. Дзяўчынка, я ня ведаю, што рабіць. Ці карэйцы заб'юць мяне? Маю хату ўжо спалілі, а зараз пагражаюць жыцьцю! Ох! што рабіць?..

Стары. Ці вы і сапраўды верыце, што карэйцы нападуць на нас тут?

Юнак (*сьмяючыся*). Ці мог-бы я паверыць гэтаму? Папершае, яшчэ не праверены чуткі, што карэйцы атакавалі дывізію. Яны нават і зброі ня маюць. Ці-ж народ, ня маючы зброі, адважыцца на гэта? Сягоньня ў цягніку я гутарыў з штабным афіцэрам, які належыць да V дывізіі, і ён мне казаў, што карэйцы ня маюць ні зброі, ні бомб.

Стары. Няўжо? Аднак, чаму гэтая жудасная чутка распаўсюджваецца?

Юнак. Таму, што ў японцаў не хапае самадавер'я.

Адзін з уцекачоў. Хто яны?

Другі. Ці не карэйцы?

Трэці. Карэйцы, карэйцы!

Чацьверты. Сьмерць ім! Сьмерць!

Стары (*паднімаючыся*). Будзьце хоць крыху разважлівы. Не называйце каго-небудзь так лёгка карэйцамі ў такіх выпадках. Вашы словы прынясуць вялікую памылку. Юнак, будзе лепш, калі ты скажаш ім што-небудзь, каб ня было падазрэньняў.

Юнак. Не, ня трэба тлумачэньняў. Будзе час, і ўсё само растлумачыцца.

Уцякач. Што растлумачыць нам час? Што?

Сядзелка. Супакойцеся. Ідзе галоўны доктар.

Галоўны доктар (*у вопратцы вайсковага доктара*). Якая сумятня. Што здарылася?

Сядзелка. Жудасная чутка аб карэйцах падняла сумятню сярод іх.

Галоўны доктар. Гм... Што могуць зрабіць карэйцы? Ці вы баіцёся атакі карэйцаў? Ці вы ня верыце ў харобрасьць нашых салдат? Паны, будзьце спакойны. У гэтым горадзе салдаты цэлай дывізіі чакаюць загаду ісьці ў бойку.

Уцякач. Салдаты цэлай дывізіі?.. Цэлай дывізіі?

Другі ўцякач. Чакаюць загаду ісьці ў бойку?

Галоўны доктар. Я ведаю вашу вернасьць бацькаўшчыне, аднак, вы маеце і лёяльных салдат, якіх вы паслалі на вайсковую службу! Будзьце спакойны, наша імпэратарскае войска ня пусьціць ворагаў трывожыць вас. Вы павінны слухаць мяне, пакуль вы знаходзіцеся ў палатцы.

Уцякач. Правільна! Правільна! Мы маем армію!

Галоўны доктар. Я рады, што вы добра зразумелі мяне! (*Да сядзелкі*). Як адчуваюць сябе хворыя?

Сядзелка. Вось гэты пан скардзіцца, што бандаж выклікае ў яго новы боль.

Галоўны доктар. Гм... гэта лепш, калі яму баліць. Боль гэты гаворыць, што хвароба праходзіць. А іншыя?

Сядзелка. Хлопчык, здаецца, безнадзейна хворы.

Галоўны доктар. Гм... яго нельга вылечыць. Перанясеце хлапца заўтра раніцою да галоўнае ўправы. Які гэта бязглузды чалавек высадзіў такога хворага хлапца з вагона?

Сядзелка. А ці нельга як-небудзь яго вылечыць?

Галоўны доктар. Яго лёс ужо вырашаны. (*Чуецца плач уцекачоў*). Яшчэ засталося некалькі гадзін да раніцы. Паны, сьпіце спакойна. Больш ня турбуйеся!

Сядзелка. Ну, паны, сьпіце спакойна. Ня плач, пані. Ваш хлопчык будзе здароў. Заўтра мы перанясем яго ў шпіталь. Сьпіце спакойна. Ну, паны, вы таксама сьпіце!

(*Уцекачы варочаюцца на сваіх мясцох. Палатка хістаецца ад ветру. Недалёка выюць сабакі. Недзе чуваць грукат ад крокаў салдат*).

Галоўны доктар. Я дзяжурны ў галоўнай управе. Паклічце мяне, калі я буду на што-небудзь патрэбен. Глядзіце, каб хворыя не турбаваліся. Аднак, ня надта пястуйце іх! Ці вы зразумелі?

Сядзелка. Так, я выканаю свае абавязкі!

(*Галоўны доктар выходзіць з палаткі з бразгатам саблі. Сядзелка моўчкі ходзіць сярод уцекачоў. Служачыя сьпяць каля выхаду. Два-тры разы прабрахалі сабакі. Доўгая паўза. Раптам у лягер увайшла група прыватных вартаўнікоў. Начальнік носіць на сабе панцыр, а ў руцэ голы меч. Іншыя апрануты або ў мундзіры былых салдат, або ў жынбаоры**), *або ў мундзіры студэнтаў з хачымакі***) *на галаве. Усе маюць ці меч ці піку ў руцэ*).

Чалавек у панцыры (*аглядае палатку*). Ці тут?

Чалавек у жынбаоры. Так—тут! Уваходзьце!

Чалавек у панцыры. Дайце ліхтар, дайце!

Чалавек у хачымакі (*уваходзіць у палатку з ліхтаром у руцэ*). Дзе ён?

Студэнт. Сьцеражэцеся! Магчыма, ён мае бомбу!

Былы салдат. Ніколі нас не павінны палохаць бомбы.

Чалавек у панцыры. Маўчэце. Добры вечар, сядзелка.

Сядзелка. Што? Не ўваходзьце сюды! Што зрабілася на зямлі?

Чалавек у панцыры. Пані сядзелка, мы некага шукаем і павінны абшукаць вашу палатку.

Сядзелка. Не ўваходзьце ўсе, бо тут сьпяць хворыя.

Чалавек у хачымакі. Не патрэбен нам яе дазвол. Уваходзьце свабодна, каб шукаць тое, што нам патрэбна.

Сядзелка (*дрыжыць*). Не ўваходзьце, вы не павінны ўваходзіць.

Чалавек у панцыры. Пані сядзелка, мы арыштуем вас, калі ў вашай палатцы хаваецца карэец. Адзін чалавек сказаў нам, што ён яго

*) Японская верхняя вайсковая вопратка.

**) Хустка, завязаная навокал галавы.

бачыў сваімі ўласнымі вачыма. Мы павінны зьніштажаць карэйцаў на карысьць бацькаўшчыны.

Чалавек у жынбаоры. Для бацькаўшчыны. Для спакою ў горадзе.

Былы салдат. Так, для спакою ў горадзе.

Чалавек у хачымакі. Бяз гутарак!.. Шукайце... Трэба забіць яго.

(*Яны з ліхтаром у руках праходзяць сярод хворых. Сядзелка з бледным тварам ідзе за імі ўсьлед. Адзін з іх спыніўся каля невядомага мужчыны, які сядзеў на карачках перад старым, нібы сабака*).

Чалавек у хачымакі. Вось—ёсьць! Вось—ёсьць! Давайце ліхтар. Глядзеце ў гэты твар!

Невядомы чалавек (*выглядае, як рабочы 25 гадоў*). Я нічога не рабіў.

Студэнт (*перадражнівае яго*). Я нічога не рабіў...

Чалавек у жынбаоры. Забіць яго, забіць.

Чалавек у панцыры. Не сьпяшайцеся забіваць. Папершае, мы дапытаем яго. Ну, сабачая душа, ты—карэец? Калі ты скажаш няпраўду...

Невядомы чалавек. Я—японец... Што вы ўсе хочаце ад мяне?

Студэнт „Я—японец"... Хіба японец такі?

Чалавек у панцыры. Замаўчэце, студэнт! Як ваша прозьвішча?

Невядомы чалавек. Маё прозьвішча Кітамура-Йошыо. (*З насьмешкай разглядае вартаўнікоў*).

Чалавек у панцыры. Гм... Кітамура-Йошыо? Колькі вам гадоў?

Невядомы чалавек. 24 гады.

Чалавек у панцыры. У якім годзе Мейжы вы нарадзіліся?

Невядомы чалавек (*у замяшаньні*). Я... я... (*Усе сьмяюцца*).

Юнак (*паднімаецца з падлогі*). Даволі, паны! Хто даў вам права дапытваць гэтага чалавека? Дзе вы ўзялі гэта права?

Стары (*занепакоены*). Не мяшайся ў гэту справу, мой сын!

Чалавек у панцыры (*юнаку*). Хто вы?

Юнак (*спакойна*). Чалавек.

Чалавек у панцыры. Вядома, што вы чалавек.—Чалавек ці жывёла—я аб гэтым ня пытаю. Мяне цікавіць, што вы за чалавек? (*Вартаўнікі сьвецяць ліхтаром на юнака*).

Юнак. Я вучань. Чаму вы так нахабна ўвайшлі ў палатку і робіце тут скандал?

Чалавек у панцыры. Скандал? Ці-ж мы яго робім?

Юнак. Як-жа гэта інакш назваць, калі не скандалам. Вы ўвайшлі ў палатку і дапытваеце ўцекачоў. Ці вы маеце на гэта права?

Чалавек у жынбаоры. Права?

Чалавек у панцыры. Зразумела, мы гэта права маем.

Юнак. Дзе вы яго атрымалі? Ніхто, апрача салдат і паліцыі, ня мае такіх праў па закону, я добра гэта ведаю.

Стары. Дарагі сын, я прашу цябе—замаўчы. Яны зразумеюць цябе, калі ты потым растлумачыш усё спакойна.

Былы салдат. Даволі лішніх слоў. Магістрат сам даў нам гэтыя правы. Нават і паліцэйская сэкцыя губэрні зацьвердзіла гэта.

Чалавек у панцыры. Апрача гэтага, мы існуем незалежна ад закону. Мы працуем толькі на карысьць бацькаўшчыны.

Юнак (*з усьмешкай*). Гм... а дзе-ж улада? Ці яна, павашаму, існуе па-за сыстэмай законаў? Сьмешна! Што-ж улада?

Чалавек у хачымакі. Вы нахабнік! Даволі разважаць з ім. Маўчаць, а калі не, дык д'ябал будзе ведаць аб вашым лёсе. (*Пагражае пікай*).

Юнак. Даволі лішніх слоў! Гэта-ж вы пачалі з лішніх спраў. Пакуль мы маем армію і паліцыю, навошта патрэбны вы? У што апрануліся вы? Панцыр, „жынбаоры" вопратка для „жудоо". Ці вы не знайшлі для сябе простых вопратак. (*Глядзіць на невядомага чалавека*). Устаньце! Стойце моцна на сваіх нагах! Магчыма, што гэты чалавек карэец, як вы гэта ўсе жадаеце. Аднак карэйцы не зьяўляюцца вашымі ворагамі! Японец, японец, японец. Што добрага зрабілі вам японцы? Тыя, хто трывожыць японцаў—ня ёсьць карэйцы... але японцы самі. Ці вы разумееце гэты просты факт. (*Бярэ руку карэйца і трымае яе ў сваіх руках*) Бачыце гэтага чалавека. Ён толькі адзін чалавек! Паглядзеце на яго твар! Ці ён адважыцца забіваць ні ў чым невінаватых людзей або кідаць атруту ў калодзежы. Магчыма, што ён мае ворагаў, якімі, аднак, зьяўляецеся ня вы. Вы нічога не разумееце. І нічога ня хочаце ведаць. Вашы сябры забіваюць сваіх таварышоў, якія ня ўзброены і бязьвінны, наіўны і паслухмяны, нібы лісты ад пазаўчарашняга вечару! Глядзеце на гэтага чалавека! Тое, што ён зараз мае—гэта ёсьць толькі яго жыцьцё, якое дала яму прырода. Ён сапраўды чалавек! А хто—вы? Тое, чым вы ўладаеце, ёсьць толькі спарахнелая традыцыйная мараль.

Панцыры і жынбаоры—каштоўны толькі як старызна. Аднак, колькі яшчэ ёсьць іх на жывых людзях! Калі цячэ ў вашым сэрцы кроў,—вам патрэбна вопратка для сябе саміх, толькі выкіньце „жынбаоры"! Тады вы будзеце няжывыя марыянэткі! Халодны воск, вы—муміі, вы—шкілеты.

Чалавек у хачымакі. Атручаны японец! *)

Чалавек у жынбаоры. Соцыялісты!

Студэнт. Небясьпечны чалавек.

Чалавек у панцыры. Забіць трэба абодвух.

Стары. Я вельмі прашу вас, паны. Не рабеце гэтага для мяне! Ты, юнак, прасі прабачэньня, прашу я цябе, што я бачу!

---

*) Гэтак у Японіі называюць усіх соцыялістых.

(*Уцекачы разьбягаюцца. Жанчыны плачуць*).

С я д з е л к а (*уцекачом*). Зараз-жа выходзьце з палаткі! Каб вас не паранілі.

Ю н а к (*карэйцу*). Ну, пацісьні мае рукі. Я таксама загіну, калі яны загубяць цябе! Сьмерць! Го! колькі людзей, сотні, тысячы чалавек гінуць ад свайго любімага народу на працягу соцень тысяч гадоў!.. Мы не нарадзіліся для таго, каб лісьлівіць дурным... А каб памерці, змагаючыся... Памерці за справядлівасьць і дружбу.

(*Тады сярод вартаўнікоў пачынаецца рух. Яны абкружаюць абодвух мужчын са зброяй. Чалавек у панцыры паднімае свой меч на юнака, чалавек у жынбаоры на карэйца, іншыя зьбіраюцца каля гэтых двух*).

Ю н а к (*спакойна і гучна*). Новая таямніца! Новая таямніца, народжаная, каб аб'яднаць сілы і братэрства новага чалавецтва. Спалеце і выкіньце гэтую плесьню, бяздушную і праклятую. Скіньце маскі фальшывага змаганьня за радзіму, маску гэроізму і нацыяналізму. І выкіньце іх скакаць скок шкілетаў! Го! оркестр, пачакай хвіліну. Скамянейце, наглыя шкілеты! Скамянейце, наглыя шкілеты! Скамянейце, наглыя шкілеты!

Ч а л а в е к у п а н ц ы р ы (*камянее, трымаючы меч, падняты ўгару*).

Ч а л а в е к у ж ы н б а о р ы (*таксама камянее, трымаючы падняты ўгару меч*).

Ч а л а в е к у х а ч ы м а к і (*камянее з паднятай пікай*).

С т у д э н т (*камянее з бамбукавай пікай у руцэ*).

(*Усе іншыя вартаўнікі камянеюць. У гэты самы момант камянее і галоўны доктар, які толькі ўвайшоў у палатку*).

Ю н а к. Шкілеты! Скачэце!

(*Раптам гасьне сьвятло ў палатцы. Калі загарэліся фасфорныя праменьні ў палатцы—10 шкілетаў стаяць у той-жа самай позе*).

Ю н а к. Го! Оркестр! Вальс для шкілетаў!

(*Дзесяць шкілетаў скачуць вальс. Юнак, карэец, сядзелка і стары стаяць і глядзяць на скок шкілетаў*).

Ю н а к. „Фантастычная мэлёдыя сьмерці"—для шчасьця людзей бяз віны загінуўшых...

(*10 шкілетаў скачуць пад „мэлёдыю сьмерці". 2—3 з іх трацяць сілы*).

Ю н а к (*раптам чуваць зычны сьмех з абодвух бакоў сцэны*). А! Нашы памершыя таварышы! Я дзякую вам за ваш сьмех. Оркестр! Пад канец зайграй „кругавую мэлёдыю разьвітаньня". Агідныя шкілеты, згіньце ў час скокаў!

(*Шкілеты скачуць і ў часе скокаў зьнікаюць пад зямлю. Востры сьмех. Раптам мяняецца сьвятло. Сьпярша цемра, потым сьвітае. Потым ранішняе сьвятло трапляе ў палатку... Плача і стогне ўцякачка.*

Сядзелка (*спакойна паднімае галаву*). Я ад сэрца спачуваю вам... але ўжо дзіця...

(*Заслона*)

Перакл. з японскае мовы

**Зьм. Сьнежка.**

## ЧОРНАЯ НОЧ

### В. Сташэўскі

Жыцьцё на дачы „Нюра“ было ніштаватае. Часам бывала зусім весела для таго, хто гэтага хацеў, і сьмешна да злосьці для таго, хто не хацеў весяліцца. Але, па праўдзе сказаць, усе дні былі падобны адзін да аднаго. А публіка? Публіка розьнілася, здаецца, толькі па трусіках. Ну, можа крыху па росту. А так, звычайна, усе былі „рабісаўцы“.

Дачны дзень пачынаўся ў іх рана. Калі пачуецца асьлінае рыканьне, гэта значыць, што дача „Нюра“ ўстала. І нічога дзіўнага; быў у іх адзін такі здольны артысты-імітатар, і вось асьлінае рыканьне было яго коньком. Пачуўшы такія „прыемныя“ гукі, „тонкія“ дамы затыкалі вушы, а мужчыны рагаталі на ўвесь Місхор.

Усе яны на працягу дня, звычайна, ядуць разоў пяць, купаюцца ў моры, сьпяваюць, амаль бесьперасьціханку, часта танцуюць, прагульваюцца „табуном“ і парамі, часам паміж кустоў парку снуюць адзіночкі з выглядам розных гэрояў розных трагедый. Адным словам, жыць там па-суседзтву часам і весела, а часам і страшна. На што ўжо адважны паўднёвы народ—і той пасуе, глянуўшы на ягога-небудзь „Отэллу“.

Але гэта толькі здалёк, а так, пазнаёміўшыся бліжэй, дык можна і „гэроя“ напалохаць, ды зусім нават лёгка. Скажэце, напрыклад, яму, што сёлета праз Крым будзе ляцець мэтэор, ад якога адарвецца камень і ўпадзе на тую дарожку, дзе ён гуляе, і будзьце пэўны, ён больш ня будзе гуляць па гэтай дарожцы. Скажэце яму, што мора ня любіць рыжых жанчын, асабліва ў якое бародаўка на левым баку падбародку і што кожны год адну такую акула хапае, ён пільна будзе ўглядацца на кожную рыжую „даму“, і калі заўважыць бародаўку, хоць-бы і на правым баку, то канечна скажа сваёй падарожніцы, якой-небудзь „Офэліі“:

— Бачыце! Гэта—няшчасная ахвяра акулы!

Рэдка каторая „Офэлія“ не перахрысьціцца, выслухаўшы пахавальнае слова, прыгаворанае самім морам.

О, мора! Прыгожае мора! Колькі вачэй мерае твае нязьмерныя прасторы. Колькі розных цел носяць твае хвалі ў летнюю сьпякоту?!

Вялікае Чорнае мора! Чароўныя ночкі твае, месяц і ты... Ён і яна... Эх, піць-бы да дна!

І што вы думаеце—ня п‘юць? П‘юць. Мёртвыя ня п‘юць. А дача „Нюра“ жывая, мастацка жывая. Тут ня проста адпачываюць, а памас-

тацку, на пляжы, напрыклад, так замаскуюцца, што не пазнаеш, дзе канчаюцца жанчыны і пачынаюцца мужчыны, і наадварот. Няхай адпачываюць наздароўе. Хто гэта ня хоча папраўіцца? Альбо, як той дзяк казаў:

— Хто гэта ня хоча быць дыяканам?

Прыгожы Крым!

Яшчэ доўга будзе ён прыцягваць да сябе: і юных хлапчукоў турыстых-пешаходаў, і старычкоў-падагрыкаў, густуючых прыроду, дзяўчат і дам—у хваробе і без хваробы і асабліва тых, што ў трэстах „нешта“ робяць.

Усіх трывае крымская зямля. Праўда, здрыганулася яна аднаго году, але, кажуць, масы запротэставалі. Ня дрыжыць больш.

Зноў зашмыгалі аўто. Вітань табе, Байдары, Манах і Дзіва, Кіч-Кінэ, Нікіцкі Сад, Ай-Петры, У-чан-су!

А прыедзеце вы дадому, напэўна-ж запытаюць вас: дзе вы былі на экскурсіях?

Папрабуйце толькі сказаць, што вы ня былі, скажам, на „Ластаўчыным Гнязьдзе“, ну і будзеце чырванець, ды яшчэ ўсыплюць вам, што называецца. Могуць ануляваць усю вашу паездку.

Дачнікі з „Нюры“ улічылі ўсе моманты. Іх лёзунг быў:—бяры ад Крыма ўсё, што толькі можна ўзяць! Мора—дык мора, сонца—дык сонца, і, зразумела, усякія „гнёзды“ і асабліва—усіх былых вялікіх птушак, як скажам: „Лівадыя“, „Гаспра“, „Дзюльбэр“.

Экскурс-бюро ўлічыла гэты баявы лёзунг дачнікаў з „Нюры“ і з тварам далікатнага цырульніка, які кажа:—„пожалце, мадам, брыцься“, вадзіла і вазіла і па сухіх і па мокрых мясьцінах.

Усё выхадзілі, усё выезьдзілі.

Стала прыкметным, што пакрысе зьбіраюцца дахаты. Засумавала экскурс-бюро. А час ідзе. І як татары кажуць:—„Сэзон ідзёт, упустыш—нэ паймаіш“. І што-б яшчэ тут паказаць?—сядзела думка ў галаве. І дзень і ноч яна лізала іх мазгі, як мора ліжа берагі. Шумелі берагі, шумела ў галаве, і гэты шум раскатным рэхам аддаваўся ў гарах. І цёмнай ночкаю, у раскатах рэха гэтага, два словы чутны там: „упустыш—нэ паймаіш!“

А ў моры—срэбра, золата... хоць цёмна, а блішчыць.

Эх, паказаць-бы дачы „Нюры“ гэту ноч!

Чорнае мора, чорную ноч! А ў моры—срэбра, золата... і ўсё блішчыць, блішчыць...

---

Дача „Нюра“ была ўжо на нагах. Артысты-імітатар стаяў на верандзе: асьлінае рыканьне, напоўніўшы тэрыторыю свае дачы, пабегла на бліжэйшыя суседнія.

З вакна жаночага пакою ліліся тонкія гукі: „помнишь ли ты, как улыбалось мне счастье"... Насупроць гэтага, з вакна другога паверху грузна падалі гукі мужчынскага голасу:—„О, Баядэрка, душа с тебя вон". На невялічкім балькончыку ў белых трусіках стаяў солідны дзядзя. Ён разглядаў працёртыя штаны і барматаў:

— „Человек—это звучит гордо!" На другім бальконе, побач нехта пазяхаючы цягнуў:

— „За шчо-ж бо-ожа мілосэрдны, нам послав ци муки". Як відаць, ня выспаўся і быў нездаволены раньнім абуджэньнем сваіх суседзяў. Асабліва нездаволен ён быў сваім, што называецца, лепшым суседам, які яшчэ ў ложку ляжыць, не пасьпеў вачэй пралупіць, а ўжо дзярэ горла:

— „Чаму-ж мне ня пець, чаму-ж ня гудзець, калі ў маёй хатачцы парадак ідзець".

А ў кутку аднэй цяністай вэранды малады мускулісты хлапец з маскоўскага „Дынамо" „выжимал" маладзенькую, лупаценькую балярыну. Ён спрытна падкідаў яе і там угары круціў і перакульваў. Яна-ж пружыніла і падала ўніз, як мячык. І толькі гэта „танец жабы" пачала, абедзьве ногі за галаву залажыла, аж раптам голас нечы:

— Таварышы курортнікі! вы будзеце бачыць цудоўны малюнак! Да гэтае пары нябачаны вамі. Хто хоча паглядзець: зьбірайцеся хутчэй сюды!

Сюды! Сюды! Сюды!

А было гэта ў час пошукаў экспэдыцыі Нобіле і вось гэтае „сюды" гучэла, як „нобілеўскае": Sos! Sos! Sos!

Хто што пасьпеў надзець, той у тым і вылецеў на вэранду.

Унізе на невялічкай пляцоўцы з паднятаю ўверх галавою стаяў агент экскурс-бюро. Ясна, па правілу мастацтва выразнае чыткі, ён кідаў страшныя словы:

— Сёньня ў Крыме—Чорная ноч!

— Што, ш-што-о?—нібы прыдушана шыпела вэранда.

— Сёньня ў Крыме—Чорная ноч,—паўтарыў ён.

Усе людзі на вэрандзе зьліліся ў пытальны знак, а агент стаяў унізе і прадстаўляў сабою кропку, над якой звычайна вісіць крывая частка пытальніка.

У часе гэтае немае сцэны з бакавых дзьвярэй высунулася заспаная галава аднаго трагіка. Скалыхнулася вэранда. Пытаньне—на пытаньне:

— Што за камісія, саздацель?!

— Ціха, ціха...—шыпела вэранда.—Сёньня ў Крыме чорная ночч-ч-ш.

— Хто вар'ят?!—крычаў трагік.—Хто вар'ят?!

Дзесяткі пар вачэй накінуліся на агента.

— Так... уласна кажучы... сёньня,—пачаў, расьцягваючы, агент і затым зноў рашуча:—сёньня чорная ноч, і, разумееце, Чор-р-рнае мора будзе блішчэць, будзе зіхацець бляскам дарагіх каменьняў, срэбра, золата...

— Ах!..—выскачыла з жаночых грудзей.

Пытальнік быў парушан.

Адкрылі запіс жадаючых праехаць цёмнай ночкаю па моры, так на кілёмэтраў чатыры.

І хочацца і страх бярэ.

— Адна такая ноч у гаду!—папярэджваў далікатна агент.—З профэсарам паедзеце, і гэта будзе, так сказаць, мастацкая экскурсія ды з навуковаю падкладкаю.

— Мастацкая? З падкладкаю? Пішы ўсіх!

Ішоў павольна дзень. За ім пацiху падкрадаўся вечар. Мора ўсё вышай і вышай уздымала свае грудзі, і, калі сонца схавалася за Яйлу, яно пачало стагнаць.

Сьцямнела на дварэ. Пара садзіцца ў ялікі. Карнавалам накіравалася дача „Нюра“ на бераг мора. А мора стогне, хваля пеніцца і профэсара няма.

— Таварышы, а Нобіле яшчэ не знайшлі, хоць можа там і не такая хваля,—пажартаваў адзін. Жарт жартам, а сэрцы ў некаторых экскурсантаў не на месцы. І гэта ўлічыў вядомы вам ужо трагік. З ускалмочанаю галавою ён хадзіў сярод дачнага натоўпу і крычаў:

— Гэй, ты, каторы трус!.. Лажыся тут, на сушы памірай і не паскудзь мне мора!..

У баку стаялі дзьве дачніцы, адна з іх ехала, другая не. І вось гэта экскурсантка жартам і ў сур‘ёз пацiху лепятала:

— Калі што-небудзь такое, дык адрас мой дамашні ведаеш, а сакваяж мой у завхоза... ага, і трыццаць пяць рублёў у канцэлярыі на схове і вось яшчэ...

А нехта закрычаў:

— Таварышы! Профэсар ёсьць.—Прыціхлі экскурсанты. Чалавек у вялізнай шэрай накідцы з капюшонам і з крывава-чырвоным фанаром прабіраўся праз гушчу экскурсантаў і адшукваў месца, каб прысесьці.

— Ня туташні я, браткі, ня знаю, дзе прысесьці,—паважна так пачаў профэсар.

Знайшлося месца. На камень сеў профэсар.

— Або, які страшны,—прашаптаў нечы голас.—О, не, я не паеду,—прашаптаў другі.

— Замры!—гукнуў „Ай-Петры“.

Профэсар бярэ слова.

І ён узяў:

— Сягоньня, так сказаць, ня простая ноч, а Чорная...

— Такау ў гаду адна,—уставіў нечы тонкі галасок.

— „Пожалуй“... так,—казаў далей профэсар.—Прашу бліжэй, цясьней: я лекцыю пачну. Як бачыце, сябры мае, сягоньня месяца няма—даволі цёмна на дварэ. І вось у такую ноч...

— А такіх бывае многа,—ляпнуў нейкі скэптык.

— А божа мой! ды сказана-ж адна,—абарваў яго солідны бас.

— І вось у такую ноч, ад'ехаўшы ў мора так, на кілёмэтраў чатыры-тры, вы можаце глядзець, як мора дзіўным бляскам сьвеціцца, як кажуць, фосфорыцца. А ў чым сакрэт? Нябачныя нам істоты там кішмя-кішаць...

— Мікробіоціка, значыць?—прагучэў трагік.

— Так, так, у мікробах суць і соль,—пацьвердзіў сам профэсар.—А толькі-ж, гляньце вы на мора, на „валну“. Я восем год па моры раз-яжджаю і скажу: у такое мора ехаць—рызыка. Чаму? вас закалыша і слова маё дарам прападзе.

І, загулі дачнікі:

— Сягоньня едзем...

— Зараз-жа...

— Падумайце, адна-ж такая ноч...

— Блішчацьме золатам, бурштынам, дыямэнтам.

— Адна такая ноч...

— Профэсар дарагі, ёсьць адважныя, вязі хоць у Турцыю!

— Дазвольце, грамадзяне,—спакойны тон узяў профэсар,—мы-ж можам адлажыць і з большаю прыемнасьцю паехаць у іншы дзень, э, прабачайце... у вечар... ноччу.

— А яшчэ такая будзе ноч?—сыпнулі густа дачнікі з „Нюры“.

— Ды так, павінна быць...

— Профэсар, не жартуй! Ці сёньня, ці ніколі!—крыкнуў самы адважны з іх.

— Ці сёньня, ці ніколі!—яшчэ падтрымала некалькі галасоў.

— Дык можна-ж заўтра ці калі,—заспакойваў профэсар.—А сёньня й рыбакі ня хочуць ехаць.

У сярэдзіну праціснуўся хлапец з закасанымі рукавамі. Уставіўшыся на профэсарскі фанар, пачаў глухім, як з бочкі, басам:

— Мы—рыбакі, дзейсьцьвіцельна... Я сазнаю. А толькі вось, якая тут шпана „валною“ вас страшчае? Не на такія мы плявалі сотні раз. Так, мы не паедзем, але і пушкі заліваць таксама не дазволім. Таварышы з „Нюры“! Я трачу пяць, а можа й цэлую дзесятку, а вы, як-бы сказаць—екскурсію. А хто тут чмут завёў?—Екскурс-Бюро. Хацелі з іншай прыстані ўзяць ялікі, а тут ху-ху: у нас адзін саюз і конкурэнцыя далоў. Ні мы і ні яны сягоньня не паедзем.

— Вось я і сказаў, мае вы дарагія,—тут падхапіў профэсар,—нам сёньня выехаць ня ўдасца і я тут ні прычым. Тут выйшла нейкае непаразуменьне, якое, божа ўпасі, ня тычыцца мяне. Зазначу толькі вам

на разьвітаньне: начэй такіх 'шчэ будзе не адна, а наглядаць прыгожы малюнак ня так ужо цяжка. Я раю вам зрабіць і без мяне. Ударам кіем па вадзе вы супярэчыце яе звычайным хваляваньням і ў штучны рух прыводзіце яе, а ў руху гэтым вы ўбачыце ўвесь шык і бляск.

— А сёньня, сёньня мы ўбачым?—пасыпаліся запытаньні.

— Ну, так, звычайна, і сёньня і заўтра, і...

— Бывай здароў, профэсар!—са злосьцю перабіў „Ай-Петры". Таварышы, за мною. Я зразумеў усё—я без профэсара вам пакажу, усе бурштыны, дыямэнты і нават чорта лысага. Я зразумеў усё.

Праз некалькі хвілін на памосьце старое заржавелае прыстані стаяла група дачнікаў з „Нюры". Тры з іх на чале з „Ай-Петры" білі каламі па вадзе і крычалі:

— Блішчы-ж ты, акаяннае, блішчы!

Нездалёчка тут, раскарачыўшыся на двух тумбах для акуркаў, стаяў трагік. Узьняўшы рукі ўверх, крычаў:

— Безумству храбрых поем мы славу!

— Блішчы-ж ты, акаяннае!—гучэў „Ай-Петры".

— „Падкладачкі" няма,—устаўляў другі яго памоцнік і ўжо хацеў кідаць экскурсію, бо ня блішчыць, але „Ай-Петры" закрычаў:

— Бі кіем па вадзе, і ў гэтым ёсьць мастацтва!

Мы—мастакі, падкладка-ж хай профэсару. Бі кіем па вадзе, а можа заблішчыць!

# ЖАХШТАНДАРУ

**Лінард Лайцэн**

Удоле чыгунка, на ўзгорку горад; горад невялічкі.

Над горадам дзьве вышкі,—царкоўная вежа меншая, фабрычны комін большы.

У жыцьці гораду таксама дзьве велічыні: левы гарадзкі галава—меншая, правы шынкар—большая.

Вайна была ў мінулым, рэволюцыя ў мінулым, цяпер—выкарыстаць плады вайны і рэволюцыі: зьбіраць, есьці, піць і ляжаць грудзямі на сабраным, ядомым ды пітомым. Гэтай найлепшай цнотай Лачплесіса *) выслаўляліся ўсе патрыётычныя тубыльцы без выключэньня.

Гэткая слава над далёкімі палямі да мора і да Рыгі.

Шынкар адведваў гарадзкога галаву, гарадзкі галава наведваў шынкара. Правадырка лігі жанчын адведвала аптэкаршу, а аптэкарша—правадырку. Разьнік—пекара, пекар—разьніка.

Жылося дужа добра. Рабочыя не адважваліся ўспамінаць аб 8-гадзінным працоўным дню, бо політычны агент адведваў крымінальнага, крымінальны—політычнага. Жылося дужа добра ва ўзаемных адведзінах.

Было-б яшчэ лепш, але не пакідаў страх. Страх перад рэволюцыяй.

Як! Страх перад рэволюцыяй? Ды рэволюцыя-ж ужо была, яе трэ' было дзякаваць за тое, што прышло гэтае добрае жыцьцё—чаму-ж баяцца?

Тут адна важная акалічнасьць—непераможная супярэчнасьць: дужа добра жылося тым, хто прыўласьціў сабе дасягненьні рэволюцыі, украў ад сапраўдных байцоў рэволюцыі. І яны ведалі, што зрабілі.

То быў падгорны горад, як і ўсе гарады.

Фабрычны комін ужо з поўгода ня дыміў. Былі беспрацоўныя. Але царкоўная вежа таксама яшчэ ня дыміла.

Ціша ў горадзе была такая вялікая, што, калі вазок шэрага барона **) з вёскі праяжджаў рынкачны пляц, дык усе вокны адчыняліся і высоўваліся галовы мястоўцаў ды іхніх дочак, каб падзівіцца: што там грыміць?!

---

*) Латыскі нацыянальны герой-асілак. (Ув. перакладчыка).

**) „Шэрымі баронамі“ завуцца ў Латвіі заможныя сяляне-хутаране, у якіх шмат зямлі. (Ув перакл.).

Але ў адну раніцу ціша была жахлівая. Нішто ня грымела. Нават крокаў ня было чуваць на рыначным пляцы.

Правадырка жаночае лігі нарадзіла дачасна. Аптэкарша дрыжачымі рукамі шукала на паліцах цыяністага калі, каб скончыць самагубствам. У разьніка вялікі мясны ножываліўся з грукатам на падлогу. Пекар застаўся з разяўленым ротам, і за гэты час ранічная выпечка абгарэла ў печы. Гарадзкі галава і шынкар—зьніклі.

Ці таму ціша жахлівая?

На канцы коміна быў чырвоны штандар!

Чырвоны штандар быў на канцы коміна!

Чырвоны высока над падгорным горадам!

Ніякі соцыял-дэмократычны партыйны сьцяг, а чырвоны штандар!

У тым і самы жах, што ён ня быў соцыял-дэмократычным.

Хто-б стаў палохацца свайго!?

Зраньня быў вецер, і чырвоны вясёла разьдзьмухаўся на спатканьне ўзыходзіўшаму сонцу.

Палітычны агент прысьпяшыў першым. Агледзеў наўкола куты: але нічога больш ня было, толькі штандар. Толькі штандар. Але адносна штандару ў яго ўжо была свая практыка: яны нічога ня робяць—можна нават узяць у рукі.

Ён даваў сыгналы: зьняць, пакуль большасьць грамадзян яшчэ сьпіць ранішнім сном.

Начальнік паліцыі распараджаўся:

— Узьлезьці! Узьлезьці!

Былы жандар царскіх часаў, з сівымі вусамі, першы кінуўся да коміна. Але нічога ня вышла; старая, выслужыўшая пэнсію галава закруцілася, як толькі вочы падняліся ўгару.

Прыбег малодшы паліцыянт. Падняўся, адумаўся: у хаце маладая жонка—што тады, калі каля штандару якая-колечы пякельная машына: застанецца без прадоўжнікаў роду. Таму прыкінуўся бязьвінным і сказаў:

— Так што не магу!

Агент тымчасам дапытваў начнога вартаўніка: як ня бачыў, чаму ня бачыў? Як адважыўся ня бачыць? Пачаў пісаць пратакол за супольнічаньне. Комін высака супроць луны, як ня бачыць лезучага? Немагчыма.

Пачаў зьбірацца народ. Ішоўшыя на працу рабочыя. Усьміхаліся. Спыняліся.

Паліцыя пачала хвалявацца: ганебная справа—яны бачаць, глядзяць, што ня могуць зьняць. Калі ня зьняць—няварта жыць.

Бегалі, крычалі, але штандар разьвяваўся, хлястаючы з шумам, падобным да стрэлаў. Нават няёмка рабілася, дрыготка прабягала праз косьці.

Народу ўсе пабольшвалася. Падыйшлі бліжэй нават боязкія, пачалі раіць-судосіць:

— Перакуліць са ўсім комінам.

— Прастрэліць!

— Няўжо-ж у горадзе ёсьць бальшавікі?!

— Бальшавікі, бальшавікі!

— Паклікаць салдат!

— Пажарных!

Успамінаньне аб пажарных падхапіла паліцыя. Дала сыгнал.

Панаехалі ў касках, звонячы ў званы, сталі ў колёну, пыхліва.

Але лесьвіца не даставала—нават трэцяй долі.

Самы адважны падымаўся па жалезных дзяржальніцах па коміну, падымаўся дбайна, доўга.

— Сьмялей, сьмялей!—падбадзёрваў брандмайстар.

— Поўпляшкі і вячэра!—крычэлі.

— Тузін піва!—шынкар прабіраўся праз натоўп жанчын.

Лезучы стараўся. Ставіў бот і трымаўся.

Абяцанкі ўзрасталі. Абяцалі нават грошы. Павышэньне ў пасадзе. Ордэн.

Нарэшце дабраўся. Асьцярожна абмацваў, шукаў, ці няма сапраўды пякельнае машыны на канцы коміна, потым разьвязаў вяроўку, якой дрэўца штандару было прывязана да жалезнага абруча, і, узяўшы дрэўца ў зубы, палез уніз.

Шынкар і разьнік адразу прачухаліся. Паціскалі адзін аднаму руку.

— Я-ж казаў: чаго там, гэткую анучку ня зьняць!

Яго пуза трэслася і вузкія вочы блішчэлі, калі, пыхаючы, выціраў вус.

Калі пажарнік зьлез, разьнік сказаў урачыста:

— Герой, герой! Лачплесіс!

Паліцыя агледзела штандар, круціла ў рукох. Потым напісала пратакол, запісала, якой даўжыні, якой шырыні, якога колеру. Далучыла да справы. Справу паслала вышэйшаму начальству ў Рыгу з асобным пасланцом і паведамленьнем.

Але людзі, людзі доўга не маглі разыйсьціся. Стаялі на вуліцы і глядзелі на канец коміна. Ці ня зьявіцца другі штандар. Магчыма-ж. Ужо-ж было. Калі ніхто ня бачыў, як туды трапіў зьняты штандар, дык чаму-ж ня мог раптам паказацца новы заместа зьнятага.

Ня было так жудасна глядзець на самы штандар, як чакаць яго.

Увечары, калі заходзіла сонца, страх павялічыўся. Як пройдзе ноч?

Шынкар, пачуўшы званок з нумароў, задрыжэў. Пачаў званіць па тэлефоне?!

— Падмацаваць паліцыю!

— Няма рэзэрваў.

— Паслаць вайсковую сілу на абарону гораду!

— Няма рэзэрваў.



**Язэп Дыла**

Камісар Народнага Камісарыяту Працы першага савецкага ўраду БССР

А калі зранку зноў штандар! На раніцу, ледзь золак, зьбегліся глядзець на комін: ці няма зноў. Разьнік сказаў, што сваімі ўласнымі вачыма бачыў зноў на канцы трубы. Аптэкарша цэлы дзень не магла вачэй адвесьці ад вакна ў бок фабрыкі. Поп вышаў з крыжом у рукох—супакоіваў, падбадзёрваў.

Штандар, чырвоны штандар так і застаўся ў горадзе.

Залажылі Таварыства Зьнімацеляў Чырвонага Сьцягу. Высьвенцілі яму сьцяг, убілі ў дрэўца пяць залатых цьвікоў, несьлі праз горад з музыкай ды біскупам на чале.

Нічога.

Нарэшце разабралі вялікі фабрычны комін.

Нічога.

Страх не праходзіў.

І ня пройдзе.

Бо яны ведалі, што яны зрабілі.

З латыскае мовы пераклаў

**Кастусь Езавітаў.**

# БЕЛАРУСЬ САВЕЦКАЯ

**Андрэй Александровіч**

Цішку Гартнаму, актыўнаму будаўніку Савецкай Беларусі, песьняру працы і змаганьня,—прысьвячаю.

Зямля і хлеб! Сталецьці і зямля!
Зямля і барацьба!
Зямля і зграяй зайздрасьць!
Няроўны люд зямлі. Зямлі няроўны шлях.
Жыцьцё супроць жыцьця. Супроць самоты—радасьць.
Жыве народ, а поруч з ім другі.
Зямля! І—зноў зямля! Нязьведных скарбаў сховы...
Ўладарства дужых шырыць берагі,
рвучы ў слабых і родную іх мову.
Малы народ вялікаму слуга.
Заўсёды так было,
бо зайздрасьць—там, дзе сіла.
Спрабуй ня быць слугой,—сібірская тайга,
хоць і Сібір—зямля, хоць і Сібір—магіла.

Няшкодна ўспомніць даўныя часы,
паставіць разам помнікі сталецьцяў.

Быў час, сівы цяпер як серабро расы,
ды як жывучы ён у нашым бурным сьвеце...

* * *

Работу катаву паставіць на вагу,
страшнейшай лютасьцю сучаснасьць пераважыць.
Зямля гудзіць! Зямлі зазыўны гул
ня спутаць дротам меж!
Зямную моц ня зьвяжаш!
Трухлее слуп мяжы... Гудзіць зямлёй абшар.
Хто думаць стаў—на катарзе, ў засьценьнях!
З грудзей зямлі—агнём прарвецца вар,
прарвецца вар зямлі!
Зямля дарогі зьменіць!

Калісь скрыжован быў народ твой, Беларусь.
На захадзе цяпер расьпяты нават дзеці.
Няшкодна ўспомніць даўную пару,
Як мала розьніцы у помніках сталецьцяў.

* * *

Ня роўны люд зямлі. Зямлі ня роўны шлях.
Жыцьцё супроць жыцьця. Супроць самоты радасьць.
Як многа на зямлі людзей на кастылях,
як многа на зямлі ахвяр сусьветнай здрады...
Рашучасьць. Вера. Ўпартасьць. Буралом.
Даволі ў раны нам падсыпывалі солі!
Ярмо адвечнае асьвечана агнём,
народжаным іскрой рабочага падпольля.
Уздрогнула зямля!
З зямлі прарваўся вар!
І ўжо ў астатняй, але страшнай завірусе,—
Як жылы,
сьціснуліся межы карт,—
ўзышла зямля—Савецкай Беларусі.

* * *

Краіна Саветаў, вялікая наша!
Зямля ў храстве нязвычайным, інакшым.
Шчасьцем гучаў тэлеграфны дрот—
быў Новы Дзень,
быў Новы Год.

Воля ўзьвілася ў палёт сакаліны—
Радасьць рабочага і селяніна.
Сход сабіраўся, ўрачысты сход—
быў Новы Дзень,
быў Новы Год.

Гудзелі гудкі, ня сьціхалі дубровы,—
плылі маніфэста, агнёвыя словы...
Сонца пашло ў свой вялікі паход—
быў Новы Дзень,
быў Новы Год.

* * *

Крыжуюцца шляхі праз балаты, узгор'і.
Зямля спалосана, як рысамі далонь.
Паявіцца іскра, з іскры шугне агонь.

І гэта на зямлі—нястрымны рух гісторыі.
І так хвілінай кожнаю, што-крок жыцьця людзкога—
гісторыя запіша—сьмерць і перамогу.
Нязгадныя гісторыі схаваны ў нетрах краю,
мы толькі помнім іх, яны зышлі ў нябыт.
У шугавейных выбухах адважнай барацьбы
і полымя ад дыму колер свой губляе.
Што-крок праяў жыцьця—гісторыя людзкая,
адны народзяцца, другіх зямля прымае..
Вось так і Беларусь радзілася ў паўстаньні,
на касьцяках гісторыі былой.
Уздымам, творчасьцю нязломнаю сваёй
зямлю палоніць ростам рыштаваньняў.
Што-год, то больш, што-год шырэй і далей
мы гучна славім будучыню сталі.
Пра кожны дзень жыцьця—гісторык цьвёрда скажа,
успомніць час, як гнуліся ў дугу...
А там... Зямля гудзіць! Зямлі зазыўны гул
ня спутаць дротам меж! Зямную моц ня зьвяжаш!
Хай сёньня там жыцьцё на катарзе, ў засьценьнях,—
зямля гудзіць прадвесьнем вызваленьня!..
Зямля Савецкая, табе, мая краіна—
маё жыцьцё, запал і кроў.
Прымі вянок ад сэрца шчырых слоў
у дзень вялікі наш—Дзесятай гадавіны.

Сьнежань 1928.

## ЮБІЛЕЙНАЕ

### Міхайла Грамыка

Прывітаньне Ц. Гартнаму з прычыны яго 20-гадовага літаратурнага юбілею.

Так, так, ня здаўся ён, праслаўлены гарбар
Ў часіны „працы і змаганьня“,
Ў часы аджытыя над скурай гартаваньня,
Калі сядзеў яшчэ над шостай сьвету цар.

„Гэй, не тамецеся рукі,
„Ногі, пакіньце дрыжэць“—
Простыя словы і гукі,
Кожнаму іх зразумець!

Ен змрокам распазнаў яму вызнаны шлях
Пачуцьцем ясным, пролетарскім.
Па ім пашоў ён з кайстраю пясьнярскай
На ледзьве бачаны здалёк Чырвоны Гмах.

„Гніся-ж ты, выцяжка, гніся,
„Сілы, брат, болей давай“;
Думка-душа, распраніся,—
Гэбель, варстат апявай!

Ен здаўна прадчуваў, хоць ня была пара,
Нам сёньня ў лёзунгах знаёмае гучэньне:
Нацыянальнае па форме выяўленьне,
А пролетарскага-ж сусьветнага нутра.

Ён ня зжыўся ні з цямнотай,
Ні з савой, ні з кажаном,
Хоць то іхняе „работы“,
За яго было вакном.
Клікаў ён: хутчэй, ліхтарны,
Свой запалівай ліхтар!
Ў час было, як „бунт“ аграрны
Перамог крывавы цар.

Даўно было, як ён, юнак-поэта,
Ужо паспытаны ў падпольнай барацьбе,
Пашоў блукаць, шукаць братоў па сьвету,
І вось знайшоў таварышоў ў сяўбе

І далучыўся голас ад варстату
Да маладых сялянскіх песьняроў.
Нясьлі пабудку вы прыгнечанаму брату,
Каб абудзіўся ён, пазбыўся ланцугоў.

Было даўно. Лілася кроў людзкая,
Каб толькі падмяніць ўсё тыя-ж ланцугі.
Была вайна, бязмэтная, ліхая,
На Беларусь налёг бясслоўя час глухі.

Гарбар пяяў:
„Шырэй дзьверы
„Адчыні ім,
„Завірухай змардаваным!"

А навокал—раны, раны...
А краіны, роднай маці,
Беласьнежныя паляны
Ад крыві тэй не пазнаці!

І страслося, адбылося!
„Годзі, доўга гнулі сьпіны!"
Доўга пот мы свой лілі
Ля фабрычнае машыны
Ды ля панскае зямлі!

„Гэй, дарогу, гэй, пуціну,
„Сіле творчай вольны ход!"
Не пазнаць было краіны,
Як Бастылі браў народ.

І апявалася змаганьне,
І „бунт", і „полымя" стажар
Ў прамені грознага паўстаньня,
Як браў уладу пролетар.
„Пад сьвіст гудкоў, пад вёрт калёс,
„Пад голад, холад, недасон.
„Адвагай гардай абнясёны
„Ваякаў чырвань—легіён
„На бойку слаўную узрос".

Бастыльля ўзята. Сьцяг чырвоны
Над ёй трапешчацца пабедна.

А вораг клясавы уедна
Зьбірае сілы перазвонам.

„Чырвоны сьцяг дражніў іх зірк“,
Казаў абурана поэта
І прагнуў крыкнуць перад сьветам:
Далоў залочаны мундзір!

„І сталь блішчастая штыкоў
„Ў руках мазолістых натужна
„Адвагай сьмелых ваякоў
„Зламала банды катаў дружна“.

І з тэй пары свой гучны дар
Аддаў гарбар, пясьняр варстату,
Каб Комунара цьвёрды твар
Замацаваць на слаўных датах,

Каб Шлях паўстаўшых апяяць,
Каб скласьці верш пра „Панства Працы“,
„Рэўкомам сельскім“ захапляцца,
На дэмонстрац'і сьцяг трымаць.

Так дваццаць год прайшло чаргой.
З іх роўна дзесяць, палавіну,
Як важна родная краіна
Ідзе савецкай каляінай
Працоўнай цьвёрдаю хадой.

І сокі роднай цаліны
Машыны ўзворым мы нарогам.
Уздоўж сашы, Дняпра, Дзьвіны,
Старым ня спутаныя богам,
Самім сабе браты-паны,—
Замкнем ў прысады бэр дарогі,
Балоты—у збожжа дываны!

---

Такіх ці мала гарбароў
Ўзьнялося зараз чырвань-макам,
З усіх лагчын, з усіх бароў
Пасела з кніжкай па рабфаках!

Такіх ці мала песьняроў
З цагельні, гуты, ад варстату,
Што ў вершах славяць тую дату?
Ці мала гучных дудароў,
Што твораць вобразы заўзята?—

Іх шле Мазыр і Магілёў,—
То-ж хлопцы нашыя, дзяўчата!

Яны пяюць пра гмах і дым,
Пра колаў гуд, пра будаваньне,
Пра Асінбуд, электра-зьяньне,
Пра наш размах, пра наш уздым,
Пра радасьць песьні і каханьня!

---

Ды не забыцца ім ніколі
Аб тых, хто першымі пяяў,
Хто ўсё жыцьцё аб іхняй долі
Ў змаганьні, ў песьнях толькі дбаў!

Ды не забыцца ім ніколі
Аб тых, хто маніфэст складаў,
Бо ён казаў аб нашай волі,
Жыцьцё рэспубліцы даваў!

Жывы хто з тых, стаіць нязьменна
На кіраўнічай вышыні.
Працуе сам, рыхтуе зьмену,
Глядзіць на лёзунгі-агні.

---

Наш родны край, жыві красуняй!
Струхлеў былых кашмараў час:
Узрос палац замест пуні,
У кузьні нашай жар ня згас!

Дарэмны клопат сілы чорнай:
Завузкі клямы ланцугоў!
Няма між нас рабоў пакорных:
Прыдуць рады байцоў адборных
На кліч праслаўленых братоў!

27 лістапада 1928 г.
Менск.

# НА ШЛЯХОХ ВОЛІ

*Поэма*

**Якуб Колас**

## VIII

Гаварыла вольха-маці
Свайму коціку-дзіцяці:
„Ня зьбірайся ў сьвет нязнаны,
Бо спаткаеш лёс паганы,
І ці хопіць табе змогі
У чужыне стаць на ногі?
Ня шукай-жа, сынку любы,
У вандроўцы сабе згубы!“
Адказаў сын ёй на гэта:
„Вандраваньне—мая мэта.
Сам ня рад я вандраваці,
Ды такі ўжо мой лёс, маці!“
Аклікала вярба хвалю,
Што бурліла ў перавале:
„Стой, спыніся: там парогі!
Разаб'ешся ў іх, нябога!“
„Ну, што-ж?—хваля адказала:—
Рэчка волю мне зьвязала!“
Запыталася былінка
У малюсенькай пылінкі:
„Ты куды ляціш, малая?
Бачыш, сонца як палае!
Прападзеш, згарыш бясьсьледна,
Мой пылок, маленькі, бедны!“
А пылінка адказала:
„Сонца волю мне зьвязала,
Асьляпіла мае вочы—
Мусіць гэтак сонца хоча...
Дай-жа, дай-жа мне параду—
І згарэць я ў сонцы рада!“

---

Бы золак пахмурнага раньня,
Сьціха, нясьмела, здаляка
Мільгаўся вобраз чужака.
Як невядомае насланьне,
Пісала ў сэрцы заклінаньне
Чыясь спакусная рука.
Ды не зважала перш дзяўчына,
Што ўспомніць часам і аб ім,
Аб афіцэрыку чужым...
Не—тут ня гэтая прычына,
Хоць ён і голец-малайчына,
Прыгожы, з сэрцам залатым,
А проста ёй было цікава
Пазнаць крыху бліжэй яго,
Ну, хоць як ворага свайго,
Бо вораг быў у такой славе,
Што гвалты чыніць і расправы—
Аб ім набаялі ўсяго!
А гэты „вораг" такі мілы,
Такі адзыўлівы, жывы,
Шануе людзкасьці правы,
Ня злоўжывае правам сілы
І ў гэтым стане іх пахілым
Ім ня прынізіў галавы.
Наадварот—як нейкі родны,
Як блізкі прыяцель іх, брат,
Рабіў і робіць дабра шмат,
І гэта ў час ліхі, разбродны,
Калі сьвет жорсткі стаў, халодны,
Калі ачнуўся ў людзях кат.
Цікавасьць гэтая законна,
І Насьцю нечага вініць,
Што часам Крочака прысьніць:
Дарога сном незабаронна—
Заўважыць трэба бесстаронна—
У іх свая пуціна-ніць.
І вось па гэтай пуцявіне
Праявы розныя брылі,
Як ценя-блескі па зямлі,
Ды аздаблялі яў дзяўчыне,
І ўжо па новай ручаіне
Яе прыгоды паплылі.
Настане раніца, бывала,

І тое, што спляцецца ў сьне,
Як нейкі сьпеў яе вясьне,
Спакусна вабіць, парывае,
І гэты сон перажывае
Яна ў дрымотнай цішыне.
І хваля радасьці часамі,
Усплыўшы з потайных глыбінь,
Захопіць Насьцю ў сваю плынь,
І пойдуць думкі, пойдуць самі,
Услаўшы сьцежкі абрусамі,
У край чароўны, ў яснасьць-сінь.
А ўстане раніцай з пасьцелі,
Яна,—што грэх ужо таіць?—
К люстэрцы зараз падбяжыць
І пасмы русае кудзелі
Заўе стараньней, паднядзеліць
І лішні час тут пастаіць.
А потым з пэўнай засьцярогай,
З дзявочай хітрасьцю яна
Тайком падыдзе да акна.
Заб'ецца ў сэрцы штось трывогай,
Калі мільгнецца профіль строгі
І фрэнчык з шэрага сукна.
Ён ходзіць тут, бы штось шукае,
Заняты чымся, як відаць.
А чым?—ня трудна адгадаць,
Шчасьлівы сьмех яе блукае,
Ды наша Насьця не такая,
Каб тут-жа знак які падаць.
Назад падасца далей, глыбей,
Вачэй ня зводзіць з юнака
І пазірае здаляка...
Эх, сэрца дзеўчае ня рыб'е:
Ёй шкода чэха! Выйсьці хіба,
Сустрэць зьнянацку чужака?
Але ці гожа, ці прыстойна?
Не—для дзяўчыны ня з рукі
На крок адважыцца такі.
А сэрца б'ецца неспакойна,
На волю просіцца настойна,
Ну, хоць пад тыя вішнякі,
Дзе так зацішна, так журботна...
І праўда, лепш пайсьці туды,

Замесьці там свае сьляды.
Яна выходзіць бесклапотна,
А ты, мой чэх, шнуруй самотна,
А ёй то што? такой бяды!
 І так вось, спокваля, украдкам,
Самой Настусі не ў знакі,
Ёй лёс надарыўся такі
І непрадбачаным парадкам
Дзявочым думкам і загадкам
Рысуе новыя шляхі.
 Яна ў садку адна-адненька.
Гарыць у кропельках расы
Адбітак вечнае красы.
У лісьцю конік дзесь затрэнькаў,
І пчолы так-жа памаленьку
У хор зьліваюць галасы.
У вішняку шчабечуць птушкі.
У іх свой клопат і свой лад,
Свае павіннасьці, загад.
А там, з-за смужна-сіняй дужкі,
Што павіваецца істужкай,
Грыміць пярэклічка гармат.
Паветра поўняць тыя гукі,
Дрыжыць надзем'е і зямля,
І дрэвы ходзяць да камля,
Як-бы ад болю ці ад мукі,
І стогнуць сьцішаныя лукі,
І нібы вохкае ральля.
І так усе дні і усе ночы
Грыміць-гугухкае дзесь гром,
Віхруе віхрам-пяруном.
А тут лагодна чмель бармоча
І ветрык з дрэвамі шапоча...
Як ціха тут, пад іх шатром!
 Яна ўглядаецца кудысьці
У той засмужаны прастор,
Дзе спынен воражы напор,
Дзе людзі гінуць без карысьці,
І ёй тут зноў, як і калісьці,
У сэрца ціснецца дакор.
Былых настрояў адгалоскі
І водгук мар яе былых
Нясуць гарчэчы ёй кяліх—

Ідуць на спад, як неданоскі,
Яе каханьне, вернасьць, сьлёзкі...
О, стыд які—дзе ўлада іх?
Яна і так і сяк мяркуе,
Каб апраўдаць душы той стан
І разагнаць ліхі туман.
Хіба-ж ёй шчырасьці бракуе?
Хіба-ж аб мілым ня смуткуе?
Хіба-ж адважыцца на зман?
І з сэрца выліцца гатовы
І думкі шчырыя і словы—
„Любы, мілы, незабыўны!
Ты пачуй мяне хоць раз:
Час мінулы, міг наш дзіўны—
Непарушны, непарыўны,
І агонь той не пагас.
Я з табою ўсюды-ўсюды
Кожны момант, кожны міг.
Думкі-мары—песьні-гуды,
Іх цябе я не пазбуду,
Радасьць чэрпаю бо ў іх.
Дзе-ж ты, любы? хоць прысьніся:
Радасьць, шчасьце—тыя сны.
Дык вярніся,
Адгукніся,
Сьветлы сон мае вясны!“
Ды што хітрыць, крывіць душою?
Навошта лгаць самой сабе
У тых прызывах і кляцьбе,
Калі апошняю парою
Ён, гэты чэх, стаіць прад ёю
У нейкай стоенай журбе?
Ён з ёю ўсюды ўдзень і ўночы,
У часе бур і цішыны,
Нібы закляты, насланы.
Як цень у мысьлях яе крочыць
І запаўняе сьвет дзявочы
І яў трывожыць ёй і сны.
Няўжо яна—і хто дасьць веры?—
Кахае Крочака?—Мана!
Ну, сьмех, фацэція адна!
І ня было таго ў намеры,
І не ў яе гэта манеры

Зьмяняць Барыса на блазна!
Ён, праўда, гэты, сымпатычны,
Высокі лоб і ясны твар,
Як неба майскае бяз хмар,
Ї голас звонкі і музычны,
Ї сам такі ён энэргічны,
А вочы сьвецяцца, як жар.
  Ї думкі Насьціны паволі
Палоніць зноў чэх, а Барыс
У дзеўчых марах дзесь павіс
Ї загубіўся мімаволі,
На нейкі час зышоўшы з ролі
Ї апусьціўшыся на ніз.
Ну, што-ж? Дзяжа цяпер далёка,
Аб ім і вестачак няма,
Ї не пашлеш яму пісьма.
Яна-ж зусім тут адзінока,
А што ёй чэх папаў на вока,
Яна ня рада і сама.
Ї тым-жа часам патаёма—
Ці-ж можна ёй паслаць дакор?—
Ускіне вочы на свой двор
Ї вухам ловіць крок знаёмы,
Ї ўсё то робіць несьвядома,
Развагам тым наперакор!
Ї ёсьць у Насьці прадчуваньне—
Жаданьняў, мусібыць, сьляды,—
Што прыдзе чэх яе сюды!
Ї... ша! міжвольнае дрыжаньне
Ї лёгкі трэпет хваляваньня—
Їдзе Ян Крочак сапраўды!
Яна ўся—радасьць і імкненьне,
У вочках блеск, на губках сьмех—
Выяўны знак яе уцех,
Ї твар цьвяце ад здаваленьня.
Яшчэ хвілінка, яшчэ мгненьне—
Ї руку ёй paцісну ў чэх.

КРОЧАК

Аб кім-жа гэта панна марыць
У поэтычным вішняку?

НАСЬЦЯ

Жаданьне ведаць усё—старыць,
А старасьць вам не на руку

КРОЧАК

А з моладасьці толку малу—
Такі, відаць, ужо мой кон.

НАСЬЦЯ

Які журботны тон!
Пусьціць-бы сьлёзку не мяшала!

КРОЧАК

У гэтай галіне—
Даруйце мне—
Мастак ваш брат,
А не салдат.

НАСЬЦЯ

Хто мерыў нашы сьлёзы?
Ох, плача і салдат!..
На людзях весел, рад,
А сэрца торкаюць занозы.
І пэўна-ж часам, небарача,
І не сьлязьмі—крывёй заплача.

КРОЧАК

Бывае ўсяк—
Усё залежыць ад вояк.

НАСЬЦЯ

А, выбачайце,—самі вы
Наконта сьлёзак якавы?
Няўжо ня плакалі ні разу,
Не палічаце за абразу?
Ці можа вы з свае ахвоты
Ўзялі ваяцкія турботы?

КРОЧАК

О, не!.. зьмяняць па добрай волі
Паказку школьную на штык?!
Я, выбачайце, не разьнік.
Пайсьці ахвотаю? ніколі!
Я вам скажу яшчэ і болей:
Я шанаваць людзей прывык.
Я не гвалтоўнік, не насільнік,
Я—славянін і ваш прыхільнік.
Ці плакаў я? Скажу адкрыта—

Ня надта борзды я да сьлёз.
Я сіратою ў нэндзы рос.
Гарчэча-ж дзён малых забыта,
А радасьць дружбы не набыта,
І друга сэрца ня даў лёс.
Так вось і жыў, бы воўк-аблетак.
Чаго мне шкода—школы, дзетак.
Але было адно здарэньне,
Ці эпізод, вярней сказаць,
Калі я сьлёз ня мог зьдзяржаць.
Быў люты бой. Кроў, разбурэньне...
Пачаў ваш рускі адступленьне,
З Карпатаў зрушылася раць.
Шоў я ў рэзэрве, і ў даліне
Дзіцятка бачу пры жанчыне.
Яна ляжыць, і губы сьцяты,
А рукі—крыжам на зямлі,
Бы моліць, каб сынка ўзялі.
А хлопчык—ах, і вачаняты!—
Глядзіць, бы мысьлямі заняты:
Што гэта значыць? і калі
Ачнешся ты і ўстанеш, маці?..
Гадкоў ня больш, як два дзіцяці.
Пашлі мы далей. На прывале,
Паходам стомлены, я лёг,
Але ўсю ноч заснуць ня мог,
І нейкі жаль гарачай хваляй
Шугаў мяне, і ўсё стаялі
Ён і яна ў маіх вачох:
Яна з прастрэленай грудзінай,
А хлопчык з мудрай сваёй мінай.
Гняло мяне штось, як загадка:
Нашто ўсё гэта і к чаму
Выводзіць з нутраў боль і цьму?
За што, за што забіта матка?
Што стане з бедным хлапчаняткам?
Каму паскардзіцца? Каму?
Хто зблутаў, збэрсаў яго ніці?..
І плакаў Ян над гэтым дзіцем!..
У сьцятых вуснах той жанчыны,
У раскрыжованых руках
Я прачытаў нязьмерны жах,
Дакор, прысуд за гвалт зьвярыны,

Што людзі чыняць над людзінай,
Ĭ ўсёй культуры іхняй крах.
Дзіця і маці—сымболь вечны
Таго, што ёсьць больш чалавечна...
Яны чужыя мне.
Я іх ня знаю, хто яны,
Але я востра адчуваю
Сваю віну, і ў той віне
Мільён няшчасных прабывае,
Не ўсьведамляючы віны.
Ці можа быць нам апраўданьне?
Куды мы прыдзем з нашым злом?
За зло мы ўсе адказ нясём...
Дзяўчына слухала з адданьнем
Ĭ кожны сказ апавяданьня
Ўбірала ўсім сваім нутром.

НАСЬЦЯ

Які вы добры, чалавечны!
Даруйце мне мой тон—
Фальшывы стаўся ён
Ĭ можа недарэчны.
Вы так балюча, так глыбока
Адчулі жах вайны!..
Вы—слаўны і дзіўны
Ĭ гэтак адзінокі!
Мне проста сорамна прад вамі...
Ды ў чым-жа тут віна?
Каму-ж міла вайна
Ĭ гэты гвалт над намі?

Ĭ штось яшчэ сказаць хацела,
Ды раптам нейкі жаль пашыб,
Ĭ мімавольны горкі ўсхліп
Ускалыхнуў яе ўсё цела,
Бо сэрца дужа набалела,
Бо ў ім засеў калючы шып.
Закрыла твар яна рукамі,
Каб сьлёзам волі больш ня даць
Ĭ з болем сэрца саўладаць,
Ды сьлёзы беглі, беглі самі,
А ветрык зюкаў з вішнякамі—
У іх свой клопат, як відаць.

## КРОЧАК

Ня плачце, панначка, ня трэба—
Даволі, досыць сьлёз!
Даруйце мне, на міласьць неба,
Бо гэта жалю я нанёс.
Ну, годзі-ж! плакаць так ці можна?
І ён рукою асьцярожна
Яе плячо крануў, патрос.
Яна скланіла голаў ніжай
І мімаволі, незнарок,
Бы хтось памкнуў у яго бок.
А ён схіліўся яшчэ бліжай...
Мільгнула штось пакутным крыжам,
І ўсё закрыў спакусны мрок.

28/X—25/XI 1928 г.

## БЕЛАРУСІ

**Валеры Маракоў**

I

Засьпявала ты вольную песьню, айчына,
Быццам нехта з нядолі
Раскуты прышоў...
І з любоўю таварыша,
Друга
І сына
Пацягнула к табе ўсёй душой...

О, любімая кветка!..
О, маці...
О, песьня!..
Як аддзякаваць?
Як прывітаць?..
Ты, як лёс твой нядолі равесьнік
Навучыла тваім,
Ўсё прымаючым стаць.

Навучыла і жыць
І змагацца,
І верыць...
Ў грудзі дала мне сэрца, а ў сэрца агонь
І пявучаю сілу
Сумуючай леры
Я панёс ад чужых берагоў...

Я іду па тваіх пуцявінах-дарогах—
Кроплі сонца,
Бяскрайнасьць і сінь у вачох;
І тваё вызваленьне
З пацёмкаў былога
Узьнімаю, як сьцяг барацьбы,
На плячо...

І з любоўю таварыша,
Друга
І сына
Я аддаўся табе ўсёй душой...
Я паверыў у здольнасьць вялікай айчыны
Й пакланіцца у ногі к табе
Я прышоў!..

II

Дні ідуць, праходзяць і зьнікаюць
Лістапада сіняй чарадой.
Пакладзецца ўсё жывое камнем
У сталёвым поступе гадоў.

Шлях гранітны й сьцежкі залатыя,
Горад пыльны й сінія палі.
Ў непагоду йшлі і кроў ня стыла,
Нас агні, агні ўпярод вялі...

І калі сягоньня кінуць камнем,
Кінуць камнем з цёмнага кутка,
Ўсё-ж ня зьмеркнуць сьветлыя жаданьні
І ня зьнікне дужасьць у руках.

Хай скрыгочуць здраднікі айчыны
З іх бясьсільнай злосьцю у вачох,—
Наша мэта дарам не загіне,
Не пагаснуць сілы у грудзёх...

Не патухнуць сьветлыя жаданьні,
Кроў ня стане ў жылах халадней,
І ў агні палаючых паўстаньняў
Край рука чужая не кране.

Пройдуць дні, заменяцца векамі,
Пройдуць дні мяцежнай чарадой...
Пакладзецца ўсё жывое камнем
У сталёвым поступе гадоў.

## ЦІШКУ ГАРТНАМУ

**Валеры Маракоў**

Такім мяцежным непаўторным
Пяецца горда песьнь жывых
І тым,
Хто ўчора ў бурах чорных
Пеў думы-песьні маладых...

І я ўстрывожаны...
Я кволы
Прынёс табе з радзімых ніў
Напеў бунтоўны і вясёлы,
Якім гарэў,
Якім я жыў!..

Зямля пуцін і раздарожжаў,
Зямля сумуючых раўнін—
Не палюбіць цябе
Няможна,
Як палюбіў цябе твой сын.

Жыцьцё і песьні і змаганьне,
Праз горкі лёс,
Праз сьвет надзей
Ў вякох
Паднятым сьцягам стануць
Над грамадой жывых людзей.

Дык, непаўторным сьвет і слава,
Для непаўторных—
Песьнь жывых...
... І песьнь праальецца пеннай лявай
З грудзей паўстаўшых,
Маладых!

## ВЕТРЫ КАЛЯРОВЫЯ

*(З Марыэты Шагінян)*

**Юрка Лявонны**

Пахам ружаў Харасан спавіты,
З памэранцу вецер зьдзьмуў лісток...
Прыхадзі, вандроўнік,—
Хто-б ні быў ты—
Прыхадзі ў расьцьвечаны суэмрок!

Месік ашафраніўся.
Ня сьвеціць...
Стон зурны напомне табе чардаш.
Вунь гараць агні сівой мячэці
Залацістымі вачыма леопарда.

Ў чай-ханэ,
На вышыванай коўдры,
Мой нялюбы муж—Эрвэт-Калым—
Запівае кахэцінскім добрым
Традыцыйна-смажаны шашлык.

За драўлянай краткай—
Сум і роспач,
Цісьне твар абрыдлая чадра.
Надакучыла і чалавека постаць,
І падушак мяккая гара...

Што з таго,
Калі шэрбэт з кальянам
Уладар паставіць прад табой,
Калі ў танцы ачумела-п'яным
Зататахкае сардэчны перабой?

У пярэстым садзе мары гінуць.
За сьцяной—
Ня нашы берагі...
Тут душа павінна заўжды стыгнуць
У абнімках кволае тугі...

Можа ўспыхне зорка-зараніца,
Можа ўспыхне зорка,
Можа—не...
Калі-ж кветкай шчасьце загарыцца,
Каб у далях вечна ружавець?!.

. . . . . . . . . . . . .

Харасан у ружах сном спавіты.
З памэранцу вецер зьдзьмуў лісток...
Прыхадзі, чужынец,—
Хто-б ні быў ты—
Прыхадзі ў ірдзелевы паўзмрок!

## КУЛЯМЁТЫ І ШТЫКІ...

**Уладзімер Хадыка**

Лічыць я вельмі прызвычаен
Ў аблонях воўчыя сьляды
І срэбным повадам ад гаю
Пераганяць ў балота дым.

Але, як вабная утома
На дужкі падае брывей,
Калі зьбірае ноч салому
І раскідае па траве,

Калі, спыніўшыся над лесам,
Як вугаль, хмарка—ў ручаі
Апавядае мне пра Крэсы,
Пра закаваныя Краі,

Калі ў імгле непараўнанай
Глыбее тыханьне ракі,—
Малюся з шчыраю пашанай
На кулямёты і штыкі.

# БЕЛАРУСКІЯ СЭКЦЫІ РКП І СТВАРЭНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

**З. Жылуновіч**

Яшчэ ўлетку 1917 году, калі толькі праца Беларускай соцыялістычнай грамады ў Пецярбурзе пашырылася на заводы, у яе склад увайшло некалькі дзесяткаў членаў соцыял-дэмократаў бальшавікоў. Апошнія былі з розных фабрык і заводаў Пецярбургу, але галоўнае ядро іх складалася з пуцілаўскіх рабочых. Калі за Нараўскаю заставаю зорганізаваўся рабочы аддзел БСГ, даволі значны па ліку членаў і дужа эфэктоўны па соцыяльнаму складу іх, вялікая частка апошніх належала адначасна і да соцыял-дэмократычнае бальшавіцкае організацыі. Усе партыйныя абавязкі яны выконвалі аднакава старанна ў адносінах да абодвух партый. Мітынгі БСГ, якія раз-по-разу наладжваліся ў будынку сталовай Пуцілаўскага заводу, былі многалюднымі і актыўнымі. У сваіх выступленьнях таварышы пуцілаўцы, члены БСГ і члены с.-д. бальшавікоў выразна адрозьніваліся ад цэнтральнае організацыі БСГ. Асабліва ярка гэта выяўлялася кожны раз тады, калі выступленьні пуцілаўцаў адбываліся непасрэдна за выступленьнямі дакладчыкаў ад БСГ. Рашучы і выразны пролетарска-клясавы пункт гледжаньня чырвонаю ніткаю вызначаўся ва ўсіх выступленьнях членаў „пуцілаўскае“ організацыі БСГ. Тым ня менш навочная адмежаванасьць у ідэёвых настроях ані не перашкаджала членам цэнтральнага камітэту БСГ ад нараўскае організацыі акуратна зьяўляцца на паседжаньні ЦК Грамады і прымаць чынны ўдзел у абгаворы пастаўленых пытаньняў. Ці то з тае прычыны, што пуцілаўскія таварышы былі захоплены вырашэньнем беларускіх нацыянальных пытаньняў, ці з прычыны таго, што яны ў той час слаба ўяўлялі тактыку бальшавіцкае партыі, але ў першыя часы свае працы ў БСГ яны мала ўжывалі бальшавіцкі мэтод крытыкі. Толькі выпадкова на адным са сходаў пры Пуцілаўскім заводзе рашуча было паведзена наступленьне на дакладчыка ад ЦК БСГ Я. Варонку. Яго падазроная соцыялістычнасьць вельмі выяўна кідалася ў вочы, чаму і сустрэла сабе вострую ацэнку з боку пуцілаўцаў. Калі-б сход абмежаваўся воронкаваю прамоваю, бязумоўна, БСГ згубіла-б значную долю свайго аўторытэту сярод пуцілаўскіх рабочых. Але тут-жа, сьледам за ім пачаў гаварыць другі член камітэту грамады і становішча было выратавана. Усё-ж пасьля гэтага выпадку тэндэнцыя крытычных

адносін да БСГ вырастала ўсё болей, а побач вастрэй выяўляўся і нахіл у бок організацыі беларускае сэкцыі соцыял-дэмократычнае партыі бальшавікоў. Гэтую думку хутка ўсьведамляў амаль ня кожны рабочы-грамадавец і сустракаў яе прыхільна. Але не надышоў пакуль момант, каб нараўская організацыя БСГ адпаведным актам, як такая, зьліквідавалася. Пакуль той момант падасьпеў, пуцілаўцы яшчэ прымалі ўдзел у зьезьдзе БСГ з 4 па 10 чэрвеня, вылучыўшы таксама двух сваіх членаў у адзіную дэлегацыю на сэсію Рады беларускіх організацый і партый у Менску 5—6 жніўня.

К гэтаму часу, наогул, разьвіцьцё рэволюцыі паглыбіла клясавыя супярэчнасьці. Бальшавіцкай партыі спагадалі шырачэзныя колы рабочых і салдат. Апошнія адчувалі сваім клясавым інстынктам нямінучую хвіліну, калі асвойтаная і асьмеленая буржуазія дасьць здаровага штуршка сваім соцыял-згодніцкім паслугачым—меншавіком і эсэрам. Пад гучныя заклікі да наступу на фронтах, у сугучнасьць з патрыётычнымі лемантацыямі—у стаўцы шпарка організавалася контр-рэволюцыйная ваеншчына. Прадажніцкая ў адносінах да працоўных політыка Керанскага выяўляла сваё шытво белымі ніткамі. Трэба было рыхтавацца да адбою, да змаганьня за рэволюцыйныя заваёвы. Няўдача ліпеньскага выступленьня не супыняла рэволюцыйнага ўздыму рабочых і салдацкіх гушчаў.

Адначасна з ростам баявога настрою расьлі сярод іх недавер'е і варожасьць да кожнае, ня выявіўшае сябе клясава дасканала, партыі і організацыі.

Выклікала недавер'е ў членаў нараўскае організацыі БСГ і Рада беларускіх організацый і партый у Менску. Ня гледзячы на пераважную колькасьць грамадаўцаў у складзе Рады, усё-ж асноўную працу яе вялі дробна-буржуазныя і буржуазныя элемэнты. Няпэўныя з партыйнага боку члены Рады і члены зорганізаванай к таму часу П. Аляксюком Беларускай народнай соцыялістычнай партыі былі панамі становішча. Ім памагала ў гэтым тое, што члены Рады з БСГ у большасьці жылі і працавалі далёка ад Менску, галоўным чынам, у Маскве, Пецярбурзе і ў арміях.

Такім чынам, і Аляксюкі, і нават Скірмунты мелі значны ўплыў на чыннасьць Рады. Яе дробна-буржуазнасьць выглядала ў кожным выступленьні прамоўцаў на сэсіі, у кожнай іх пропозыцыі. Гэта і дало магчымасьць членам БСГ нараўскае організацыі прайсьціся востраю крытыкаю па чыннасьці Рады. Выступленьні іх былі рашучымі, нават бязьлітаснымі і зрабілі вельмі моцнае ўражаньне на сэсію. Панічны сполах перад бальшавізмам, ахапіўшы ў той час усю буйную і дробную партыйную і беспартыйную расійскую буржуазію, выявіўся і на сэсіі Рады ў вялікай большасьці яе ўдзельнікаў. Пра выступленьні пуцілаўцаў доўга ішла гутарка не ў адным месцы; здань іх не давала спакойна спаць памяркоўным радаўцам. Яны палахліва азіраліся ва ўсе бакі, не давяраючы БСГ. Хіба

можна было згадзіцца з тым, што яна (БСГ) ахвяруе адзіным нацыянальным фронтам на аўтар соцыяльна-клясавых прынцыпаў у змаганьні! Хіба можна пры гэткіх умовах дасягнуць мэты—заснаваньня беларускае дзяржавы... пад протэктаратам Р. Скірмунта і Радзівіла? Не, тактыка БСГ набліжалася да бальшавікоў, прадстаўнік якіх у Менску, т. Фрунзэ, асабліва востра адносіўся да сымбіозу ў раднай працы між Скірмунтам і прадстаўнікамі левых партый. Але, калі наогул БСГ рабілася пудалам для дэмократаў, неаформленых меншавікоў, народнікаў і проста беларусаў, то яе пецярбурскі філіал асабліва ненавідзелі яны яшчэ за многа часу да першае сэсіі Рады організацый і партый. Менск не хацеў адрозьніваць пецярбурскага асяродку БСГ ад бальшавікоў. Выступленьне-ж аўтара гэтых радкоў на зьезьдзе організацыі і партыі 8 ліпня ў Менску і, асабліва, выступленьне пуцілаўскіх грамадаўцаў на першай сэсіі—перапоўнілі мерку жахлівасьці. Суцешнай парады і збавеньня ад гэтага, зразумела, чакаць было безнадзейна. Здарэньні няўхільна пхалі працоўныя масы ўлева. Няўдалы бунт выскачкі генэрала Карнілава канчаткова выявіў фальш і клясавую падаплёку дэмократычнасьці коаліцыйнага ўраду. Нявыразныя паводзіны яго ў адносінах да бунтаўшчыка ясна сьведчылі пра організаваны наступ на заваёвы рэволюцыі. Трэба сказаць, што карнілаўская змова ў поўнай меры выявіла перад нацыянальным рухам нясталасьць меншавіцка-эсэраўска-кадэцкага ўраду ў поглядах на вырашэньне нацыянальнага пытаньня. Ваеншчына меркавала таптаць жалезным ботам законныя правы вызваленых нацыянальнасьцяй. Упартае адкладаньне рэформ у гэтай галіне да скліка볂ньня Устаноўчага сойму хавала ў сабе сьвядомае і ўпартае нядбальства да важнейшых заданьняў рэволюцыі. Навочна расьлі спагадныя ўмовы для шырокага ўспрыманьня масамі ленінскіх ідэй і лёзунгаў. Зразумела, што гэты процэс ня мінаў і членаў організацый БСГ. Яе нараўская рабочая організацыя паступова аддалялася ад цэнтральнае гарадзкое, намацваючы глебу для новых аформленьняў.

Апошнія пад канец верасьня канчаткова пасьпелі на тое, каб на іх падставе перайменаваць нараўскую рабочую організацыю Беларускай соцыялістычнай грамады ў Беларускую соцыял-дэмократычную партыю бальшавікоў, з програмай і статутам РС-ДРП(б).

Гэты значны ў гісторыі беларускага соцыялістычнага руху факт адбыўся пры непасрэдным кіраўніцтве т. А. Чарвякова. Такім чынам, з кастрычніка месяца пачалося організаванае жыцьцё беларускіх комуністычных атрадаў адзінае ў той час Расійскае соцыял-дэмократычнае рабочае партыі бальшавікоў. Гэта выклікала вялікія зьмены ў настроі БСГ і зусім перакартавала сілы ў беларускім нацыянальна-соцыялістычным руху.

Першым водгукам на заснаваньне БС-ДРП(б) у Пецярбурзе быў пакол соцыялістычнай грамады ў часе другое сэсіі Рады беларускіх орга-

нізацый і партый у Менску з 14 па 25 кастрычніка*). Прычынаю гэтага зьявіліся два пытаньні, узьнятыя на паседжаньнях сэсіі: першае—пасылка ў Кіеў у Раду народаў прадстаўніка ад беларускае Рады і распаўсюджаньне старшынёю маскоўскае організацыі БСГ А. Бурбісам протэсту проці намеру пецярбурскае яе організацыі блёкавацца на выбарах ва Ўстаноўчы сойм з інтэрнацыяналістымі. Шчырая пагоджанасьць у поглядах на гэта пытаньне большасьці членаў БСГ з прадстаўнікамі правых партый і непартыйных, прымусілі членаў сэсіі ад пецярбурскае і бабруйскае організацыі БСГ пакінуць сэсію Рады.

Гэты інцыдэнт адразу-ж быў перанесены на трэці зьезд БСГ, які ў гэты час адбываўся ў Менску, і атрымаў на ім далейшае разьвіцьцё. Вынікам яго было тое, што зьезд ня ўвёў у склад абранага ЦК прадстаўніка пецярбурскае організацыі, думаючы, што ён „можа выйсьці з партыі“.

Адгэтуль пачалося існаваньне дзьвёх частак БСГ—левае і правае. Левая ці, як часта называлі яе, незалежная частка, працуючы, галоўным чынам, у Пецярбурзе, сустракала для сябе адпаведныя ўмовы. Было ясна, што погляды і тактыку большасьці БСГ толькі і можна было цярпець—гэта ў цесным сужыцьці з правымі ад Грамады суседзямі. Затое радыкалізацыя пецярбурскай організацыі яе была спаткана вельмі прыхільна БС-ДРП(б). Каб ня было менскага расколу, бязумоўна, значна паглыбілася-б адчужанасьць паміж БС-ДРП(б) і пецярбурскай організацыяй БСГ. Раскол падаваў надзею на тое, што магчыма паглыненьне організацыі Беларускай соцыялістычнай грамады БС-ДРП(б). Фактычна ўжо загадзя гутаркі пра гэта пашыраліся ў абедзьвюх партыях. Аднак яшчэ два-тры месяцы гэтае пытаньне заставалася нявырашаным. Якраз загарэлася справа з організацыяй усебеларускага зьезду. Апошнім надзвычайна захапіліся ня толькі менскія беларускія грамадзкія ўстановы, але і Беларускі абласны камітэт пры Ўсерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў. Беларускі абласны камітэт, будучы расійска-эсэраўскай організацыяй, меў на мэце праз усебеларускі зьезд організаваць процібальшавіцкую базу. Ідэя незалежнасьці Беларусі яму была, мякка кажучы, невымагальнай. Не асабліва спагадныя кастрычнікаўскім ідэалам таіліся думкі і ў большасьці членаў закладзенай на другой сэсіі Рады організацый і партый—Вялікае рады і Вайсковае рады. Цэлы шэраг выдатных членаў абедзьвюх гэтых організацый былі выяўнымі ворагамі савецкае ўлады. І хоць у нацыянальным пытаньні паміж радамі і абласным камітэтам і адчуваліся шурпатасьці—палітычныя погляды іх ядналі. Да гэтых поглядаў спакойліва адносілася і правая частка БСГ.

Выкарыстаць зьезд з мэтаю яго набліжэньня да Кастрычніка—уваходзіла ў заданьне БС-ДРП(б) і левае часткі БСГ. У Пецярбурзе пача-

*) Гл. артыкул Ж. З. Х. „Ад кастрычніка 1917 г. да лютага 1918 г.“ „Полымя“ № 1 (9) за 1924 г.

лася падрыхтоўка да гэтага: і БС-ДРП(б), і пецярбурская арганізацыя БСГ усебакова абгаворвалі магчымасьці, падлічалі сілы і апрацоўвалі тактыку паводзін і выступленьняў на зьезьдзе. Праз свае пастановы наконт гэтага БС-ДРП(б) паінформавала ЦК РС-ДРП(б) і абрала сваімі дэлегатамі дзесяць чалавек, у тым ліку: Я. Лагуна, А. Усьціновіча, В. Скарынку, Сосну і інш. Пецярбурская арганізацыя БСГ супольна з бабруйскай і віцебскай арганізацыяй БСГ зрабілі шмат, каб вылучыць на зьезьдзе ў асобны лягер яго левыя элемэнты. Дэлегацыя БС-ДРП(б) рашуча дамагласяя вялікіх посьпехаў у справе арганізацыі гэтых элемэнтаў. Таксама дэлегацыя БС-ДРП(б) наладзіла сувязь з Менскім камітэтам РКП(б) і некалькі разоў інформавала яго пра хаду працы на зьезьдзе. Дзякуючы гэтаму з самага пачатку зьезду яго асабовы склад разьбіўся на дзьве палавіны—левую і правую. Левая частка зьезду, даволі значная і ўплывовая, рашуча разьбівала эсэраўска-нацыяналістычныя ўгрунтаваньні правае. Наперакор сваім надзеям і меркаваньням лідэры яе не маглі дасягнуць пастаўленае сабе мэты...

Як-бы накіравалася далейшая праца зьезду і ў вошта выліліся-б яго пастановы—нельга сказаць. Тое, што ён быў распушчаны ў працэсе працы—павярнула справу ў іншы бок. Усё перакруцілася і набыло зусім другую афарбоўку ў настроях.

Аднак, роспуск зьезду зрабіў адмоўнае ўражаньне і на прадстаўнікоў яго левае палавіны, у тым ліку—дэлегатаў-бальшавікоў. Гэтыя апошнія не маглі ўявіць сабе ўсяго значэньня акцыі менскае савецкае ўлады, цэлы-ж шэраг прычын перашкодзіў ім знайсьці ў сябе апраўданьне роспуску. І ў выніку, трэба адзначыць для гісторыі, было не адно агульнае нелегальнае пасяджэньне „пагоджаных" членаў рады зьезду з правае і левае яго частак. Таксама водгукам на роспуск зьезду было выступленьне прадстаўніка левай часткі БСГ на трэцім зьезьдзе саветаў у Пецярбурзе. Але толькі двума памянёнымі выпадкамі і абмежавалася рэагаваньне на роспуск усебеларускага зьезду з боку прадстаўнікоў левае яго часткі. З далейшага разьвіцьця рэволюцыйных падзей яна ўбачыла апраўданьне менскаму эпізоду. Ужо на тым-жа трэцім зьезьдзе саветаў беларуская дэлегацыя жвава абгаворвала прамігнуўшае ў чутках пытаньне пра пасылку прадстаўніка ад беларускіх арганізацый у Брэст. Махінацыі Беларускае рады наконт выкарыстаньня ўсебеларускага зьезду, наперакор савецкай уладзе—рашуча асуджаліся. І сьледам за гэтым, зусім неўзабаве распачалося ўпартае змаганьне БС-ДРП(б), а таксама і левае часткі БСГ з засеўшым у Менску нацыяналістычна-буржуазным асяродкам. Посьпехі гэтага змаганьня былі дужа ачулымі і значна памаглі справе адхіленьня беларускіх рабочых і бежанцаў ад шкоднае палітыкі яго. Але ня гэтымі заданьнямі абмяжоўвалася чыннасьць БС-ДРП(б) у нацыянальным пытаньні. Пасьля окупацыі немцамі Беларусі перад БС-ДРП(б) паўстала задача арганізаваць беларус-

кіх працаўнікоў у РСФСР вакол РКП і савецкае ўлады і згрупаваць з іх моцны асяродак барацьбітоў за вызваленьне Беларусі і за яе будаўніцтва на падставах ідэй Кастрычніка. Гэты асяродак таксама мусіў быць організаванай беларускай савецкай грамадзкасьцю, якую заўсёды трэба было выстаўляць проці радаўскіх махінацый.

Рэальнае разьвязаньне паказаных задач пачалося з організацыі Беларускага нацыянальнага камісарыяту пры Народным камісарыяце нацыянальных спраў. Сёмага студзеня па ініцыятыве камітэту БС-ДРП(б) адбылася ў Пецярбурзе нарада з прадстаўнікоў БС-ДРП(б), пецярбурскае організацыі БСГ, чыгуначнай організацыі беларусаў і беларускай вайсковай організацыі, якая выказалася за пільную патрэбу ў організацыі Беларускага нацыянальнага камісарыяту; нарада таксама вызначыла кандыдатаў на пасаду камісара, намесьніка і сакратара.

Кіраўнічыя пасады, як і мае быць, засталіся за прадстаўнікамі БС-ДРП(б). БСГ атрымала пасаду сакратара. На большае яна і не прэтэндавала, маючы на ўвазе і памяншэньне свайго ўплыву і, асабліва, скарачэньне свайго асабовага складу. Гэтае скарачэньне членаў пецярбурскай організацыі БСГ адбывалася двума шляхамі: праз выезд з Пецярбургу дэмобілізаваных салдат і праз пераход часткі членаў БСГ у іншыя партыі. Было ясна, што існаваньне ў Пецярбурзе (дый у іншых мясцох) БСГ пры савецкім ладзе ненатуральна. Ў рэштку часу яна выкарыстала толькі для таго, каб запляміць у сваёй рэзолюцыі ад 11 сакавіка 1918 году працу Беларускае рады і падкрэсьліць сваю блізкасьць рэволюцыйным рабочым. Гэтай-жа рэзолюцыяй была абвешчана вайна і правай частцы БСГ, якая прыняла ўдзел у Радзе і ў яе працы. Лёгічна стваралася становішча, якое тлумачыла памянёную рэзолюцыю, як этап пераходу левае БСГ у шэрагі БС-ДРП(б) і вайны пад яе сьцягам з менскім буржуазна-незалежніцкім асяродкам. Ня болей як праз месяц пасьля гэтага пецярбурская організацыя БСГ фактычна перастала існаваць. Правая яе частка, згрупаваўшыся вакол Рады, яшчэ існавала нейкі час, перайменаваўшыся далей, увесну 1918 году, у беларускую партыю соцыялістых-рэволюцыянэраў.

Такім чынам, заснаваны і ў канцы лютага 1918 г. распачаўшы працу Беларускі нацыянальны камісарыят апіраўся ў сваёй чыннасьці на Беларускую соцыял-дэмократычную рабочую партыю бальшавікоў. Уплыў яе сярод беларускіх рабочых і бежанскіх колаў паступова ўзрастаў, асабовы склад навочна павялічваўся. Адпаведна гэтаму пашыралася і ўскладнялася праца БС-ДРП(б). У лютым месяцы быў заснаваны „гурток беларускай соцыялістычнай моладзі“, які разгарнуў палітычную, агітацыйную і культурна-асьветную працу. Таксама было зорганізавана таварыства для змаганьня проці окупацыі Польшчаю і Літвою частак Беларусі. Яго праца знаходзілася пад наглядам і дырэктаваньнем БС-ДРП(б). Аднак, гэтай мірнай чыннасьці ў значнай меры перашкаджалі

прычыны, зьвязаньня з абаронаю краін. Супаўшы з паказаным часам нямецкі наступ на Рэвель, Пскоў, Менск і Кіеў пагражаў заваёвам рэволюцыі. Трэба было накіраваць усю ўвагу на організацыю адпору ворагу. БС-ДРП(б) прыняла шырокі ўдзел у гэтай агульна-рабочай справе. Пры яе камітэце былі заложаны кулямётныя курсы, былі прыняты варты пры заводах, і шмат членаў БС-ДРП(б) былі накіраваны ў шэрагі чырвонае гвардыі з мэтаю пасылкі іх на пскоўскі фронт.

* * *

У канцы сакавіка 1918 г. Беларускі нацыянальны камісарыят разам з усім урадам пераехаў у Маскву. У Пецярбурзе было пакінута аддзяленьне камісарыяту, загадчыкам якога быў вылучаны БС-ДРП(б) Я. Лагун. Ня гледзячы на гэта, аддзяленьне камісарыяту ані ня звузіла свае працы. Наадварот, яна намнога пабольшылася, калі бежанскі камітэт зьліквідаваўся і бежанскія справы былі перададзены ў аддзяленьне камісарыяту. Дырэктаваньне апошнім не павінна было аслабнуць. Яго і вяла з ранейшай увагай БС-ДРП(б), пераймянаваная да гэтага часу ўжо ў беларускую сэкцыю РКП.

Замірэньне з немцамі дало магчымасьць сэкцыі зьвярнуць увагу на організацыю беларускіх рабочых, салдацкіх і матроскіх сіл. Хутка пецярбурскай сэкцыі ўдалося ўзмоцніць культурную працу сярод беларускага жыхарства Пецярбургу, наладзіць шэраг мітынгаў сярод кронштадзкіх і сьвеабарскіх матросаў-беларусаў і зорганізаваць з апошніх моцны ўзброены атрад.

Апрача ўсяго пералічанага, пецярбурская беларуская сэкцыя РКП зьяўлялася адказнай за працу Беларускага камісарыяту ў Маскве. Яна бязупынна сачыла за гэтым, давала дырэктывы праз сваіх членаў і выклікала апошніх для дакладаў. Сходы сэкцыі і пасяджэньні яе бюро адбываліся рэгулярна штотыдзень, характарызуючы яе ўзорную організаванасьць і працаздольнасьць. Дзякуючы гэтаму, пецярбурскае аддзяленьне Беларускага камісарыяту здолела праводзіць карысную працу. Але, ня гледзячы на прынятыя пецярбурскай сэкцыяй парады для кіраваньня працаю Беларускага камісарыяту ў Маскве—яны былі невыстарчальнымі. Гэта акалічнасьць вельмі балюча адбівалася ня толькі на рабоце, а і на існаваньні Беларускага камісарыяту. Разросшыся ў вялікую і адказную ўстанову, ён меў на чале толькі двох партыйцаў, якія, з прычыны зьбежнасьці рознастайных абавязкаў, не маглі ахапіць усяе яго чыннасьці. Зусім цяжка прышлося Беларускаму камісарыяту, калі яго пакінулі і гэтыя два таварышы-партыйцы. Тэрміновасьць апошняе пастановы не дазволіла пецярбурскай сэкцыі РКП абраць на пасаду камісара свайго члена, і лева-эсэраўскі бунт у Маскве застаў на пасадзе камісара Беларускага нацыянальнага камісарыяту левага эсэра. Больш цяжкага і горкага кур'ёзу нельга было і чакаць. І шкоднасьць яго далася ў знакі камісарыяту. Прышлося шмат далажыць стараньня новаму камі-

сару т. Усьціновічу, камандыраванаму пецярбурскай сэкцыяй, на тое, каб справу паправіць.

Усё-ж было ясна, што без належнай партыйнай організацыйнай падпоры Беларускаму камісарыяту не дасягнуць пастаўленай перад ім мэты.

Было ясна, што пецярбурскай беларускай сэкцыі РКП ня справіцца з наглядам за работаю Камісарыяту ў Маскве. Усе даныя сьведчылі за тое, што камісарыят трэба ўзмоцніць партыйцамі, якія-б склалі кіроўны асяродак установы. Але ўжо падзеі самі вырашылі гэта.

Паступова, час-ад-часу камісарыят пачаў папаўняцца беларусамі-партыйцамі: частка іх прыяжджала з окупаванай Беларусі, частка папаўнялася з супрацоўнікаў камісарыяту, уступаўшых у партыю. Такім чынам, пад канец кастрычніка ў Беларускім камісарыяце злажылася партыйнае ядро, якое заснавала фракцыю Белнакому. Сьледам за гэтым узьнікла думка пра організацыю сэкцыі.

3 лістапада па ініцыятыве фракцыі быў скліка్ны сход беларусаў-комуністых, на які зьявілася 14 чалавек: 1) А. Крыцкі (Дарагамілаўскі раён), 2) М. Салтанаў (Хамоўніцкі раён), 3) А. Дзедзя (Бутырскі раён), 4) Б. Жукоўскі (Прэсьненскі раён), 5) А. Усьціновіч (Гарадзкі раён), 6) П. Клыш (Прэсьненскі раён), 7) Н. Хрэнаў (Прэсьненскі раён), 8) З. Жылуновіч (Прэсьненскі раён), 9) З. Чарнушэвіч (фракцыя супрацоўнікаў Белнакому), 10) Я. Бампі (фракцыя супрацоўнікаў Белнакому), 11) І. Няцэцкі (Палескія чыгункі), 12) Я. Рыбак (галоўны тэлеграф) і 13) І. Савуніч (школа агіт. ЦІК). Старшынстваваў—П. Клыш, сакратарстваваў—З. Чарнушэвіч. Старшыня паведаміў сход аб мэтах, якія памусілі склікаць беларусаў-партыйцаў, т. т. Хрэнаў і Жылуновіч зрабілі даклады пра становішча ў окупаванай Беларусі.

У выніку нядоўгіх спрэчак і абгавораў пастаўленага пытаньня сход пастанавіў: „прызнаць канечна патрэбным заснаваньне Беларускай (Маскоўскай) сэкцыі Расійскай комуністычнай партыі (бальшавікоў), якой і зарэгістравацца ў адпаведным партыйным органе ў Маскве. Дзеля выкананьня тэхнічнай працы—рэгістрацыі сэкцыі, укладаньня статуту і інш.—абраць бюро сэкцыі з 5 чалавек, даручыўшы яму як мага хутчэй выканаць памянёнае заданьне і на бліжэйшым агульным сходзе сэкцыі зрабіць падрабязны даклад пра сваю працу і яе вынікі. Абраць членаў бюро закрытым галасаваньнем, праз паданьне запісак“.

У бюро сэкцыі былі абраны т. т. Я. Лагун, І. Хрэнаў, З. Жылуновіч і А. Усьціновіч. За два тыдні была зроблена ўся праца па афармленьню сэкцыі і 14 лістапада Прэсьненскі раённы камітэт РКП прыслаў ёй мандат наступнага зьместу: „Згодна пастановы прэзыдыуму Прэсьненскага камітэту РКП (бальшавікоў) 14 лістапада 1918 г. маскоўская беларуская сэкцыя РКП (бальшавікоў) зацьверджана і ёй дазваляецца набыць пячатку. Гэта подпісамі і прыкладам пячаткі пасьвядчаецца. Сябра прэзыдыуму. Сакратар“.

  

 

Члены конфэрэнцыі Беларускіх сэкцый РКП (б) у Маскве 21—25 сьнежня 1918 году

Уверсе—зьлева на права: **А. Усьціновіч, З. Жылуновіч, Я. Дыла**

Унізе зьлева: **А. Дзедзя, М. Драка-Дракон**

Гэткім чынам у гісторыі беларускага соцыялістычнага руху адчынілася новая памятная яго старонка. Значнасьць гэтага моманту была вялізарнай. Адразу праца камісарыяту набыла іншы, больш продукцыйны і эфэктоўны выгляд, аўторытэт яго намнога ўзрос. З другога боку, сэкцыя пацягнула да сябе шмат каго з беларусаў-комуністых, якія чакалі магчымасьці ехаць на працу ў Беларусь. Заснаваньне беларускай маскоўскай сэкцыі РКП таксама памусіла шмат якіх беларусаў—рабочых і быўшых членаў іншых партый—увайсьці ў шэрагі РКП.

Праца сэкцыі навочна шырылася, захапляла пад свой уплыў рознастайныя моманты беларускага жыцьця ў РСФСР. Са сьнежня месяца газэта Беларускага нацыянальнага камісарыяту „Дзяньніца" зрабілася і органам сэкцыі. Тымчасам адбіліся падзеі, зьвязаныя са сканчэньнем сусьветнае вайны ў канцы кастрычніка і з выбухам нямецкае рэволюцыі (9 лістапада). Беларусь пасьля гадовае окупацыі далучалася да новага савецкага жыцьця.

Маскоўская беларуская сэкцыя РКП(б) ясна ўяўляла сабе, якія вялікія заданьні выплываюць з гэтага факту і становяцца перад ёю. Заразжа былі наладжаны зносіны з Менскам, шэраг таварышоў накіраваўся ў розныя гарады РСФСР, дзе меліся беларускія комуністычныя сэкцыі, каб з імі таксама наладзіць зносіны. Гэткія сэкцыі былі ў Казані, у Саратаве, у Казлове, у Тамбове і інш. Шырокім фронтам распачалася організацыя беларускіх комуністычных сіл і падрыхтоўка іх для працы ў Беларусі. Пэрспэктывы гэтае працы надавалі натхненьне сваёю вялікасьцю і гістарычнай значнасьцю. Усё выразьней выпуклялася ідэя агалашэньня Беларускае Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі. Ідэя гэтага насілася ў паветры ўжо пры заснаваньні Беларускага нацыянальнага камісарыяту. Дэклярацыя праў народаў і самы факт існаваньня народнага камісарыяту па нацыянальных справах былі першымі падвалінамі далейшае нацыянальнае політыкі комуністычнае партыі і савецкае ўлады. А Беларускі нацыянальны камісарыят зьявіўся першаю ячэйкаю беларускай савецкай дзяржаўнасьці. Гэта разумеў кожны комуністы-беларус, гэта стаяла ў парадку ажыцьцяўленьня заваёў Кастрычніка. Таму, вядома, неаднакроць і ў рознастайных формах варочалася да гэтага пытаньня пецярбурская беларуская сэкцыя РКП(б). Сходы матросаў і бежанцаў у Пецярбурзе і зьезд бежанцаў у Маскве выносілі пастановы пра канечнасьць абвяшчэньня Беларускай Савецкай Рэспублікі.

Маскоўская сэкцыя застала моцна ўзрушанай гэту думку і мусіла паставіць яе вырашэньне ў програму свае чыннасьці. На першым паседжаньні камітэту 27 лістапада 1918 году маскоўскай беларускай сэкцыі ў складзе 9 таварышоў—З. Жылуновіча, П. Клыша, З. Чарнушэвіча, А. Чарвякова, А. Дзедзі, І. Нацэцкага, Я. Дылы, І. Мазура і Ў. Фальскага, пасьля першага пытаньня пра выбары прэзыдыума *), па другому

*) У прэзыдыум сэкцыі былі абраны: старшынёй—З. Жылуновіч, тав. старшыні—П. Клыш, Сакратаром—З. Чарнушэвіч, другім сакратаром—А. Дзедзя і скарбнікам—Я. Дыла.

пункту дня была вынесена наступная пастанова аб зьезьдзе сэкцый, які-б абгаварыў пытаньне пра заснаваньне Беларускай Савецкай Рэспублікі: „Дэлегаваць у Беларусь двох прадстаўнікоў сэкцыі—т. т. П. Клыша і В. Майзеля, якім даручыць наладзіць сувязь з краёвым камітэтам і іншымі комуністычнымі організацыямі ў Беларусі і паведаміць іх пра скліканьне Ўсебеларускага зьезду прадстаўнікоў комуністычных організацый у Маскве. Апрача гэтага, дэлегаваць у Петраград т. т. З. Жылуновіча і А. Чарвякова, а ў Саратаў, Тамбоў і інш. гарады Расіі—т. А. Дзедзю, якім даручаецца таксама наладзіць зносіны з беларускімі комуністычнымі організацыямі, якія ёсьць у гэтых гарадох, і запрасіць іх прыняць удзел на вышэйпамянёным зьезьдзе“. У дадатак да гэтае пастановы было вырашана склікаць на 8 сьнежня беларускі мітынг-протэст проці падзелу Беларусі. Гэткім чынам, сэкцыя хутка апанавала станам і асноўныя пытаньні беларускага жыцьця ўзяла пад сваю ахову і пад сваё кіраўніцтва з мэтаю іх разьвязаньня. Як відаць з пастановы камітэту, насьпеласьць гэтых пытаньняў была поўнай, калі яна вымусіла закрануць магчымасьць беларускага комуністычнага зьезду. На першым пасяджэньні камітэт сэкцыі, апрача асноўнага пытаньня пра скліканьне зьезду сэкцый, разгледзеў пытаньне пра формаваньне беларускіх вайсковых часьцей, але ніякае пастановы ня прыняў. З прынятых ім пастаноў на гэтым паседжаньні трэба адзначыць пастанову наконт рэорганізацыі Беларускага нацыянальнага камісарыяту. У ёй гаворыцца: „Каб выканаць пастанову агульнага сходу сэкцыі 24 лістапада адносна ўскладзенага на камітэт кіраўніцтва Беларускім нацыянальным камісарыятам і контролю над ім, пастанаўляецца: даручыць т. т. Фальскаму, Няцэцкаму і Клышу зьвярнуцца да Народнага камісарыяту па нацыянальных справах за растлумачэньнем з прычыны рэорганізацыі Белнакому і скарачэньня ў ім штатаў зрабіць пропозыцыю аб тым, каб замест кіраўнічага справамі Беларускага нацыянальнага камісарыяту—была вызначана пасада камісара, каб пашырыць компэтэнцыю і правамоцнасьць Белнакому; увясьці ў яго колегію двох прадстаўнікоў ад сэкцыі, а менавіта—т. А. Чарвякова і т. І. Няцэцкага“. Пастанова камітэту сэкцыі была хутка ажыцьцёўлена. У Народным камісарыяце па справах нацыянальнасьцяй згадзіліся на паданы проект рэорганізацыі Беларускага нацыянальнага камісарыяту. Больш таго, інформацыя Народнага камісара па нацыянальных справах т. І. Сталіна праз дэлегацыю з т. т. Я. Дылы, І. Няцэцкага і З. Чарнушэвіча выклікала шэраг новых пытаньняў, якія былі тут-жа падрабязна абгавораны. Паведамленьне пра гэту гутарку, зробленае на агульным сходзе маскоўскай сэкцыі 15 сьнежня т. т. Дылам, Чарнушэвічам і Няцэцкім, зрабіла вялікае ўражаньне на ўсіх яго ўдзельнікаў. Можна было бачыць, што праца камітэту сэкцыі па скліканьню зьезду беларускіх сэкцый зусім ня ўхіляецца ад агульнай політыкі партыі па нацыянальным пытаньні.

На гэтым-жа сходзе, пасьля заслуханьня дакладу Жылуновіча пра падрыхтоўчую працу да зьезду і пра тэрмін зьезду, сход сэкцыі абраў сваімі прадстаўнікамі на зьезд чатырох таварышоў: А. Чарвякова, Я. Дылу, І. Няцэцкага і Я. Рыбака. Адначасна з падрыхтоўкай зьезду Беларускіх комуністычных сэкцый у РСФСР ішла падрыхтоўка да чарговай конфэрэнцыі комуністычнай партыі поўночна-заходняй комуны ў Смаленску. Весткі пра гэта атрымліваліся ў камітэце маскоўскай беларускай сэкцыі праз газэты і ад таварышоў—членаў сэкцыі, якія накіроўваліся для вывучэньня стану ў вызваленай Беларусі. Афіцыяльнага паведамленьня маскоўская сэкцыя са Смаленску ня мела, хоць яго чакалі з цікавасьцю. Нельга было згадзіцца з тым, каб на абласной конфэрэнцыі ў Смаленску не кранулі працы беларускіх сэкцый і не абгаварылі таксама пытаньне пра заснаваньне Беларускай Савецкай Рэспублікі. Уражаньне ад нядаўнае перад гэтым паездкі т. Я. Лагуна у Смаленск з мэтаю абгаварыць пытаньне пра перайменаваньне Заходняй комуны ў Беларускую комуну і адхіленьне пытаньня смаленскімі таварышамі не пазбаўляла надзей на тое, што гэта будзе зроблена. Таксама, па думках камітэту маскоўскай сэкцыі, не маглі перашкодзіць абгавору конфэрэнцыяй пытаньня пра Беларускую рэспубліку і многалікія выступленьні супроць гэтага некаторых віцебскіх і магілеўскіх таварышоў.

Нявыразнасьць і некаторая няшчырасьць адносін паміж Смаленскам і маскоўскай сэкцыяй не дазваляла апошняй зьвярнуцца з запрашэньнем на конфэрэнцыю сэкцыі смаленскіх таварышоў. Было ясна, што абедзьве конфэрэнцыі, і маскоўская, і смаленская, адбудуцца паасобна і бяз жаднай сувязі. Усё-ж камітэт маскоўскай сэкцыі дэлегаваў у Смаленск двох сваіх членаў—т. т. П. Клыша і З. Чарнушэвіча, каб так ці іначай выканаць справу коордынацыі працы зьездаў. На паседжаньні камітэту сэкцыі 18 сьнежня быў заслуханы даклад пра зьезд сэкцый і прачытаны тэлеграмы ад т. Клыша са Смаленску. Камітэт вынес пастанову: „прыняць гэта да ведама, а таксама прыняць меры да хутчэйшай адпраўкі ў Менск магчыма большага ліку актыўных працаўнікоў. Пытаньне пра канфэрэнцыю ў Смаленску адкласьці да 20 сьнежня, тады і абгаварыць яго на конфэрэнцыі беларускіх комуністычных сэкцый“.

Калі вырашаліся пытаньні пра суадносіны са Смаленскам,—што вельмі клапаціла камітэт маскоўскай сэкцыі,—на паседжаньні 18 сьнежня, дык абгаворвалася яшчэ адно цікавае для таго часу пытаньне за некалькі дзён да паседжаньня камітэту, які мусіў аформіць і наладзіць рознастайную працу ў зьвязку з конфэрэнцыяй сэкцый, што мелася быць, у Маскву раптам зьявіўся супрацоўнік пецярбурскага аддзяленьня камісарыяту Е. К. Зьявіўшыся да Жылуновіча, ён паінформаваў яго пра мэту свайго прыезду. Мэта была такая: Е. К. меўся пайсьці да т. т. Сталіна і Леніна, каб узяць у іх дазвол на скліканьне ў Менску Ўсебеларускага зьезду. У гэтых намерах Е. К. хавалася шытая белымі ніткамі думка: праз Усе-

беларускі зьезд працягнуць ідэі, якія год таму назад Беларускі краёвы камітэт пры Ўсерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў праводзіў на Ўсебеларускім конгрэсе. Камітэт сэкцыі зацікавіўся, на чым грунтуе Е. К. свае намеры і ад каго ён меўся-б гутарыць пра Ўсебеларускі зьезд. Пецярбурская сэкцыя бадай адначасна ўзьняла пытаньне аб зьезьдзе сэкцыі, і, бязумоўна, кіраўнікі яе ня ведалі аб намерах Е. К. Тут таілася адна магчымасьць—гэта змова Е. К. з кіраўніком пецярбурскага аддзяленьня Беларускага нацыянальнага камісарыяту т. Каўшылам, чалавекам з выразнымі авантурыстычнымі нахіламі. Якраз прышлі і весткі, што т. Каўшыла выехаў чагосьці на Беларусь. Камітэт маскоўскае бел. сэкцыі гэтак выказаўся пра вымудры Е. К.: „Заслухаўшы інформацыю т. Жылуновіча аб прыезьдзе ў Маскву т. К. з місіяй т. т. Сталіна і Леніна наконт скліку Ўсебеларускага зьезду, камітэт маскоўскай беларускай сэкцыі РКП знаходзіць, што выказьнікам волі беларускіх працоўных гушчаў зьявіцца будучы Ўсебеларускі Зьезд Саветаў Рабочых, Сялянскіх і Чырвонаармейскіх Дэпутатаў, чаму дамаганьні т. К. лічыць злачынным сэпаратным выступленьнем... Даручыць Белнакому выклікаць т. Каўшылу ў Маскву дзеля высьвятленьня вынікаў яго паездкі ў Беларусь“.

Гэта гістарычнае паседжаньне камітэту сэкцыі, як апошняе перад зьездам беларускіх сэкцый, вынесла таксама пастанову наконт фармаваньня беларускай Чырвонай арміі. Пастанова казала: „наладзіць зносіны з вышэйшаю вайсковаю ўладаю, каб вырашыць пытаньне пра адкамандыраваньне інструктароў Чырвонай арміі беларусаў на Беларусь з мэтаю фармаваньня Беларускай Чырвонай арміі; скласьці камісію з т. т. Чарвякова і Чарнушэвіча, якой даручыць высьветліць пытаньне пра магчымасьць фармаваньня беларускіх часьцей у Заходняй дывізіі“. Гэта пастанова ня мела канчатковага характару без прагляду гэтага важнага пытаньня зьездам беларускіх комуністычных сэкцый. Але, калі справа з фармаваньнем беларускіх часьцей Чырвонае арміі ў Маскве яшчэ вырашалася, ў Пецярбурзе ў гэты час яна была ўжо вырашана. За некалькі дзён да конфэрэнцыі сэкцый з Пецярбургу надышла тэлеграма, у якой прапанавалася Белнакому прысылаць „беларускіх таварышоў у беларускі атрад, які ў Пецярбурзе дазволена фармаваць“. Тэлеграма была за подпісам загадчыка Пецярбурскага аддзяленьня Беларускага нацыянальнага камісарыяту т. Каўшылы. Само па сабе зразумела, што гэта пытаньне было пільнае.

* * *

Перад самым пачаткам конфэрэнцыі беларускіх комуністычных сэкцый тэрміновымі тэлеграмамі з Пецярбургу і Тамбова было затрымана яе адчыненьне. З абодвух гарадоў прасілі конфэрэнцыю адкласьці да першых дзён студзеня. Пецярбурскія таварышы намякалі на нейкія „непрадбачныя абставіны“ і раілі „вясьці працу ў мясцох Беларусі“. Тав. Дзедзя,

пасланы камітэтам маскоўскай сэкцыі для наладжаньня зносін з іншагароднымі белсэкцыямі, матываваў адклад тэрміновасьцю распачатай ім працы па зьбіраньню беларускіх комуністычных сіл. Пры іншых абставінах, магчыма, трэба было-б зьвярнуць увагу на просьбы таварышоў пра адклад конфэрэнцыі, але тады ўжо гэтага зрабіць нельга было. Падзеі ўпарта вымагалі правясьці конфэрэнцыю, каб не апярэдзіць сабою чыннасьці беларускіх сэкцый. І ў Тамбоў, і ў Пецярбург далі адказы, што конфэрэнцыя абавязкова павінна быць адчынена 20 сьнежня. Спатрэбіўся, аднак, цэлы дзень, каб абгаварыць справу з тэлеграмамі, і конфэрэнцыя адчынілася 21 сьнежня 1918 г. на Гранатным завулку, 24, у памяшканьні Белнакому.

На першае паседжаньне зьявілася семнаццаць чалавек ад пяці беларускіх комуністычных сэкцыі РКП: ад маскоўскае—З. Жылуновіч, І. Няцэцкі, А. Чарвякоў, Я. Дыла, З. Чарнушэвіч, Я. Блізьнюк і Я. Рыбак; ад пецярбурскае—А. Усьціновіч, Ю. Памецка, А. Макарэвіч і Ф. Балбека; ад саратаўскае—Б. Бяганскі, А. Баркоўскі і А. Пратакоўскі; ад тамбоўскае—М. Драка-Дракон і В. Ханін і ад менскае—Э. Русецкі *). Паседжаньне адчыніў старшыня камітэту маскоўскае сэкцыі З. Жылуновіч а шостай гадзіне ўвечары. Перш былі заслуханы прывітальныя тэлеграмы з Менску і з Пецярбургу. Пасьля конфэрэнцыя абрала прэзыдыум у складзе: старшыні—Жылуновіча, таварыша старшыні—Усьціновіча, сакратароў—Блізьнюка і Чарнушэвіча. Пасьля абраньня прэзыдыуму конфэрэнцыя пастанавіла пасла́ць наступнага зьместу прывітальныя тэлеграмы: тав. Леніну—„Першая конфэрэнцыя беларускіх сэкцый РКП (бальшавікоў) пасылае вам, дарагі таварыш Уладзімер Ільліч, сваё гарачае прывітаньне, як натхненнаму правадыру пролетарыяту ўсіх краін і ўсіх нацый да сьветлага ідэалу інтэрнацыянальнага соцыялізму“; тав. Сталіну—„Першая конфэрэнцыя беларускіх сэкцый РКП(б) вітае вас, як шчырага спаборніка канечнае патрэбы вырашыць нацыянальнае пытаньне з клясавага пункту гледжаньня і як адданага рэволюцыянэра і змаганьніка за інтарэсы пролетарыяту і бяднейшага сялянства ўсіх краін і ўсіх нацыянальнасьцяй. Конфэрэнцыя мае надзеі, што пры вашым аўторытэтным падтрыманьні работніцка-сялянская Беларусь зойме належнае месца ў Савецкай Соцыялістычнай Фэдэрацыі“; Усерасійскаму Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту—„Першая конфэрэнцыя РКП(б) вітае ВЦІК, як вышэйшы орган работніцка-сялянскай улады фэдэрацыйнай савецкай рэспублікі, які няўхільна і цьвёрда праводзіць у жыцьцё ідэю інтэрнацыянальнага соцыялізму. Конфэрэнцыя мае надзею, што ВЦІК, праводзячы ў жыцьцё прынцыпы фэдэрацыйнага соцыялістычнага будаў-

*) Да гэтых таварышоў пазьней далучыліся яшчэ два прадстаўнікі ад невельскага павятовага камітэту РКП—т. т. Бейлін і Волкаў і адзін прадстаўнік ад менскай белсэкцыі—Клыш. Такім чынам, усяго на конфэрэнцыі было са станоўчым голасам 20 ч. ад шасьці організацый.

ніцтва, ажыцьцёвіць ідэю стварэньня Савецкае Беларусі"; Вышэйшаму ваенна-рэволюцыйнаму савету рэспублікі—„У асобе Вышэйшага ваенна-рэволюцыйнага савету рэспублікі першая конфэрэнцыя беларускіх сэкцый РКП(б) вітае героічных Чырвоную армію і Чырвоны флёт, якія мужна і самаахвярна змагаюцца за ідэалы вялікае сусьветнае соцыяльнае рэволюцыі супроць нападаючых на яе міжнароднай буржуазіі і капіталу. Конфэрэнцыя ўшаноўвае памяць таварышоў, загінуўшых у гэтым пачэсным змаганьні, і спадзяецца, што Чырвоная армія, у шэрагах якое не апошняе месца займаюць сыны працоўнае Беларусі, здолее абараніць яе ад драпежніцкага захопу міжнароднай контр-рэволюцыйнай буржуазіяй".

Ухваліўшы і прыняўшы паданыя тэксты тэлеграм, конфэрэнцыя заслухала і прыняла наступную павестку дня, апрацаваную ініцыятыўным Бюро па яе скліканьню: 1) Інформацыя камітэту маскоўскай беларускай сэкцыі РКП(б) і агляд політычнай працы комуністых на мясцох. 2) Нацыянальнае пытаньне. 3) Сучаснае політычнае становішча на Беларусі і ўзаемаадносіны паміж політычнымі партыямі. 4) Стварэньне работніцка-сялянскага ўраду на Беларусі. 5) Задачы, што стаяць перад беларусамі-комуністымі: а) стварэньне аб'яднанага бюро; б) рэорганізацыя Беларускага нацыянальнага камітэту; в) выданьне партыйнага органу; г) агітацыйна-політычная і організацыйная праца (беларуская Чырвоная армія, вясковыя комуны, культурна-асьветная праца, сродкі, выпраўка на месцы і інструкцыя ад'яджаючым, адозва да беларускага народу і беларускіх комуністых). 6) Мобілізацыя беларусаў-комуністых. 7) Бягучыя справы. Тут-жа, усьведамляючы ўсю важнасьць конфэрэнцыі, было пастаноўлена „запісваць у протокол паседжаньняў па магчымасьці ўсё і прамоўцаў не абмяжоўваць часам".

Першае пытаньне павесткі для конфэрэнцыі заняло амаль ня ўсё першае паседжаньне. Па ім выказвалася звыш дзесяці таварышоў, яны ў сваіх прамовах шырока высьветлілі зробленую сэкцыямі працу і стан гэтых сэкцый. Згодна гэтых прамоў праца беларускіх сэкцый нечакана выявілася перад конфэрэнцыяй у выглядзе шырока-разгорнутай, плённай па сваіх выніках чыннасьці. Так, маскоўская сэкцыя выканала працу па ўсталяваньні і паглыбленьні чыннасьці Белнакому, пераслала ў Менск для работы ў вызваленай Беларусі да пятнаццаці адказных таварышоў, наладзіла некалькі агульна-беларускіх мітынгаў у Маскве, распачала культурна-асьветную работу; з часу заснаваньня сэкцыі афіцыяльны орган Белнакому „Дзяньніца" зрабіўся і органам сэкцыі. Пецярбурская сэкцыя, як далажыў яе дэлегат т. Усьціновіч, заснавалася з левага крыла Беларускай соцыялістычнай грамады; спачатку яна была невялікай па асабовому складу, але хутка вырасла і набыла сілу і аўторытэт сярод беларускіх рабочых Пецярбургу. Сэкцыя выканала заданьне ў справе організацыі Беларускага нацыянальнага камісарыяту і пасьля

яго—пецярбурскага аддзяленьня, організавала баявы атрад, пераданы пад загад Пецярбурскай надзвычайнай камісіі, адчыніла школы першае і другое ступені з лікам вучняў да 200 ч., паслала шэраг таварышоў для працы ў Беларусь, вяла старанную агітацыйна-організацыйную працу сярод беларусаў-матросаў і беларусаў бежанцаў. Саратаўская сэкцыя, паводле слоў яе дэлегатаў—т. т. Пратакоўскага і Бяганскага, зорганізаваная 23 верасьня, пад час конфэрэнцыі мела ў сваім складзе 30 партыйцаў-беларусаў і 32 спачуваючых. Сэкцыя адчыніла клюб, наладзіла 6 мітынгаў беларусаў-бежанцаў, зрабіла шмат выездаў у суседнія гарады. „Сэкцыя карыстаецца харошымі адносінамі да яе і ўвагай". У тамбоўскай сэкцыі зорганізавана да 60 комуністых-беларусаў і да 100 спачуваючых. У шмат якіх установах Тамбова беларусы-комуністыя займаюць адказныя пасады; а ў часе белагвардзейскага паўстаньня асноўнае заданьне ў справе яго зьніштажэньня выканалі беларусы-комуністыя.

Шырокім фронтам пакіравана праца і ў менскай сэкцыі, якая шмат зрабіла ў справе організацыі савецкага апарату пасьля выхаду немцаў і ў справе наладжаньня беларускага культурнага жыцьця.

Падагуленыя перад конфэрэнцыяй вынікі працы сэкцый станавілі сабою значны ўклад у скарбніцу рэволюцыйнага змаганьня і соцыялістычнага будаўніцтва. Абапіраючыся на праробленую сэкцыямі працу, можна было спадзявацца на добрую будучыню. Конфэрэнцыя аднагалосна прыняла наступную рэзолюцыю па першым пытаньні павесткі дня: „Са здавальненьнем заслухаўшы даклады з месц пра выключную рэволюцыйна-комуністычную ролю, якую адыгралі і адыгрываюць беларусы-комуністыя ў Вялікай Расійскай Рэволюцыі ў шмат якіх мясцох Расіі, і прымаючы пад увагу адказны момант у жыцьці Беларусі, які абавязвае беларусаў-комуністых прыняць самы чынны ўдзел у стварэньні Савецкае Беларусі, конфэрэнцыя пастанаўляе: 1) вясьці далей організацыйную працу ў справе стварэньня беларускіх сэкцый, карысьць існаваньня якіх ужо выявілася; 2) беларускія сэкцыі павінны, не парушаючы адзінай рэволюцыйнай чыннасьці, вылучыць зараз-жа магчымы максымум комуністых-працаўнікоў для адпраўкі іх у Беларусь, і гэту сваю работу—забесьпячэньня Беларусі падрыхтаванымі працаўнікамі—вясьці і далей; 3) усе беларускія сэкцыі, у справе аб'яднаньня свае работы, павінны трымаць самую цесную сувязь з тым сваім цэнтрам, які абярэ конфэрэнцыя; 4) сродкі, патрэбныя на організацыйную работу і інш., сэкцыі могуць атрымаць часткаю ад мясцовых камітэтаў РКП(б), часткаю-ж ад свайго цэнтру".

* * *

Нацыянальнае пытаньне на конфэрэнцыі беларускіх сэкцый РКП(б) абгаворвалася, галоўным чынам, з тэорытычнага пункту гледжаньня. Вострасьць і складаньне яго часта блыталі асобных таварышоў-партыйцаў у іх поглядах на вырашэньне гэтага пытаньня. Глыбокія ўзрушэньні

соцыяльна-клясавых суадносін і бліскучасьць пэрспэктыў сусьветнай рэволюцыі, зразумела, не гадзілася ў іх воку з буднямі вырашэньня нацыянальных проблем. Апошнія, у кожным разе, маглі пачакаць са сваім вырашэньнем. Сапраўды-ж, разьвіцьцё рэволюцыйных падзей пад канец 1918 году вельмі шчыльна стыкнулася з патрэбаю разьвязаньня нацыянальнага пытаньня. Буржуазія і соцыял-згоднікі паасобных нацый (Польшчы, Украіны, Літвы, Латвіі і Беларусі ў тым ліку) жонглявалі перад працоўнымі гушчамі на нацыянальным пачуцьці. Прадажніцкія ноты вільсонаўскай дэклярацыі пра самавызначэньне нацый таілі ў сабе імпэрыялістычна-буржуазныя намеры і ўзброенае падтрыманьне нацыянальна-буржуазным вызваленцам прыгнечаных нацый.

У будаўніцтве вызваленай Беларусі, як і на Украіне, у Літве і інш., павінны былі вынікнуць сур'ёзныя перашкоды ў галіне нацыянальных пытаньняў. Ад правільнага вырашэньня гэтых пытаньняў залежалі посьпехі савецкае ўлады. Гэта ясна ўяўляла сабе конфэрэнцыя, калі паставіла на абгавор асобным пунктам павесткі дня нацыянальнае пытаньне. У доўгіх і жвавых спрэчках, часта набываўшых выгляд заядлых сварак, адбыўся канчатак першага паседжаньня конфэрэнцыі і пачатак другога. Нарэшце, калі ўсе жадаўшыя таварышы выказаліся, пастанавілі вынікі спрэчак па нацыянальным пытаньні, па пытаньні аб сучасным політычным становішчы на Беларусі і па пытаньні стварэньня рабоча-сялянскага ўраду на Беларусі, абагульніць у аднэй рэзолюцыі. І гэта пастанова конфэрэнцыі, бязумоўна, была правільнай, бо фактычна пункт „нацыянальнае пытаньне“, узятае ў разрэзе яго навуковага разуменьня, кожны прамоўца пераносіў з узвышша тэорытычнага ўгрунтаваньня да непасрэднага практычнага прыстасаваньня яго ва ўмовах Беларусі. Ад гэткага ці іншага разьвязаньня конфэрэнцыяй гэтага пытаньня залежала пастаноўка, абгавор і вырашэньне пункту павесткі дня пра стварэньне рабоча-сялянскага ўраду на Беларусі. Пытаньне-ж—„політычнае становішча на Беларусі і ўзаемаадносіны паміж політычнымі партыямі“ мала ўплывала на абодва папярэднія пытаньні паасобку і ў іх лёгічна-натуральнай сувязі. З аднаго боку, прычына гэтаму ў тым, што ўдзельнікі конфэрэнцыі, ня гледзячы на інформацыю прыехаўшых з Менску таварышоў, слаба ведалі сапраўднае становішча па Беларусі; з другога боку, з інформацый нішто ня сьведчыла аб тым, што пытаньне пра ўрад павінна ставіцца рубам. Трэба адзначыць, што пытаньне пра стварэньне ўраду на Беларусі стаяла ў асяродку ўвагі конфэрэнцыі, і першыя пытаньні былі пролёгам да яго. Ясна, што абгавор гэтага пытаньня даў аснову рэзолюцыі, хоць сам па сабе ён цягнуўся вельмі нядоўга і запіс абгавору ў протоколе займае менш месца, чым рэзолюцыя.

З прычыны асаблівай значнасьці пытаньня і формы яго разгляду мы падаем тут яго поўны запісаны тады зьмест. Пасяджэньне аднавілася ў 6 гадзін увечары 22 сьнежня пры тых самых удзельніках конфэрэнцыі.

Стаіць пытаньне пра стварэньне рабоча-сялянскага ўраду на Беларусі. Тав. Усьціновіч тлумачыць, што пытаньне пра стварэньне рабоча-сялянскага ўраду на Беларусі пастаўлена на павестку дня конфэрэнцыі ў выніку перамаўленьняў тав. Каўшылы з прадстаўнікамі Абліскамзапу [1]). Тав. Дыла выказвае думку, што наша конфэрэнцыя не правамоцна канчаткова вырашыць гэта пытаньне. Але, лічачыся з сучасным палітычным становішчам Беларусі, нам, канечна, трэба перакінуць на Беларусь свае сілы і там падрыхтаваць думку працоўных гушчаў згодна з пажаданьнямі сэкцый. Тав. Балбека лічыць патрэбным выказаць папярэднюю прынцыповую думку пра гэта пытаньне на цяперашняй конфэрэнцыі, бо на месцы зараз пытаньне гэта стаіць вельмі востра. Тав. Бяганскі выказваецца за тое, каб конфэрэнцыя выказала сваю прынцыповую думку аб гэтым пытаньні: ці патрэбна стварэньне ўлады на Беларусі і якой менавіта, і потым вызначыць шляхі да арганізацыі работніцка-сялянскага ўраду на Беларусі. Тав. Жылуновіч кажа, што няма патрэбы даводзіць канечнасьці стварэньня рабоча-сялянскага ўраду на Беларусі. Мы павінны паслаць туды свае сілы і стварыць там належную атмосфэру да скліканьня зьезду. Тав. Няцэцкі, як на вельмі важны факт, паказвае на адносіны міжнароднага саюзнага імпэрыялізму да гэтага пытаньня. І з гэтага боку стварэньне рабоча-сялянскага ўраду на Беларусі зьяўляецца вельмі важным козырам у руках савецкае ўлады. У даны момант мы ня можам гаварыць аб гэтым у рашучых тонах, знаходзячыся тут. Нам трэба вызначыць програму нашай чыннасьці. Нам трэба на месцы зорганізаваць масы пад нашым комуністычным сьцягам і стварыць магчымасьць скліканьня Ўсебеларускага зьезду, які і зьявіцца выказьнікам волі народнай у адносінах да стварэньня ўраду, і таму нам трэба кінуць туды ўсе свае сілы. Падана і прынята пропозыцыя аб тым, каб спыніць спрэчкі па гэтым пытаньні. Аднагалосна прынята наступная рэзолюцыя [2]): „Сучаснае становішча Беларусі—выключна складанае і адказнае. Створаныя нямецкім броняваным кулаком і імпэрыялістычнай Антантай дзяржавы Польшчы, Літвы і Украіны, на чале з прадстаўнікамі буйнае буржуазіі і нацыянал-шовіністых, з першых-жа дзён свайго існаваньня выяўляюць імкненьне да імпэрыялістычнага захопу і прыгнечаньня суседніх з імі народаў, у тым ліку і Беларусі. Нямецкая окупацыя зусім разбурыла Беларусь у экономічных адносінах і, імкнучыся дарэшты зьнішчыць рэволюцыйны настрой рабочых і сялянскіх гушчаў, нячувана жорсткімі рэпрэсіямі душыла кожную праяву самачыннасьці і спробы

[1]) Абласны камітэт Заходняй вобласьці, у якую ўваходзіла Беларусь са Смаленскай губэрняй.

[2]) У протоколе запісана „Рэзолюцыя, прынятая першай конфэрэнцыяй беларускіх комуністычных сэкцый па нацыянальным пытаньні, аб палітычным становішчы Беларусі і ўзаемаадносінах паміж палітычнымі партыямі, а таксама пра пытаньне аб стварэньні на Беларусі рабоча-сялянскага ўраду“.

беларускага народу да вызваленьня з-пад ярма прыгоньнікаў; карыстаючыся на сваім крывавым шляху дружным падтрыманьнем духавенства, памешчыкаў, капіталістых і ўсіх выглядаў іхных паслугачых—да соцыялзгоднікаў уключна,—уся гэта зграя намагалася затуманіць рабочых і сялян рознымі хлусьлівымі, абмоўнымі нападамі на Расійскую соцыялістычную рэволюцыю, старалася заглушыць іх клясавую сьвядомасьць і пераняць ненавісьць да іх адвечных ворагаў-капіталістых,—каб гэткім чынам калі і ня зусім абмінуць, дык адцягнуць на магчыма доўгі час канец іх неабмежаванага панаваньня і глуму над рабочымі гушчамі. Але, ня гледзячы на самае жорсткае зьнішчэньне ўсякага рэволюцыйнага руху сярод беларускага пролетарыяту і сялянства, рэволюцыйны дух у іх не забіты, а, наадварот, яшчэ болей рэволюцыянізаваў іх. З прычыны дзевяцімесячнай вакханаліі на Беларусі нямецкага броняванага кулака, які часткаю зьнішчыў і адправіў у нямецкія вастрогі, часткаю прымусіў эміграваць у Расійскую соцыялістычную рэспубліку лепшых правадыроў беларускага пролетарыяту і вясковай беднаты, цяпер зусім мала засталося на мясцох сьвядомых і дасканала падрыхтаваных да соцыялістычнага будаўніцтва працаўнікоў. Тыя, што засталіся там, — легальныя прадстаўнікі соцыял-згодніцкіх нацыянал-шовіністычных партый,—стараюцца як мага выкарыстаць спагаднае для іх пакуль становішча. Але вядома, што паны-згоднікі, якія ўжываюцца з нямецкім імпэрыялізмам, калі сусьветная гісторыя зробіць паварот, вельмі лёгка могуць зьмяніць нямецкую орыентацыю на орыентацыю амэрыка-ангельска-францускую з тым, каб зноў прадаць справу соцыяльнае рэволюцыі на Беларусі ў рукі літоўскіх і польскіх паноў, капіталістых і клерыкальнага духавенства. Усе гэтыя паказальныя факты ўладна вымагаюць стварэньня, у шчыльнейшым контакце з вялікаю Расійскаю соцыялістычнаю фэдэрацыйнаю рэспублікаю, моцнага Беларускага рабоча-сялянскага ўраду, выяўніка волі беларускае беднаты. Трэба, каб гэты ўрад мог з прыязнай дапамогай Расійскай соцыялістычнай рэволюцыі абараніць беларускую бедноту ад сусьветнай контр-рэволюцыі, якая пасуваецца ў выглядзе вызваліцелькі нацыянальнасьцяй ад „запрыгоненьня іх расійскім бальшавізмам“ і іх самавызначэньня, каб гэты ўрад даў магчымасьць і беларускаму пролетарыяту зрабіць свой уклад на карысьць насьпяваючай сусьветнай соцыяльнай рэволюцыі“.

* * *

Пры разглядзе пятага пункту павесткі дня конфэрэнцыя найбольшую ўвагу зьвярнула на тры пытаньні, гэта: 1) рэорганізацыя Беларускага нацыянальнага камісарыяту; 2) стварэньне беларускай Чырвонай арміі і 3) пытаньне пра сельскія комуны. Кожнае з памянёных пытаньняў вымагала падрабязнага абгавору і ўсебаковага вывучэньня; па кожным з іх выказваўся шэраг таварышоў-удзельнікаў конфэрэнцыі. У выніку абга-

вору, забраўшага шмат часу ад конфэрэнцыі, былі вынесены наступныя пастановы: 1) па рэорганізацыі Беларускага нацыянальнага камісарыяту: „Прызнаць існаваньне Беларускага нацыянальнага камісарыяту канечна патрэбным і зрабіць яго рэорганізацыю ў сэнсе замены некаторых яго кіраўнікоў новымі, больш чыннымі супрацоўнікамі“ *); 2) па пытаньні стварэньня беларускай Чырвонай арміі: „Прымаючы пад увагу выключна адказнае міжнароднае становішча, у якім знаходзіцца цяпер вызваленая Беларусь, конфэрэнцыя лічыць канечна патрэбным стварыць беларускія палкі Чырвонае арміі, ганаровай і адказнай задачаю якіх будзе абарона Беларусі, як аднаго з форпостаў Вялікае Расійскае Соцыялістычнае Рэволюцыі ў змаганьні апошняй з сусьветным імпэрыялізмам.

Каб практычна вырашыць гэтае пытаньне, конфэрэнцыя пастанаўляе: даручыць абранаму цэнтральнаму Бюро беларускіх комуністычных сэкцый усё кіраўніцтва і дбаньне пра формаваньне беларускіх чырвоных палкоў; з гэтаю мэтаю сэкцыям на мясцох увайсьці ў патрэбны контакт з вайсковаю савецкаю ўладаю і пачаць неадкладна вярбоўку чырвонаармейцаў ды далейшую патрэбную організацыйную працу.

Політычным камісарам беларускага палка пры Заходняй стралковай дывізіі, які пачаў ужо формавацца ў Маскве, назначыць т. М. Дрока-Дракона, назваўшы полк „Полацкім“. Папаўненьне людзьмі гэтага палка перадаць беларускім комуністычным сэкцыям тых гарадоў Савецкай Расіі, дзе ёсьць многа беларусаў-бежанцаў.

Сформаваны ў Пецярбургу самаахвотніцкі атрад беларусаў-комуністых выправіць у Менск, дзе ён будзе добрым комуністычным асяродкам для беларускіх палкоў, формаваньне якіх там пачнецца.

Конфэрэнцыя ўпэўнена ў тым, што ў бліжэйшыя месяцы маладая беларуская Чырвоная армія, побач са старымі славутымі латыскімі і іншымі чырвонаармейскімі палкамі, зьявіцца перадавым змагаьнікам і абаронцам соцыяльнае рэволюцыі“; 3) па пытаньні будаўніцтва сельскіх комун: „Бачачы ў сельска-гаспадарчых вытворчых комунах, апроч усіх іншых бакоў іх вартасьці, яшчэ і новую форму комуністычнага будаўніцтва жыцьця, а таксама лічачы грамадзкае карыстаньне зямлёю, пераходам да комун, конфэрэнцыя прызнае асаблівую каштоўнасьць будаўніцтва комун і працу ў кірунку аформленьня грамадзкага зямлякарыстаньня ў беларускай вёсцы і заклікае ўсіх партыйных працаўнікоў, апроч агульна-політычнай і культурна-асьветнай работы, побач распачаць у вёсцы і працу для будаўніцтва комун. На беларускія бежанскія гушчы, якія цяпер пазбаўлены магчымасьці аднаўляць сваю падворную гаспадарку, павінна быць зьвернута асаблівая організацыйная ўвага з боку Беларускай савецкай улады ў сэнсе пераводу іх да комунальнае і

*) У выніку пастановы была замена камісара Белнакому т. Лагуна з прычыны яго доўгай адсутнасьці ў камандыроўцы—т. Жылуновічам і сакратара Белнакому т. Чарнушэвіча згодна яго просьбы—т. Мазурам і шэраг іншых зьмен.

абагульненае гаспадаркі. Наяўнасьць у краіне маёнткаў з шырокім ужываньнем парабкоўскае працы надае ўпэўненасьці ў тым, што комуны будуць найлепшаю формаю зямлякарыстаньня і для сельскага безьзямельнага пролетарыяту.

Разам з тым конфэрэнцыя выказваецца за выкарыстаньне вялікіх панскіх маёнткаў пад буйныя савецкія гаспадаркі, як гаспадаркі ўзорныя, што вытвараюць максымум сельска-гаспадарчых продуктаў. Гэта дазволіць савецкай уладзе з большым посьпехам вырашыць харчовае пытаньне, разбураючага ўплыву якога так упэўнена чакаюць ворагі рабоча-сялянскай улады".

* * *

Апроч паданых у нашым нарысе важнейшых пастаноў і рэзолюцый, конфэрэнцыя прыняла яшчэ шэраг рэзолюцый па іншых пытаньнях, якія яна абгаворвала. Так, трэба адзначыць пастановы аб культурна-асьветнай рабоце, аб агітацыйна-палітычнай і організацыйнай рабоце і сродках для яе, аб мобілізацыі комуністых-беларусаў, аб органе бюро сэкцыі і інш. Таксама конфэрэнцыя прыняла адозву да „Беларускага народу*).

Бягучымі справамі конфэрэнцыя заняла сваё апошняе пасяджэньне 23 сьнежня. Бягучыя справы ахапілі сабою інформацыю т. Лагуна пра становішча каля Баранавіцкага раёну, куды ён накіроўваўся Белнакомам, інформацыю т. Клыша пра работу і яе ўмовы ў Менску і выбары цэнтральнага бюро сэкцый. Абраньне бюро стаяла апошнім. Праз галасаваньне запіскамі абраны былі ў цэнтральнае бюро беларускіх сэкцый РКП(б) наступныя таварышы: З. Жылуновіч, Ф. Балбека, А. Чарвякоў, І. Няцэцкі, М. Дракон і Я. Дыла. Цэнтральнаму бюро было даручана склікаць Усебеларускі зьезд комуністычных сэкцый пасьля партыйнай конфэрэнцыі ў Смаленску, назначанай на 27 сьнежня. Якраз у часе выбараў бюро маскоўская сэкцыя атрымала тэлеграму са Смаленску за подпісам сакратара Абласнога камітэту РКП(б) т. Кнорына з запрашэньнем прысланіць прадстаўнікоў на памянёную конфэрэнцыю ў Смаленску. Пасьля абгавору конфэрэнцыя вылучыла з свайго складу дэлегатамі ў Смаленск трох таварышоў: П. Клыша, В. Ханіна і Я. Лагуна.

Заключнай прамовай старшыні конфэрэнцыя была зачынена а палове першай гадзіны ўночы. Удзельнікі конфэрэнцыі з уздымам і натхненьнем прасьпявалі перш Інтэрнацыянал, а пасьля беларускую марсэльезу.

* * *

Хутка пасьля конфэрэнцыі беларускіх сэкцый РКП(б) абранае ёю цэнтральнае бюро накіравала да тав. Сталіна некалькіх членаў бюро для інформацыі пра пастановы і працу конфэрэнцыі. Таксама протокол работ і пастаноў быў разасланы вышэйшым партыйным установам.

*) Адозва гэта надрукавана ў № 1 (45) „Дзяньніцы", у органе Народнага камісарыяту па нацыянальных справах „Жизнь национальностей" і ў шэрагу іншых газэт.

Такім чынам, конфэрэнцыя, прарабіўшы вялікую і складаную працу ў сэнсе організацыйнага афармленьня сэкцыйнай чыннасьці і ў справе вызначэньня гэтай чаннасьці ў будучы час, станавіла перад беларускімі сэкцыямі адпаведныя задачы. Настрой удзельнікаў конфэрэнцыі і захапленьне ў вырашэньні абгавораных пытаньняў—сьведчылі аб разьвіцьці работы і аб яе посьпеху. З вераю ў гэта разьяжджаліся таварышы на месцы. Але частка іх не пасьпела яшчэ пакінуць Масквы, як важнейшае пытаньне конфэрэнцыі—стварэньне беларускага рабоча-сялянскага ўраду—было вырашана. Дзякуючы гэтаму частка членаў цэнтральнага бюро сэкцый з прычыны таго, што яны ўваходзілі ў склад ураду, мусіла выехаць у Беларусь. З прычыны гэтага характар і размах работы абранага Бюро сэкцый і сэкцый на далей набыў крыху іншы кірунак.

# ШЛЯХ ЗМАГАНЬНЯ, АДНАЎЛЕНЬНЯ І НОВАГА СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА

*(Кароткі агляд народнае гаспадаркі і культуры БССР за 10 год)*

**М. Карклін**

## I

Тэрыторыя і народная гаспадарка сучаснай Беларусі, ня кажучы ўжо аб культуры, якая зусім была ў заняпадзе ня толькі ў час польскай і нямецкай окупацый, імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны, перажывала найцяжэйшыя ўмовы, калі скрозь меч і агонь вайны нясьлі з сабою руйнаваньне, не пакідаючы, як гаворыцца, „каменя на камені". Уся гісторыя Беларусі праз цэлыя вякі складалася так, што беларускае насельніцтва, — у паасобку беларускае сялянства і яўрэйская местачковая беднята,—няшчадна рабавалася польскімі і расійскімі „панамі", да якіх далучаліся яшчэ вураднік, ксёндз, поп і рабін.

Чаго можна было чакаць пры гэткіх няспрыяльных умовах беларускаму рабочаму ад слаба разьвітай саматужнай прамысловасьці ці селяніну ад шэрых туманных беларускіх балот. Яскравей за ўсякія лічбы гавораць словы беларускіх народных поэтаў, якія апісвалі і аплаквалі цяжкую долю беларускага селяніна, кажучы пра яго напоўкрывую, напоўразбураную хату, што яна „і цячэ, і гніе, і крывая, у сярэдзіне гной і стаіць на гнаі"... (словы песьняра Ф. Багушэвіча).

Пэўна, што пры такіх акалічнасьцях нямнога засталося разбурваць вайне і окупацыі. Сельская гаспадарка, якая і без таго стаяла на нізкім узроўні, і слаба разьвітая прамысловасьць апынуліся ў самым крытычным стане. У спадчыну-ж Савецкай Беларусі засталіся толькі голыя сьцены фабрычных будынкаў.

Вось даныя, якія цалкам характарызуюць ступень гэтага разбурэньня.

Да вайны ў Аршанскай акрузе было 22 кахляных заводы з 2000 рабочых, цяпер-жа працуе толькі 2 заводы з 164 рабочымі; бровараў было 21 з 420 рабочымі, цяпер-жа ёсьць 4 заводы з 80 рабочымі. Быў хэмічны завод, дзе працавала 250 рабочых, а цяпер няма. Быў касьцямольны завод з сотняю рабочых,—цяпер разбураны. Была гута з 300 рабочых,—цяпер зьліквідавана, і г. д. У Менску было 7 цагелень, якія выраблялі 15 млн. штук цэглы, цяпер працуюць 2 цагельні, якія даюць

$5^1/_2$ млн. штук цэглы; было 6 мэталяапрацоўчых заводаў, цяпер ад іх засталіся адны сьцены; было 6 абойных фабрык, цяпер працуе толькі адна.

У такім стане знаходзілася 3—4 гады таму назад тая мясцовая прамысловасьць, якая павінна была абслугоўваць сельскую гаспадарку, якая павінна была перапрацоўваць мясцовую сыравіну і тым паднімаць кошт продуктаў сельскай гаспадаркі і наогул экономікі краіны. Паўстае пытаньне, што магла даць такая прамысловасьць, якая сама перажывала ў той час пераломны пэрыод у рамонтнай справе, якая толькі што пераходзіла на рэйкі аднаўленьня і скарыстаньня асноўнага капіталу, ня кажучы ўжо пра новае будаўніцтва, рацыяналізацыю і рэконструкцыю.

Ня менш глыбокія сьляды разбурэньня былі і ў іншых галінах народнай гаспадаркі і культуры. Гарады—культурныя цэнтры—разбурваліся. На г. Барысаў, напрыклад, 8 траўня 1920 г. за некалькі гадзін было выпушчана да 800 шасьці і васьмі цалёвых знарадаў, якія ня толькі разбуралі, але і спусташалі горад.

Такім чынам, усё было пастаўлена на карту вайны, якая ня толькі разбурала народна-гаспадарчыя каштоўнасьці, але і пакідала пасьля сябе мноства трупаў і калек, мора сьлёз і хваробы. Гаспадарчы організм, вызвалены ад ворагаў, меў шмат ран на сваім целе.

Чаго можна было чакаць у той час, калі навакол разгульвала контррэволюцыя, калі голад, холад і разруха кожны момант давалі сябе адчуваць, неадступна патрабуючы для сябе спажывы ад маладога цела Савецкай Беларусі.

## II

Але якія-б ня былі цяжкія ўмовы для творчай працы, усё-ткі кожны дзень прыносіў новыя дасягненьні па мобілізацыі сіл і сродкаў. Вялікі саюз народаў, скінуўшы з сваіх плеч царскі абсолютызм, распуцтва буржуазіі і беспакаранасьць абшарнікаў ды папоў, з рэволюцыйным энтузыязмам тварыў сваю справу. Там, дзе трэ' было разбурваць старое дашчэнту—гэта рабілася, там, дзе трэ' было зьбіраць апошнія рэшткі каштоўнага для новага будаўніцтва—зьбіралася бяз жадных затрымак. Пасьля вялікіх рэволюцыйных боек пачынаўся будзённы рабочы час. Усе памятаюць нашы суботнікі, нядзельнікі і тыдні, калі выходзілі на работу цэлымі працоўнымі арміямі. Аднаўленчы пэрыод пачынаўся ня толькі ў гарадох—на заводах, але і ў вёсцы—у сялянскіх хатах і на сялянскіх палёх.

Рабочая кляса пад кіраўніцтвам КП(б)Б захавала ў сваёй працы асноўныя паказаньні Леніна, што толькі „самкнуцца з сялянскай масай, з радавым працоўным сялянствам і пачаць рухацца ўперад нязьмерна, бясконца павольней, чым мы марылі, але затое так, што сапраўды будзе рухацца ўся маса з намі. Тады паскарэньне гэтага руху ў свой час наступіць такое, аб якім мы зараз і марыць ня можам. Гэта, памойму,

першы і асноўны палітычны вурок новай эканамічнай палітыкі". Гэтыя словы, сказаныя Леніным у 1922 годзе, павінны былі асабліва глыбока ўкараніцца ва ўсю эканамічную працу БССР, дзе пераважнае значэньне ва ўсёй народнай гаспадарцы мела і мае сельская гаспадарка.

Адміністрацыйнае і эканамічнае раёнаваньне БССР у 1924 г. калі ня цалкам вырашыла эканамічныя проблемы, то, прынамсі, паклала пачатак больш плянавага эканамічнага разьвіцьця народнай гаспадаркі наогул і частак гэтай гаспадаркі ў паасобку, як, напрыклад, лясной гаспадаркі і лесапрамысловасьці, жывёлагадоўлі і скураной прамысловасьці, мэліорацыі і торпаздабываньня і больш поўнага скарыстаньня прыродных багацьцяў, шляхаў зносін—водных і чыгуначных—і пашырэньне шэрагу спэцыяльных прамысловых прадпрыемстваў, як, напрыклад, папяровых і сернікавых.

Пэўна, што гэта адпаведным чынам павінна было ажывіць і ўсё эканамічнае жыцьцё беларускага насельніцтва, асабліва рабочых і сялян. Таваразварот дае значнае плянавае павялічэньне ня толькі ў Беларусі, але і па-за межамі яе, г. зн. на тэрыторыі іншых саюзных рэспублік і заграніцай. Попыт на сельска-гаспадарчую сыравіну значна павялічваецца, дзякуючы пашырэньню дзяржаўнай і мясцовай прамысловасьці і павялічэньню вывазу сыравіны, што, у сваю чаргу, ажывіла і формы вядзеньня сельскай гаспадаркі, штурхаючы яе ў бок рацыяналізацыі, коопэраваньня і пераходу ад экстэнсыўных да больш інтэнсыўных форм гаспадаркі і сельска-гаспадарчай тэхнікі.

Пры такой агульнай працоўнай гармоніі зусім нормальна было тое, што ў многіх мясцох шэрыя гніючыя балоты, якія не давалі жаднай карысьці, а толькі распаўсюджвалі вільгаць і розныя хваробы, ператураны ў ураджайныя палеткі. Гэта зьменшыла колькасьць бездасеўных сялянскіх гаспадарак, скараціла лік бясконных і бескароўных двароў і павялічыла тэмп росту засеўнае плошчы. Гэта ў сваю чаргу патрабавала больш рабочых рук, больш сельска-гаспадарчых машын і ўгнаеньня і г. д. Попыт на прамысловыя тавары таксама павялічыўся, і гэтым азначылася пэрспэктыва прамысловага разьвіцьця ў Беларусі як на мясцовай, так і завознай сыравіне.

Як расла і ўзмацнялася культурна-палітычная творчасьць беларускіх сялян, аб гэтым кажуць наступныя матэрыялы. Старшыня Саюзнага ЦВК т. Калінін гутарыў з сялянамі-беларусамі, якія жывуць у 2-х вярстах ад польскай мяжы. „Мы разгаманіліся...", піша т. Калінін у часопісе „Советское строительство", № 2. „Сяляне скардзіліся на шэраг няправільных распараджэньняў мясцовай улады, яны зазначалі, што ім досыць цяжка жывецца, і вылажылі свае скаргі. У канцы я запытаўся: „А сувязь з заграніцай ёсьць?"

— „Як-жа ж, там-жа засталося многа сваякоў, часам прыходзіцца проста перагукваца".—„Ну, а сялянам там лепей жывецца?"—„Ды не!



Члены конфэрэнцыі беларускіх сэкцый РКП (б) у Маскве 21—25 сьнежня 1918 году

Уверсе—зьлева на права: **І. Усьціновіч, А. Чарвякоў, З. Чарнушэвіч**

Унізе зьлева: **Русецкі, Рыбак.**

Там жыцьцё сабачае, панскае, адтуль да нас народ бяжыць, прыходзіцца іх карміць". „Гэтым, мне здаецца, сказана больш, чым сотнямі старонак друкаванага матэрыялу", так канчае сваё заключэньне т. Калінін.

Гэта гутарка і адказы сялян трапна азначалі сапраўднае палажэньне сялян Беларусі і тое асаблівае палажэньне, якое займае БССР, мяжуючыся з буржуазнымі дзяржавамі.

Але, ня гледзячы на тое, што нашы сёлы і мястэчкі былі надта шэрыя і бедныя, дзе побач з экономічным палепшаньнем толькі пачаў прабівацца і ўкарэньвацца сьвет культуры,—мы ўжо заўважаем, што сялянства дае дакладную палітычную характарыстыку экономічнага стану за рубяжом, кажучы, што „там жыцьцё сабачае, панскае".

Таксама правы былі тыя сяляне, якія, гаворачы вуснамі мільённых сялян, казалі, што жывецца пакуль што досыць цяжка. З гэтым сялянствам Савецкая Беларусь шчыльна і непарыўна зьвязала сваю працу. Няма такіх момантаў, якія ня былі-б вядомы сялянству, і ніхто з сялян ня можа сказаць, што ня дана або ня зроблена тое, што можна было зрабіць сёньня ці заўтра.

Так, прыблізна, формуляваўся ў 1924 г. стан працы ў вёсцы. Усё больш і больш замацоўвалася пролетарскае кіраваньне вёскай. Лёзунг „Уся ўвага, усе сілы на вёску" атрымаў зусім рэальнае ўжыцьцё ў практычнай штодзеннай працы ўсіх савецкіх і грамадзкіх організацый. Такім чынам, дзякуючы правільнаму партыйнаму кіраўніцтву былі і мобілізаваны ня толькі сілы гораду, але і вёскі і аднаўленчы пэрыод рушыў наперад і паказаў свае карысныя вынікі ва ўсёй народнай гаспадарцы.

## III

Беларусь перажывала ня толькі ўсе тыя цяжкасьці, якія перажывала кожная саюзная рэспубліка, але тут былі і спэцыфічныя ўмовы, якія адчуваліся ў розныя пэрыоды часу. Гэтыя спэцыфічныя ўмовы Беларусі захаваліся да некаторай ступені яшчэ і цяпер, як: вялікая аграрная перанаселенасьць, пагранічнасьць, слаба разьвітая прамысловасьць і нязначная пролетарскае ядро. Пры гэтых умовах працы, здавалася-б, надзвычайна цяжка пасувацца ўперад гаспадарчым і культурным заваёвам. Аднак, БССР можа паказаць ня толькі чыста гаспадарчыя і культурныя дасягненьні за дзесяць год існаваньня ў Беларусі савецкай улады, але і значныя дасягненьні ў справе соцыялістычнага будаўніцтва і наогул аздараўленьня ўсяго організму Беларусі.

Няпісьменнасьць, някультурнасьць насельніцтва зьяўляліся тым асноўным злом, з якім трэ' было весьці ўпартае змаганьне. Калі ў 1897 годзе ў эўропэйскай частцы сучаснай РСФСР на 1000 чалавек насельніцтва прыходзілася пісьменных—229 чалавек, то на тэрыторыі сучаснай БССР на 1000 чалавек насельніцтва пісьменных было толькі—178 чал.

З гэтай спадчынай няпісьменнасьці, якая была карысна царскаму самаўладзтву, трэба было змагацца. На гэтым фронце працы, дзякуючы мерапрыемствам савецкай улады і комуністычнай партыі мы маем пэўныя дасягненьні, напрыклад:

| | | | |
|---|---|---|---|
| У 1897 г. | на 1000 чалавек насельніцтва пісьменных было | ў РСФСР 229 ч., | у БССР 178 ч. |
| „ 1920 г. | „ „ „ „ „ | 374 „ | 315 „ |
| „ 1926 г. | „ „ „ „ „ | 441 „ | 407 „ |

Калі-ж параўнаем лічбы па гарадох, то атрымаем яшчэ лепшыя вынікі:

| | | |
|---|---|---|
| У 1897 г. | ў РСФСР—489 чал., | у БССР—454 чал. |
| „ 1926 г. | „ —674 „ | „ —692 „ |

Такім чынам, за гэты час у эўропэйскай частцы РСФСР пісьменнасьць павялічылася на 37%, а ў БССР—на 54%. У сучасны момант гэты процант значна большы, хоць ён яшчэ далёка не адпавядае гаспадарчым і культурным запатрабаваньням нашага будаўніцтва.

Аднак, ня гледзячы на тое, што няпісьменнасьць у нас яшчэ значная, пры існаваньні якой немагчыма сьвядомае будаўніцтва соцыялізму,—усё-ткі шэраг культурна-соцыяльных і экономічных дасягненьняў сьведчыць, што насельніцтва Беларусі за гэтае дзесяцігодзьдзе значна аздаравілася. Яно перажыло цяжкія хваробы, пачынаючы ад тыфусу, вэнэрычных захварэньняў і г. д.

Паводле статыстычных даных за апошнія 3 гады гэтае аздараўленьне відаць з наступнага: агульная сьмяротнасьць зьменшылася на 4,6%, г. зн. з 18,7% да 14,1%; сьмяротнасьць дзяцей да 1 году зьменшылася на 2,6%, г. зн. з 12,3% да 9,7%. Такім чынам, дзякуючы аздараўленьню насельніцтва павялічыўся прырост яго і больш захавалася сілы для творчых процэсаў краіны.

Другім вельмі важным фактарам дасягненьняў зьяўляецца ня толькі мобілізацыя ўсяе савецкае грамадзкасьці, і ў першую чаргу рабочых і сялян, але і тых культурных і навуковых сіл краіны, без якіх цяжка было-б ажыцьцявіць шэраг намечаных народна-гаспадарчых задач. З гэтаю мэтаю давялося адчыніць шэраг навуковых і дасьледчых устаноў, у якіх ня толькі популярызуюцца веды, але і падрыхтоўваюцца новыя кадры—зьмена для новага будаўніцтва.

Наша савецкае будаўніцтва кваліфікуецца і чым далей, тым больш патрэбна як навуковае, так і тэхнічнае паглыбленьне ня толькі ў вытворчых процэсах заводу ці прадпрыемства, але і сельскай гаспадарцы. Нашы навукова-тэхнічныя веды павінны даць шэраг новых карысных дасягненьняў у справе павялічэньня тэмпу соцыялістычнага будаўніцтва (асабліва па хэміі і тэхніцы). Трэба паставіць працу так, каб навуковыя дасягненьні магчыма было скарыстаць як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы.

Выходзячы з гэтых запатрабаваньняў, павялічыўся лік навучальных устаноў, выкладчыкаў у іх і вучняў, што паказвае наступная табліца:

| ГАДЫ | Выш. навуч. устаноў | | | Праф. навуч. устаноў | | | Пэдагогічн. навуч. устаноў | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік навучальн. устаноў | Выкладчыкаў | Вучняў | Школ | Выкладчыкаў | Вучняў | Лік навучальн. устаноў | Выкладчыкаў | Вучняў |
| 1914 год . | — | — | — | 11 | 58 | 950 | 5 | 48 | 614 |
| 1928 „ . | 4 | 504 | 4632 | 55 | 600 | 5547 | 36 [1]) | 686 | 6294 |

Гэтая маса навучальных устаноў без агульна-асьветных і сярэдніх дае штогод новых і новых будаўнікоў соцыялістычнага грамадзтва.

Рост народнай гаспадаркі, яе плянавасьць і ўжыцьцё навукова-тэхнічных дасягненьняў патрабавала ад савецкай улады організацыі ня толькі плянуючых і рэгулюючых устаноў і організацый, але і організацый сваіх спэцыяльных навуковых устаноў, якіх да рэволюцыі на Беларусі зусім ня было, бо ніякай сыстэматычнай працы па дасьледваньню краіны не вялося. Сыстэматычная-ж навукова-дасьледчая праца з пункту погляду культурных і экономічных інтарэсаў соцыялістычнага будаўніцтва пачалася толькі з моманту ўтварэньня БССР і асабліва ў апошнія 3 гады. У гэты час значна пачалі сябе выяўляць Інстытут беларускае культуры (з першага студзеня 1929 г. рэорганізуецца ў Беларускую акадэмію навук). Навукова-дасьледчы інстытут сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна і яшчэ шэраг іншых устаноў і організацый.

Вось толькі пры гэтай гармоніі росту культурных і навуковых дасягненьняў у БССР магчыма было патрабаваць таго, каб гаспадарчае плянаваньне ў краіне набыло ня толькі правільны організацыйны кірунак, але і навукова-тэхнічнае высьвятленьне, ужыцьцё і ўгрунтаваньне.

Так, пры цяжкіх акалічнасьцях і ўмовах працы з году ў год ня толькі рэволюцыйным энтузыязмам і ўпартасьцю адхіляліся і перамагаліся ўсе перашкоды ў нашым будаўніцтве, але і навукова пляналіся асобныя часткі разьвіцьця народнае гаспадаркі.

## IV

Плянавасьць ды стройнае разьвіцьцё ўсіх сіл і скарыстаньне сродкаў краіны магчыма пры дакладным падліку ўсіх вытворчых, прыродных і тэрыторыяльных магчымасьцяй ня толькі БССР, але і сумежных з ёю раёнаў, якія маюць экономічную, нацыянальную і геаграфічную аднастайнасьць.

[1]) Уключаючы 6 рабфакаў.

Пасьля пашырэньня БССР у 1924 г. праводзіцца далейшая праца па пашырэньню Беларусі, і ў сьнежні 1926 г. далучаецца яшчэ частка Гомельскае губэрні. Такім чынам, БССР з 52 тыс. клм. і паўтара мільённым насельніцтвам пашырылася да 125 тыс. кв. клм. з насельніцтвам звыш 5 міл. чалавек.

Такое хуткае пашырэньне выклікалася выключна неабходнасьцю стварэньня закончанай у экономічным і нацыянальным стасунках адміністрацыйна-гаспадарчай адзінкі, што дае магчымасьць яшчэ больш пасьпяхова падняць народную гаспадарку БССР.

Цяпер, падагульняючы працу за дзесяць год існаваньня БССР, можна навочна паказаць, што намі дасягнута, калі ўсё ішло паводле аднаго пляну, рабілася паводле пэўных дырэктыў, для адзінай мэты—мэты соцыялістычнага будаўніцтва—захаваньня дыктатуры рабочае клясы і цеснага саюзу рабочае клясы з пераважнай большасьцю сялянства.

Пэўна, уся гэта праца не магла рабіцца без памылак і непаразуменьняў, асабліва ў першыя гады, калі то там, то тут прытоеныя контррэволюцыйныя сілы імкнуліся скарыстаць нашы цяжкасьці. Клясавае змаганьня з капіталістычнымі элемэнтамі як у горадзе, так і ў вёсцы не паслаблялася. Праўда, гэтыя элемэнты павінны былі здаваць свае позыцыі ўсё новым і новым сілам соцыялістычных элемэнтаў у народнай гаспадарцы. Але частка капіталістычных элемэнтаў, што яшчэ заставалася, праяўляла і праяўляе ўпартае супраціўленьне там, дзе на гэта ёсьць магчымасьць, робячы вылазкі на слабых франтох нашай працы. Мы ведаем не адзін выпадак забойства рабкораў і селькораў антысавецкімі элемэнтамі, мы бачылі, як кулацкая верхавіна вёскі ахоплівала сям-там уладу ў свае рукі і прыгнятала вясковую беднату. Мы ведаем, як у часы загатовак хлеба і сыравіны блёкаваўся гарадзкі спэкулянт з вясковым кулаком, жадаючы гэтым сарваць плян загатовак і падняць цэны. Мы бачым і цяпер, як кулакі імкнуцца перашкаджаць, тармазіць процэсы колектывізацыі і коопэраваньня вёскі. Усё гэта і шэраг іншых момантаў пацьвярджае, наколькі прадуманы і прынцыпова вытрыманы павінны былі быць нашы пляны аднаўленьня і будаўніцтва, і што тут нельга было ісьці толькі пад лініі ўсеагульнага росту, а трэ' было ва ўсёй працы строга захоўваць соцыяльны і клясавы падыход, і там, дзе на гэта не зьвярталі ўвагі, нямінуча атрымліваліся хібы і не ўмацоўваліся, а паслабляліся позыцыі соцыялістычнага будаўніцтва.

Так, з году ў год, выпраўляючы і паляпшаючы пляны нашага разьвіцьця і будаўніцтва, мы дайшлі да такога пэрыоду, калі на падставе папярэдніх дасягненьняў можам намеціць больш доўгія пэрспэктыўныя пляны разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры.

Калі-ж конкрэтна разгледзець як расла і ўмацоўвалася народная гаспадарка, ідучы па лініі індустрыялізацыі Беларусі, пашырэньня прамысловага будаўніцтва, інтэнсыфікацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі

з падняцьцем яе таварнасьці, як і ўсё большага ўкараненьня ў народнай гаспадарцы аграмаджаных элемэнтаў з адначасным падняцьцем дабрабыту ўсяго насельніцтва, асабліва рабочае клясы і вясковае беднаты,— то ўбачым, як, працуючы па гэтых устаноўках, мы крок за крокам дасягнулі да 10-годзьдзя БССР наступных лічбавых паказальнікаў росту народнае гаспадаркі.

*Сельская гаспадарка.* Уся плошча ворнай зямлі ў 1917 годзе складала 9.701 тыс. дзесяцін, з якіх 45% прыпадала на долю прыватнаўласьніцкіх гаспадарак і дзяржавы; цяпер-жа землі сялянскага карыстаньня складаюць 6.923 тыс. дзесяцін, а дзяржаўны зямельны фонд—2.777 тыс. дзесяцін, г. зн. на сялянскае зямлякарыстаньне прыпадае больш за 71% усяго зямельнага фонду. У прыватных уласьнікаў і дзяржавы ў 1917 годзе знаходзілася 20% ворнай зямлі і 31,7% сенажаці, а ў сучасны момант дзяржфонду належыць 1% ворнай зямлі і 3,4% сенажаці.

Вось што дала беларускаму сялянству аграрная рэволюцыя і як яе замацавала і ахоўвае Кастрычнікавая рэволюцыя.

У выніку працы ў вёсцы і дапамогі сялянству ільготамі, крэдытам і іншымі магчымымі формамі мы бачым вялікія зьмены ў стане сялянства па групах, аб чым сьведчаць ніжэйпаданыя табліцы.

Разьмеркаваньне сялянскіх гаспадарак па засеўных групах (даныя ЦСУ):

| | 1917 г. | 1927 г. |
|---|---|---|
| 1. Сялянскіх гаспадарак без засеву . . . . . . | 9,9% | 1,4% |
| 2. „ „ з засевам ад 0,1— 2 дзес.. . . | 22,9 „ | 23,1 „ |
| 3. „ „ „ „ 2,1— 4 „ . . . | 36,9 „ | 46 „ |
| 4. „ „ „ „ 4,1— 6 „ . . . | 18,4 „ | 20,2 „ |
| 5. „ „ „ „ 6,1— 8 „ . . | 6,6 „ | 6,2 „ |
| 6. „ „ „ „ 8,1—16 „ . . | 4,5 „ | 3,1 „ |
| 7. „ „ „ „ 16,1 і вышэй . . | 0,8 „ | 0,1 „ |
| | 100% | 100% |

Забясьпечанасьць сялянскай гаспадаркі рабочай жывёлай і каровамі:

| ГАДЫ | Без раб. жывёлы | З 1-й гал. раб. жыв. | З 2-я гал. раб. жыв. | З 3-я гал. і больш | Без кароў | З 1-й каровай | З 2-я каровамі | З 3-я каровамі | З 4-я і больш каровамі. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1917 г. . . | 15,5 | 52,6 | 26,7 | 6,2 | 9,5 | 39,4 | 35,2 | 11,1 | 4,8 |
| 1927 г. . . | 13,8 | 74,6 | 11,6 | 0,6 | 5,1 | 49,3 | 35,9 | 7,7 | 2,0 |

Гэтыя дзьве таблічкі даводзяць і пацьвярджаюць тое, што ўвага ва ўсёй працы была накіравана на ўзмацненьне бядняцкай часткі вёскі, не паслабляючы серадняка, а націскаючы на кулацкую верхавіну, нават мобілізуючы супраць яе як палітычна, так і экономічна ўсю астатнюю частку вёскі.

Ад такой політыкі ані не паслабіўся рост ні валавой, ні таварнай продукцыі ў сельскай гаспадарцы (бяз лесу, рыбы і паляваньня), аб чым сьведчыць табліца:

| | | |
|---|---|---|
| У 1925 г. валавая продукцыя складала каля 692 міл. р. | | па цэнах |
| У 1928 „ „ „ „ ужо 716 „ „ | | 1926—27 г. |
| У 1925 „ таварная продукцыя (бяз унутранага звароту) складала каля . . . 65 „ „ | | па цэнах |
| У 1928 г. „ „ . . . . 69 „ „ | | 1926—27 г. |

Прыходзіцца спыніцца яшчэ на адным надзвычайна важным momанце, г. зн. на тым, як узмацняўся і разьвіваўся аграмаджаны сэктар у сельскай гаспадарцы. Як вядома, да вайны зусім ніякай колектывізацыі і коопэраваньня ня было. Цяпер-жа аб ім можна ўжо сур'ёзна пагаварыць і на будучы час ускласьці на яго большыя надзеі. Да 10-годзьдзя існаваньня БССР мы можам ужо налічыць больш за 900 калгасаў, больш за 300 сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў, каля 300 малочных таварыстваў, жывёлагадоўных—каля 150, розных таварыстваў па расьлінагадоўлі—каля 130, мэліорацыйна-тарпяных—каля 1.170, таварыстваў на агнятрывалым будаўніцтве—каля 190, рыбных больш за 60. Агульны лік коопэраваных двароў можна лічыць ужо каля 461 тыс. з 796 тыс. чалавек.

Не патрабуецца лішніх довадаў значэньня ўсёй той вялізнай і адказнай працы, якая цяпер робіцца і ідзе пры гэтым ня толькі па лініі колькаснага, але і якаснага росту.

Такім чынам, хоць наша сельская гаспадарка і ня можа яшчэ ў сучасны момант задаволіць цалкам продуктовы і сыравінны попыт, бо ня ўсё яшчэ зроблена ў справе падняцьця ўраджайнасьці і таварнасьці, з прычыны павольнага пераходу да лепшых форм апрацоўкі зямлі ды наогул вядзеньня гаспадаркі і ня зжытай яшчэ аграрнай перанаселенасьці,— усё гэта ў бліжэйшыя дні павінна будзе стаяць, як актуальная задача, але ўсё гэта ані не дае нам права замоўчваць тое, што бедная, закінутая і прыгнечаная беларуская вёска пры савецкай уладзе ,паднялася на значна большую шырыню і пасьпяхова пойдзе ў сваім далейшым разьвіцьці па шляху соцыялістычнага будаўніцтва.

*Прамысловасьць.* Нельга параўнаць цяперашнюю прамысловасьць з тою, якая была ў першыя дні савецкай улады на Беларусі ці з тою, якая была да вайны. Ужо паданыя вышэй матэрыялы гавораць за тое, што яна была разбурана і што наогул доля прамысловай продукцыі ва ўсёй народнай гаспадарцы надзвычайна мізэрная. Праўда, і цяпер, на парозе 10-годзьдзя існаваньня Савецкай Беларусі, мы ня можам сказаць, што прамысловае разьвіцьцё ў БССР ужо паднята на належную вышыню. Беларусь была пераважна сельска-гаспадарчым раёнам з слаба разьвітай прамысловасьцю,—гэткаю-ж застаецца яна яшчэ і цяпер. Але, ня гле-

дзячы на гэта, удзельная вага прамысловасьці значна вырасла і, дзякуючы гэтаму, рост рабочае клясы не паслабіўся, а, наадварот, павялічыўся; рабочае ядро таксама значна ўзмацнілася і дабрабыт яго палепшыўся.

Так, у 1913 годзе ў сярэднім на буйных прадпрыемствах Беларусі працавала каля 32 рабочых, а ў 1927 г.—каля 79 рабочых; валавая продукцыя на адно прадпрыемства ў 1913 годзе складала каля 56 тыс. руб. (па даваенных цэнах), а ў 1927 годзе—157,5 тыс. руб. (па тых-жа цэнах), пры коэфіцыенце энэргофікацыі працы тады—0,93, цяпер—1,26.

Гэта навочна паказвае, якія каштоўныя зьмены адбыліся ў частцы концэнтрацыі вытворчасьці, павышэньня яе тэхнічнае базы і падняцьця продукцыйнасьці працы.

У выніку росту ўсёй прамысловасьці (і дробнай, і буйнай) хутка расьце як валавая продукцыя, так і таварная частка, напрыклад:

У 1925—26 г. валавая продукцыя складала каля 200 млн. руб. (па цэнах 26—27 г.)
У 1927-28 г. „ „ складае ўжо 275 „ „

З іх таварная маса складала:

У 1925—26 г. каля 198 млн. руб. (па цэнах 26-27 г.)
У 1927—28 г. ужо 272 „ „ „ „ „

З адначасным ростам ліку рабочых:

У 1925—26 г. працавала . . 87.700 чал.
У 1927—28 г. „ . . 103.100 „

Пры гэтым з усёй прамысловай валавой продукцыі аграмаджаная складала:

У 1925-26 г. . . 140 млн. руб.
У 1927-28 г. . . 209 „ „

Такім чынам, наша прамысловасьць, якая пераважна перапрацоўвае мясцовую сельска-гаспадарчую сыравіну, ішла па лініі хутчэйшага разьвіцьця, ствараючы ўсё большую магчымасьць яе аграмаджаньня. Разам з тым яна не адхіляла ні на хвіліну свае ўвагі ад магчымасьці падняцьця якасьці выпусканай продукцыі і зьніжэньня сабекошту поруч з усеагульным ростам продукцыйнасьці працы і заработнай платы.

Так, калі па прамысловасьці ВСНГБ у 1922—23 годзе сярэдняя выпрацоўка аднаго рабочага за дзень складала 4 р. 30 к. (па даваенных цэнах), то ў 1927—28 годзе яна складае ўжо звыш 7 руб.; месячная зарплата ў сярэднім у 1925-26 годзе складала каля 47 чырв. руб., то ў 1927—28 годзе складае больш за 58 чырв. руб. у месяц.

Пэўна, гэты рост сельскай гаспадаркі і прамысловасьці патрабаваў скарыстаньня нашых беларускіх энэргетычных і сыравінных магчымасьцяй (тут і Асінбуд, торп, лес і г. д.). Сельская гаспадарка неаслаб-

ным тэмпам усё больш і больш атрымлівае заданьні ад прамысловасьці па частцы сыравіны, пры гэтым лепшай якасьці; сельская-ж гаспадарка, у сваю чаргу, ня меншым тэмпам высувае попыт на сельска-гаспадарчыя машыны, угнаеньне і наогул на прамысловыя тавары.

Такім чынам, разьвіваючыся, сельская гаспадарка і прамысловасьць узаемна абслугоўвалі сябе, яны паказалі на справе тую нямінучую канечнасьць, што толькі ў цесным саюзе можна больш пасьпяхова пашыраць прамысловасьць і паднімаць сельскую гаспадарку, скарыстоўваючы пры гэтым усе прыродныя багацьці краіны і дапасоўваючы навуку і тэхніку ў поўным памеры.

## V

Ня спыняючыся падрабязна на іншых галінах народнай гаспадаркі і культуры, мы павінны толькі адзначыць, што ў справе таваразвароту паміж горадам і вёскай аграмаджаны сэктар настолькі ўмацаваўся і пашырыўся, што прыватнік у гандлі пакуль што можа трымацца толькі на дробных гандлёвых позыцыях, якія ня могуць сур'ёзна перашкаджаць нашаму таваразвароту. Атрыманьне прамысловых тавараў магазынам ці крамаю непасрэдна з заводу зьяўляецца ўжо цяпер ня толькі жаданьнем, але зьдзейсьненым рэальным фактам, які дае магчымасьць патаніць і палепшыць усю нашу таваправодную сетку.

Дасягнуты таксама значныя вынікі ў загатоўчых опэрацыях паміж горадам і вёскай. Коопэрацыйныя і дзяржаўныя апараты па шмат якіх загатоўках сыравіны, ня кажучы ўжо аб разьмеркаваньні, зьяўляюцца монопольнымі. Прычым узмоцнены пераход на сыстэму дагавароў і контрактацыі сельска-гаспадарчых продуктаў і сыравіны за апошнія два гады ня толькі выявіў сябе, але і пацьвердзіў поўную магчымасьць гарантаваць гэтую сыравіну для прамысловасьці і харчаваньня гораду, адначасна забясьпечваючы сялянству поўны збыт іхнай продукцыі і задавальняючы іх попыт на прамысловыя тавары па пэўных цэнах.

Гэтыя дасягненьні, дасягненьні соцыялістычнага характару ў разьмеркаваньні, як і шэраг станоўчых вынікаў у прамысловасьці—зьніжэньне сабекошту выпусканай прамысловай продукцыі, некаторыя дасягненьні ў справе патаненьня будаўнічага індэксу і рэконструкцыі, а таксама рацыяналізацыі вытворчых працэсаў у народнай гаспадарцы, асабліва ў прамысловасьці, — далі магчымасьць шэрагу прадпрыемстваў перайсьці ня толькі на 2-х ці 3-х зьменную працу, але і перайсьці часткы цяпер, а ў далейшым і ўсім іншым прамысловым прадпрыемствам на 7-гадзінны працоўны дзень. Гэта, бязумоўна, дасьць больш поўнае скарыстаньне асноўных капіталаў прамысловасьці і больш і хутчэйшы эфэкт ня толькі па лініі ўнутранага накапленьня капіталаў, але і стварэньня большага промфонду.

Усе гэтыя вынікі росту і ўзмацненьня, як і першыя асноўныя якасныя паказальнікі народнай гаспадаркі за гэта 10-годзьдзе і тая дысцыпліна пры выкананьні плянавых прадбачаньняў,—даюць магчымасьць скласьці цяпер плян народна-гаспадарчага разьвіцьця ня толькі на год, але і на больш доўгі пэрыод. Так, у бліжэйшыя часы намечана канчатковае зацьверджаньне пяцігадовага пляну, а таксама і складаньне генэральнага пляну на 15 ці нават 25 гадоў.

Плян, хоць-бы наш пяцігадовы, па разьвіцьці народнай гаспадаркі Беларусі павінен даць ня толькі шэраг паказальнікаў, але і пэрспэктыў, павінен вызначыць бліжэйшыя этапы пераходу да соцыялістычных форм жыцьця.

Цяпер да 10-годзьдзя БССР мы асабліва выразна павінны ўявіць сабе значэньне нашага пэрспэктыўнага плянаваньня. Яно павінна даць нам магчымасьць заглянуць уперад значна далей, чым мы маглі гэта зрабіць за мінулае дзесяцігодзьдзе. Такія магчымасьці дае нам тая праца (пяцігодка), якая атрымала ўжо некаторае асьвятленьне перад шырокімі масамі працоўных Беларусі. У асноўным яна намячае наступныя генэральныя лініі на бліжэйшае пяцігодзьдзе (1928-29—1932-33 г. г.), якія месьцяцца ў тым, што, абапіраючыся на магчымыя рэсурсы, мы павінны за гэты прамежак часу дабіцца таго экономічнага і культурнага росту краіны, які мог-бы ў максымальнай ступені задаволіць патрэбы ўсяго насельніцтва і асабліва рабочае клясы ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі і культуры. На падставе гэтага росту павінна адбыцца большае ўзмацненьне гегемоніі рабочае клясы, захаваньне і паглыбленьне саюзу рабочае клясы з пераважаючай большасьцю сялянства, г. зн. з беднатой і серадняцкімі пластамі вёскі.

Асноўнымі мэтавымі задачамі пяцігадовага пэрспэктыўнага пляну зьяўляюцца: далейшая індустрыялізацыя БССР, узмоцненая інтэнсыфікацыя сельскай гаспадаркі і павялічэньне яе працаёмасьці з максымальным зрухам у бок колектывізацыі і забясьпечаньня ўзмоцненага сталага росту аграмаджаных элемэнтаў у народнай гаспадарцы БССР. Усё гэта, разам узятае, павінна даць падвышэньне культурнага і экономічнага ўзроўню насельніцтва і павінна прывесьці да памяншэньня аграрнай перанаселенасьці і зьвязанага з гэтым беспрацоўя.

Такім чынам, маючы праз увесь час перад сабою намечаныя загадзя задачы, не адрываючыся ад рэальных акалічнасьцяй і цьвёрда ўлічаючы адзінства разьвіцьця і дынаміку росту народнай гаспадаркі БССР і саюзу ў цэлым, улічаючы канечнасьць у далейшым больш поўнага скарыстаньня ўсіх прыродных багацьцяў і магчымасьцяй БССР,—мы павінны прыйсьці, урэшце, да тых вывадаў і пэрспэктыў, якія дыктуюцца агульнымі дырэктывамі партыі.

Кастрычнікавая рэволюцыя паставіла грамадзка-палітычную і гаспадарчую задачу пабудовы пролетарскай соцыялістычнай грамады. Прак-

тычнае ажыцьцяўленьне гэтага патрабуе буйнейшых экономічна-гаспадарчых і культурных зрухаў у краіне. Гэтых канечных зрухаў мы можам чакаць толькі пры наяўнасьці адпаведнага тэмпу індустрыялізацыі краіны і хуткасьці ажыцьцяўленьня задачы социялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі. Па лініі культурнага фронту ажыцьцяўленьне лёзунгу культурнай рэволюцыі можа даць гэты жаданы і канечны зрух у народнай гаспадарцы і культуры пры ўмовах мобілізацыі ўсіх грамадзкіх сіл і сродкаў.

Для таго, каб забясьпечыць узмоцнены тэмп індустрыялізацыі БССР і разьвіцьця ўсёй народнай гаспадаркі, трэба мець танную і выгодную энэргетычную базу. У гэтым кірунку на першае месца высуваюцца пытаньні адшуканьня, вызначэньня і скарыстаньня прыродных багацьцяў, якія могуць даць танную і даступную энэргетычную базу. Такую базу мы знаходзім у электраэнэргіі.

Нашы балоты займаюць 645.400 гект. з запасам у іх 1.140 млн. тон паветрана-сухога торпу ці звыш 480 млн. тон. умоўнага апалу, што зьяўляецца багатаю крыніцаю апалу для электрастанцый. Пры гэтым малая сетка электрастанцый дае магчымасьць прыняць наступныя паказальнікі росту электраэнэргіі на наступнае пяцігодзьдзе:

| | 1927-28 г. | 1928-29 г. | 1932-33 г. |
|---|---|---|---|
| | (млн. кв. гэктараў) | | |
| Для прамысловасьці | 17,84 | 29,44 | 156,35 |
| Тэмп росту ў %% | 100 | 165 | 877 |
| Для комун. абслугоўваньня | 9,75 | 14,02 | 29,75 |
| Тэмп росту ў %% | 100 | 144 | 305 |
| Для сельска-гаспадарч. | 0,91 | 2,44 | 9,48 |
| Тэмп росту ў %% | 100 | 268 | 1044 |
| Усяго | 28,5 | 45,9 | 195,58 |
| Тэмп росту ў %% | 100 | 161 | 686 |

Усё гэта дае магчымасьць патрабаваць ня толькі тэхнічных, але і органічных зьмен у вядзеньні народнай гаспадаркі. У сельскай гаспадарцы гэтыя зьмены мяркуюцца ў сэнсе большага ўжыцьця машыннай, мэханізаванай і колектыўнай працы.

Проблема індустрыялізацыі шчыльна зьвязана з мобілізацыяй грамадзкіх рэсурсаў і організацыйных магчымасьцяй краіны.

Пасьпяховае ажыцьцяўленьне задачы інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі магчыма толькі на грунце колектывізацыі і коопэраваньня шырокіх мас сялянства.

БССР павінна пакрыцца шырокай сеткай спэцыяльных відаў коопэрацыі і асабліва вытворчай коопэрацыі: колектыўныя гаспадаркі, машынныя, насенныя, мэліорацыйныя і пракатныя таварыствы, малочная і жывёлагадоўная коопэрацыя, комуны і арцелі, коопэрацыйна-пасялковыя таварыствы і інш.

Праз густую і якасную высока пастаўленую коопэрацыйную сетку магчыма ня толькі большае прыцягненьне сродкаў насельніцтва для ажыцьцяўленьня народна-гаспадарчых плянаў, праз гэтую сетку магчыма значна шчыльней увязаць у плянавым і організацыйным парадку інтарэсы дробных вытворцаў і спажыўцоў краіны з агульным плянам народнай гаспадаркі (дагаворы, контрактацыі, авансы, задаткі і г. д.).

Коопэраваньне насельніцтва па розных відах коопэрацыі павінна расьці пры гэтай установіцы такім чынам:

| КООПЭРАВАНЬНЕ Ў %% І КОЛЬКАСЬЦЬ ПАЙНІКАЎ | 1927-28 г. | 1928-29 г. | 1929-30 г. |
|---|---|---|---|
| Вясковыя спажыв. таварыствы | 497 т. | 587 т. | 823 т. |
| %% коопэрав. двароў | 55 | 65 | 87 |
| Гарадзкога насельніцтва ў ЦРК | 127,5 т. | 159 т. | 254 т. |
| %% коопэр. двароў | 41,5 | 50,8 | 75 |
| С.-г. коопэрацыя | 397 т. | 490 т. | 674 т. |
| %% коопэрав. двароў | 49 | 60 | 82 |

Гэты рост коопэраваньня павінен ісьці поруч з павялічэньнем зваротных сродкаў коопэрацыі, дзякуючы чаму паявыя капіталы будуць расьці, а выплачаны пай павінен падняцца ў сярэднім на 150—200 проц. за пяцігодзьдзе.

У выніку павялічэньня ўласных капіталаў коопэрацыі дзяржаўныя капіталы можна будзе дадаткова накіраваць на ўзмацненьне прамысловага, сельска-гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, вызваліўшы дзяржбюджэт аб выдачы сродкаў коопэрацыі. Пры гэтым коопэраваньне вясковай беднаты павінна быць пастаўлена так, каб у першы год пяцігодкі было ахоплена каля 100 проц. бядняцкіх гаспадарак. Адсюль выцякае рост фонду па коопэраваньню беднаты, клясавы падыход пры вызначэньні паявога ўзносу і г. д., словам, павінна быць цьвёрдая і ясная клясавая лінія ў працы па коопэраваньню насельніцтва ці будзе гэта крэдытаваньне, контрактацыя, загатоўка сыравіны ці дастаўка промтавараў.

Рост народнай гаспадаркі, узмоцнены тэмп індустрыялізацыі краіны і інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі, большае ўжыцьцё машыннай тэхнікі і канечнасьць рацыяналізацыі ўсіх гаспадарчых працэсаў у народнай гаспадарцы,—выклікаюць значныя зрухі ў справе народнае асьветы.

Лёзунг культурнай рэволюцыі патрабуе ня толькі ўзмоцненай увагі да пытаньняў культуры, а адначасна ставіць задачу набыцьця на практыцы культурных звычак у працы, а таксама патрабуе і большай масавай кваліфікацыі ўсёй працоўнай арміі як той, што працуе, так і той, якая падрыхтоўваецца. Асаблівую вартасьць набываюць пытаньні кваліфікацыі рабочай сілы, якая ўцягваецца ў новыя галіны народнай гаспадаркі.

Адсюль і патрабаваньне хутчэйшага ўвядзеньня ўсеагульнага навучаньня. Плян вызначае, што ў залежнасьці ад сродкаў магчыма ўвесьці ўсеагульнае навучаньне ў 100 проц. памеры толькі ў 1934—35 годзе, г. зн. пазьней проектаванага пяцігодзьдзя. Няпісьменнасьць за пяцігодзьдзе зьнізіцца з 725 тыс. чал. у 1927—28 годзе да 177 тыс. чал. у 1932—33 г. Такім чынам, тут мы з усёй відочнасьцю натыкаемся на канечнасьць яшчэ раз прапрацаваць пытаньне аб тым, як узмацніць тэмп гэтай працы і скараціць тэрміны ўвядзеньня ўсеагульнага народнага навучаньня хоць-бы на адзін год. Разьвіцьцё профтэхнічнай асьветы патрабуе павялічэньня і колькасьці школьных устаноў з 100 ў 1927—1928 г. да 213 у 1932—33 г. з колькасьцю вучняў у 1927—28 годзе ў 12 тыс. чал. да 24 тыс. чал. у 1932—33 годзе.

Трэба шырока разгарнуць працу навукова-дасьледчых устаноў і ўзмацніць выпуск з вышэйшых навучальных устаноў нашых чырвоных спэцыялістых, асабліва спэцыялістых па сельскай гаспадарцы.

Прычым разьвіцьцё народнай асьветы павінна ісьці па лініі якасьці, бо народная гаспадарка прад'яўляе запатрабаваньні на спэцыялістых больш высокай кваліфікацыі.

Па лініі літаратурна-газэтнай і друкарскай справы пяцігадовы плян высувае запатрабаваньні карэннай зьмены тэхнічнай пастаноўкі. Высокі сабекошт друкарскай продукцыі павінен быць абавязкова зьніжаны. Мы маем вялікія працы ў літаратуры (мастацкай, грамадзкай і экономічнай), але яны з-за даражыні мала даступны шырокім колам працоўных. Рост пісьменнасьці, рост зьмены форм народнай гаспадаркі патрабуюць таннай і агульнадаступнай літаратуры. Друкаванае слова,—неад'емная частка працы па ажыцьцяўленьню культурнай рэволюцыі,—павінна быць падзяшэўлена і набліжана да шырокіх пластоў рабочых і сялян.

Такім чынам, правільная організацыя працы на грунце соцыялістычнай рэконструкцыі на прадпрыемствах, у сельскай гаспадарцы пры наяўнасьці зруху ў бок колектывізацыі павінны даць досыць высокі гаспадарчы, культурны і палітычны эфэкт ад усіх капітальных укладаньняў у народную гаспадарку. Прычым гэтыя капітальныя ўкладаньні накіроў-

ваюцца ў першую чаргу для ўмацаваньня процэсаў аграмаджаньня і зжываньня прыватных элемэнтаў у народнай гаспадарцы.

На грунце новай тэхнічнай базы, пры далейшым росьце народнай гаспадаркі, наша сельская гаспадарка за гэтае пяцігодзьдзе павінна даць прыблізна наступныя лічбавыя вынікі:

Валавая продукцыя сельскай гаспадаркі з 747 міл. руб. паднімаецца вышэй, чым да 1 мільярду руб. па нязьменных цэнах 1926—27 году ці больш чым на 40 проц. росту.

Рост таварнай часткі сельскай гаспадаркі павінен у той-жа час падняцца на 134 проц. пры сярэднім ураджаі.

Прычым сельская гаспадарка павінна даць значны рост ураджайнасьці ў сярэднім па збожжавых культурах, як мінімум, каля 13 проц., г. зн у 2 разы больш даваеннага тэмпу. Далей пяцігодзьдзе павінна значна падняць і ў колькасным, і ў якасным стасунках як засеўную плошчу тэхнічных культур, так і жывёлагадоўлю, ня кажучы ўжо аб тым, што наша сельская гаспадарка павінна падпарадкавацца ўплыву аграмаджаных элемэнтаў краіны ў значна большай ступені, чым цяпер, і ўзмацніць тэмп індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі.

Будаўніцтва як рэспубліканскай, так і мясцовай ды коопэрацыйнай прамысловасьці на грунце забясьпечанай мясцовай сыравіннай базы і поруч з скарыстаньнем завознае сыравіны ў канцы пяцігодкі азначыцца прыблізна наступнымі паказальнікамі:

Рост валавой продукцыі (па нязьменных цэнах 26—27 г.).

| | 1927—28 г. | 1932—33 г. |
|---|---|---|
| Па рэспубліканскай . . . . . | з 111 міл. р. | да 509 міл. р. |
| | (рост за 5 год на 341 %) | |
| Па мясцовай . . . . . . . | з 45 міл. р. | да 109 міл. р. |
| | (рост за 5 год на 142 %) | |
| Па коопэрацыйнай . . . . . | з 49 міл. р. | да 160 міл. р. |
| | (рост за 5 год на 225%) | |

Рост рабочых па рэспубліканскай прамысловасьці, уключаючы і сэзонных рабочых, намечаны з 26 тыс. чал. да 65 тыс. чалавек (сярэдні лік за год) ці на 147% за 5 гадоў.

Па мясцовай прамысловасьці (дзяржаўнай і працколектываў) з 13 тыс. чал. у 1927—28 годзе да 24 тыс. чал. у 1932—33 г. ці на 83% за пяць гадоў.

Па коопэрацыйнай прамысловасьці з 12 тыс. чал. у 1927—28 годзе да 38 тыс. чал. у 1932—33 годзе, г. зн. на 217% за пяць гадоў.

Такім чынам, мы бачым, што калі ўзяць толькі асноўны кадр рабочых нашай дзяржаўнай прамысловасьці (ВСНГБ), то ў процантным стасунку да ўсяго наёмнага пэрсоналю колькасьць рабочых узрастае з 10,4% у 1927—28 годзе да 16,7% у 1932—33 годзе, а да ўсяго насель-

ніцтва БССР—з 0,49% да 1,15% (бяз чыгуначнага пролетарыяту і рабочых прамысловасьці, якія не ўваходзяць у ВСНГБ).

У выніку па дзяржаўнай прамысловасьці магчыма чакаць за пяць гадоў прыбытку ў суме да 125,5 міл. руб. За гэты-ж самы час капітальныя затраты азначаюцца ў нязьменных цэнах 1926-27 г. і з улікам зьніжэньня будаўнічага індэксу ня менш чым на 30% сумаю ў 140 міл. руб. (у тым ліку каля 10 міл. руб. на рабочае кватэрнае будаўніцтва).

Бясспрэчна, што поруч з гэтымі якаснымі пэрспэктывамі павінна ісьці мацнейшая тэхнічная рэконструкцыя па ўсёй народнай гаспадарцы, без якой немагчыма і зьніжэньне ў належным памеры сабекошту, і падняцьце продукцыйнасьці працы, і поўнае ажыцьцяўленьне соцыялістычнай рэконструкцыі. Такім чынам, мы бачым, што пройдзенае 10-годзьдзе пакідае нам багатую пэрспэктывамі спадчыну. Шырокія масы рабочых і сялян здолеюць на грунце дасьведчаньня і нясупыннай дысцыплінаванай працы ажыцьцёвіць ня толькі гэтыя магчымыя гаспадарчыя і культурныя тэмпы росту, але і з лішкам зрабіць новыя соцыялістычныя дасягненьні для новага пяцігодзьдзя ці 10-годзьдзя.

## VI

Урэшце, што можна сказаць аб задачах ня толькі бліжэйшага пэрыоду для вырашэньня тых цяжкасьцяй, якія мы маем, ці будуць яны кон'юнктурнага характару ці вузкія месцы нашага гаспадарчага росту, якія атрымаліся ад шэрагу дыспропорцый паміж асобнымі часткамі ўсяго цэлага, але і аб тых задачах, якія мы, як бальшавікі-дыялектыкі, ставім перад сабою, усё гэта залежыць ад таго, як будзе складзены і ажыцьцёўлены плян пераходу да соцыялізму.

Мы ў сваім разьвіцьці яшчэ далёка знаходзімся ад капіталістычных краін, але мы не забываем і таго, што мы павінны за кароткі гістарычны тэрмін ня толькі дагнаць, але і папярэдзіць перадавыя капіталістычныя краіны. Гэта зьяўляецца нашым тэмпам і мы павінны ўсе свае сілы, здольнасьці і сродкі накіраваць на тое, каб гэты тэмп узмоцніць і павялічыць.

Але каб ясна сабе ўявіць гэты канечны і нямінучы тэмп у рэальных лічбах, трэба зьвярнуцца да матэрыялаў і прац тых організацый, якія займаюцца пытаньнем генэральнага пляну і мы знойдзем там канечныя для гэтага параўнаўчыя даныя.

Так, напрыклад, адлегласьць, якая аддальвае нас ад перадавых капіталістычных краін, можна адзначыць так: прамысловая продукцыя П-АЗШ перавышае цяпер нашу Ўсесаюзную ў 20 разоў; рэальны ўзровень амэрыканскага рабочага перавышае жыцьцёвы ўзровень нашага рабочага да 3, 4—5 разоў; але затое і продукцыйнасьць працы амэрыканскага рабочага вышэй у 6—8 разоў; ужываньне жалеза і сталі на адну душу насельніцтва складала ў 1925 годзе 468 клг., а ў нас усяго 14 клг., што ў П-АЗШ на 10.000 жыхароў прыходзілася ў 1924 годзе 35,9 клм. чыгу-

начных шляхоў, а ў нас усяго 5,2 клм., г. зн. у 8 разоў менш, а калі ўзяць тэрыторыю, то ў П-АЗШ на 100 кв. клм. прыходзіцца 5,1 клм. чыгуначных шляхоў, а ў нас усяго 0,4, г. зн. у 13 разоў менш.

Такіх лічбаў нашай адсталасьці ў параўнаньні з Амэрыкай можна было-б падаць яшчэ больш.

Пра што гавораць гэтыя лічбы? Яны гавораць пра тое, што нам трэба знайсьці сапраўды такія мэтоды і тэмпы, каб як мага больш зьменшыць той гістарычны пэрыод, калі-б можна было сказаць, што мы ня толькі дагналі капіталістычныя краіны, але і папярэдзілі іх. Ясна, што пры такіх суадносінах ніяк нельга будзе задаволіцца тым, каб рост, хоць-бы нашай вытворчасьці, складаў у год 10—15% ці нават 20%. Калі прыняць першы 10-ці процантны гадавы рост нашай вытворчасьці і ў той-жа час рост П-АЗШ на 5%, то па падліках тых-жа працаўнікоў па генэральнаму пляну мы дасягнулі-б сучаснага ўзросту вытворчасьці П-АЗШ прыблізна праз 35 гадоў, а дагнаць П-АЗШ мы маглі-б толькі праз 30 гадоў.

Адсюль у нас вывад няправільны, або мы ў сваіх гаспадарчых плянах ня ўлічваем усе нашы магчымасьці. Мусіць правільна будзе апошняе, а ня першае, аб гэтым гаворыць вынік нашай працы апошніх гадоў, хоць-бы па выкананьні пры досыць няспрыяльных умовах нашага агульна-саюзнага прамысловага пляну, які даў паказальны рост звыш меркаваньняў і прадбачаньняў, пры ўсё яшчэ маладой рэконструкцыі і рацыяналізацыі.

Такім чынам, адна з сур'ёзьнейшых задач зьяўляецца ў тым, каб нашы тэмпы ішлі не па лініі паслабленьня, а абавязкова па лініі павялічэньня росту. На справе ўжо ў гэтым годзе ўзята ўстаноўка на тое, каб ня толькі ажыцьцёвіць рост прамысловай продукцыі на 18—20%, як намечана па контрольных лічбах народнай гаспадаркі, але абавязкова і перавысіць яго; трэба, урэшце, абавязкова дабіцца таго, каб нашы плянавыя прадбачаньні выконваліся не з пасывам, а абавязкова з актывам.

Мы ўсё яшчэ маем на практыцы такую думку, што мы бедны і абмяжованы ў сродках, дзякуючы чаму, як гаворыцца, „протягивай ножки по одежке", гэта правільна, але ў той-жа час мы маем і іншае запэўненьне, што наша малазямельнасьць залежыць не ад таго, што ў нас не хапае зямлі, а ад таго, што мы ня ўмеем скарыстоўваць зямлю, аб гэтым таксама трэба падумаць.

Мы ўжо ўпэўніліся за 10 год існаваньня БССР ці за 11 гадоў існаваньня савецкай улады ў Расіі, што нам чакаць сродкаў адкульсьці з боку роўназначна, што „сядзець ля мора і чакаць пагоды". Але мы добра ведаем, як гэта „пагода" нам дастаецца, а калі яна і зьяўляецца, то для нас настолькі нявыгодна, што лепш ад яе адмовіцца, чым скарыстаць. Нашы пяцігодкі і дзесяцігодкі зусім ня могуць разьлічаць на тое, што капіталістычныя краіны зробяць якую-небудзь істотную дапамогу нашай народнай гаспадарцы, і што мы ад гэтага адразу разбагацелі-б і ня былі-б „беднымі".

Цяпер да нашай беднасьці трэба падыйсьці зусім з іншага боку, г. зн. не ўзмацняць думку, што мы бедны і што трэба з асьцярогаю пашыраць

свае пляны, а, наадварот, што мы багаты, знаходзімся сярод багацьцяў, а толькі не скарыстоўваем іх. Ня трэба даводзіць, што Савецкі Саюз і БССР, у тым ліку, багаты сваімі прыроднымі скарбамі і потэнцыяльнымі магчымасьцямі. Гэта ўжо даведзена, пра гэта ведаем і мы, і нашы прыяцелі, і нашы ворагі.

Нам часта кажуць нашы замежныя прыяцелі, калі прыяжджаюць да нас знаёміцца з нашымі дасягненьнямі,—якія мы маем і якіх ад нас адабраць ніхто ня можа,—„што вы „бедны", але будуеце так дорага сваё будаўніцтва, як багачы; у вас транспорт не асабліва добра працуе, напрыклад, ваш добры паравоз працуе крыху больш за пяць гадзін у суткі, а таварныя вагоны скарыстоўваюцца толькі каля 11—12 проц." Гэта ў краіне, якая „бедная", якая сапраўды цяпер патрабуе сродкаў. Такіх прыкладаў магчыма прывесьці значна больш, іх ёсьць сотні і тысячы, што мы як добрыя „багачы" нерацыянальна скарыстоўваем свае сродкі.

Вось па якім месцы зараз трэба ўдарыць і ад кожнага ўдару павінна ўзмацняцца і матэрыяльная і моральная база нашых магчымасьцяй. Конкрэтна гэта можна азначыць так: большая дысцыпліна, лепшая арганізацыя працы, большы рост продукцыйнасьці працы і большае зьніжэньне сабекошту, больш ведаць, што трэба рабіць і як экономна будаваць, скарыстоўваць паўней і сьмялей нашы прыродныя багацьці.

Мы ўжо перайшлі ад індывідуальных мэтодаў, ад працы паасобных людзей да колектыўнай, ад паасобных заводаў да цэлых комбінатаў, ад дасьледчых станцый да вялікіх лябораторый, словам, задачы соцыялістычнага будаўніцтва зьяўляюцца ня толькі жаданьнем паасобных індывідуумаў ці груп, ці нават цэлай партыі, але зьяўляюцца імкненьнем цэлай, адзінай працоўнай масы рабочых і сялян і ўсёй савецкай грамадзкасьці.

Нашы плянавыя мерапрыемствы ні ў якім разе ня могуць ужо абмяжоўвацца толькі гаспадарчымі пытаньнямі, яны павінны зьяўляцца стымулямі перараджэньня чалавека і мы пачынаем надзвычай актыўна патрабаваць гэтага перараджэньня яго на культурны і соцыялістычны лад. Але задача гэта нялёгкая. Культурны паход, цэлая культурная рэволюцыя патрэбна для дасягненьня гэтай мэты. І гэта зусім нормальна і немінуча, калі мы сапраўдныя будаўнікі соцыялізму. Соцыялістычныя элемэнты павінны ў гэтым зрабіць свой спрыяльны ўплыў, нездарма-ж гаворыцца, што „быцьцё вызначае сьвядомасьць".

Наша задача цяпер у тым, каб дапамагаць нашымі плянавымі мерапрыемствамі ня толькі хутчэй прыстасоўваць чалавека ў будаўніцтве да зьменных умоў працы, дзякуючы той соцыялістычнай рэконструкцыі, якая ўжо адбываецца, але і з цьвёрдай клясавай сьвядомасьцю, жалезнай пролетарскай воляю адхіляць усе недахопы з шляху і намячаць рэкордныя тэмпы; устанавіць такую колектыўную дысцыпліну, пры якой у самы кароткі тэрмін можна было-б ня толькі ў проекце забясьпечыць, але і на справе ажыцьцёвіць соцыялізм.

# ПЯСЬНЯР ЗМАГАНЬНЯ І ЗМАГАР ЗА САВЕЦКУЮ БЕЛАРУСЬ

## А. Чарвякоў

Пачаўшы ў 1908 годзе друкавацца ў „Нашай Ніве“, Цішка Гартны знайшоў, як ён сам кажа ў аўтобіографіі, свой шлях: яго „захапіла цалкам ідэя адраджэньня Беларусі“. Таму яго можна залічыць да плеяды „нашаніўскіх адраджэнцаў“, або тых удзельнікаў ды кіраўнікоў нацыянальна-рэволюцыйнага беларускага руху, што ідэалам свае рэволюцыйнае працы і змаганьня лічылі дзяржаўнае адраджэньне Беларусі.

Аднак, ужо ў тыя годы, годы палітычнай і літаратурнай маладосьці Цішкі Гартнага, вызначылася характарная рыса мотываў і тэм яго творчасьці: на агульным фоне нашаніўскіх заклікаў—любіць сваю бацькаўшчыну, яднаць усе беларускія сілы для змаганьня за адраджэньне Беларусі,—Цішка Гартны зьвяртае сваю ўвагу пераважна на пролетарыят, ён цікавіцца соцыял-дэмократычным рухам, становіцца членам соцыялдэмократычнай організацыі, уносіць клясавы момант у сваю чыннасьць, што робіць пэўны ўплыў на яго творчасьць.

Як вядома, супольнасьць нацыянальнага фронту ў дарэволюцыйныя часы ў значнай меры можа тлумачыцца нянавісьцю да царскага самаўладзтва, якая злучала супраць царызму самыя рознастайныя элемэнты. Рэволюцыя, зьнішчыўшы агульнае пудзіла—царызм, няўхільна павінна была дапамагаць клясавай дыфэрэнцыяцыі наогул, а ў тым ліку і дыфэрэнцыяцыі беларускага нацыянальнага руху. І мы бачым, што, ня гледзячы на ўсе хітрыкі правадыроў Беларускага нацыянальнага камітэту, створанага ў першыя дні рэволюцыі паводле прынцыпу адзінага нацыянальнага фронту (зразумела, з перавагаю ў бок буржуазных элемэнтаў), у беларускім руху пачалося паступовае расслаеньне. У хвалях разгортваньня пад кіраўніцтвам бальшавікоў соцыялістычнай рэволюцыі старыя лёзунгі „адраджэнцаў“ страцілі сваю пякучасьць, і беларускі народ пайшоў не за „беларускімі адраджэнцамі“, але за бальшавікамі, у выніку чаго цэнтры, створаныя ў часы рэволюцыі „адраджэнцамі“, апынуліся ў якасьці, штабаў бяз армій. Для кожнага сумленнага рэволюцыянэра няўхільна павінна было паўстаць пытаньне, куды ісьці: калі на справе давесьці сваю адданасьць працоўнаму народу, пра што, як вядома, вельмі ахвочы ўсе гаварыць, то трэба пераключыцца на соцыялістычную рэволюцыю, пераглядзеўшы свой стары палітычны багаж; калі-ж застацца, ня гледзячы

на ўсе падзеі рэволюцыі, на старых позыцыях, то няўхільна давядзецца ісьці супраць соцыялістычнай рэволюцыі, супраць народу, стаўшы адным з асяродкаў контр-рэволюцыі. У гэтыя трагічныя дні беларускія „адраджэнцкія“ цэнтры агаласілі, што адданасьць традыцыям „нашаніўскага адраджэнцтва“ патрабуе разрыву з соцыялістычнай рэволюцыяй, і, такім чынам, яны паставілі сябе на другі бок барыкад.

Рэволюцыя разгарнула сілы Цішкі Гартнага. Жывучы ў Петраградзе, ён з галавой увайшоў у рэволюцыйную работу: выступленьні на рабочых сходах, організацыя філій Беларускай соцыялістычнай грамады, праца ў першых рэволюцыйных установах, удзел у найважнейшых політычных кампаніях і г. д.—вось зьмест яго цікавай і рознастайнай работы. Зразумела, што калі Ц. Гартны пасьля Лютаўскай рэволюцыі прыехаў у Менск, дык паміж ім, з аднаго боку, і яго старымі таварышамі-адраджэнцамі—з другога, вынік шэраг політычных непаразуменьняў: не спадабаўся беларускім нацыянал-дэмократам той рабочы пах, што прывёз Гартны з рэволюцыйнага Петраграду.

На самога поэту падарож у Менск мела вельмі карысны ўплыў, бо ён меў магчымасьць на свае вочы ўбачыць, што ідэя адраджэньня Беларусі робіцца тэй шырокай сьпіной, за якой хочуць, пры дапамозе здраднікаў інтарэсам шырокіх мас працоўных, схавацца ворагі рабочых ды сялян. Рэволюцыя патрабавала конкрэтызацыі лёзунгу адраджэньня. Старая ідэя адраджэнцтва пры захаваньні старога зьместу супярэчыла новым задачам соцыялістычнай рэволюцыі. Рэволюцыя патрабавала пераацэнкі ўсяго старога, вымагала выразнага адказу на запытаньне: ці старыя традыцыі і шыльды бяз зьмены зьместу старых лёзунгаў, г. зн. разам з беларускімі нацыяналістычнымі цэнтрамі супраць соцыялістычнай рэволюцыі, ці даць старой шыльдзе адраджэньня новы зьмест, паставіўшы яе на службу соцыялістычнай рэволюцыі і праз гэта захаваць цесную сувязь з рэволюцыйнымі рабочымі ды сялянствам? Такія пытаньні сталі перад усім беларускім грамадзтвам.

Уплывы на Гартнага з боку рэволюцыйных пролетараў Петраграду прымушалі яго ўсё бліжэй падыходзіць да пролетарскай рэволюцыі, паглыбляючы як ідэёвыя, так і організацыйныя разыходжаньні з старымі сябрамі-„адраджэнцамі“, якія паранейшаму ўсё тапталіся на адным месцы. Гэтыя разыходжаньні давялі да разрыву Гартнага з беларускімі нацыянал-дэмократычнымі цэнтрамі. На другой сэсіі цэнтральнай рады беларускіх організацый, у кастрычніку 1917 году, гэта фактычна і адбылося: Цішка Гартны рашуча выступіў супраць кіруючага складу беларускіх політычных цэнтраў, патрабуючы выключэньня прадстаўнікоў буржуазіі (Скірмунт) ды іх прыслугачоў (Аляксюк). Застаўшыся са сваімі прапановамі ў меншасьці, Гартны пакінуў сэсію рады. У Петраградзе перад Петраградзкай філіяй грамады ён паставіў пытаньне аб адмежаваньні ад выразна буржуазнага кірунку Беларускай

рады і Беларускай соцыялістычнай грамады. Петраградзкая філія БСГ абвесьціла сябе левай часткай грамады, і пачала выкрываць буржуазнасьць рады і шукаць больш цесных сувязяй з пролетарскай рэволюцыяй.

У часе Кастрычнікавай рэволюцыі канчаткова высьветліліся позыцыі ўсіх прамежных груп. Перад беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам Кастрычнікавая рэволюцыя паставіла пытаньне, якім шляхам ісьці далей: саветы ці рада? Усе беларускія нацыянальныя організацыі пайшлі супраць саветаў. Цішка Гартны пайшоў разам з саветамі, зразумеўшы, што сапраўдныя інтарэсы працоўных Беларусі можа задаволіць толькі шлях Кастрычнікавае рэволюцыі. Зразумела, што Гартны гэтых часоў далёка ня быў яшчэ стопроцантавым ортодоксальным бальшавіком. Але разам з гэтым трэба памятаваць, што *ён з першых-жа дзён Кастрычніка стаў на шлях Кастрычнікавае рэволюцыі, разьбіўшы аўторытэтам старога „нашаніўца-адраджэнца“ адзін нацыянальны супрацьсавецкі беларускі фронт.* Стаўшы на шлях Кастрычнікавае рэволюцыі, Цішка Гартны ўклаў новы сэнс у лёзунг адраджэньня Беларусі і значна палегчыў набліжэньне да саветаў шчыра адданых справе рэволюцыі нацыянальных сіл Беларусі.

Далейшыя падзеі Кастрычнікавае рэволюцыі няўхільна дапамагалі ўсё большаму савецкаму ды бальшавіцкаму аформленьню Гартнага. На так званым усебеларускім конгрэсе ён прымае ўдзел у якасьці прадстаўніка левай часткі Беларускай соцыялістычнай грамады, і разам з прадстаўнікамі Беларускай соцыял-дэмократычнай партыі бальшавікоў кіруе на конгрэсе фракцыяй левых. Ня гледзячы на тое, што абставіны работы конгрэсу, і асабліва спыненьне гэтай работы, выклікалі вялікае абурэньне нават сярод шчырых прыхільнікаў саветаў, у тым ліку і ў Гартнага,— Гартны ў гэты час быў ужо досыць загартаваны, каб вытрымаць палітычны іспыт і застацца разам з саветамі супраць контр-рэволюцыйных намераў правадыроў конгрэсу. Для Гартнага зрабілася зусім ясным, што патрэбны новы шлях для шчырага адраджэнца, а разам з тым і поўны разрыў са старым. Беларусь можа адрадзіцца толькі праз пашырэньне і паглыбленьне соцыялістычнае рэволюцыі; у бязьлітасным змаганьні супраць здрадніцкай рады беларускі народ згуртуе свае сілы пад кіраўніцтвам бальшавікоў і створыць сваю ўласную савецкую дзяржаўнасьць— Беларусь саветаў,—вось той новы штандар, які павінен згуртаваць наўкола сябе ўсе рэволюцыйныя сілы краіны для адраджэньня бацькаўшчыны працоўных і які адважна браў у свае рукі па загаду рэволюцыі Цішка Гартны. Каб дапамагчы паглыбленьню рэволюцыі на Беларусі, Гартны прымае ўдзел у організацыі Беларускага нацыянальнага камісарыяту пры ўрадзе РСФСР. Каб яшчэ больш шчыльна падыйсьці да рэволюцыі, ён уваходзіць у шэрагі бальшавіцкай партыі.

Люты—сакавік 1918 году аформілі політычную полярызацыю беларускага руху: з аднаго боку, дзеля паглыбленьня рэволюцыі зьбірала

нацыянальна-рэволюцыйныя сілы Беларусі компартыя, а з другога—на тэрыторыі окупаванай Беларусі была абвешчана Беларуская народная рэспубліка і паслана прывітальная тэлеграма германскаму кайзэру з просьбай аб дапамозе ў змаганьні супраць соцыялістычнае рэволюцыі. Такім чынам стварыліся два цэнтры беларускага руху—рэволюцыйны і контр-рэволюцыйны, паміж якімі распачалася бязьлітасная барацьба. Асабліва беларуская контр-рэволюцыя навалілася на Ц. Гартнага, якога вінавацілі ў здрадзе беларускай справе, у прадажніцтве бальшавіком, у провокацыі і г. д., і г. д.

Цяжкі лёс выпаў на долю Беларусі: зруйнаваньне вайною, цяжкая окупацыя немцаў і, нарэшце, здрадніцкая політыка рады,—усё гэта надзвычай аслабіла сілы народу. Трэ' было мець сапраўды бальшавіцкую моц нэрваў, каб ня страціць веры ў магчымасьць адраджэньня зруйнаванай краіны сіламі самых працоўных і каб, не паслабляючы энэргіі, змагацца далей. Ц. Гартны адважна кінуўся ў барацьбу за вызваленьне і адраджэньне Беларусі. Ён працуе, як агітатар, публіцысты, поэта, фэльетоністы, організатар. Агонь Кастрычнікавае рэволюцыі надаў сілы поэту, бо ён адчувае сваю блізкасьць да рабоча-сялянскай рэволюцыі: „Родам я з тых, чыё імя рабы“, а рэволюцыя „прышла ад цяжкіх сох“,

> Яна прышла з цямры куткоў—
> Хто ў муках дні жыцьця правёў—
> І ў жыцьці цяжкім век нямог,
> Той к нам яе з сабой прывёў.

Патрэба змаганьня, вера ў тое, што комуністычная партыя вядзе рабочыя ды сялянскія масы па правільным шляху—паднімае настрой поэты, надае яму бадзёрасьці, і ён голасна заклікае:

> Гары-ж, агонь Кастрычніка, гары!
> Свой промень зыркі раздувай.
> Няхай ён зьзяе з краю ў край.
> Хто сьпіць да гэтае пары—
> *ЎСТАВАЙ!*

Літаратурная чыннасьць Цішкі Гартнага таго часу мае надзвычайную цікавасьць ды каштоўнасьць: кожны твор поэты вельмі цесна зьвязаны з падзеямі тагачаснага політычнага жыцьця. Сам Цішка Гартны захоплены рэволюцыяй,—ён імкнецца адбіць свае настроі ў сваіх творах, ён хоча захапіць музыкай рэволюцыйнага змаганьня ўсіх, „хто сьпіць да гэтае пары“. Асаблівае ўвагі варта рэволюцыйная лірыка і сатыра Цішкі Гартнага. Лірычныя творы поэты—гэта баявая музыка рэволюцыі, гэта апофэоз рэволюцыйнага змаганьня. Цікава адзначыць, што, ня гледзячы на надзвычай складаныя абставіны рэволюцыйнага змаганьня, поэзія Гартнага ніколі ня траціць свайго бадзёрага тону. Яго сатыра—гэта страшная зброя рэволюцыі, бязьлітасная да ворагаў рэволюцыі. Мне здаецца, што я не памылюся, калі скажу, што для засядаўшых у

тыя часы ў Менску беларускіх контр-рэволюцыйных груп сатыра Цішкі Гартнага была амаль самым страшным ворагам. Пра што піша ў сваіх сатырах Гартны? У сатырах перад намі праходзяць усе пэрсонажы беларускай контр-рэволюцыі. Тут „Ігнат, які самаапрадзяліўся“, або такі беларус, „што і украінцаў вітае, і з Мусьніцкім ладзе“; тут выкрыты паддобрываньні рады да Скарападзкага; тут выказана абурэньне з прычыны таго, што калі немцы ўвайшлі ў Менск, дык памешчык Скірмунт і яго сябра Аляксюк сустракалі іх з прамовамі:

Як магло тое быць,
Каб маглі гаварыць
Ад працоўных людцоў—
Беларусаў-мужыкоў
Двое важных паноў?

Байкай „Рак, Заяц і Воронка“ Цішка Гартны адгукаецца на акт агалашэньня Беларускай народнай рэспублікі і едкім сарказмам б'е па ініцыятарах ды ўдзельніках гэтай трагікомэдыі. Некалькі разоў Гартны закранае тэму аб опэрэтачных міністрах БНР і аб трагічным стане беларускага народу пад нямецкай окупацыяй:

У роднай старонцы,
Дзе кіруе ўсім Захарка
З прэзэсам Варонкай...
... Дзе ні глянеш, з тоўстай плецыцю
Шуцманы праходзяць... (Песьня).
... Не чакалі людзі,
Што старонка Беларусь
„Незалежнай“ будзе...
... Рэквізыцыі, арышт, штраф,
Шуцман ды паліца...
... Ходзіш дзе, адно і знай—
На ўсе бокі пільна
Перад шуцманам здымай
Шапку што ні хвільна...

Аднак гэта ўсё-ж не падрывае веры поэты ў перамогу:

Як устане бедны люд
З-пад ярма прымусу,
Тады прыдзе ўсім капут
„Панам беларусам“.

Чым больш перашкод, тым больш трэба напружваць свае сілы, тым большай організаванасьці вымагае ад нас рэволюцыя, тым большае значэньне набывае ўтрыманьне ў сваіх руках ды ўзмацненьне кіраўніцтва з боку комуністычнай партыі. І мы бачым, як Цішка Гартны прымае актыўны ўдзел у організацыйнай працы. Ён—дакладчык на Ўсерасійскім беларускім бежанскім зьезьдзе, ён выкладчык Беларускага унівэрсытэту ў

Маскве, ён прымае ўдзел у скліканьні Ўсерасійскай нарады беларускіх сэкцый РКП (бальшавікоў). У сьнежні 1918 году немцы пачалі адыходзіць з Беларусі. 11 сьнежня ў Менску была адноўлена ўлада саветаў. Комуністычная партыя прызнала канечна патрэбным агаласіць Беларусь незалежнай савецкай соцыялістычнай рэспублікай, каб як найбольш уцягнуць у рэволюцыйнае змаганьне самыя шырокія масы працоўных нашай краіны. Комуністычная партыя ў гэты надзвычай важны момант гісторыі Беларусі лічыла Цішку Гартнага аднэй мэтазгоднай кандыдатурай на пасаду старшыні першага рэволюцыйнага рабоча-сялянскага ўраду Беларусі. 1 студзеня 1919 г. Беларусь была агалошана Савецкай соцыялістычнай рэспублікай. Маніфэст часовага ўраду заклікаў народы Беларусі—рабочых і працоўнае сялянства: „да змогі, да змогі, да змогі!“

Калі з палітычнага боку гэты маніфэст мае выключнае значэньне, то і з боку літаратурнага ён зьяўляецца прыкладам твору, надзвычай глыбокага па зьместу і прыгожага па форме. Адпаведнасьць зьместу, формы і палітычнага значэньня маніфэсту надае яму вялікую сілу пераканальнасьці, нястрачанай ім і ў нашы дні. Гэты дакумант быў напісаны Цішкам Гартным.

Агалашэньне Савецкай Беларусі зьявілася тым цэмантам, што замацоўвае заваёвы Кастрычніка на Беларусі. Доўга яшчэ цягнулася змаганьне. Беларусь перажыла польскую окупацыю. У гэтым змаганьні, а па яго сканчэньні ў мірным соцыялістычным будаўніцтве, Цішка Гартны прымае ўвесь час актыўны ўдзел.

У сучасны момант Цішка Гартны ідзе цьвёрда „Па дарозе да будучыны“:

> ... Вякі мінулыя няпраўды і прыгону,
> Вякі заможных князяў і ўладараў
> Адданы нашаму рашучаму праклёну...

Дарма імкнуцца некаторыя групы цягнуць беларускі народ назад да гэтых вякоў „няпраўды і прыгону“, хаваючы свае сапраўдныя намеры пад бліскучымі шыльдамі ды ашуканскімі лёзунгамі:

> Назад глядзець мы больш ня хочам.
> Ніхто й ніщто к таму ўжо нас не заваража—
> *Трухло* мінулага ня збавіць вочы.
> Дарэмны ўсе стараньні ўпартыя й патугі
> Зблудзіць *наш рух жывы* на бляск абманны...

Наш шлях вядзе не назад, але ўперад:

> Ї вехі нашы—уперадзе...
> ... Наш шлях вядзе да ясных мэтаў сьветлай волі,
> Да творчай працы і братняга зьяднаньня.

Наша мэта—Усясьветная Комуна:

> На зьмен пакоры й дзікіх гвалтаў заступае
> Ўладар жыцьця—Ўсясьветная Комуна.
> ... У ёй аднэй мы бачым будучыну нашу...

Гэта ўсё выняткі з вершу, што быў напісаны Гартным у момант хістаньняў сярод беларускае інтэлігенцыі, якая страціла была „вехі“.

Сваім вершам Гартны выразна выявіў, хто ён, каму ён служыць і куды кліча тых, што асталіся ззаду. Тут яшчэ і яшчэ раз мы бачым перад сабою поэту-грамадзяніна ды змагара за Саветы, за Ўсясьветную Комуну.

Вось, выходзячы з тэй ролі, што адыграў і адыгрывае Цішка Гартны ў змаганьні за Савецкую Беларусь, сьвята дваццацігадовага юбілею яго— ёсьць агульнае сьвята савецкай грамадзкасьці Беларусі. Пажадаем паважанаму юбіляру, каб ён доўга жыў і працаваў на карысьць працоўнай Беларусі. Гэта тым больш патрэбна, што справа вызваленьня Беларусі яшчэ ня скончана.

„Хто сьпіць да гэтае пары—
*ЎСТАВАЙ!*“

21/XI—28 г.

# ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ ПРОЛЕТАРСКІ ПОЭТА І ПІСЬМЕНЬНІК

*(Творчасьць Цішкі Гартнага)*

**С. Замбржыцкі**

Зараз беларуская грамадзкасьць адзначае дваццацігадовы юбілей літаратурнай чыннасьці славутага поэты ды пісьменьніка Цішкі Гартнага (Зьмітра Жылуновіча). Дваццаць год прайшло з таго часу, як вышаў на літаратурныя загоны „Нашае Нівы“ сейбіт беларускага пролетарскага слова—Цішка Гартны. На старонках „Нашае Нівы“, № 25 за 4 (17) лістапада 1908 г. быў зьмешчаны першы допіс нашага сёньнешняга юбіляра. Прайшло дваццаць год, дваццаць год няспыннае адданае працы, як мастака слова і як грамадзкага дзеяча. І калі мы сёньня ўрачыста адзначаем гэтае дваццацігодзьдзе, то робім гэта ня толькі для таго, *каб даць належную гістарычную ацэнку літаратурнай спадчыне* данае асобы, як гэта мы рабілі ў дні Талстоўскага юбілею, але для таго, каб, *адзначаючы пройдзеныя ім пуціны, яго дасягненьні ды заганы, улавіць далейшы яе кірунак, вызначыць далейшы шлях творчасьці нашага юбіляра.* Бо Цішка Гартны—наш сучасьнік. Чалавек блізкі нам. Ён перажыў з намі няволю капіталізму, з намі, як перадавік, змагаўся за волю ды новы лад і з намі зараз будуе гэты новы лад. Бо Цішка Гартны—поэта і грамадзянін. Яго літаратурная чыннасьць цесна ўвязваецца з яго практычнай грамадзкай працай, з яе выплывае. Вершы Цішкі Гартнага часта зьяўляюцца мастацкім афармленьнем яго палітычных прамоў і артыкулаў, Цішка Гартны і Зьмітро Жылуновіч цесна зьліваюцца ў аднэй постаці, у постаці пасланца беларускага пролетарыяту. І як такому, Цішку Гартнаму выпала на долю асабліва цяжкая ды адказная задача, задача пракладаць новыя шляхі, шляхі пролетарскай літаратуры, пракладаць у такой завірушнасьці і вірлівасьці жыцьця. І Цішка Гартны праклаў гэты шлях. Сягоньня ўжо па ім ідзе шмат хто з маладых літаратараў.

> Сёньня ўжо працерабіўся гэты шлях,
> Да новага жыцьця сьцягі віднеюць.
>
> (Янка Купала).

* * *

Творчасьць кожнага пісьменьніка цікавіць нас, галоўным чынам, з трох пунктаў погляду. А менавіта.

Напершае—кожны літаратурны твор ёсьць адбіцьцё жыцьця, хоць і пераломленага ў прызьме псыхолёгіі ды творчай фантазіі мастака і ёсьць сродак жыцьцяпазнаньня.

Падругое—пісьменьнік зарысоўвае жыцьцё, дае свае тэмы ў мастацкай форме, percтварае наукольнае жыцьцё ў мастацкі твор. Дзеля гэтага ён ужывае *свае*, уласьцівыя яму, мастацкія спосабы. Выявіць гэтыя мастацкія спосабы і ёсьць другая наша задача.

Патрэцяе—самы выбар тэм і мастацкіх спосабаў вызначаецца псыхоідэолёгіяй пісьменьніка. Ён пераапрацоўвае жыцьцё, надае сваім тэмам сваё эмоцыянальнае ды ідэолёгічнае насычэньне, ён заражае чытача гэтымі эмоцыямі, абуджаючы ў яго пэўныя мэтаімкненьні. Адным словам, ён выконвае задачу жыцьцябудаўніцтва. Выкрыць псыхо-ідэолёгію пісьменьніка і ёсьць трэцяя і найбольш важная задача.

Але перад гэтым паўстае яшчэ чацьвертая, дапаможная, задача—задача дасьледваньня біо-соцыяльнага асяродзьдзя пісьменьніка і розных уплываў на яго, бо псыхо-ідэолёгія пісьменьніка вызначаецца момантамі яго жыцьця, галоўным чынам, яго соцыяльнай прыналежнасьцю.

Дапасуем гэтую схэму да творчасьці нашага сёньнешняга юбіляра.

## I

Цішка Гартны нарадзіўся ў 1887 годзе ў сям'і вясковага пролетара, у якога „ня было ні каня, ні каровы, ні поля“ [1]), у вялікім мястэчку Капылі былога Слуцкага павету, дзе было досыць многа на поўпролетарыяту.

„На ўвесь Капыль мо' знойдуцца два-тры такія гаспадары, каторыя змогуць пражыць з гаспадаркі, не зарабляючы на старане. Іншыя-ж палавіну свайго часу трацяць на заработкі: летам з канём, а зімою ідуць па вёсках хто за краўца, хто за шаўца і гэтым дастаюць сабе амаль напалавіну хлеба,—піша Ц. Гартны пад найменьнем „Капыльскі Бэйгар“ у сваім допісе ў „Нашу Ніву“ [2]). У другім месцы ён кажа: „У 90 г. пралезла ў Капыль гарбарскае рамясло, якое стала скора да таго значным, што ў гарбарнях Капыля налічвалася да паўтары сотні работнікаў“ [3]). У выніку гэтага шпарка разьвіваецца ў Капылі соцыялдэмократычны і бундаўскі рэволюцыйны рух.

„Організацыі—кажа дапісчык далей,—як бундаўскія, гэтак і соцыялдэмократычныя вырасьлі да таго, што злучна мелі ў сабе болей 500 сяброў [4]).

Распаўсюджваўся нелегальны рэволюцыйны друк.

„Няможны друк,—кажа „Стары С.-Д.“,—які толькі выдаваўся цэнтровымі камітэтамі, ня мінаў і Капыля і распаўсюджваўся багата па сёлах і дарогах. Апроч прысланых кніжак, лістовак ды газэт, капыльскія

---

[1]) Юбілейны зборнік, Аўтобіографія Ц. Гартнага, стар. 8.

[2]) „Наша Ніва“, № 34 за 1908 год.

[3]) „Дзяньніца“, № 16—„Капыль у рэволюцыі“, падпісаны „Стары С.-Д“.

[4]) Тамсама, № 17.

організацыі на кожнае паважнае здарэньне ў гасударскім жыцьці, ці ў жыцьці мясцовым, адгукаліся друкаванымі на гектографе проклямацыямі, якія разьлепліваліся па мястэчку"[1]).

Адным словам, Капыль жыве напружным працоўным і рэволюцыйным жыцьцём. Такія абставіны акалялі будучага пісьменьніка ўвес час яго дзяцінства і юнацтва. Хутка ён і сам уцягваецца ў гэтае жыцьцё.

„На адзінаццатым годзе, разам з пачаткам вучэньня, я пашоў у найміты—пастухі"[2]). „Пасучы,—кажа пісьменьнік у сваёй аўтобіографіі,—я бесьперастанку чытаў. Меў надзвычайную цягу да чытаньня. Таварыш мой, старшы гадамі, Хведар Чарнушэвіч, даваў мне кніжкі з бібліотэкі соцыял-дэмократаў Капыльскае організацыі. Хведар сам быў соцыял-дэмократам. У 1904 годзе, на вялікдзень, я ўпяршыню папаў на мітынг Капыльскае с.-д. організацыі, які адбыўся за мястэчкам, у так званым Яначкавым ляску. З гэтага часу пацягнула мяне да „дэмократаў"[3]). У лютым 1906 году будучы пісьменьнік робіцца гарбаром. А „стаўшы рабочым,—кажа ён аб сабе,—я хутка, вясною 1906 году, прайшоў у камітэт Капыльскае організацыі с.-д., працуючы старанна сярод Капыльскае моладзі"[4]). З гэтага часу і пачынаецца яго рабочае жыцьцё і рэволюцыйная чыннасьць.

Гарбарская праца, дзе

> У майстэрні гразь, смурод,
> Духата і грукі;
> Залівае вочы пот,
> Млеюць з болю рукі...,[5])

местачковае працоўнае жыцьцё, праца рэволюцыйных організацый,—усё гэта багата адбіта Ц. Гартным у яго творчасьці (роман „Сокі цаліны", „Песьні" „Песьні працы і змаганьня" ды інш.).

У 1909 г. Ц. Гартны пакідае родны Капыль, бо, як ён сам піша, „цяпер на нашых гарбарнях работы зусім мала, а папраўдзе кажучы, яе і няма. Шмат нашых цягаецца без работы".

Беспрацоўе выганяе з Капыля, адрывае ад родных, сваёй організацыі, беспрацоўе кідае поэту-гарбара на працягу 1909—12 гадоў па розных гарадох Беларусі—Бабруйск, Жлобін, Магілеў, Дзьвінск, Вількамір,—пакуль у 1913 годзе ён не асталяваўся ў Пецярбурзе, на заводзе. Да гэтага часу належыць і знаёмства ды захапленьне беларускім друкаваным словам і беларускай нацыянальнай справай. Упяршыню з „Нашай Нівай" ён пазнаёміўся яшчэ ў 1908 годзе. „У 1908 годзе,—кажа пісьменьнік,—я напаў на „Нашу Ніву". Газэта па сваёй мове была для мяне

---

[1]) „Дзяньніца", № 17.

[2]) Аўтобіографія, стар. 8.

[3]) Тамсама, стар. 8.

[4]) Тамсама, стар. 10.

[5]) „Песьні працы і змаганьня", стар. 23.

вынаходкаю. Прачытаныя ў ёй вершы мігам абудзілі ва мне цягу да пісаньня пабеларуску“ [1]). Чыстае семя з „Нашае Нівы“ ўпала на багатую глебу і дало багаты плён.

З канца 1908 году Ц. Гартны пачынае пісаць допісы ў „Нашу Ніву“, якія яна ўсё часьцей ды часьцей і зьмяшчае. На працягу 1909 і пазьнейшых год амаль праз нумар, а часам і ў кожным, мы сустракаем яго допісы. Сьледам за допісамі зьяўляюцца і вершы: „Перад вясной“— „Н. Н.“, № 15 за 1909 г., „Пажарыска“,—„Н. Н.“, № 18 за 1909 г., „Да Нёмна“, № 22 і г. д. Наогул, з 1909 году ў асобе Цішкі Гартнага „Наша Ніва“ набывае новага сталага працаўніка. Але стан дапісчыка не здавальняў імклівую, парыўчастую натуру маладога працаўніка. Ён кажа аб гэтым: „Але пісаньне мяне не здавальняла: мяне захапіла цалкам ідэя адраджэньня Беларусі. У 1909 годзе, у ліпені, я паехаў у Вільню, у рэдакцыю „Нашае Нівы“, каб угледзець тых людзей, якія сталі ў кірунку беларускага руху“ [2]).

Знаёмства з беларускім рухам захапіла маладога песьняра, яно ўзьняло ў яго надзеі ды імкненьні. У гэтую пару ён пісаў:

Эх ты, Нёман—рака,
Ці ты думаў, ці сьніў,
Як сьлязу мужыка
Ў свае воды лавіў,
Што надыйдзе пара—
Зьнемажэньне міне,
Адраджэньня зара
Над народам блісьне? („Наша Ніва“, № 22 за 1909 г.).

Падарож у Вільню і беспасрэднае знаёмства з адраджэнцкім беларускім рухам ды яго прадстаўнікамі канчаткова замацавалі кірунак працы Цішкі Гартнага. У часе свайго вандроўніцтва пісьменьнік таксама супрацоўнічае ў „Нашай Ніве“. Ён, згодна свайго прызнаньня, у гэты час „пісаў вершы, прозу і корэспондэнцыі ў дарозе, у вагонах, на вакзалах, у цесных і брудных каморках, у начлежках, пісаў пасьля работы 11-гадзіннай“ (Аўтобіографія, стар. 10).

У 1913 г. Ц. Гартны асталёўваецца ў Пецярбурзе, на заводзе. Працуючы на заводзе, ён робіцца „сябрам рабочага культурна-асьветніцкага вобчаства „Знание“ і сябрам міжраённага аб'яднаньня с.-д.“ (Тамсама). За гэтыя гады вандроўкі і работы на розных прадпрыемствах Ц. Гартны глыбей і шырэй знаёміцца з жыцьцём рабочых, ягоназіраньні перарастаюць рамкі местачковага жыцьця, рамкі аднэй профэсіі. Усё гэта дало багаты матэрыял для літаратурнай творчасьці, усё знайшло свой адбітак у гэтай творчасьці („Сокі цаліны“, якія, паводле слоў аўтара [3]), былі напісаны ў працягу 1914—16 гадоў).

[1]) Аўтобіографія, стар. 10.

[2]) Тамсама.

[3]) Аўтобіографія, стар. 10.

Роман „Сокі Цаліны“ разьвінаецца на аўтобіографічнай аснове: у Рыгоры Нязвычным—галоўным пэрсонажы роману—пісьменьнік, бясспрэчна, зарысаваў свае жыцьцёвыя пуціны ды імкненьні. Гэта заўважаецца, папершае, з таго, што іх—героя і аўтара—жыцьцёвыя шляхі супадаюць.

Сапраўды абодва яны паходзяць з пролетарскай сям'і буйнага мястэчка—адзін з Капыля, другі з Сілцоў,—абодва яны прайшлі пяцігадовы стаж пастуха, пачаўшы ад дзесяці год. Да гэтага цікавая драбніца: Рыгора „*за гэтую службу кармілі і плацілі па рублю ад штукі*“ [1]). І аўтар „Сокаў цаліны“ пра сябе кажа: „Мяне згадзілі пасьвіць дзесяць штук гавяды—*па рублю ад штукі*“ (курсыў наш *С. З*) [2]). Умовы і спосабы вучобы таксама аднолькавы. Ц. Гартны пра сябе кажа: „Бацькі думалі, што я вывучуся абы на якога, але на „пана“. „Пасьля гэтага (некалькіх месяцаў вучобы ў дарэктара і некаторага перапынку ў вучобе. *С. З.*) я вучыўся дзьве зімы ў дарактароў па хатах,—вучылішча мястэчка ня мела“. „Грамата давалася лёгка, дарактары хвалілі. Прайшоў першым“ [3]); а пра Рыгора: „Зімою-ж праз тры гады Стэпа аддавала Рыгора вучыцца к дарэктару; грамата Рыгору падабалася і ён браўся, як лепш ня трэ' было: ішоў уперадзе ўсіх сваіх таварышоў-вучняў. Дарэктар часта радзіў Стэпе, каб яна не пакідала свайго сына вучыць, а аддала яго ў вышэйшую школу: „З яго можа харошы чалавек выйсьці“ [4]) і ў другім месцы: „Некалі,—казаў Міхась,—як вырасьце наш Рыгорка, мы яго няйначай вывучым на пана“ [5]). Праз некаторы час яны абодва роробяцца рабочымі, вандруюць па сьвеце, ваходзяць у с.-д. організацыі ды інш.

За гэтымі вонкавымі падабенствамі лёгка выкрываюцца падабенствы іх псыхо-ідэолёгічных якасьцяй. У іх аднолькавае сьветаўспрыманьне—оптымістычнае,—як „пекная рэч—жыцьцё“, аднолькавыя політычныя пераконаньні—„с.-д. максымалістыя“, абодва яны маладыя, поўныя кіпучай сілы і порсткасьці, юнакі. Але ня будзем падаваць дэталі, параўноўваючы іх, бо гэта затрымала-б нас надоўга. Нам відочна: „Сокі цаліны“ маюць аўтобіографічныя рысы, але значна перарастаюць рамкі аўтобіографічнасьці, зьмяшчаючы шырокія палотны соцыяльнага быту сялян і рабочых міжрэволюцыйнай (1905—1917) пары.

У Пецярбурзе, Ц. Гартны, як піша сам, „пасьля пяці месяцаў працы на заводзе, быў разьлічаны, тры месяцы цягаўся па горадзе безработным, жывучы на дапамогу сяброў-беларусаў“... „пакуль дастаў службу загадчыка выдавецтва, на якой і захапіла рэволюцыя 1917 году“ [6]).

---

[1]) „Бацькава воля“, стар. 41.

[2]) Аўтобіографія, стар. 8.

[3]) Тамсама.

[4]) „Сокі цаліны“, кв. I, стар. 41.

[5]) Ibid., стар. 40.

[6]) Аўтобіографія, стар. 11.

Доўгачаканая рэволюцыя ўзьняла яшчэ больш рэволюцыйныя імкненьні поэты-грамадзяніна. Пісьменьнік, як кажа ён сам, „стаў у кірунку беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху ў Петраградзе“[1]). Калі прышоў Кастрычнік, то Ц. Гартны бяз жадных хістаньняў цалкам прымае яго. Іначай і быць не магло: выхаванец пролетарскай сям'і, загартаваўшы свае сілы і музу ў майстэрні, на заводзе, у рэволюцыйных рабочых організацыях, у беспрацоўі, Гартны ня мог не пайсьці, як перадавік, з рабочымі ў дні Кастрычніка.

Будучы першыя гады рэволюцыі ў г. Ленінградзе і Маскве, у той час, калі Беларусь стагнала пад кайзэраўскім абсацам і шомпаламі ды бізунамі драпежнага польскага корпусу генэрала Доўбар-Мусьніцкага ды прадавалася ў няволю Беларускаю радаю, Цішка Гартны глыбока перажываў адначасна і радасьць першых год новае эпохі, і боль за пакуты роднае краіны. У першыя ўгодкі Кастрычнікавае рэволюцыі ён пісаў: „Ах, як шчасьліў ты, народ расійскі! Якая шырокая сьцяжына адчынена перад табою к творчай працы!.. Ты цар, Ты бог, Ты вольны з вольных. А народ мой, беларускі? У ланцугох няволі, горкія сьлёзы лье ў гэты час, калі ты сьвяткуеш ад сьвят сьвята! Няхай жыве вольная Беларусь!“[2]).

Адначасна з гэтым поэта пісаў:

Абляцеў поўны круг
Сонца вечнага ход.
Скончыў бурны свой рух
Рэволюцыі год.

Пад кіпучым чуцьцём
Прагучэў зоўны ўдыр.
І мільлённым гуртом
Ўстаў народ-багатыр.
. . . . . . .
. . . . . . .

Дні за днямі ішлі
Й адбівалі сабой
На свабоднай зямлі
Социяльны устой.

І цяпер паглядзець—
Сэрца шчасьцем паўно!
З якім ядрам расьцець
Маладое зярно.

Ў жыватворчай барбе
Час ўе зьвітак прыгод.
Я вітаю цябе,
Рэволюцыі год![3]).

Адным словам, поэта перажывае адначасна і „Ўрачыстасьць рэволюцыі“ і пакуты няволі. Рэдагуючы газэту „Дзяньніца“, Цішка Гартны

[1]) Аўтобіографія, стар. 11.

[2]) Дзяньніца, № 39 за 25 лютага 1918 году.

[3]) Дзяньніца, № 37 за 7 лістапада 1918 году і „Песьні працы і змаганьня“, стар. 69—71.

рыхтуе глебу для вызваленьня Беларусі. Ён бічуе раду беларускай народнай рэспублікі, выкрываючы яе буржуазны характар і яе здрадніцкую дзейнасьць.

У канцы 1918 году вораг выганяецца. Беларусь становіцца вольнай, Савецкай! Цішка Гартны становіцца на чале Часовага работніцка-сялянскага савецкага ўраду Беларусі. 1 студзеня 1919 г. публікуецца „Маніфэст Часовага Рэволюцыйнага Работніцка-Сялянскага Савецкага Ўраду Беларусі“. Аўтарам яго быў Ц. Гартны. „Маніфэст“ насычаны поэтычным патосам рэволюцыянэра, збалелага за сваю краіну. Вось некалькі радкоў яго.

„Таварышы і браты рабочыя, бедныя сяляне і чырвонаармейцы Беларусі!

Гарамычная, пакутная Беларусь, Беларусь рабочых і бедных сялян, увесь доўгі час свайго існаваньня служыла крыніцай збагачэньня польскага вяльможнага панства-памешчыкаў, зладзеяў-купцоў і ўсіх іншых багацеяў-крывасмоктаў, а потым, захопленая расійскім крывавым самаўладзтвам і розным чыноўніцтвам; Беларусь, якую адурманьвалі і частавалі маною з касьцельных амбонаў ксяндзы і з аўтароў папы; Беларусь, скованая з ног да галавы ланцугамі няволі; Беларусь, якая цярпела ўвесь час надужыцьці і пакуты і якая перажыла цяжкае ярмо нямецкай окупацыі,—зараз вызваляецца ад спрадвечнай пакуты сьмелым націскам Чырвонай арміі і далучаецца да новага вольнага жыцьця, якое ладзіцца на асновах комунізму, на грунце міжнароднага яднаньня працоўных!“ [1]).

Цішка Гартны цалкам аддаецца працы для замацаваньня і адбудаваньня маладое рэспублікі. К гэтаму часу адносяцца яго рэволюцыйныя палкія поклічы да працы—„Раней і цяпер“, „Позыў“, „Комунар“, „Панства працы“, „На магілах папярэднікаў“ ды інш.

У 1922 годзе Ц. Гартны некаторы час жыў у Нямеччыне, наладжваючы там беларускую выдавецкую справу. Пасьля ён падарожнічаў на Украіну і ў Заходнюю Эўропу. Такім чынам коланазіраньняў пісьменьніка пашырылася за межы СССР. Але, як гэта ня дзіўна, Ц. Гартны амаль ня вычэрпвае гэтае крыніцы. Вынікам наведваньня Нямеччыны ў 1922 годзе зьявіўся невялічкі цыкль вершаў „Бэрлін“ („Урачыстасьць“). Падарож па Заходняй Эўропе ўлетку 1927 году, а таксама падарож па Украіне, у мастацкай творчасьці—за выняткам дарожных нататак—не адбіты. Можа гэта да-часу? А можа гэта тлумачыцца поўнай адданасьцю *сваёй* краіне, *сваім* патрэбам і поэта ў моц моральнай дысцыпліны аддае сябе адбіцьцю жыцьця толькі Беларусі, слугаваньню яе патрэбам?

З моманту абвяшчэньня і заснаваньня Савецкае Беларусі—ужо дзесяць год—Цішка Гартны нясупынна і аддана працуе над пабудаваньнем новага соцыялістычнага грамадзтва, працуе, як партыйны і савецкі працаўнік і як публіцысты, адклікаючыся на ўсе нашы надзенныя пытаньні, адначасна ён зьяўляецца плённым сейбітам і на літаратурнай ніве.

[1]) „Дзяньніца“, № 2 (46) за 1919 год.

Такім чынам, абагульняючы ўсё, што было адзначана аб крыніцах творчасьці Цішкі Гартнага, мы прыходзім да наступных вывадаў: такой крыніцай было, папершае, уласнае жыцьцё і праца, як рабочага і соцыял-дэмократа, падругое—шырокія назіраньні над жыцьцём сялянскай беднаты і рабочых у абставінах местачковай, гарадзкой, фабрычнай дарэволюцыйнай Расіі,—і патрэцяе, соцыяльная барацьба і рэволюцыя ды сучаснае соцыялістычнае будаўніцтва, актыўным удзельнікам якога і зьяўляецца Цішка Гартны.

Гэтыя крыніцы абумовілі тэматыку пісьменьніка, да якое мы і пераходзім.

II

Цішка Гартны вышаў на літаратурныя загоны „Нашае Нівы“, як рабочы-гарбар, вышаў са сваімі „Песьнямі працы“, вышаў ад імя рабочых, людзей працы, заявіць перад усім сьветам аб сваім жыцьці, аб сваіх імкненьнях, аб сваім праве на жыцьцё.

Я рабочы гарбар,  
Рыцар працы цяжкой,  
Я з жалезнай душой,  
З сэрцам зыркім, як жар [1])—

атэстуе сябе песьняр.

Галоўная ўласьцівасьць і багацьце пролетара—гэта здольнасьць і ахвота да працы.

Я здружыўся з трудом,  
Я ў ім рос, я ў ім крэп;  
Запрацованы хлеб  
Люблю мецьць за сталом.  
Не хачу, ня прывык,  
Склаўшы рукі сядзець:  
Я гарбар-працаўнік,  
Я жыву, каб рабіць! [2]).

Але пры капіталістычным ладзе ўмовы працы і жыцьця рабочага жудасна цяжкія, аб іх поэта кажа:

Цэлы дзень за паганым сталом,  
Цэлы дзень скуру цьвёрдую скроб,  
Стаючы укапаным калом,  
Я задухай атрутнаю соп [3]).

Гэта праца паднявольная, на другіх, нялюбая праца:

Ах, як стрэлка марудна ідзе,  
Бы знарок хоча час працягнуць  
І ня ведае болю грудзей,  
Што так вельмі канца яны ждуць [4]).

---

[1]) „Песьні“, зборнік вершаў, Пецярбург, 1913 г.  
[2]) Іb., стар. 4.  
[3]) Іb., стар. 5.  
[4]) Іb., стар. 4.

Але праца—вялікая сіла соцыяльная, яна пераможа сілу капіталу,

Бо дзе сіла жыве,
Дзе работа кіпіць,
Там насеньня зярне
Лепшай долі ляжыць [1]).

Гэта дае поэту веру і ўпэўненасьць у „прыход лепшых дзён“.

Не здавайся, гарбар,
Ты за працай сваей,
І на шчасьця прыход,
Не заплюшчвай вачэй!
Песьні вольныя пей
У дыму, ў духаце,
І надзея твая
Няхай кветкай цьвіце! [2]).

Але лепшы лёс сам сабою ня прыдзе, ён народзіцца ў працы і змаганьні, і поэта кліча да працы:

Не здавайся, гарбар,
Ты за працай сваей,
Глебу пільна гатуй
І ў ёй шчасьце, брат, сей! [3]).

Маладая натура поэты ведала ня толькі працу, ёй была вядома і цяга да каханьня,

Бо любоў, то ня знак
Ад пустога слаўца,
А любоў—сьвяты крык
Маладога жыцьця [4]).

Гэтым мотывам прысьвечаны другі разьдзел зборніка „Песьні“—песьні каханьня. Поэта марыць тут ня толькі аб любай каханцы, а і аб другу-рэволюцыянэры, спадарожніку ў жыцьці і працы:

Вось, дзяўчынка, ты, любка мая,
Будзь таварышам вечна ты мне,
І хай праца з маею твая
Йдзе на шчасьце маей старане [5]).

Апошні акорд „Песень“—гэта „Жальбы і жаданьні“. Іх можна падсумаваць наступнымі словамі поэты:

Не прашу спакою, не прашу забыцьця,
Бо жыцьцё заўсёды ў сьцішы замірае.—
А прашу я буры, бо і з буры жыцьцё
З сілаю магучай біцца пачынае [6]).

---

[1]) „Песьні“, зборнік вершаў, стар. 6.
[2]) Іb., стар. 6.
[3]) Іb., стар. 6.
[4]) Іb., стар. 16.
[5]) Іb., стар. 19.
[6]) Іb., стар. 36.

Такім чынам, зборнік „Песьні“ з боку тэматыкі зьмяшчае ў сабе песьні працы, каханьня і волі, у ім ужо вызначаюцца асноўныя тэмы і мотывы творчасьці Цішкі Гартнага, але гэтыя песьні ўгрунтаваны толькі на аўтобіографічнай падставе і не перарастаюць гэтай крыніцы.

Затое, якія шырокія палотны соцыяльнага быту працоўных дарэволюцыйнага часу даны ў романе „Сокі цаліны“. Як шырока і поўна адлюстравана жыцьцё і праца рабочых і местачковай беднаты! Зьвернемся да яго.

Роман „Сокі цаліны“ выдрукаваны да гэтага часу ў дзьвёх квадрах 1 кв. „Бацькава воля“ (Бэрлін, 1922 г.) і другая—„На перагібе“ (Менск, 1926 г.); мае быць яшчэ трэцяя квадра.

Роман разгортваецца ў гістарычным аспэкце. Тут малююцца моманты міжрэволюцыйнага дзесяцігодзьдзя—1906—1917, але беспасярэдна падзеі роману ўвязваюцца ў перадваенныя гады—Ленскі расстрэл, суд над матросамі. Агульныя гістарычныя абставіны падаюцца ў словах аднаго героя роману—Сёмкі, ён кажа: „Хто яго ведае, ці дачакаем мы таго часу... Бачыш, прымет пакуль жадных. Дзевяцьсот пяты год адышоў далёка, а новага нічога ня відаць. Тымчасам абцугі ўсё цясьней сьціскаюцца [1]).

Больш дакладная ўвязка з гістарычнымі падзеямі даецца ў прамове на патаемнай сходцы Якава Мурмеля, ён кажа: „Зараз мы перажываем вельмі і вельмі рашучы момант. Царскае правіцельства кідае карту працоўнаму народу і ўсяму лепшаму грамадзянству, якое падае свой голас протэсту супроціў панаючага гвалту... Хутка разыграецца крывавая комэдыя—суд над балтыцкімі матросамі... Ім ужо царскія каты згатовілі свой люты прыгавор... Мы павінны адгукнуцца на гэты замах рукі палачоў рашучым выступленьнем—забастоўкаю [2]).

Вось гэтыя завірушныя гады—гады насьпяваньня рэволюцыйнага ўздыму і адбіваюцца ў романе. Гады, калі „багатая сокамі цаліна агромнай краіны расьціла маладыя пасынкі“ [3]), гады, калі ўзьнятая рэволюцыйным плугам 1905—1906 гадоў сялянская і рабочая цаліна давала свой плён, калі „ўверана ды ўпарта ўзрастала новая хваля маладое бунтоўнае сілы, сілы якая нясе ў сваім росьце магутныя заданьні новаму вольнаму жыцьцю [4]). У гэтым замыкаецца і назва роману—„Сокі цаліны“.

Месцам разьвінаньня першай часткі роману, месцам панаваньня і выяўленьня „Бацькавай волі“ зьяўляецца мястэчка Сілцы.

Гэта бойкае мястэчка, якім не аднакроць апісваў Ц. Гартны і родны Капыль: яно поўна руху і жыцьця. Вось як пачынае пісьменьнік свой роман: „На вуліцы было цемнавата, але жыцьцё і ня думала заміраць: на прызбах там і сям сядзелі мужчыны і бабы ў сьвяточнай апранасе

[1]) Ц. Гартны.—„Сокі цаліны“, роман у 3 квадрах. II. „На перагібе“, стар. 125.
[2]) Ib., стар. 194.
[3]) Ib., стар. 84.
[4]) Ib., стар. 84.

і цягнулі між сабою рэзвую гутарку, у якой часта прабіваўся вясёлы і бесклапотны рогат, жарты і выгукі. Пасярод вуліцы доўгім цугам пляліся з пашы худыя, дробныя і панурыя кароўкі; стрэламі імчаліся такія-ж тонкія, замораныя сьвіньні; зьбіўшыся гуртам і спалохана азіраючыся, дрыгалі апэцканыя, пастрыжаныя авечкі,—і пыл стаяў слупам. Рык кароў, рохканьне сьвіней і мэканьне гавечак, а таксама нясьціханы крык дзяцей, якія ня лепш, як гавечкі, таўкліся па вуліцы, запыленыя і замурзаныя, ганяючыся адно за другім,—усё гэта яскрава сьведчыла аб тым, што, ня гледзячы на зьвячорак, жыцьцё ў мястэчку Сілцох б'е крыніцаю [1]).

Пісьменьнік дае шырокія зарысоўкі вясковай прыроды, як фону, на якім адбываецца жыцьцё, праца і забавы сілкоўцаў. Пры гэтым рысуе прыроду насычанай да краю сокамі жыцьця, прырода жыве ў яго эмоцыянальным жыцьцём; у яго „сонца сьмяецца", „жыцьцё б'е крыніцаю", „жыцьцё ўсюды кіпіць". Для Рыгора „пекная рэч гэта жыцьцё. Кіпіць, бурліць, пеніцца, б'е ў берагі!" [2]).

Такім напружным, кіпучым эмоцыянальным жыцьцём жывуць героі. Рыгору хочацца, „каб гэта жыцьцё ня мела свайго канца, свае сьмерці, а вечна-б, бесьперасьціханьня бурліла, цякло, кіпела, а калі-б і зьмянялася на тэрмін, то ня ў бок заміраньня, сьцішэньня, а ў бок вышэйшага кіпеньня, вышэйшага бушаваньня" [3]).

Зося ня можа заснуць ад бурлівага пачуцьця: „Як я цябе чакаю, як я прагну з табою ўбачыцца!"... „Па твары-ж, чыстым, ружовым, прабегла гострае хаценьне"... „Зося соладка, утомна пацягнулася ўсім целам, здаровым, маладым, поўным кіпучага жыцьця, а затым патрабуючым буйных ласак, і на момант-другі мэрам замерла" [4]).

Жыцьцё сілкоўцаў, папершае, выяўляецца ў працы, і пісьменьнік рысуе зямляробскую працу (ворыва, касавіцу ды інш.).

У яго праца любая, прыемная:—„Но-о-о! Но-нно!—час-ад-часу выкрыквала Зося, паважна праводзячы роўную шырокую баразну". „Зося весела і здавольна ступала сьвежаю пахкаю каляінкаю, адчуваючы ў падошвах прыятны халадок і пакідаючы за сабою выразна адбітыя сьлядкі ног, грудзямі яна зьлёгка ўпірала на дзяржаньне плуга". „Па ўсім палетку, куды яна ні глядзела, відны былі людзі, якія то аралі, то баранавалі, то зьбіралі каменьні па нівах. З усіх бакоў даносіліся вясёлыя напевы родных вясковых песень, а з Масьціцкай пасекі чуўся стук сякер, гулкі гоман і пакатны рогат карчоўнікаў. Зося прыслухоўвалася к усяму, стараючыся ўлавіць кожны зык, і ёй вельмі мілым здавалася ўсё гэта".

---

[1]) „Бацькава воля", стар. 5.
[2]) Іb, стар. 36.
[3]) Іb., стар. 82.
[4]) Іb., стар. 13.

Любая праца праходзіць неўзаметкі: „Так за работаю каратаўся дзень скора і няпрыкметна. Зося нават і не пасьпела аглядзецца, як сонца апусьцілася к гаю“ [1]).

Падругое—жыцьцё сілцоўскай моладзі выяўляецца ў вясёлых забавах і гульнях. Яны ладзяць вечарыны, спраўляюць вясельлі, проста зьбіраюцца гуртам і забаўляюцца. У гэтых гульнях выяўляецца прага вясёласьці, жыцьця. Усё гэта з дэталёвасьцю зарысавана аўтарам роману.

Але міжрэволюцыйная (1905—1917 г. г.) вёска, якую рысуе аўтар роману, ведае ня толькі працу і забавы—ёй вядомы і пакуты голі, жудасная беднасьць; яна разьядаецца социяльнымі супярэчаньнямі, у ёй вядзецца социяльная барацьба,—усё гэта, вельмі тонка, нажом марксыцкага аналізу, выкрывае Ц. Гартны.

На адным канцавосьсі Сілцоў пісьменьнік гуртуе голь, пролетараў і бяднейшых сялян, на другім—заможнікаў, кулакоў і местачковае „начальства“

Найбольш выяўным прадстаўніком першых зьяўляецца Рыгор Нязвычны, рабочы-сьлёсар мэталёвага заводу гораду Рыгі, які ў водпуск прыехаў у родныя Сілцы, і яго маці Стэпа. Жывучы ўдавою бяз уласнай зямлі і гаспадаркі, „Стэпе прыходзілася ўставаць да сонца, зімою хадзіць к жыдом мыць падлогу, церці лён, а вечарам прасьці; а летам наймацца ўвагул, жаць, капаць картоплі і інш. Доўгія дні, а часта ўпадрад і ночы прыходзілася ёй стаяць за працаю, не адгінаючы сьпіны, перакусіўшы чорнага хлеба; потым канчала працу і па дарозе да хаты забягала ў казённы лес, зьбірала там ламачайка ды голейка і плішчыла яго да дому. Прыходзіла змардаваная, змучаная, засопшыся, з рагамі поту на жоўтым маршчыністым твары“ [2]).

Рыгор, які ў дзяцінстве быў пастухом, пасьля балаголам, зараз выгнаны беспрацоўем з роднага мястэчка на завод. Гэта яму, Рыгору у дзяцінстве маці пяяла:

> Гора сілаю загоніць
> Ў цёмны горад, на завод.
> Дзе машына енчыць, стогне,
> Разьядае нутр смурод.
> Там цябе прывяжа сіла
> Да машынаў, да сталоў,
> Дзе ты будзеш да магілы
> Стаяць зьвязаным, бяз слоў [3])

Прадстаўнікамі другое групы зьяўляюцца Берагі.

Калі першы „дэмократ, забастоўшчык“, то другі „заўсёды калягуе з старастравым ды з вураднікавым сынам, хваліцца ім аб усім, расказвае хто дэмократ“ [4]).

---

[1]) „Бацькава воля“, стар. 16—17.

[2]) Ib., стар. 41.

[3]) „Песьні працы і змаганьня“, стар. 22.

[4]) „Бацькава воля“, стар. 43.

Калі ля Рыгора яднаюцца „дэмократы“, яго цэніць, як добрага працаўніка рэволюцыйная моладзь, то „Васіль быў у ласцы так ва ўсёй сілцоўскай знаці, пачынаючы ад багатых гаспадароў і канчаючы панам і старшынёю“ [1]).

Паміж гэтымі двума пластамі вядзецца зацятая барацьба, якая выяўляецца ў самых рознастайных праявах, уключаючы і даносы: „Будзь спакоен, Васіль,—пацешыў старшыня:—усё зробіцца. Твайго кшталту людзям будзе заўсёды лепш жыць. Вер. Усе гэтыя дэмократы і соцыялістыя нойдуць сабе належны прытулак... Начальства ня сьпіць,—яно ведае, дзе ракі зімуюць“ [2]).

Барацьба паміж гэтымі дзьвюма групамі ў роўніцы соцыяльнай узмацняецца барацьбой у роўніцы асабовай—Рыгора і Васіля за Зосю,—у даным выпадку гэты прыём вельмі ўдалы: ад гэтага варожасьць іх набывае большую пукатасьць, барацьба—большую напружнасьць, хоць Рыгор асаблівай актыўнасьці ў дамаганьнях Зосі не выяўляе.

Прыдатныя, бацькі Зосі, ня хочуць аддаць яе за Рыгора „басяка, галадранца“, бо гэта-ж значыць—бясчэсьціць і весь наш род“. Ёй пара Васіль Бераг. Сват Хлёр аб гэтым кажа: „Нашы дзеці, бач, твая Зоська і мой нябог Васіль, як лепш ня трэба, адно да другога падходзяць. Маладыя, здаровыя, пекныя абое. А знатнасьці таксама не пазычаць. Гэта ня тое зусім, што які там Самусь ці Габрусь, а ўсё-ткі Бераг або Прыдатны [3]).

Зося схіляецца да Рыгора, Васіль для яе нялюбы, агідны. Для яе Рыгор—сьвята, урачыстасьць, Васіль—будні, пакута. Яна кажа: „Тут сьвята, Рыгор, спатканьне з ім,—а побач Васіль, замуж, будні“. Або: „Я гэтак люблю Рыгора і гэтак баюся Берагаў! А мне-ж прыдзецца век з імі жыць! Ая-яй! Падумаць боязна! [4]).

Зося шчыра кахае Рыгора, нават аддаецца яму, але над ёю „вісіць бацькава воля“, бо „яшчэ ў сьвеце бацькава воля пануе“ і „дачка павінна слухаць бацькі, павінна споўніць бацькаву волю“. І Зосю аддаюць Васілю, бо ў яе не хапіла „сілы перашкодзіць бацькавай волі, не хапіла сьмеласьці“.

Соцыяльная барацьба беднаты накіроўваецца соцыял-дэмократычнай організацыяй Сілцоў, і пісьменьнік дэталёва рысуе працу гэтай організацыі, як у самім мястэчку, так і па-за межамі яго, „за кардонам“, сярод ваколічнага сялянства. Ад гэтага мотывы бытавыя прасякнуты мотывамі соцыяльнымі.

Калі „Бацькава воля“ разьвінаецца выключна ў абставінах мястэчковых, то ў „На перагібе“ пісьменьнік пераносіць увагу чытача пера-

[1]) „Бацькава воля“, стар. 30.
[2]) „На перагібе“, стар. 122.
[3]) „Бацькава воля“, стар. 114—115.
[4]) Ib., стар. 147.

важна ў абставіны гарадзкія, у фабрычна-гарадзкое асяродзьдзе. Калі ў першай часьціне пераважае апісаньне, то ў другой багаты элемэнт апавядальны, у першай—статыка, у другой—дынаміка; у першай пераважае—бытавізм, у другой—соцыяльная барацьба як на сяле, так і ў горадзе, бо настаў „перагіб“ у настроях працоўных; прыдушэньне рэволюцыйнага руху было толькі часовым, заціша прайшло і рух абудзіўся з новай сілай.

„Рыгор,—як думаў пра яго Сёмка,—не гаспадар поля, не зямляроб... Машыны, молат, абцугі—вось што прызначана яму“ [1]).

Праўда, Сілцы яго цягнуць да сябе, цягнуць, як роднае гняздо, дзе ён пакінуў матку, таварышоў, каханую Зосю. Вабяць Сілцы і сваёй прыродай. Рыгор кажа: „Ах як добра тут у роднай старонцы! І лес пад бокам, і пекнасьць палёў, і сьвежае паветра, адным словам—лета, дык лета! Зусім ня тое ў горадзе: там заўсёды прыходзіцца сядзець у смуродзе-у імпадзе“ [2]).

Але Рыгора цягне да сябе горад, як месца працы і вучобы жыць і змагацца; ён кажа: „Ня толькі жыць, а і змагацца, браток, трэба ўмець. Я доўга абмяркоўваў гэта і, нарэшце,—рашыў: па сіле мажлівасьці—вучыцца. А гэта толькі і можна ў горадзе“. „Горад уліў у мяне гарт сілу, а завод засталіў маю душу“. Ад гэтага яму „Нямерна падабаецца гарадзкі шум, рух, натоўп разьюшаных грамад“ [3]).

„Завод магнэсам цягне да сябе Рыгора сваім рухам і сілай: „Чым бліжэй ён падходзіў к заводу, тым паўней выдавалася яго жыцьцё, зьлітае ў магутныя стукі малатоў, у бразгі жалеза, сьвіст і траскатню парабікоў. Медны імпэт яго, прамагнічаны нейкай крэпкай сілай прыцягненьня, захопліваў Рыгора цалкам, як вір, укручваў яго сабою і ачула цягнуў у завод.

Помеж з жалезнаю сілаю яму хутка пачалі чуцца ў яго стуку і бразгу прыемныя ноткі знаёмай музыкі, якія ўскаралі яго хаду, утуравалі цьвёрдаму стопу ногі паважнаму цюканьню сэрца. Думкі як быццам-бы аддзяліліся ад кіраўнічага цэнтру і перадаліся ва ўладу гэтай музыцы“ [4]).

І пісьменьнік вядзе чытача разам з сваім героем на завод, дзе „зьвіняць удары малатоў па жалезу“, дзе „шустрае вярценьне і разьба сталі прыцягалі да сябе Рыгораву ўвагу і разам захаплялі яго процэсамі творчага руху“ [5]).

Словам, Ц. Гартны дае працоўнае жыцьцё буйнага мэталёвага заводу. Дае лязг жалеза, музыку гудкоў, рух раменяў, працу рабочых, дае індустрыяльныя мотывы, што ў нашай літаратуры і да сёньнешняга дня зьяўляецца рэдкасьцю. І што яшчэ больш важна, дае гэта ў апісаньні ня нейкага агульнага заводу, а ў яго конкрэтнасьці.

[1]) „На перагібе“, стар. 30.
[2]) „Бацькава воля“, стар. 85—86.
[3]) „На перагібе“, стар. 32—33.
[4]) Ib., стар. 74.
[5]) Ib., стар. 181—183.

Працоўнае жыцьцё і сумеснае змаганьне цесна яднае рабочых, бо „ўсе працаўнікі аднэй долі, аднаго багацьця, адных умоў жыцьця. Кожны жыве стукам молата, вертам машыны, скрыгаценьнем напільніка“ [1]). І Рыгор „хутчэй за другіх зжыўся з большасьцю рабочых свайго заводу“. Ён уваходзіць у рэволюцыйную організацыю, прымае чынны ўдзел у політычным жыцьці заводу. А жыцьцё заводу віравала. Як скутак экономічнай эксплёатацыі і політычнай няволі, настае „перагіб“ у настроях рабочых, пачынаецца змаганьне, бо „нам рабочым,—як кажа Рыгор,—нечага губіць, апроч свае няволі“ [2]).

Нелегальныя сходкі, мітынгі, дэмонстрацыі, забастоўка і, як скутак усяго гэтага, арышты—асобныя моманты бурлівага жыцьця заводу, якія праходзяць перад чытачом гэтага роману.

На гэтым фоне, сярод рабочай масы, вылучаюцца і вырысоўваюцца паасобныя тыпы рэволюцыянэраў. Такімі зьяўляюцца наступныя. Якаў Мурмель—„чорны інтэлігент“, тэорэтык, „з лахматаю бакунінскаю галавою“, які „казаў складна, лёгка, без перабояў“ [3]).

Міхась—стары рэволюцыянэр, які „перажыў шмат забастовак і паўстаньне пятага году“, якога „білі на дэмонстрацыі ў гадавіну Ленскага расстрэлу, глуміліся, арыштаваўшы ў першамайскую маніфэстацыю“ [4]); натура цьвёрдая і вытрыманая, ён жыве такім пераконаньнем: „лепш памерці ў змаганьні, чымсь жыць у няволі. Але, калі ўміраць, то трэба адно мець у воку, ці ўсё ты купляеш сваім жыцьцём, ці мог-бы ты яго прадаць за больш дарослую цану. Уміраць на полі бойкі трэба з расчотам“ [5])... Рыгор—галоўны герой роману—максымалісты, малады энтузыясты, гарачая натура, які „стаў заядлым, неўтамімым змаганьнікам“ [6]); такая-ж натура работніца-рэволюцыянэрка Наталя ды інш.

Забастоўка кончылася перамогаю над рабочымі, масавымі арыштамі рабочых (быў арыштаваны і Рыгор, і Наталя), але гэта ня значыць, што яна была непатрэбнаю, што яна ня прынесла карысьці, не—яна прынесла вялікую карысьць: „Забастоўка ўсё-ж паказала магутную сілу солідарнасьці, якая жыве сярод працаўнікоў. Забастоўка адзначала, што між намі,—разважае Рыгор,—працаўнікамі і матросамі, салдатамі—непарыўная сувязь“ [7]).

У романе Цішка Гартны паставіў і вырашыў шмат проблем рэволюцыйнай працы—аб сілах рэволюцыі, аб саюзе з сялянствам, з салдатамі і да таго падобнае. Разам з разьвіцьцём грамадзкага жыцьця і ўдзелам у ім Рыгора ў романе даюцца і прыгоды яго асаблівага інтымнага

1) „На перагібе“, стар. 34.
2) Ib., стар. 78.
3) Ib., стар. 194.
4) Ib., стар. 84.
5) Ib., стар. 189.
6) Ib., стар. 33.
7) Ib., стар. 268.

жыцьця—каханьне з Зосяю, Ганнаю і Наталяю. Рыгор Нязвычны жыве дваістым жыцьцём: жыцьцём грамадзкім і асабовым; як рэволюцыянэр, які „марыў перш усяго аб шчасьці агульна-людзкім, як чалавек ідэі, як шчыры пасьлядовец рэволюцыі" [1]). І „з другога боку,—як трапна кажа проф. М. Піотуховіч,—Рыгор Нязвычны прадстае перад намі ў постаці нейкага пераможніка над жаночымі сэрцамі, які самаўлюблёна цешыцца сабой: „двое прыгожых дзяўчат захапіліся ім на працягу кароткага тэрміну. Знача не жарствою пасыпаны яго жыцьцёвыя дарогі". Рыгор Нязвычны далёкі ад думкі, што каханьне ўскладае і пэўныя абавязкі; напамінаньне аб гэтых абавязках у яго вачох—мяшчанства". „Да гэтага трэба дадаць яшчэ,—працягвае памянёны аўтар,—што, спыняючыся падрабязна на абмалёўцы асабовага жыцьця свайго героя, аўтар часам дае нам эротычныя зарысоўкі; ён любіць абмалёўваць праявы інстынкту ў яго аголеным відзе (сцэна ў Лужкох, спатканьне з Ганнай ды інш." [2]).

Наогул, трэба адзначыць, што роман „Сокі цаліны" па багацьцю тэм дэталёвасьці, натуралістычнасьці і шырацe зарысовак ня мае сабе роўнага пакуль што ў нашай літаратуры.

Зборнікі вершаў—„Песьні працы і змаганьня", „Урачыстацьць" і зборнік апавяданьняў „Трэскі на хвалях" зьяўляюцца далейшым этапам у разьвіцьці тэматыкі Цішкі Гартнага. Гэтыя зборнікі адбіваюць моманты насьпяваньня рэволюцыі 1917 году і, галоўным чынам, рэволюцыйнае пяцігодзьдзе 1917—1921 г. Да аналізу іх тэматыкі мы і пераходзім.

Значна шырэй разьвінаецца тэматыка „Песень" у зборніку „Песьні працы і змаганьня" [3]) „Тут,—кажа проф. М. Піотуховіч,—дыапазон творчасьці поэты робіцца значна шырэйшым. „Песьні працы" тут грунтуюцца ня толькі на аўтобіографічнай аснове: апроч працы гарбара, якая была знаёма Гартнаму па асабістай спробе, тут абмалёўваюцца і іншыя працоўныя процэсы („Каваль", „Ткачыха", „Песьня жняі", „Касьба" і інш.); кола назіраньняў поэты значна рассуваецца" [4]). Гэта папершае.

А падругое—тут глыбей выяўлены трагічныя адчуваньні беспрацоўнага. Пісьменьнік сам, як мы ўжо адзначылі, ня раз зазнаў беспрацоўе. У адным допісе ў „Нашу Ніву" ён пісаў: „Найбольш працаўнік мусіць цягацца ўсюды і як ласкі прасіць работы" [5]).

Тут у мастацкай форме выяўлена гэта:

> Няма працы й сэрцу млосна—
> Не знайсьці пакою...
> Я так шчыра, я так моцна
> Зжыўся змалку з ёю [6]).

---

[1]) „На перагібе", стар. 204.

[2]) „Росквіт",—Творчасьць Цішкі Гартнага, стар. 129.

[3]) Бэрлін, 1922.

[4]) „Росквіт" № 1 за 1927—28 г.—„Творчасьць Цішкі Гартнага", стар. 118.

[5]) „Наша Ніва", № 43 за 1909 г.

[6]) „Песьні працы і змаганьня", стар. 20.

Таму беспрацоўе нясе смутак і бязьвер'е:

Ходзіш, блудзіш і, здаецца,
Ураз-бы ўпаў у магілу—
Гэткім болем сэрца рвецца,
Гэтак ўсё ня міла [1]).

Цяжкі голад беспрацоўя:

„Гарбар есьці хоча,
Хоча—ды ня мае“ [2]).

Але яшчэ цяжэй моральная пакута, як скутак беспрацоўя:

Не, ня тое, што работа
Голад прыпыняе...
Не, ня тое. Хопіць з гэтым
Сіл ва мне зьмірыцца,
Але тое, што ля сьвету
Нечым прыгадзіцца! [3]).

І поэта канчае верш глыбока лірычнай канцоўкай:

Няма працы... цяжка гэта
Мне цярпець бяз меры,
Бо ў ёй зоў мой, мая мэта—
Ў ёй спадзеў і вера!

І, патрэцяе,—і гэта самае важнае: у даным зборніку пераважнае месца займаюць мотывы змаганьня, у гэтым зборніку адбіты цьвёрды поступ рэволюцыі. Поэта кліча ў бойку:

Каб змагчы, зруйнаваць
Усе ліхое вакол [4]).

Ён кліча быць пярэднім:

Непадатны,
Поўны гарту
Ў жыцьці з роду—
За свабоду
Ў бой упарты,
Ў бой астатні
Незьвярэдна
Йдзі пярэднім! [5]).

---

[1]) „Песьні працы і змаганьня“, стар. 20.
[2]) Ib., стар. 13.
[3]) Ib., стар. 21.
[4]) Ib., стар. 63.
[5]) Ib.. стар. 37.

Поэта вітае новы вольны край:

Дзе быў прастор, дзе рос палын,
Дзе ветры сіверу стагналі,
І шыр прывольную раўнін
Туманам змрокі адзявалі,
Дзе зык цяжарнае жальбы
Народу зьнішчанага чуўся,—
Ў вагні вялікай барацьбы
Ўстаў край—Савецкай Беларусі! [1])

Поэта заклікаў быць „на варце", бо хоць

На збройным полі сьціхла сеч,
Замоўклі грукаты гарматаў,

Усё-ж:

У ножнах жджэ наточны меч
На край нападаў новых катаў.

Бо

Падымуць мо' разьбіты стан,
Мо' склічуць новыя армады.

Але

Няхай-жа ведае тыран—
Ня быць яму і дальш пашчады,
Ў сярцох працоўных не патух
Агонь кіпучага паўстаньня;
Сялян й рабочых грэе дух,
Як грэў, магутнага змаганьня.
І толькі пойдзе новы зоў,
Трывогу ўчуе Рэволюц'я—
Як сотні тысяч ваякоў
Ад працы з ружжамі зьбяруцца [2]).

Клікаў да новае вольнае працы:

Мы рабілі... Ці-ж цяпер,
Калі свабодная краіна
Для творчай працы сваю дзьвер
Для нас шырока адчыніла—
Ня знойдзем больш мы сьвежых сіл,
Стараньняў новых не дастанем?
Ой, не! з нас кожны, хто й ня быў,
Працоўным стане веліканам!

Сякера, молат і саха
Ў руках свабоднага—ці-ж тое,
Калі яна была ў раба
З забітым целам і душою.

---

[1]) „Песьні працы і змаганьня", стар. 98.
[2]) Ib., стар. 72.

Бо

> Што кожны гак, што кожны стук,
> Што ў ніве кожная разора,
> То ў жыцьці бедных меней мук,
> То жыцьцю новаму падпора.

І поэта кліча:

> За працу-ж ўсе! К зямлі ў завод
> Мы моц працоўную расьпкінем,
> Комуні хай яна прыход
> Кіпучай творчасьцю абдыме [1]).

Поэта кліча к новаму жыцьцю:

> За працу-ж, гэй, браты, ахвотна,
> За змогу, к шчаснаму жыцьцю! [2])

Словам, у „Песьнях працы і змаганьня“ выліўся рэволюцыйны патос пераможцы ў соцыяльнай барацьбе, у барацьбе, якая была галоўнай справай яго жыцьця.

Падобным па сваіх асноўных мотывах да гэтага зборніка, толькі прасякнуты большым захапленьнем, большай „урачыстасьцю“, большай панэгірычнасьцю сучаснасьці, зьяўляецца другі зборнік „Урачыстасьць“ (гор. Менск, 1925 г.).

Зборнік мае два разьдзелы—„Урачыстасьць рэволюцыі“ і „Урачыстасьць жыцьця“, якія зьліваюцца ў адно цэлае, адзін з другога выплываюць. „Не, аднак пекная рэч гэта жыцьцё! Кіпіць, бурліць, пеніцца б'е ў берагі, як тыя расхадзіўшыя хвалі ў ветраны час на шырокім гале мора! Прычуйся, прыгледзься і ўбачыш, і пачуеш, як вакола цябе ўсё будуецца на новае, на лепшае“. „З часам сьвет гэты будзе так мілы, так люб кожнаму чалавеку, кожнаму стварэньню!“ „Згіне енк, высахнуць сьлёзы, перастане стогн; радасьць запануе“. „Творчая сіла возьме верх над сілай зьнішчэньня. Гармонія, краса векавая—заўладаюць... А ўжо блізка той час, блізка: жыцьцё ў тэрміне перабудоўкі; краса відна здалёк, і пуць к ёй—вельмі цяжарны“. Так пяяў гімн жыцьцю Ц. Гартны вуснамі свайго героя Рыгора [3]).

Так, шлях быў вельмі цяжкі: ён ішоў праз падпольную працу, арышты, катаваньні, Сібір і рэволюцыю. Але затое, хто прайшоў гэты шлях, таму асабліва была дарага мэта,—Цішка Гартны быў у ліку іх. І вось настала рэволюцыя, расчыніла „Урачыстасьць жыцьця“, і пісьменьнік пяе свой радасны гімн у гонар яе, пяе „Урачыстасьць рэволюцыі“,

> Яна ідзе
> Магутным цьвёрдым крокам,
> Няспынна сілаю разгону—
> Закону

---

[1]) „Песьні працы і змаганьня“, стар. 90—91.

[2]) Ib., стар. 92.

[3]) „Бацькава воля“, стар. 35—36.

Вечнага развою падухільна.
Ня зьмерыць ходу яе вокам,
Ня згледзець ўзмахаў многамільных.

. . . . . . . . . . . .

Яна ідзе,
Агнём пякучым знакі піша
На кожным кроку, што праміне,
І сіла ўжо ніч'я ня спыне
Ад векаў скону
Яе рашучага разгону...
Яна ідзе
Ў зялёнай пышнай руні,
Ў развойным, шумным веснаходзе, —
На стрэчу царственай Свабодзе,
Ў обдым сьветлае Комуны [1]).

Яна прышла, яе жыватворны дух абудзіў да жыцьця новае сілы („Беларускі народ", „На раду", „Сельскі мітынг", „Рабфакавец-вясковец" ды інш.); нарадзіў „Урачыстасьць жыцьця".

Зараз

Зоры й месяц ў вышыне—
Для мяне, для мяне.
Пекнасьць дзіўная палёў,
Песьні пташак, шум гаёў.
Неба сіняе наўкруг,
Увабраны травой луг,
Сьвежы ветрык, што сапне
Над палямі—для мяне,
Для мяне [2]).

Рэволюцыя зламала вароты да „красы векавой".

Рэволюцыйная рачаіснасьць гэтай-жа пары адбіта ў зборніку „Трэскі на хвалях".

Тут даны паасобныя эпізоды з грамадзянскай вайны — „Сымонка-інжынэр", „Чырвонаармеец Панкел Ліпа"; зарысавана праца рэўкомаў— „Больш за ўсіх", зарысаваны некаторыя абразкі дарэволюцыйнага жыцьця — „Лайдак", „Распусьніца", „Штрэйкбрэхер", „Шукаючы працы", „Вялікодная каробка"; выяўлены ідэолёгічныя хістаньні і дыфэрэнцыяцыя інтэлігенцыі — „Трэскі на хвалях"; зарысаваны бытавыя сцэнкі пасьлярэволюцыйнага жыцьця—„На новым месцы".

Амаль усе гэтыя тэмы трактуюцца тут у роўніцы змаганьня—соцыяльнага і псыхолёгічнага,—ад гэтага ў зборніку пераважны мотыў—змаганьне,—што зьяўляецца адпаведным часу,—і шмат тонкіх псыхолёгічных зарысовак.

---

[1]) „Урачыстасьць", стар. 32 – 33,

[2]) Ib., стар. 100,

„Апошні“ дар Цішкі Гартнага ў скарбніцу беларускага мастацтва слова—гэта зборнік апавяданьняў і драматычных сцэн—„Прысады“ (Менск, 1927 г.).

Гэты зборнік па сваёй тэматыцы расчыняе новы этап, як у разьвіцьці літаратурнай творчасьці Ц. Гартнага, так і ў беларускай літаратуры нагул: у ім адбіваецца наш сёньнешні дзень, наша соцыялістычнае будаўніцтва, у ім аўтар ставіць шмат актуальных проблем. Тут у нашым штодзенным жыцьці выяўляецца вялікая творчасьць „новае сілы—сілы савецкага руху“. Замест старых прысад засаджваюцца новыя маладыя прысады. Пісьменьнік дае тут романтыку соцыялістычнага будаўніцтва. Найяскравей гэта выяўлена ў апавяданьні—„Свае блінцы“, дзе скромны герой, нізавы грамадзкі працаўнік, Вінцусь Шавель, прыкладае ўсе стараньні, аддаецца ўвесь чыста, каб адбудаваць грамадзкі млін; і, ня гледзячы на ўсякія перашкоды, галоўным чынам матэрыяльнага парадку, яго плян, урэшце, зьдзяйсьняецца.

Вінцусь у захапленьні сваёй перамогай на эканомічным фронце кажа аднаму адказнаму таварышу: „А вы бачыце, вунь, як комін курыць! А чуеце, як тарашчыць лесапілка, ажно па ўсіх Махаўцах рэха йдзе!“ [1]).

Шавель разумее ўсю важнасьць „дробных“ перамог над нашай беднасьцю. У яго такая жыцьцёвая філёзофія: „Ад малога дойдзеш да вялікага. Нельга пабудаваць вялікага, дзе не пабудавана малога“ [2]).

Аб гэтым-жа ён кажа: „Я хачу вам падкрэсьліць адно: можа гэта справа і малая, але яна неабходная... Яна абавязковая справа... Паглядзеце—год мінуў, а мястэчка не пазнаць. Было ціхім, а зараз гудзе-э... Чуеце... Я, пахваліцца, з мліна вырасьціў цэлы комбінат... Троха энэргіі, а троха шанцу, і глядзеце—фабрыка. Працуе дванаццаць чалавек... Крокэса пабіў і той на ладан сапе... Мялю і лепш і таней... Пілую да дванаццаці хвой у дзень... Вальцую сукно, крупы раблю [3]).

Адным словам, гэта наш, беларускі „Цэмент“: харчавая і дрэваапрацоўчая прамысловасьці, асноўныя віды нашай прамысловасьці, якая разьвінаецца на мясцовай сыравіне.

Такім-жа адданым нашаму будаўніцтву рысуецца другі працаўнік, начальнік раённай міліцыі, Астап, які да самаахвярнасьці аддаецца сваім абавязкам („Прысады“).

Тут і адданы партыец Васіль, пра якога аўтар кажа: „Фронты зьніклі, порах ссушыўся. Душа, якая прывыкла сапсьці парахавым дымам, чуць ігру кулямётных ды гарматных стрэлаў, жыць дынамікай змаганьня,—Васілёва душа пачала нудзець“ [4]). Але пасьля ён аддаецца працы па

---

[1]) „Прысады“, стар. 185.

[2]) Ib., стар. 184.

[3]) Ib., стар. 186

[4]) Ib., стар. 79.

барацьбе з простытуцыяй, каб, як ён кажа, „зьнішчыць тыя ўмовы, якія іх плодзяць“ [1]).

Тут адбіваецца новая вёска, з яе сёньнешняй соцыяльнай барацьбой, бытам („Праводзіны“).

Тут даюцца бытавыя зарысоўкі местачковага рамесьніцтва на грунце нашай нядаўняй беднасьці, разбуранасьці („Хільшчык Шлёма Брыкер“).

Тут даюцца псыхолёгічныя портрэты рэволюцыянэраў („Таварышы“). Тут ёсьць і псыхолёгічныя этуды, што ўзьніклі ў нашай сучаснасьці („Таварыш інспэктар“, „Дыагноз“).

Цішка Гартны ў гэтым зборніку ставіць некалькі актуальных для нашых дзён проблем—аб спэцах, іх шкодніцтве, вылучэнцтве ды інш. („Дзьве сілы“).

Проблему разлажэньня, загніваньня аўтар вуснамі Вендушэвіча вырашае так: „Трэба выняць паскуду... Здаровае цела ня можа ня быць абмытам ад бруду. Трэба чапіць людзей—не шкадуй. Справа агульная вышэй прыватных інтарэсаў“ [2]).

Проблему спэцтва і іх злачынства вуснамі таго-ж Вендушэвіча пісьменьнік вырашае так: „Аўторытэт не павінен захоўваць злачынства... А спэцтва—ня бронь ад адказнасьці за яго“ [3]).

І гэта да шахцінскай справы. Якая пранікліваcьць!

Такім чынам, падагульняючы ўсё сказанае аб тэматыцы Цішкі Гартнага, мы прыходзім да наступных вывадаў: у творчасьці нашага пісьменьніка можна вызначыць тры тэматычныя цыклі, адпаведна тром этапам у жыцьці самога пісьменьніка, якое ў сваю чаргу было вызначана соцыяльна-політычнымі момантамі. А менавіта: папершае, жыцьцё дарэлюцыйнае; падругое, рэволюцыйнае пяцігодзьдзе—1917—1921 г., і, патрэцяе, пасьлярэволюцыйны быт, соцыялістычнае будаўніцтва і зьвязаныя з ім актуальныя проблемы.

III

Мастацкае афармленьне творчасьці кожнага павінна—і гэта ў большай або меншай ступені ёсьць—адпавядаць тэматыцы. Пэўная тэматыка вымагае для сябе адпаведнага мастацкага афармленьня. Тэматыка вызначае і форму.

Нельга сталі размазаць на талерцы, як нельга вадкасьць гартаваць у горне. Усякі мастацкі твор павінен быць мастацкім цэлым, у ім павінна быць адзінства зьместу і формы. Там, дзе няма такой моністычнасьці, гармоніі, няма і цэльнасьці ўзьдзеяньня на чытача, няма сапраўднай мастацкасьці.

У творчасьці Цішкі Гартнага наогул мы маем такое адзінства, такую гармонію. У яго творчасьці назіраецца такая адпаведнасьць зьместу і

[1]) „Прысады“, стар. 80.
[2]) Іb., стар. 272.
[3]) Іb., стар. 272.

формы. У гэтай творчасьці тэматыка вызначае форму. Творчасьць Цішкі Гартнага наогул становіць сабою мастацкае цэлае.

Для твораў, дзе даны шырокія соцыяльна-бытавыя палотны, тым больш у гістарычным аспэкце, патрэбна рэалістычнае афармленьне. У Ц. Гартнага яно ёсьць. Аднэй з характарных рыс пролетарскае літаратуры ў абсягу формы зьяўляецца рэалістычнасьць.

Л. Троцкі аб гэтым кажа наступнае: „Каким из старых терминов можно окрестить искусство революции? Т. Осинский писал как-то, что оно будет *реалистическим*. В этом есть правильная и значительная мысль" [1]). Але гэты „рэалізм" Л. Троцкі разумее не як літаратурную традыцыйную школу. Ставячы пытаньне—„Что же теперь понимать под реализмом?" ён адказвае:—„В разные эпохи реализм давал выражения чувствам и запросам разных общественных групп и при том довольно различными приемами. Каждый из этих реализмов подлежит особому общественно-литературному определению и особой формально-литературной оценке. Что общего в них? Некоторая и немаловажная черта мироощущения: тяга к жизни, как она есть, не уклонение от действительности, а художественное ее приятие, активный интерес к ней, в ее конкретной устойчивости или изменчивости, стремление эту жизнь—либо представить, как она есть, либо возвести в перл создания, либо оправдать, либо обвинить, либо сфотографировать, либо обобщить, либо символизировать,—но именно вот эту жизнь, трех наших измерений, как достаточную, полноценную и самоценную материю творчества. В таком широком философском, а не школьно-литературном смысле можно с уверенностью сказать, что новое искусство будет реалистично". Але гэтага мала: „Нужен художник однолюб", а „это означает,—робіць падсумаваньне памянёны аўтар,—реалистический монизм в смысле мироотношения, а не „реализм" в смысле традиционного арсенала литературной школы".

У творчасьці Цішкі Гартнага мы маем такую „цягу к зямлі", „земнасьць", такі „моністычны рэалізм". І гэтыя ўласьцівасьці ў яго вельмі моцна выяўлены: уся яго творчасьць прасякнута слугаваньнем „земнасьці", жыцьцём.

Цішка Гартны сам усьведамляе сваю цягу к зямлі. Ён кажа:

Хоць чароўна ты, неба, ўсягды,
Хоць ты пекна ў сваёй вышыне,—
К тваёй высі туды
Ўсё-ж ня хочацца мне.
На зямлі, на халоднай, сырой,
Дзе ні зораў, ні сонца няма,
Дзе нядоля і цьма—
Я шчасьлівы душой.

[1]) „Литература и революция", стар. 172. З гэтай-жа кнігі ўзяты і ўсе вынаткі з Троцкага, што зьмешчаны ніжэй.

І гэта з самага пачатку літаратурнай дзейнасьці!

Амаль усёй беларускай новай і найноўшай літаратуры ўласьціва такая „земнасьць“ і рэалізм у такім разуменьні слова. І гэта зусім зразумела і натуральна. Беларуская літаратура гэтых часоў мела шчыльную ўвязку з жыцьцём працоўных, аддавала сябе слуганьню патрэбам гэтага жыцьця.

У беларускай літаратуры замацаваўся і запанаваў мастацкі рэалізм, г. зн. такі літаратурны кірунак, пры якім пісьменьнік, бяручы факты вакольнай рачаіснасьці, ня ўсе, а па мастацкім яго выбары, пераапрацоўвае іх у сваёй творчай фантазіі, дазваляючы сабе іх перамяшчэньні і зьмены, і дае іх у мастацкім пераформаваньні.

Але Цішка Гартны ідзе далей у гэтым кірунку, ён стварае арыгінальны ў беларускай літаратуры кірунак—натуралізм.

Чым-жа дасягае натуралізму Цішка Гартны? У чым ён выяўляецца?

Гэтага дасягае пісьменьнік рознымі спосабамі. Найбольш вядомымі зьяўляюцца наступныя.

Папершае, усе творы Ц. Гартнага адзначаюцца „прастатою“ жыцьцяадпаведнасьцю і праўдзівасьцю фабул. Сапраўды. Узяць хоць-бы буйнейшы твор пісьменьніка—„Сокі цаліны“,—у ім мы нічога ня знойдзем надзвычайнага, што біла-б на эфэкт, прыцягненьне чытача. Усе падзеі і ўчынкі герояў тут мастацка і псыхолёгічна апраўданы. Эфэктыўнасьць дасягаецца тут іменна натуральнасьцю. Нават зборнік „Трэскі на хвалях“, які адбівае дынаміку рэволюцыйнага жыцьця, амаль ня мае ні прыгодніцтва, ні чаго-небудзь выключнага, нязвычайнага.

Гэтая асаблівасьць зьвязваецца з другой рысай творчасьці Гартнага—з увязваньнем зазвычай падзей, якія апісвае аўтар, з пэўным гістарычным момантам і пэўнай этнографічнай мясцовасьцю—„Сокі цаліны“, „Прысады“ ды інш. Гэта таксама надае падзеям большую жыцьцёпраўдзівасьць. Акрамя гэтага, такі прыём вымагае ад пісьменьніка дасканалага веданьня жыцьця, данага асяродзьдзя, каб ня было разыходзін між творам пісьменьніка і рачаіснасьцю. У творчасьці Ц. Гартнага гэта не заўважаецца.

Патрэцяе, і гэта, бадай, самае значнае,—гэта дэталёвасьць і дакладнасьць зарысовак. Хто не зварочаў увагі на гэтую дакладнасьць, з якой пісьменьнік зарысоўвае жыцьцё Сілцоў?

Пісьменьнік дае тут самыя падрабязныя зарысоўкі, як скажам, героі яго ядуць, устаюць і да т. п., даходзячы часам да фотографічнасьці жыцьця, што багата шкодзіць дынамічнасьці композыцыі твору і шкодзіць яго мастацкасьці.

У мэтах натуральнасьці і жыцьцёпраўдзівасьці Цішка Гартны ўжывае ў сваіх творах і індывідуалізацыю мовы дзеючых асоб. Трэба сказаць, што гэты момант у беларускай літаратуры і да сёньнешняга дня не знайшоў свайго вырашэньня і выяўленьня. У нашай літаратуры—за рэдкімі

выняткамі—індывідуалізацыя мовы герояў ня мае месца. Гэта тлумачыцца пэўнымі глыбокімі прычынамі [1]).

Аднэй з іх зьяўляецца і тое, што на беларускую літаратуру, апроч іншых задач, самой гісторыяй была ўскладзена і задача формаваньня шліфоўкі літаратурнае беларускае мовы, у выніку гэтага часта пісьменьнікі зусім сьвядома падганялі мову сваіх герояў пад нормы літаратурнае мовы, сьціраючы ў ёй усе індывідуальныя асаблівасьці.

Гэта быў моцны фактар, з якім нельга было ня лічыцца.

Сапраўды, як мог пісьменьнік, пішучы свой твор на беларускай мове, даць індывідуалізаваную мову чыноўніка, стражніка, гарадзкога мешчаніна, калі гэта вымагала запалоніць яго мову русізмамі, полёнізмамі і да т. п.

Цішка Гартны на палавіну—і трэба сказаць удала—справіўся з гэтай задачай. Індывідуалізацыі мовы сваіх герояў—асабліва ў „Бацькавай волі"—ён дасягае праз вялікую колькасьць дыялектызмаў, якімі ён насычае сваю творчасьць. У выніку гэтага пісьменьнік дасягае дзьвюх задач: папершае—дасягае часта высокага мастацкага эфэкту орыгінальнасьцю моўных зваротаў, дае натуральную мову, уносячы ў яе вялікую колькасьць чыста народных зваротаў і дыялектызмаў. Трэба сказаць, што Цішка Гартны вялікі майстар дыялёгаў і монолёгаў і дае іх часта высокай мастацкай каштоўнасьці. Прыклад—любое месца з творчасьці Цішкі Гартнага.

„— Ой, ой, які ты дзіўны,—не даючы сыну скончыць размову, перабіла яго Тадося:—І што ты ўшалопаў сабе? Прыдат-ны не аддасьць за ця-а-бе-э свае-э дачкі! Ці-ж ня пара? Альбо каго лепшага яны нойдуць? Хай яшчэ падзякуюць богу, што мы цябе згодны жаніць з ёю. Ох, сынку, клапаціцца аб гэтым няма чаго. А калі што і закапырсьціцца—плюнь і ўсё: у мястэчку дзяўчат даволі, любая пойдзець—адно зайкніся.

— О, не, калі-ж бо другіх ня хочацца. Ня цягне, мамачка, мяне да другіх—нізваньня... Апроч Зосі—усе няма нішто. Калі жаніцца—то толькі з Зосяй; яна адна ў мяне ў воку.

— Э, ды пакінь, пакінь ты! А Луцэя Сымонава чымсь вадзіць? А Ануля Пранукова? Дзяўчаты, пане мой, што твая вярэя: здаровыя, гладкія, работніцы—ажно палюбавацца! Дый бацькі іх усе са знатнага роду: гэта-ж яшчэ іх дзяды былі войтамі" [2]).

Вось адно з шматлікіх месц.

Мова герояў Цішкі Гартнага, зазвычай, бойкая, жывая, хаця часам—асабліва ў раньніх творах—мова самога аўтара пэрыодычная, нягібкая. Праўда, з другога боку, на мову Гартнага робяць часам закіды, што ў ёй

---

[1]) Пытаньне аб індывідуалізацыі мовы герояў у нашай літаратуры, як і пытаньне аб мове Ц. Гартнага, вельмі паважнае ды складанае пытаньне і яно вымагае спэцыяльнага досьледу. Спыняцца зараз на ім мы ня маем магчымасьці. *С. З.*

[2]) „Бацькава воля", стар. 28.

шмат відавочных русізмаў, папершае,—і, падругое, вялікая колькасьць дыялектызмаў, і гэта робіць яго стыль цяжка зразумелым. З першым закідам часткова згадзіцца можна, а што да другога, то гэта могуць казаць тыя, хто ня ведае беларускае народнае мовы, а яны для нас у гэтым пытаньні ня судзьдзі.

Індывідуалізацыя мовы ў герояў Гартнага ня поўная. У яго латышка Вільгельміна, а таксама рабочыя Рыгі гавораць на чыстай беларускай мове. Ды ня толькі яны. Больш поўную індывідуалізацыю мовы герояў аўтар дае ў сваіх драматычных творах („На стыку“ ды інш.).

Другі момант у мастацкім афармленьні, які вызначаецца тэматыкай— гэта літаратурны жанр. Узятыя ў цэлым жанры Ц. Гартнага адпавядаюць яго тэматычнаму матэрыялу. Сапраўды. Такая шырата тэматыкі, якую мы маем у Гартнага, ня можа ўлажыцца ў лірычныя жанры, а вымагае жанраў эпічных: у нашага пісьменьніка мы і маем бясспрэчную перавагу эпічных жанраў. А ў апошні час наглядаецца нават яшчэ большае зьмяншэньне лірычных жанраў. Найбольш пашыранымі жанрамі ў Гартнага зьяўляюцца—апавяданьне, новэля, этуд; пісьменьнік узвышаецца і да раманічнае творчасьці—дае адзін з першых беларускі раман.

Лірычная творчасьць Цішкі Гартнага, асабліва пасьлярэволюцыйная, выліваецца найчасьцей у оду і гімн, што адпавядае характару ўспрыманьня жыцьця і рэволюцыі пролетарскім песьняром.

Дадамо, што поэма—улюбёны жанр сучасных пролетарскіх поэтаў.

Характарна таксама, што Цішка Гартны, пясьняр колектыўнага змаганьня і „Ўсясьветнай Комуны“, сваю лірыку афармляе часам у лірыку колектыўную, дзе ён сваё асабовае „я“ зьлівае з колектыўным пролетарскім „мы“. Ён кажа:

Мы—сыны
Новых дзён!
Мы—прарокі—ваякі за волю.
Пяруны
З бліскавіцамі значаць наш шлях
Ад няволі мінуўшых вякоў
На чырвоны лунаючы сьцяг
Усясьветнай Комуны [1]).

Дзіўна, чамусь у творчасьці пролетарскага поэты мы не сустракаем поэмы, а тымчасам, нам думаецца, у поэме ён здолеў-бы даць героічныя моманты з барацьбы працоўных за сваё вызваленьне, абагрэтыя глыбокім лірызмам рэволюцыянэра.

У Цішкі Гартнага, у больш позьніх яго творах,—„Урачыстасьць“— маюцца спробы ўкласьці нашы дынамічныя дні рэволюцыі і будаваньня— не ў традыцыйныя рытмы—ямбы ды хорэі,—а даць рытму нашых дзён. Ён падбірае алітэрацыі і асонансы і карыстае такі рытм, які-б адпавя-

[1]) „Урачыстасьць“—„Хто мы?“, стар. 44.

даў самой тэме, і гэтым часта дасягае значных эфэктаў. Напрыклад, верш „Праца“ адбівае рытм „процьмы кол“:

Зірні,
Як вакол
Процьма кол
Нясупынна,
Стройна, чынна
Уюць кругі
Чарадою.
Шасьцярні
Мятусяцца,
Імчацца
Стралою пасы [1]).

Тут у радкох—„Нясупынна, стройна, чынна“ або „Мятусяцца, імчацца“ націск прыпадае на трэцім (перадапошнім) складзе, у выніку чаго атрымліваецца хуткі бег, імклівасьць.

А вось другі прыклад—„Будаваньне“.

Ды ляскоча
Молат важкі сілай грому...
І сьмяюцца маладому
Аднаўленьню,
Будаваньню
Сонца яснага праменьні
Й зор бліскучае мірганьне [2]).

Або вось як перадаецца „цьвёрды“ поступ рэволюцыі:

Яна ідзе
Магутным цьвёрдым крокам—
Закону
Вечнага развою падухільна [3]).

Але ў абсягу формальна-мастацкім, творчасьць нашага юбіляра мае і пэўныя заганы, якія мы таксама павінны сёньня паказаць.

Папершае, гэтыя заганы ёсьць у галіне композыцыі—перавага композыцыі хронолёгічнай над новэлястычнай, асаблівая расьцягнутасьць і да т. п.

Падругое, мы гэтыя заганы назіраем і ў галіне эйдолёгіі: вобразы пісьменьніка зазвычай адстаюць ад яго тэматыкі, назіраецца некаторая архаічнасьць вобразаў, што не пасуе Ц. Гартнаму.

Напрыклад: традыцыйны алегорычны вобраз Музы (хоць і Музы змаганьня); Зося ляжыць пры Рыгоры „нібы той анёл на вобразе ля ног хрыста“, у Зосі твар „белы, чысты, пекны, як у анёла“, або—

Усё гаворыць мне бяз слоў,
Каб я жыў, як пан з паноў [4]).

і шмат падобных.

---

1) „Урачыстасьць“, стар. 52.
2) „Урачыстасьць“, стар. 47.
3) „Урачыстасьць“, стар. 32.
4) „Урачыстасьць“, стар. 101.

Патрэцяе, маюцца гэтыя заганы і ў рытміцы, напрыклад:

> І цаною вялікіх ахвяр
> Варагоў мы змаглі, зваявалі,
> Рэволюц'і Акцябрскай дар [1]).

Гэтыя заганы пераважна прыпадаюць на ранейшую пару творчасьці і ў творах яго пазьнейшага часу паступова зьнішчаюцца. Відаць у першую пару аўтар мала працаваў пад формальна-мастацкай шліфоўкай сваіх твораў, больш спыняючыся на іх зьмесьце, у выніку чаго мы маем такое „адставаньне“ формы ад зьместу. Што гэта так, што поэта часам нядбайна адносіўся да формы, мы можам пераканацца з наступных прыкладаў.

У „Бацькавай волі“ пісьменьнік падае: „У канцы за ўсімі была Марта, маці Зосі, трывалая, карчукаватая, але рухавая і вёрткая кабеціна, *гадоў так пад трыццаць пяць* [2]).

У другім месцы гаворыцца, што „Круты нораў Прыдатных Марце, *за дваццаць два гады яе замужам* за Міколам так добра быў ведам [3]). Недарэчнасьць, якую пры больш уважлівай працы над стылем пісьменьнік-бы выправіў. Або: „Маладзік у першай квадры толькі-што вылез з-за лесу і пачаў узьбірацца наверх“ [4]). Маладзік ня ўзьбіраецца наверх, а садзіцца ўніз. Тое самае можна сказаць і пра шурпатасьці ў рытміцы: пры больш уважлівай апрацоўцы іх можна было-б пазбавіцца.

На заганы ў форме паказвае і проф. М. Піотуховіч. Ён кажа: „Побач з дадатнымі бакамі творчасьці Цішкі Гартнага мы констатавалі і адмоўныя, галоўным чынам у галіне формальна-мастацкай: композыцыйная няскладнасьць, супярэчачая прынцыпу мастацкай тэлеолёгічнасьці, стылістычная расьцягнутасьць, эйдолёгічная вузкасьць і аднастайнасьць— усё гэта, бязумоўна, становіць сабой пасыў Цішкі Гартнага. Але атрадна констатаваць, што ў самых пазьнейшых творах нашага аўтара і гэты пасыў ідзе на зьнішчэньне, узмацняецца яго актыў“ [5]).

Характарна, у самых позьніх творах Ц. Гартнага (зборнік „Прысады“) мы назіраем у стылі вялікую насычанасьць дзеяслоўнасьцю. Вось як пачынаецца гэты зборнік: „Цікавая, нязвычайная была зіма—зіма ў 25 годзе. Старыя не памятаюць. Дзівяцца, пацінаюць плячыма. Што гэта? Адкуль гэта? Дзівы дзеюцца ў сьвеце. Ды балюча к таму: выехаць нельга ў дарогу. Мала яе здараецца—людзям некуды і незачым зьезьдзіць, але зрэдка трэба. Трэба—бо сьвет не стаіць, а жыве, варушыцца, рухае, трапеча“ [6]).

---

[1]) „Песьні працы і змаганьня“, стар. 72.
[2]) „Бацькава воля“, стар. 7.
[3]) Іb., стар. 52.
[4]) Іb., стар. 66.
[5]) „Росквіт“, стар. 131.
[6]) „Прысады“, стар. 7.

Такая дзеясловўная насычанасьць, дае насычанасьць волевую, надае стылю твору актыўнасьць, што вельмі пасуе да пісьменьнікаў пролетарскага кірунку, пісьменьнікаў, якія маюць актыўнае дачыненьне да жыцьця.

## IV

Гэты артыкул, прысьвечаны разгляду творчасьці Цішкі Гартнага, мы назвалі—„*Першы беларускі пролетарскі поэта і пісьменьнік*“, гэтым мы жадаем падкрэсьліць пролетарскую сутнасьць творчасьці Цішкі Гартнага, мы жадаем падкрэсьліць заслугі нашага юбіляра, як закладальніка беларускай пролетарскай літаратуры, як пачынальніка новага кірунку ў беларускай літаратуры, кірунку пролетарскага. Але ў чым-жа сутнасьць пролетарскай літаратуры? Якія яе ўласьцівасьці? На якіх прынцыповых палажэньнях мы стаім, калі называем творчасьць Цішкі Гартнага пролетарскай? З якою меркаю мы падыходзім да яго творчасьці, выяўляючы яе пролетарскую сутнасьць? Вось тыя прынцыповыя пытаньні, якія мы павінны цяпер разьвязаць.

Папершае. Калі мы называем літаратуру пролетарскай, значыць мы вызнаем яе за мажлівы і сапраўды існуючы факт. Так, мы вызнаем, што пролетарская літаратура ня толькі мажліва, але і цяпер ёсьць. Мы прынцыпова ня згодны з Л. Троцкім, які кажа: „Пролетарской культуры (а гэта значыць і літаратуры. *С. З.*) не только нет, но и не будет“ [1]). Сваю гэтую тэзу памянёны аўтар угрунтоўвае па сутнасьці толькі тым, што, на яго думку, пролетарыяту проста-на-проста ня хопіць часу, каб стварыць сваю клясавую культуру. Ён кажа так: „Хватит-ли у пролетариата попросту времени на создание „пролетарской культуры“. В отличие от режима рабовладельцев, феодалов, буржуа, диктатуру свою пролетариат мыслит, *как кратковременную переходную эпоху*“. А гэта значыць: „Может-ли пролетариат за это время создать новую культуру. Сомнения на этот счет тем более законны, что годы социальной рэволюции будут годами ожесточенной борьбы классов, где разрушения займут больше места, чем новое строительство. Во всяком случае, главная энергия самого пролетариата будет направлена на завоевание власти, ее удержание, упрочение и применение во имя неотложнейших нужд существования и дальнейшей борьбы“.

А якраз: „Высшей напряженности и полного выявления своего классового существа пролетариат достигнет, однако, именно в эту революционную эпоху, вводящую в столь узкие пределы возможность планомерного культурного строительства“.

Адным словам, пролетарыят у гэты час ня здолее тварыць свае культуры. А калі зьявяцца мажлівасьці ў пролетарыяту тварыць сваю культуру, то яна ўжо ня будзе патрэбна, узьнікне патрэба стварэньня культуры агульна-людзкой. Л. Троцкі кажа: „Чем полнее будет новый

[1]) Л. Троцкий—„Литература и революция“, стар. 137.

режим обеспечен от политических и военных потрясений, чем благоприятнее будут условия для культурного творчества, тем более пролетариат будет растворяться в социалистическом общежитии, освобождаясь от своих классовых черт, т.-е. переставая быть пролетариатом“.

Абагульняючы свае думкі наконт гэтага пытаньня, Л. Троцкі прыходзіць да такіх вывадаў: „В эпоху диктатуры о создании новой культуры, т.-е. о строительстве величайшего исторического масштаба, не приходится говорить; а то ни с чем прошлым несравнимое культурное строительство, которое наступит, когда отпадет необходимость в железных тисках диктатуры, не будет уже иметь классового характера“.

Ня спыняючыся дэтальна на гэтых палажэньнях, бо гэта затрымала-б нас надоўга, мы ў якасьці доказу нягрунтоўнасьці заўваг іх аўтара возьмем два моманты. Першае—Л. Троцкі выпушчае з-пад увагі тую акалічнасьць, што пролетарская культура (як і ўсякая іншая) нараджаецца і разьвінаецца яшчэ ва ўмовах панаваньня клясавага антыподу, калі толькі пачынаецца консолідацыя клясы, як „клясы для сябе“, а ня толькі ў момант існаваньня дыктатуры пролетарыяту і значыць рамні часу тварэньня пролетарскай культуры значна рассуваюцца. Гэта першая памылка Л. Троцкага. А, падругое: як гэта ня дзіўна, але Л. Троцкі забывае адну марксыцкую формулу, а менавіта: усякая форма ідэолёгічнай надбудовы становіць некаторую стойкасьць на законах эволюцыі і нават тады, калі яе ўжо не падтрымлівае экономічны базіс, на якім яна ўзьнікла, і можа быць канчаткова зьнішчана зброяй такога-ж самага парадку. Гэта тычыцца і літаратуры, як часьці культуры. А з гэтага вынікае, што пролетарыят *павінен*, вымушаны стварыць сваю такую зброю, якою-б ён змог разьбіць зброю буржуазную, г. зн. стварыць сваю культуру і літаратуру.

Тое, што пролетарыят дамагаецца свайго клясавага панаваньня, свае дыктатуры ня толькі для *сваіх клясавых* мэт, але і ў імя вызваленьня ўсяго чалавецтва, у імя зьнішчэньня панаваньняў усякае клясы, у імя пабудовы бясклясавага грамадзтва, ніколькі не азначае, што пролетарыят павінен хоць колькі небудзь адмовіцца ад сваіх клясавых інтарэсаў. Наадварот, чым ясьней і хутчэй будуць кожным пролетарам усьвядомлены яго клясавыя інтарэсы, тым хутчэй даб‘ецца ён свайго панаваньня і тым хутчэй пачнецца наладжваньне бясклясавага грамадзтва. І літаратура павінна, у гэтым яе гістарычны, ня толькі соцыяльны абавязак, дапамагаць аформленьню клясавага ўсьведамленьня пролетара, таму яна павінна быць *клясаваю*. Наяўнасьць у пролетарскага пісьменьніка ўсьведамленьня, што пролетарыят у будучыне мае наладзіць бясклясавае грамадзтва, ніколькі ня шкодзіць клясаваму характару яго літаратурнай продукцыі.

У гэтых меркаваньнях Л. Троцкага выяўляецца яго тэорыя пэрманэнтнае рэволюцыі. Яго-ж словы: „Плоский, чисто либеральный метод

формальных исторических аналогий не имеет ничего общего с марксизмом. Нет материальной аналогии в исторических орбитах буржуазии и рабочего класса“,—мы можам сказаць па адр се іх аўтара. Троцкі, сапраўды, праводзіць аналёгію ў тэрміне, які пайшоў на стварэньне культуры буржуазнай, фэўдальнай, і які мае пайсьці на стварэньне культуры пролетарскай, зусім выпушчаючы з-пад увагі, што пролетарская культура будзе разьвінацца ў іншых умовах і іншымі сіламі. Разважаньні Л. Троцкага па гэтым пытаньні на зьдзіў мэтафізычныя, адцягненыя.

А рэальнасьць кажа, што пролетарская культура і літаратура, як яе часьціна, ня толькі мажліва, але і ёсьць, яна на нашых вачох буйна расьце. А марксызм, а ленінізм—ня ёсьць цагліны гэтай пролетарскай культуры! Хто можа адмаўляць гэта?

Мы кажам: пролетарыяту патрэбна свая культура і літаратура ва ўсе моманты яго гістарычнага жыцьця. У часе паднявольнага жыцьця, ва ўмовах ціску капіталізму, яна патрэбна для таго, каб організаваць клясавую сьвядомасьць і гартаваць барацьбітоў у бойцы з ворагам, ва ўмовах соцыялістычнага будаўніцтва яна патрэбна для таго, каб організаваць эмоцыі і волю працоўных да гэтага будаўніцтва. Іншая справа, як азначыць пролетарскую культуру і пролетарскую літаратуру. Нам зараз належыць разьвязаць пытаньне аб азначэньні пролетарскай літаратуры. Азначэньняў пролетарскай літаратуры давалася некалькі. Ня будзем на іх спыняцца, скажам толькі, што азначэньні на падставе соцыяльнай прыналежнасьці аўтара, або на аснове тэматыкі, павінны быць адхіленымі.

Папершае, таму, што соцыяльнае пахаджэньне аўтара не заўсёды вызначае сабою соцыяльную яго позыцыю: бываюць адходы ад свае клясы (галоўным чынам, калі кляса ня ёсьць „кляса для сябе“, або калі кляса хіліцца да заняпаду, гістарычна сябе пераражывае) і наадварот,— бываюць далучэньні да данае клясы выхадцаў з другіх кляс. А падругое, таму, што на падставе тэматычнага азначэньня, якім яно зазвычай даецца, можна да пролетарскай літаратуры далучыць добрую часьціну творчасьці буржуазных пісьменьнікаў (Золя ды інш.).

У гэтым пытаньні важна не тэматыка, а яе эмоцыянальнае ды ідэолёгічнае насычэньні. Важна *не каго* апісвае пісьменьнік у сваім творы, *а каму, чыім задачам* ён слугуе гэтым творам. Словам, важна ідэолёгічнае аформленьне тэматыкі, важна ідэолёгія аўтара. Менавіта, на падставе ідэолёгіі і сьветаўспрыманьня, нам думаецца, толькі і можна азначыць клясавы характар літаратуры, у тым ліку і пролетарскай. Пэўныя рысы тэматыкі зьяўляюцца характэрнымі, жаданымі для пролетарскай літаратуры, але не канечнымі. Пролетарскім творам зьяўляецца той твор, які насычаны пролетарскай ідэолёгіяй, пролетарскай мэтаімкнёнасьцю, слугаваньнем пролетарскай справе.

Азначым сьцісла характарныя рысы гэтай ідэолёгіі і адначасна выкрыем ідэолёгічнае аформленьне творчасьці Цішкі Гартнага.

Перад гэтым адзначым, што характарныя ўласьцівасьці для пролетарскай літаратуры і тэматычныя, якімі зазвычай надзяляюць яе, як урбанізм, індустрыяльныя мотывы, апісаньне пролетарыяту, выяўленьне жыцьця колектыву, а не індывідууму і г. д., ёсьць і ў творчасьці нашага юбіляра, што намі ўжо было констатавана ў разьдзеле тэматыкі.

Пролетарскаму пісьменьніку ўласьціва—і можа быць толькі гэткім—актыўнае дачыненьне да жыцьця. Адгэтуль вынікае імкненьне зламаць, перабудаваць гэта жыцьцё, калі яно не адпавядае яго ідэалам (сатырычнасьць) або замацаваць яго формы, усхваляць іх, калі яны гэтым ідэалам адпавядаюць (панэгірычнасьць). Пісьменьнік можа выконваць гэту задачу, задачу жыцьця будаўніцтва, сваёй літаратурнай творчасьцю. Адгэтуль вынікае утылітарны погляд на літаратурную творчасьць, погляд на яе, як на сродак жыцьця будаўніцтва.

Усё жыцьцё і дзейнасьць Цішкі Гартнага, уся яго літаратурная творчасьць мелі адзіны кірунак—гэта слугаваньне працоўным, слугаваньне перабудове жыцьця на соцыялістычных падвалінах. Адгэтуль Цішка Гартны далёкі ад тэорыі „мастацтва дзеля мастацтва“, а таксама і ад тэорыі самамэтнага адлюстраваньня жыцьця. На гэтым спыняцца ня будзем: для нас гэта відавочна і не вымагае асаблівых доказаў. Пісьменьніка суцяшае, заглушае яго пакуты тое, што ў сваёй творчасьці ён вызначыць шлях працоўным. Ён жадае:

Толькі-б ведаць тое,
Што жыцьцё сьвятое
Я людзям намечу
Сваіх твораў рэччу! [1]).

Такое сьветадачыненьне пролетарскіх пісьменьнікаў тлумачыцца тым, што яны зьяўляюцца прадстаўнікамі гістарычна-ўсходзячай клясы, лепшае жыцьцё якое ня ў мінулым, а ў будучыні.

Адгэтуль мы маем у пролетарскіх пісьменьнікаў оптымістычнае сьветаўспрыманьне. Гэта мы знаходзім і ў творчасьці Цішкі Гартнага. Оптымізм у яго моцна выяўлены. Свой оптымізм поэта тлумачыць так:

Я жыву таму, што маю
Веру моцную у тое,
Што загіне доля злая,
Чорнай сілаю якая
Зямлю вокал аблягае,
Бы жалезнаю рукою.

Я жыву таму, што бачу
Панаваньне лепшай долі,
Дзе ня будзе мук і плачу,
За якую й я даў дачу,
Што ад роду прыназначыў
На крывавым збройным полі
Ў барацьбе за шчасьце й волю [2]).

---

[1]) „Песьні працы і змаганьня“, стар. 46.

[2]) „Песьні працы і змаганьня“, стар. 6.

Але гэтае шчаснае жыцьцё пролетара пачнецца толькі рэволюцыяй. Адгэтуль аднэй з важнейшых адзнак пролетарскай ідэолёгіі зьяўляецца рэволюцыйнасьць. Глыбокая рэволюцыйнасьць Цішкі Гартнага бясспрэчна. Галоўным мотывам яго творчасьці зьяўляюцца мотывы змаганьня. Рэволюцыйным патосам песьняра прасякнуты амаль усе яго творы, пачынаючы з дробных лірычных і канчаючы монумэнтальным романам „Сокі цаліны", які замыкаецца такімі словамі: „Чалавек народжаны змагацца. Яго лёс перамагчы на сваім шляху ўсё, што перашкодзіць яму стаць панам жыцьцёвага стану. Жыцьцё няхай будзе падуладным яму!.. Гэта закон, гэта правілы, гэта лёзунг! Дык няхай жыве нясупыннае змаганьне!" [1]).

Гэта змаганьне працоўных былое расійскай імпэрыі прывяло да Вялікага Кастрычніка. Кастрычнік пачаў сабою новае вольнае жыцьцё для працоўных. Адгэтуль у пролетарскіх пісьменьнікаў мы маем ацэнку Кастрычніка, як гістарычнага рубяжа, які пачынае новую эпоху ў жыцьці працоўнага чалавецтва. Гэткую-ж ацэнку Кастрычніка мы маем і ў творчасьці Цішкі Гартнага. Ён кажа:

Доўга гнулі свае сьпіны,
Доўга пот мы свой лілі
Ля фабрычнае машыны
І ля панскае зямлі.

Паднявольна мы маўчалі,
Паслухмянымі былі,
Другіх вечна збагачалі,
Ня вылазячы з бяды.

А зараз:

Сьвет адчынен людзям новы.
Будаўнічым маладым,—
Ля вялікае будовы]
Жыцьцё шлях адкрыла ім! [2]).

У другім месцы поэта кажа:

Перад намі гарэць
Залатыя агні
Жыцьця вольнага й долі яскравай,
А за намі ляжаць
Пережытыя дні
Ліхалецьцяў прыгону й нядолі крывавай [3]).

З такой ацэнкі двух сьветаў—мінулага, як нявольніцкага, і будучага, як вольнага, шчаснага, вынікае тое, што пролетарскім пісьменьнікам не павінен быць уласьцівы рэтроспэкцыйны погляд на гісторыю—заглядaньне ў мінулае, шуканьне там свайго шчасьця, услаўленьне гэтага мінулага, яго ідэалізацыя. Там няволя і зьдзек. Шчасьце ўперадзе.

---

1) „На перагібе", стар. 323.
2) „Песьні працы і змаганьня", стар. 68.
3) Ib., стар. 81.

Ц. Гартны кажа:

Назад глядзець мы больш ня хочам,
Ніхто і нішто к таму ўжо нас не заварожа.

Бо

Вякі заможных, князяў і ўладараў
Адданы нашаму рашучаму праклёну,
Зьнябыцьцю вечнаму зданы ў ахвяру.

А шчасьце наша ўперадзе:

І вехі нашы ўперадзе. Гараць яны гвяздою
Бліскучай, зыркаю, праводнаю зарніцай.

Мы ідзем, дзе будзе панаваньне ўладара жыцьця—Усясьветнай Комуны:

Чырвоны сьцяг наш шлях пабораны усьцілае
Туды, дзе ў гучным грукаце пярунаў,
На зьмен пакоры й дзікіх гвалтаў, заступае
Уладар жыцьця—Ўсясьветная Комуна.
На бляск яе, на зоў, ад сну нас паўзьнімаўшы,
Мы йдом няўпынннымі, як хвалі мора,
У ёй аднэй мы бачым будучыну нашу,
Аб ёй аднэй няўмоўчна мы гаворым [1]).

Але да гэтае Ўсясьветнае Комуны шлях ідзе

Па мёртвых целах, згубленых на збройным полі,
Ваяк-змаганьнікаў ў часы паўстаньняў [2]).

Гэты шлях вядзе ня толькі праз рэволюцыю, але і праз дыктатуру пролетарыяту. Вось чаму ў пролетарскіх пісьменьнікаў мы маем усямернае прызнаньне гэтай дыктатуры.

Цішка Гартны ня толькі прызнае яе, як нязьбежную і патрэбную, але і ня раз ён заклікаў замацаваць яе, ён заклікаў быць „На варце“ [3]), ён ня раз вітаў чырвоных барацьбітоў, як абаронцаў гэтай дыктатуры. Поэта вітае, як

Йдзе паходам
Звод за зводам
З прагай к бою
Полк чырвоных [4])

Перамога працоўных над сваім ворагам можа быць толькі на аснове іх злучнасьці, адгэтуль вынікае вера ў моц колектыву, вынікае колектывістычнасьць ідэолёгіі рабочага. Гэты колектывізм прышчапляецца доўгай сумеснай працай, сумеснай барацьбою, супольнасьцю інтарэсаў у іх процілегласьці інтарэсам капіталістых. Адгэтуль у пролетарскіх пісьмень-

[1]) „Урачыстасьць“, стар. 20—21.
[2]) Іb., стар. 20.
[3]) „Песьні працы і змаганьня“, стар. 72.
[4]) „Песьні працы і змаганьня“, стар. 73.

нікаў мы маем плынь колектывізму, але ня ў сэнсе апісаньня працы колектыву, а ня толькі асобы—гэта ёсьць і ў буржуазных пісьменьнікаў, а ў сэнсе зьліцьця ўласнага „я“ пісьменьніка з колектыўным „мы“, не вылучэньне асабовых інтарэсаў з інтарэсаў грамадзкіх, а, наадварот, іх падпарадкаваньне.

Наогул творчасьць Цішкі Гартнага прасякнута настраёвасьцю колектывізму.

Яшчэ ў пачатку літаратурнага шляху поэта сам сабе дае загад:

Не шкадуй-жа жыцьця
Ты для шчасьця братоў.
Будзь заўсёды гатоў
К ім ісьці,—ім служыць [1]).

Бо поэта вызнае сваю соцыяльную злучнасьць:

Бо я кроўю ёсьць з тых,
Што завуцца „рабы“
І прагнуць барацьбы
За здабытак сабе
Лепшай долі ў жыцьці [2]).

Усё жыцьцё і творчасьць Гартнага, як мы ўжо казалі, мелі сваёй мэтаю слугаваньне працоўным. Гэта нам ясна. Але ў творчасьці Цішкі Гартнага ёсьць і налёты індывідуалізму. Зразумела, гэта не „байронізм“, ня процістаўленьне свае асобы грамадзтву, колектыву,—Цішка Гартны, як пролетарскі пісьменьнік, колектывісты, далёкі ад гэтага. Індывідуалізм нашага пісьменьніка выяўляецца ў некаторай павышанасьці—як гэта належыць пролетарскаму пісьменьніку—цікавасьці да свае асобы, і часам няшчыльнай увязкі свае асобы з грамадзкімі настроямі.

У Ц. Гартнага, праўда, у вершах, датаваных 1914 годам, чытаем:

Каб знаць, што я жыву, як трэба,
Ня доўг, ня службу валачу,—
Я зораў бляск, прастораў неба,
Свабоды буйнае хачу [3]).

Тут свабода чамусьці буйная і ўзята адцягнена, бяз злучнасьці з колектыўнымі імкненьнямі, свабода ў прасторах нябёсаў.

Або вось:

Ўсё, што бачыцца вакол:
Неба сінь, зялёны дол,
Рэчка, горы, гай між ніў—
Для мяне, пакуль я жыў,
Пакуль сэрца ў грудзях б'е,
Ўсё красуе, ўсё пяе;
Ўсё гаворыць мне бяз слоў,
Каб я жыў, як пан з паноў [4]).

---

[1]) „Песьні працы і змаганьня“, стар. 53.
[2]) Ib., стар. 54.
[3]) „Урачыстасьць“, стар. 87.
[4]) „Урачыстасьць“, стар. 101.

Чым тлумачацца такія налёты індывідуалізму ў пролетарскага пісьменьніка? Нам думаецца, яго соцыяльным атачэньнем.

Пісьменьнік меў шчыльную сувязь з сялянствам, сам ён працаваў некаторы час у дробных рамесьніцкіх прадпрыемствах, адным словам, быў у атачэньні дробна-буржуазных настрояў.

Супольнасьць ворагаў, інтарэсаў і барацьбы яднае рабочых ня толькі аднаго заводу, гораду, нават аднэй дзяржаўнасьці, а і сусьвету. Рабочыя выкідаюць лёзунг—„Пролетары ўсіх краін, злучайцеся", у іх ёсьць імкненьне да інтэрнацыянальнага аб'яднаньня. У пролетарскіх пісьменьнікаў мы маем гэты інтэрнацыяналізм. Гэта ёсьць і ў Цішкі Гартнага.

Ён ня раз будучыню называе „Ўсясьветнай Комунай".

Ён кажа:

> І там, дзе скрозь насіўся цень,
> Дзе рабства вокал панавала,
> Праменьнем сонца азіяла,
> Пад гучны сьпеў Інтэрнацыянала,
> Комуны сьветлай вечны дзень [1]).

Пролетарыят ідзе ў будучыню ня вобмацкам, або па інтуіцыі, а на аснове пазнаньня жыцьця. Ён стварае свае тэорыі, пляны. Мы верым, бо мы ведаем. Адным словам, мы ідзем у будучыню на аснове рацыяналізму. Адгэтуль у пролетарскіх пісьменьнікаў мы маем усхваленьне навукі, сілы чалавечага розуму, маем плынь рацыяналізму.

Цішка Гартны вуснамі свайго героя Рыгора пяе гімн чалавечаму розуму: „Дык пойце-ж усе хвалёвыя вітаньні жыватворчаму жыцьцю, пойце іх, валадару ўсясьветнаму—Духу-Розуму!.. Пойце-ж! [2]).

Пазнаньне жыцьця прыводзіць да перакананьня ў яго матэрыялістычнасьці, пры гэтым моністычнай матэрыялістычнасьці—калі толькі такому пазнаньню не пярэчаць клясавыя інтарэсы, пролетарыяту гэта ня толькі не пярэчыць, а, наадварот, моністычны матэрыялізм ёсьць зброя пролетарыяту ў яго барацьбе з ворагамі, асабліва матэрыялістычнае разуменьне гісторыі, разуменьне на аснове гістарычнага матэрыялізму, на аснове марксыцкага мэтоду. Таму пролетарскім пісьменьнікам не ўласьцівы містыка ды ідэалізм, у якую-б форму апошні ня ўбіраўся. Пролетарскія пісьменьнікі маюць матэрыялістычнае сьветаўспрыманьне, падыходзяць да вакольнай рачаіснасьці з меркаю марксыцкага мэтоду.

У Цішкі Гартнага, бясспрэчна, матэрыялістычнае сьветаўспрыманьне, у яго няма ні містыкі, ні ідэалізму. Уласна яго матэрыялістычным сьветаўспрыманьнем і тлумачыцца той натуралізм, які мы констатавалі ў яго творчасьці.

Цішка Гартны падыходзіць да зьяў грамадзкага жыцьця з мэтодамі марксыцкага аналізу. Успомнім выкрытыя пісьменьнікам соцыяльныя про-

---

[1]) „Песьні працы і змаганьня", стар. 77.

[2]) „Бацькава воля", стар. 36.

цэсы дарэволюцыйных часоў на сяле, на фабрыцы, або выкрыцьце клясавага характару грамадзянскай вайны, урэшце, як тонка выкрыты соцыяльныя процэсы нашай сучаснасьці ў яго зборніку „Прысады“.

Гістарычны матэрыялізм, напрыклад, даводзіць немінучасьць пролетарскае рэволюцыі. Для Цішкі Гартнага рэволюцыя

Закону вечнага развою падухільна [1]).

Разумеючы гістарычную законамернасьць, Цішка Гартны, бясспрэчна, далёкі ад фаталізму. У яго мы знаходзім выразна акрэсьленае, пролетарскае тлумачэньне чалавечага лёсу—дэтэрміністычнае. І мы ў гэтым пытаньні ніяк ня можам пагадзіцца з думкаю проф. М. Піотуховіча, які, аналізуючы зборнік Цішкі Гартнага „Трэскі на хвалях“, кажа: „Сам аўтар дае нам тлумачэньне назвы гэтага зборніка. Сэнс вобразу расчыняецца ў перажываньнях гераіні апавяданьня „На новым месцы“. Акіліна, кажа аўтар, „стала цёсачкай, якая плавае на бурных хвалях, якой залежыць ад чужой волі быць папіхнутай на дно, ці выхапленай“. Вобразная назва зборніка выяўляе такім чынам пэўную концэпцыю жыцьця: людзі гэта трэскі на магутных і бурлівых хвалях жыцьця“ [2]).

У другім месцы памянёны аўтар паўтарае: „Так у абмалёўцы Цішкі Гартнага людзі—трэскі на хвалях“ [3]).

Такая, фаталістычная, концэпцыя людзкога жыцьця, бясспрэчна, не пасуе пролетарскаму пісьменьніку, якому ўласьціва, як намі было зазначана, актыўнае дачыненьне да жыцьця, і, як такая, далёкая ад сьветаразуменьня Цішкі Гартнага, песьняра актыўнага змаганьня, яму чужая.

Памылка паважанага дасьледчыка лёгка выкрываецца. Папершае. Падмацоўваючы сваю тэзу словамі „Акіліны з апавяданьня „На новым месцы“, крытык бярэ няўдалы прыклад, бо тут Акіліну пісьменьнік топіць ня ў „хвалях жыцьця“, а ў хвалях яе ўласнага палу, які Акіліна так бязвольна да траты сьвядомасьці захапляецца. Вось гэтае месца: „Акіліна ня помніла, што з ёй робіцца—яна згубіла памяць тады, калі яе крануў за руку Цыбулін“... „Акіліна на нейкі час як-бы перамагла свае пазывы, доўга валадаўшыя ёю, як-бы паднялася над імі, але ў рашучыя хвіліны ў яе не хапіла сілы, і яна падалася, абязволілася. Стала цёсачкай, якая плавае па бурных хвалях, якой залежыць ад чужой волі быць папіхнутай на дно, ці выхапленай“ [4]).

А, падругое, Акіліна тып пасыўнай мяшчанкі, які рысуецца пісьменьнікам у процівагу людзям актыўным, якім зьяўляецца яе гаспадар Ладымер, адданы савецкі працаўнік, які наладжвае жыцьцё. Дзіўна, чаму проф. М. Піотуховіч узяў менавіта гэтае месца за прыклад, а ня іншае, якое-б сапраўды раскрыла зьмест назвы зборніка. А пісьменьнік упамінае

[1]) „Урачыстасьць“, стар. 32.

[2]) „Росквіт“, № 1, за 1927—28 год, стар. 124—125.

[3]) Іb., стар. 125.

[4]) „Прысады“, выд, ІІІ-яе, стар. 285.

аб гэтым ня раз: „Чырвонаармеец Панкел Ліпа“ (стар. 228), „Трэскі на хвалях“ (стар. 202).

Як-жа сапраўды разумець вобразную назву зборніка? Выкрыем гэта. Зборнік мае гэткую назву ад найменьня аднаго апавяданьня—„Трэскі на хвалях“. Вось на гэта апавяданьне і трэба было паважанаму дасьледчыку зьвярнуць увагу—яно ўласна і выкрывае сэнс гэтае назвы.

У гэтым апавяданьні, як намі ўжо было констатавана ў разглядзе тэматыкі, пісьменьнік выкрывае хістаньні і дыфэрэнцыяцыю ў шэрагах інтэлігенцыі—настаўніцтва. Адны з іх, як Андрэй Камель, Плаха, усьвядомілі гістарычны процэс, сталі „новымі, здаровымі, сьвежымі“, сталі адданымі працаўнікамі на ніве савецкае асьветы, *кіруюць хвалямі рэволюцыйнага жыцьця;* другія-ж, як Сідор Браварка, якія хістаюцца, шукаюць „сухога месца“, „ня ўзьнятай цаліны“, жадаюць „адпачыць душою“, стаяць на раздарожжы, не вызнаюць сваёй дэтэрмінаванасьці, *зьяўляюцца гнілымі трэскамі, якія ў момант найбольшай раздвоенасьці, інэртнасьці, змываюцца, як бруд, новымі навевамі, магутнымі хвалямі рэволюцыйнага жыцьця.* Ня будзем даводзіць гэтага прыкладамі (а ў гэтым апавяданьні іх шмат), для нас відочна такое разуменьне зборніка „Трэскі на хвалях“. Ідэю гэтага апавяданьня пісьменьнік укладае ў наступныя словы Сідора: „Ах, чорт надаў мне наведаць гэтыя Вікуры!.. Ужо ня знойдзеш сухога месца, калі паводка разьлілася... Кругом бушуюць хвалі“ [1]).

Цішка Гартны нават выкрывае соцыяльную прыроду гэтых „трэсак на хвалях“. Ён кажа вуснамі Рыгора, героя свайго роману: „Хто трымае молат ці саху—той варт назовы будаўніка... Хто-ж цураецца гэтага—той трэсачка, якую, панасіўшы на сваіх хвалях, жыцьцё затапляе ў сваёй глыбі“ [2]).

Сам-жа проф. М. Піотуховіч змушаны быў констатаваць у зборніку „Трэскі на хвалях“ наяўнасьць актыўнага моманту—мотываў змаганьня, і ён, нібы з ласкі к пісьменьніку, пасьля кажа: „Але пісьменьнік далёкі ад фаталізму, у яго мы хутчэй знаходзім здаровы дэтэрмінізм“.

На наш пункт погляду, Цішка Гартны ня толькі, з ласкі дасьледчыка, хутчэй дэтэрміністы, а самы пасьлядоўны, вытрыманы дэтэрміністы і дыялектык. Ён разглядае жыцьцёвыя зьявы ў іх сувязі, у іх узаемнай супярэчнасьці, для яго: „Жыцьцё шліфуе людзей—людзі шліфуюць жыцьцё“ [3]).

Такім парадкам у творчасьці Цішкі Гартнага мы констатавалі наяўнасьць пролетарскай ідэолёгіі, пролетарскага сьветаўспрыманьня і сьветадачыненьня, і пролетарскую ацэнку соцыяльных процэсаў.

Гэта і дае нам права лічыць яго пролетарскім пісьменьнікам.

---

[1]) „Трэскі на хвалях“, стар. 202.

[2]) „На перагібе“, стар. 63.

[3]) Ib., стар. 323.

Асобныя налёты індывідуалізму ня могуць пярэчыць гэтаму, тым больш, што трэба ведаць, які цяжкі шлях у нас, ва ўмовах Беларусі, павінен быў прайсьці першы пролетарскі пісьменьнік, як цяжка тут было пракладаць новыя літаратурныя пуціны, пуціны пролетарскай літаратуры.

Цішка Гартны першы беларускі пролетарскі поэта і пісьменьнік, ён сваёю творчасьцю распачынае новы этап у гісторыі беларускага мастацкага слова, закладае падваліны пролетарскай літаратуры, за якою будучыня.

Калі шукаць аналёгій для нашага песьняра, то можна ў першую чаргу ўказаць на выдатнага пісьменьніка і грамадзкага дзеяча братняе Украіны Івана Франко. Ня будзем угрунтоўваць тут гэтага, зробім гэта ў бліжэйшы час.

* * *

Скончыўшы агляд творчасьці нашага юбіляра, абагуліўшы ўсё адзначанае, можна выказаць і некаторыя нашыя пажаданьні ў дачыненьні далейшай яго творчасьці.

Іх можна зьвесьці да наступнага:

У абсягу тэматыкі чакаем ад яго глыбокіх актуальных проблем нашай сучаснасьці, чакаем вобразнага адлюстраваньня фармаваньня новага чалавека.

У абсягу формальна-мастацкім жадаем большае шліфоўкі стылю і большай дынамічнасьці композыцыі.

У абсягу ідэолёгіі жадаем яму моцна стаяць на перадавых пролетарскіх позыцыях літаратурнага фронту. Змагацца за чыстату пролетарскай ідэолёгіі.

Мы глыбока пераконаны, што Цішка Гартны апраўдае нашы жаданьні і будзе, як і гэтыя 20 год, аддана працаваць на карысьць працоўных на ніве соцыялістычнага будаўніцтва.

Пажадаем доўгіх год плённай творчай працы нашаму юбіляру!

# З МІНУУЎШЧЫНЫ БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАДЗКАСЬЦІ

*(Да дваццацігодзьдзя літаратурнай дзейнасьці Цішкі Гартнага)*

**Л. Клейнборт**

I

Якраз дваццаць год назад, у сьнежні 1908 году, году расстрэлаў і шыбеніц, убачыла сьвет на старонках віленскай „Нашай Нівы" першая спроба пяра Цішкі Гартнага—поэты, літаратурнага крытыка і рэдактара часопісу „Полымя". У сваіх запісках, якія хаваюцца ў мяне, пісьменьнік рабочы апавядае аб гэтым пачатку, вызначыўшым далейшую яго дзейнасьць так.

Дваццаць год назад трапляе яму ў рукі нумар „Нашай Нівы". Прачытаў ён яго ад першага радка да апошняга; прачытаў вершы Коласа і Купалы. І нявымоўнае ўражаньне зрабіла на яго прачытанае. Гэта былі ня тыя знаёмыя, але ўсё-ж цяжкія словы, якія ён ведаў з расійскай літаратуры. Тут усё было проста, перш за ўсё проста. Перад хлопцам усё роўна як адчыніліся вароты ў вядомы, але замкнёны для яго сьвет. Да таго часу яму здавалася, што чытаць можна толькі парасійску: усе-ж кнігі, якія ён ведаў, былі напісаны парасійску. А тут „Наша Ніва" загаманіла з ім на мове, якую ён усмактаў разам з матчыным малаком, на мове, на якой гаманілі бацькі і дзяды.

— Давай, сам паспрабую напісаць пабеларуску,—мільганула ў яго ў галаве.

І ён узяўся за беларускія вершы. „Цяжка жыць бяз долі, што рабіць—ня знаю... Хіба выйду ў поле, долю паклікаю", - пісаў ён, ужо склаўшы не адзін верш парасійску. Але там ён, бывала, шукаў слоў, а тут яны самі ішлі да яго. Там ён выбіраў што наймудрэй, а тут выбіраць ня было патрэбы, усё само плыло з душы.

І вось, захоплены гэтым ён, выпісвае „Нашу Ніву", чытае яе хлапцом і дзяўчатам. Тыя таксама дзівуюцца, што на іх мове, здаецца такой простай, можна гэтак цікава пісаць.

Ад чытаньня да пісьменьніцтва адзін крок; выпісаўшы часопіс, ён пасылае ў „Нашу Ніву" допіс, пасылае другі, нарэшце—вершы, якія выходзяць у бліжэйшых нумарох.

Не, цяпер калі пісаць, дык толькі пабеларуску. Праўда, ён не датрымлівае сваёй пастановы—супрацоўнічае ня толькі ў „Нашай Ніве",

але і ў „Звезде“, і ў „Правде“, дзе друкуюцца яго вершы і дописы ў расійскай мове. Аднак, гэта ўжо справа яго партыйных сувязяй. „Правда“, „Звезда“ мелі і сваіх пісьменьнікаў даволі; беларусы-ж толькі пачалі выяўляць сябе. Натуральна, „для мяне нічога больш не засталося, як пісаць на беларускай мове“, піша ён. „Я пісаў і пасылаў свае творы ў беларускія рэдакцыі, дзе іх і друкавалі пад псэўдонімам, які так за мною і застаўся“.

II

Вось якія першыя крокі першага поэты-пролетара „нашаніўскай“ пары. І ўжо з тых гадоў—гадоў майго супрацоўніцтва ў „Современном Міре“, „Новой Жизни“, дзе друкаваліся мае нарысы рабочай дэмократыі, я аддаваў сваю ўвагу аўтару „Песень гарбара“. У 1911 годзе я пісаў аб ім у „Новай Жизни“ („Что думает интеллигенция из народа“); у 1913 годзе—у „Современном Міре“ („Фабрично-заводские поэты“); у 1914 годзе—тамсама („Беллетристы-социологи“); у 1917 годзе—у „Вестнике Европы“ („Рабочие журналы“); нарэшце—у сваім нарысе сучаснай беларускай літаратуры („Молодая Белоруссия“). Але там об‘ектам маёй увагі былі яго творы—рукапісныя і друкаваныя. Тут-жа я бяру сабе за мэту другое.

Цяжка, здаецца, назваць пісьменьніка з народу, з якім-бы я, дзякуючы маёй зацікаўленасьці народным пісьменьніцтвам—тэмай гэтулькіх маіх артыкулаў, гэтулькіх монографій,—ня быў-бы зьвязаны асабіста. Бо-ж гэтыя артыкулы, гэтыя кнігі напісаны па жывых сьлядох, сьлядох жыцьця, па матэрыялах, якіх не дастаць без асабістых сувязяй. Такімі сувязямі зьвязаны быў я і з Гартным. Але, апроч таго, Гартны—мой зямляк. Абое мы—з Капыля, мястэчка на Меншчыне.

Усё жыцьцё гэтага напалову рабочага, з камнем напоўкапіталістычных формаў эксплёатацыі за пазухай, прайшло на маіх вачох, у сувязі са зьменамі і цяжкасьцямі мінулых гадоў, тым процэсам, які і мядзьведжыя куты прымусіў задумацца ды заварушыцца паінакшаму. І тым шырэй поле маіх нагляданьняў, што мы—людзі розных пакаленьняў. І відаць мне як тое, што было раней за пакаленьне Гартнага, гэтак і тое, што прынесла апошняе, а разам з ім і сам Гартны.

Вядомы ідэёвыя шуканьні прамысловых цэнтраў, стварыўшых такіх масавікоў, якія выраслі ў самастойныя постаці, як Гарасімаў і Самабытнік, Хведар Калінін і Іван Кубікаў: засталіся-ж дакуманты ад самых раньніх гадоў. Зусім што іншае тая глуш, пра якую тут ідзе гутарка, глуш, такая недаступная чужому воку. Бунтоўны дух, жывыя пытаньні, жывыя тэмы гэтага бытаваньня стыкаліся тут з нязрушнасьцю, бездаражам, закінутасьцю, аддаленасьцю ад гарадоў і чыгунак. Між тым Гартны не адзін. Усё, што ёсьць выдатнага ў беларускай грамадзкасьці, вышла з беларускіх Акуравых. А вось удзячная задача паказаць, што

стаяла і стаіць за такім выхадцам з беларускага кута. Такую задачу я і задаю сабе пра Гартнага, грунтуючыся на тым матэрыяле, які мне прысылалі прадстаўнікі беларускай глушы, галоўным чынам, Ц. Гартны, Хв. Станілевіч і Хв. Чарнушэвіч.

III

Гэта—павятовая Беларусь, перш за ўсё—Капыль, апеты сябрам юнацкіх дзён Цішкі Гартнага—Алесем Гурло—у вершы „Капыль“:

Люблю цябе, куток мой родны,
Майго раджэньня ціхі край;
Ў халодны час, у час пагодны
Ты душу радуеш, як май...
Люблю сады твае у маі,
Іх цьвет чаруе, як цьвіце;
Як ліст апошні ападае—
Любоў ня гасьне, а расьце.
Узгоркі мілыя, нізіны
І гэты вузенькі ручэй
Мне будзяць роі успамінаў
Аб шчасьці раньніх дзён, начэй...
Люблю я шум тваіх чаротаў
Ніў рознаколерных дыван;
Твае лугі, твае балоты
Вартуе ўлетку госьць-бацян... [1])

Разьлеглы на ўзгорках, абкружаны лясамі і лугамі, Капыль—ня толькі адно з самых старых, але адно з самых прыгожых месцаў на Беларусі. Нездарма вышла з Капыля 6-7 беларускіх поэтаў. Аднак, ня гэтым спыняе на сабе ён нашую ўвагу, а тым, што стаўляе яго ў цэнтры грамадзкага жыцьця Случчыны ня толькі па гэты, але й па той бок 1905 году, непасрэдным парасткам чаго якраз і зьяўляецца Цішка Гартны.

„У Капылі—спагадным для рэволюцыйнай пропаганды кутку,—піша ў сваім днеўніку Гартны,—„ужо з 80-х гадоў лунаді вялікія ідэі вызваленьня. Яшчэ народавольцы спынілі свае народніцкія сымпатыі на гэтым асаблівым мястэчку. З аднаго боку—селянін-беларус, які пабыў у Кіеве, з другога—Клейнборт, гадунец Лейпцыгскага унівэрсытэту,—прынесьлі ў Капыль ідэі народніцтва. Але расійская соцыял-дэмократычная партыя рабілася ўсё больш і больш прызнаным кіраўнікам рабочае клясы. З буйных гарадоў марксызм перакідаецца ў павятовыя цэнтры, у мястэчкі. І вось к 1900 году, калі мне мінула шаснаццаць год, на падрыхтаванай народавольцамі глебе разраслася новая сям'я. Падобна да руху ўсёй Расіі, эволюцыянаваў і наш Капыль. На месцы народавольніцкіх ідэй вырасьлі ідэі марксыцкія“. Вось што рабіла Капыль мястэчкам

[1]) А. Гурло—„Барвенак“. Менск. 1924 г., стар. 165.

вядомым ня толькі ў мясцовых колах. Пра яго ведаў У. І. Ленін. Убачыўшы на маім стале канвэрт з штэмпалем „Капыль“, ён распытваў у мяне аб ім. Ведаў ён пра яго, здаецца, ад нябожчыка Залеўскага-Трусэвіча. Л. Мартаў у адным з монмартрскіх шынкоў Парыжу доўга апавядаў мне пра гэтае мястэчка і блізка ня думаючы, што я з Парыжу якраз і еду ў гэты самы Капыль.

Вось гэтыя дзьве хвалі і ўзьнялі на сваім грэбені Гартнага, як узьнялі менш значных, але ня менш вартых увагі поэтаў ад сахі, мысьліцеляў ад варстату. Паспрабую-ж, карыстаючы з даты аўтара „Сокі цаліны“, аднавіць тут гэтыя старонкі з мінуўшчыны беларускага мядзьведжага кута.

## IV

Гэта—„бацькі“ і „дзеці“ часамі ў сапраўдным сэнсе гэтага слова. Пачнем з бацькоў.

Гартны адзначае, што „качаться цепь великая“ пачала ў мястэчку пасьля таго, як выясьнілася дзьве постаці: беларуса-селяніна Васіля Татарынчыка і майго бацькі Н. А. Клейнборта. Аднак, аўтар запісак ня зусім правільна бярэ іх за адну дужку. Вядома, супольных рысаў было даволі і ў іх ідэёвым абліччы, і ў практычных мэтах, якія яны сабе вызначылі. Таму яны блізкія адзін да аднаго. Але браць іх за адну дужку нельга.

Татарынчык быў распрапагандаваны селянін першай паловы 80-х гадоў. Спаткаўшыся з народавольцамі недзе на поўдні, ён без ваганьняў зрабіўся іх прыхільнікам. Гэта быў прадстаўнік народніцтва з тэй пасьлядоўнасьцю і сілай, якія могуць быць толькі ў селяніне. Іншая справа—бацька. І ён стаяў блізка да народавольцаў. „Перабраўшыся за граніцу,—піша стары народаволец Ул. Іохельсон,—Зундзялевіч застаўся на нейкі час у Кёнігсбэргу. Адтуль ён езьдзіў у Расію і ў замежныя пункты. Перад тым, як кінуць Кёнігсбэрг, Зундзялевіч перадаў агэнтуру па зносінах з граніцай студэнту-мэдыку Клейнборту“ [1]). Бацька мой меў зносіны з Зундзялевічам, Іохельсонам, Лаўровым. Але, акліматызаваўшыся ў Нямеччыне, ён браў удзел і ў нямецкім рабочым руху, ведаў асабіста Бэрнштэйна, Бэбэля, Лібкнэхта. „Мы былі знаёмы з шмат кім і з социялдэмократычных верхаводаў,—апавядае Іохельсон.—Мы спатыкаліся часта з Эдуардам Бэрнштэйнам і з Каролем Каўцкім. Яны былі яшчэ маладыя. Социял-дэмократы дапамагалі нам, даючы адрасы для лістоў, пасылак“. Натуральна, марксыцкі характар нямецкага рабочага руху ня мог не зьмяншаць утопій майго бацькі, які па самым складзе свайго розуму быў чалавекам надзвычайна разважным. Вось чаму назваць яго народні-

[1]) „Былое“, № 13, 1918 г. Ул. Іохельсон—„Далёкое прошлое. Из воспоминаний старого народовольца“. стар. 59.

кам можна толькі з абмежаваньнем. Нездарма ўжо ў тыя гады—гады зачыненьня „Общественных записок“ і раней—ён так высака цаніў Маркса й Лясаля; нездарма так старанна чытаў ён і нашага Зібэра.

Яшчэ больш розьніліся Татарынчык і бацька сваёй падрыхтоўкай. Татарынчык быў добрым выканаўцам чужога, але ўласная ініцыятыва яго абмяжоўвалася нелегальнымі брошурамі, якія ён узяў у галаву на ўсё жыцьцё. Зусім іншым быў бацька, інтэлігент-розначынец, які папажыў у цэнтрах Эўропы. Іменна дзякуючы яму зьявіліся ў мястэчку часопісы таго часу: „Отечественные записки“, „Дело“, „Слово“, „Устои“. Іменна дзякуючы яму зьявіліся творы Некрасава, Шчэдрына, Усьпенскага, з аднаго боку, Пісарава, Шэлгунова, Міхайлоўскага—з другога; зьявіліся Гётэ і Гейнэ, Бюхнэр і Молешот, Дарвін і Спэнсэр, у тагочасных перакладах, зразумела... Нейкім подыхам вясны павеяла ўжо толькі ад кніг, якія пачалі пераходзіць ад местачковага інтэлігента да рамесьніка-яўрэя, ад яўрэя-рамесьніка да беларуса-мужыка, які асталяваўся на задніх вуліцах мястэчка. Але-ж на кнігах ня скончылася гэтая эра. Як з-пад зямлі вырастае нешта новае. Гуртуюцца каля бацькі і такія людзі, як сьвяшчэньнік Савіч, шляхціц Яцкевіч, такія, як К. А. Валасовіч, як памешчык І. А. Іодка. Гэта—сыны памешчыкаў, сэмінарыстыя, дзеці крамнікаў. Але ў цэнтры ўсяго стаяць нізы. Найбольш прыжыліся ў Капылі дзьве групы—група яўрэяў-рамесьнікаў і група беларусаў-сялян. На чале першай стаяў І. Шафрановіч, бяспрытульны, якога Іодка ўзяў да сябе ў маёнтак і выхаваў там у рэволюцыйным духу; на чале сялян,—зразумела, Васіль Татарынчык.

## V

Трэба толькі ўявіць сабе атмосфэру 80-х гадоў, каб зразумець гэтыя спробы селяніна-беларуса тых часоў. Вядома, усё было ў зародку, усё агітавала чалавека ня справай, а словам, але гэтыя людзі ўжо гаварылі сьмелыя словы, мелі сьмелыя думкі. Хіба гэта мала.

Я, як цяпер, памятаю сялян, якія ўваходзілі ў групу, і асабліва самога Васіля; памятаю таксама Тараса Шкілевіча і Янку Зарамбоўскага. З імі ў мяне была такая блізкасьць, якая толькі можа быць паміж хлапчуком і дарослымі людзьмі. Жандары яшчэ не пратапталі сьцежкі ў Капыль;ператрэскі, арышты былі рэдка калі. Таму і паліцэйскае начальства не паказвала сваіх зубоў, як пазьней. І вось нашы хлопцы, да якіх трэба далучыць Апанаса Татарынчыка, Цімоха Дзямідовіча, Рыгора Хмялеўскага, Язэпа Чарнушэвіча, Радзівона Маліковіча, пачынаюць зьбірацца або ў хаце Васіля, цяпер настаўніка граматы, або ў адрыне ў Тараса, або ў лугох і лясох, якія так буколічна абкружалі тую частку мястэчка, што ўпадабалі сяляне. Сабраўшыся, чытаюць літаратуру, сьпяваюць народавольніцкія сьпевы.

Ці такая была ўжо асоба Васіля, а пазьней Шафрановіча, які перабраўся з яўрэйскага цэнтру на мужыцкі край, але тое, што гарэла ў вачох Васіля і Шафрановіча, ужо блішчэла і ў вачох іх слухачоў. Што дзіўнага, калі ўжо ў тыя глухія часы складаецца тут сваясаблівая народная асярэдзіна? „Умовы капыльскага бытаваньня не давалі ні поглядам іх разгортвацца ў глыб, ні намерам іх выходзіць наверх,—піша Гартны.—Жыцьцё, абставіны глухога кута забівалі ўсе парываньні, душылі іх у зародку. Але—вядома!—усё, што мае пад сабой жыцьцёвы грунт, раз зьявіўшыся, застаецца. Таму ідэя вызваленьня і не памірала ў сэрцах народавольцаў-сялян. Яна зьвязвала іх у адно, асьвятляла ім капыльскія будні і год-ад-году ўсё мацнела ды мацнела“.

Васіль мусіў быў уцякаць і загінуў нямаведама як. Але яго месца заступіў Шафрановіч, які злучыў групы яўрэяў-рамесьнікаў і сялян у адно. Вось што было вынікам таго подыху, які прайшоў над мястэчкам, зьбліжэньне паміж мужыком і яўрэем, зьбліжэньне, якое што далей, тым конкрэтней адчуваецца.

Хоць і малой была дыфэрэнцыяцыя Случчыны, усё-ж Капыль больш ды больш набывае характар напоўпрамысловы. І чым далей ішоў гэты працэс, тым значней рабіўся напоўпролетарскі элемэнт, тым прыметней была напоўпролетарская псыхолёгія вясковай беднаты. „У нашым мястэчку,—апавядалі мне капыляне,—баставалі ўжо ў дзевяцьсот трэцім годзе гарбары“. Інтарэсы безьзямельнага і безьзямелеўшага сялянства спляталіся з інтарэсамі яўрэйскай беднаты... Вось гэтая сумесь напалову гарадзкога, напалову вясковага тыпу і дазваляе прасачыць той струмень, які, раз прабіўшыся ў гэтыя хаты, у гэтыя майстэрні—пільні, гарбарні, ганчарні, кузьні,—ня хоча паддавацца ўплывам месца і часу.

## VI

Нейкі дух непакою ня спыняецца і ў дзевяцідзесятыя годы.

Зразумела, тупаюць каля таго самага месца. Аднаго-ж паветра волі мала; інстынкт адвечнае ўпартасьці ўсё-ж мацнейшы. Аднак, голад, беспрацоўе, безьзямельле гоняць капылян у гарады. Вы зараз-жа пазнаеце селяніна, які пабыў у прамысловым цэнтры, ад селяніна, які не выяжджаў за аколіцу Капыля. Прыяжджаючы назад, хлопец прывозіў новыя разуменьні, новыя звычкі, якія рабілі яго чужым для капыльшчыны. Такім чынам, і дзевяцідзесятнікі не застаюцца ззаду ад калеі Васіля. Гэтакія—Несьцер Чарнушэвіч, Хведар Чарнушэвіч старэйшы, якога ня трэба блытаць з малодшым, Навум Татарынчык і г. д.

Гэта ўжо хваля пераходная ад народніцтва да марксызму.

І цікавы той мост, што перакінуўся ад 80-х гадоў да 900-х. Падзеі яшчэ наперадзе ня толькі ў гэтых кутох, але й па цэнтрах. Перадавое грамадзтва толькі пачынае адыходзіць ад пабеданосаўшчыны. Толькі

выходзяць першыя легальныя кніжкі Плеханава і Ільліна. Але тут ужо моладзь набывае гарту.

Гартны з маленства ведае, што ў Капылі ёсьць гурток „дэмакратаў“, якія здымаюць на лета сады, дзе яны і зьбіраюцца; што амаль усе гарбары належаць да іх. Аднак, хоць гэтыя чуткі і не даюць яму спакою, але трапіць да іх усё-ж не ўдаецца. Але вось, нарэшце, пасьбішча. Пасе каровы Хведар Чарнушэвіч, пасе і Гартны. Патроху ўсе пастухі зьбіраюцца да Хведара. Каровы пусьцілі самапасам, а самі сядзяць каля агня. І Хведар апавядае ім пра сялянскія бунты, пра старых народавольцаў; ад апавяданьняў пераходзіць да чытаньня—або вершаў Некрасава, або апавяданьняў выданьня Гарбунова-Пасадава. А то трапляе Гартны да цёткі Матроны, адданай „дэмакратам“ жанчыне, якая мела разам з сястрой прачкарню. Тут ён ужо знаходзіць Сілу Чарнушэвіча—бацьку Хведара, Міхася Дзямідовіча; паміж іх ідзе гутарка. І гутарка досыць часта пра тое самае.

— Каб нам, капылянам, прычакаць тых дзён,—кажа Сіла.

— Пачакай, пачакай,—адказвае Матрона.

Так Гартны, ня меўшы яшчэ пятнаццаці год, не прапускаўшы ніводнай раніцы, ніводнага вечару, каб не памаліцца, пасьціўшы ня толькі вялікі, але і малыя пасты, чым вельмі цешыў пабожных бацькоў,—ужо запаляе першую мару ў сэрцы, мару пра Некрасава, які рабіў на яго ўплыў яшчэ большы за гэтыя гутаркі. „Некрасаў заўладаў мною дарэшты,—піша ён.—Задачай майго жыцьця зрабілася набыць творы гэтага поэты. І я марыў пра той час, калі гэта збудзецца, калі я зраблюся уласьнікам такога дарагога для мяне багацьця“. А пакуль старанна, цярпліва перапісвае вершы ў сшыткі, а потым вучыць іх напамяць.

## VII

Цяпер асаблівую ролю грае ўжо Шафрановіч. Ён ужо пабыў у Пецярбурзе, дзе працаваў на заводзе мэталістым. Нездарма Іодка навучыў яго сьлёсарству. Аднак, тут яго ідэі ня так лёгка праходзяць яму, як у Случчыне. Арыштаваны, ён адседжвае ў турме і этапам высылаецца назад у Капыль. Але і тут ён ня кідае свайго: зноў робіцца цэнтрам усёй мястэчковай дэмократыі, якая вырасла за гэтае дзесяцігодзьдзе не ў адзін раз.

„Кожны вечар,—піша Гартны,—зьбіраліся ў яго капыльскія соцыялістыя і соцыялісткі, ладзілі гутаркі і чытаньні. Пра гэта мы ўсе ведалі, ведала і паліцыя. Але ўкусіць яго яна аніяк не магла. Папершае, Шафрановіч ужо быў хатнім настаўнікам. Калі-б хто зайшоўся да яго, дык убачыў-бы ў яго звычайных вучняў. Хлопцы і дзяўчаты сядзелі са сшыткамі, з падручнікамі, а ён дыктаваў або апавядаў, што за-звычай апавядаюць вучням. Падругое, капыльская паліцыя да пары да часу

нібы і ня бачыла гэтай вольніцы. Таму ня было сакрэтам, што ў Шафрановіча штаб капыльскіх „дэмакратаў“. І сяляне-абываталі перасьцерагалі сваіх дзяцей, каб яны баяліся дзядзькі Шафрановіча, але гэта не пашкодзіла мне пераступіць праз парог яго хаты. А як толькі пера. ступіў, мяне, як магнэсам, пацягнула туды“.

Бо Шафрановіч-жа быў ня толькі цэнтрам гэтых людзей, але і цэнтрам усіх кніжных багацьцяў мястэчка. К гэтаму часу кніжкі зьяўляюцца ўжо ў самых сялян. Каб задаволіць гэты попыт, Іван Дзямідовіч пачаў нават даставаць з Масквы танную літаратуру і прадаваць сялянам. Але ўсё-ж ані ў кога ня было такіх кніг, як у Шафрановіча, гэткага-ж, вядома, галыша, як і яны ўсе. Нездарма ў хуткім часе пасьля знаёмства з ім Гартны знаёміцца і з першай нелегальнай кніжкай, якая была для яго такой самай знахадкай, як і Некрасаў. Называлася гэтая кніжачка „Солдатская памятка“. Сказаў пра яе таварышом і ўсе разам пайшлі ў поле на край лесу, дзе, схаваўшыся ад людзей, пачалі чытаць. Чытаў Гартны, а ўсе слухалі. „Хоць чыталі доўга, аднак ніхто не крануўся з месца, не даслухаўшы да канца. Калі-ж кніжачка была прачытана,—піша Гартны,—мы як на сьвет нарадзіліся, усе чыста пачалі інакш глядзець і на жыцьцё наогул і на сваё месца ў ім“. Пасьля гэтага, зразумела, падлеткі стараюцца, дзе толькі можна, дастаць нелегальшчыну. Забыліся і на гулянкі. Яны ўжо ганарыліся тым, што іх заўважылі старыя народавольцы. Праўда, старыя яшчэ пільнуюць консьпірацыю. У свае шэрагі яшчэ іх ня пушчаюць. Але ўсё-ж падлеткі ўжо чытаюць... Міхайлоўскага! Калі тэорэтык народніцтва памёр, яны перамалёўваюць з часопісу яго портрэт і праз цэлую зіму носяць яго ў сваіх падручніках. Вымуць, паглядзяць, пажалкуюць...

## VIII

І вось ужо мінулася дзевятае студзеня, расійска-японская вайна. Пасьля галасоў рознаўчынцаў, коціцца хваля забастовак, хваля рабочага і сялянскага ўздыму па ўсёй Расіі, коціцца к 1905 году. І б'юць крыніцы ня толькі ў кіруючых цэнтрах, але і на мядзьведжых кутох.

І вось бунтоўны дух беларусаў перад намі ўжо ня ў вобразе народавольцаў, а соцыял-дэмократаў, соцыялістых-рэволюцыянэраў, у вобразе думак і пачуцьцяў, вядомых нам з рукапісных часопісаў, якія я цытаваў [1]) па „Нашай Ніве“, з якой гэтае пакаленьне ўжо зьвязана.

Гэта ўжо пакаленьне, да якога належаць Хведар Чарнушэвіч малодшы, Гурло, Красуцкі ды іншыя. На чале іх стаяў Гартны, які ўжо аддаецца літаратуры і політыцы; на падмогу яму з Менску прыяжджае Хв. Станілевіч, пільшчык профэсіяй, з Слуцку—Фабіян Шантыр, муляр. Усё гэта ўжо на галаву вышэй за тое, што нарадзілі на сьвет народа-

[1]) „Новая жизнь“, 1911 г., № 5.—„Что думает интеллигенция из народа“.

вольцы. Як-ні-як васьмідзесятнікі і дзевяцідзесятнікі мястэчка ня выходзілі з рамак плятонікі. „Суждены им благие порывы, но свершить ничего не дано“. Праўда, пашанцавала ім дастаць пашпарт для Гершуні. Але гэта ўсё-ж не „выступленьне“. Новае-ж пакаленьне пачынае сваё існаваньне іменна з выступленьняў і спраў. У Капылі ўжо працуюць ня толькі эсэры і эсдэкі; тут працуе ўжо Бунд, які зорганізаваў тут не адну сотню рамесьнікаў-яўрэяў. Ужо пасьля 9 студзеня сяляне і яўрэі разам прайшлі па вуліцах з рэволюцыйнымі сьпевамі, з выгукамі протэсту. Тады яшчэ нашыя падлеткі не належалі да організацыі. Цяпер-жа, будучы ў шэрагах організацыі, і Гартны і Красуцкі ўжо ідуць у маніфэстацыі 1 сакавіка 1905 году, у гадавіну таго дня, калі быў забіты Аляксандар II. Гэта ўжо ня кучка, гэта ўжо маса людзей. Пасярэдзіне дзяўчаты, а вакол хлопцы. Паперадзе сьцяганосцы, па бакох—распарадчыкі. Вось запелі „Варшавянку“ і рушылі па вуліцах мястэчка. У часе агульнай забастоўкі, перад маніфэстам 17 кастрычніка, гарбары, як перадавыя рабочыя, вышлі першымі на вуліцу; пайшлі здымаць рабочых з будаваньняў, зачыняць крамы на рынку. І сярод гарбароў ужо Гартны.

Моладзь ужо ня толькі клеіць проклямацыі, але й сама піша іх; ня толькі хавае зброю, але гатова ўжыць яе пры першым спатканьні з з чорнай сотняй. Калі прайшла хваля пагромаў, то і ў Капылі чакалі чаргі, бо гэта-ж пераважна яўрэйскае мястэчка. І вось ня толькі яўрэі, але і сяляне зьбіраюць грошы на зброю, складаюць дружыну, якая павінна ня даць праліцца яўрэйскай крыві ня толькі ў самым Капылі, але і ў вакольных мястэчках.

Не, гэта ўжо не „бацькі“, якія жылі аднымі марамі. Гартныя, Станілевічы ўжо трымаюцца тэй думкі, што йдзе ўжо час паквітацца за ўсё, што стагодзьдзямі цярпелі іх бацькі і яны самы. „Еще напор и враг бежит“... Пра гэта казаў ім кожны нумар газэты, кожны тэрорыстычны акт, кожнае выступленьне рабочых і сялян.

## IX

Усё-ж самадзяржаўю ня прышоў яшчэ канец. Устаноўчы збор не адбыўся ў 1905 годзе. Замест таго ў Капыль прыслалі дваццаць стражнікаў. Пачалася, з аднаго боку, організацыя хуліганаў тыпу Рамана Малевіча; з другога—расправа з „дэмократамі“, „басякамі“, як называлі ў мястэчку старых народавольцаў і маладых соцыял-дэмократаў.

Аднак, пакаленьне склалася, і пакаленьне, якое розьнілася ад „бацькоў“. Ад лятуценьняў пра народніцкую будучыню „я ўжо зьвяртаюся да зямлі, стаю на грунт рэальнага будаўніцтва,—піша Гартны.—Напрацаваўшы на будаваньнях я застаюся ў гарбарню. Не таму, што гэтае рамяство лягчэй—гэта найцяжэйшае рамяство,—не таму, што яно выгаднейшае... Не... А таму я абіраю гэтае рамяство, што ў ім сконцэнтра-

валіся самыя перадавыя рабочыя мястэчка, тыя, што праз цяжкое сваё жыцьцё—жыцьцё вечных недастач і працы—данесьлі капыльскія традыцыі да нашых дзён". Гэта быў цэнтр капыльскай грамадзкасьці. Вось чаму, хоць зарабляе Гартны толькі 70 рублёў у год, працуе ён з асаблівым стараньнем і ахвотай.

Праўда, лік нашых практыкаў меншае з кожным днём. Вось схапілі Язэпа Чыпуля, патрымалі за кратамі і саслалі ў Сібір; за ім туды-ж пайшоў Міхась Ляховіч, за Ляховічам—Александровіч. Арышты, вядома, ўзварушылі мястэчка. Трэ' было хавацца па кутках, дзе-б не знайшла паліцыя. Але як схавацца ў мястэчку, калі ўсе на вачох адзін у аднаго. І хлопцы пачалі эміграваць у Амэрыку, балазе, што сьцежка туды была ўжо пратаптана з даўных гадоў. У Амэрыку едзе Хведар Чарнушэвіч старэйшы, за ім—Шафрановіч, які не ўратаваўся і ў Менску, хоць доўга там хаваўся. Гэта выклікала невясёлыя думкі. „Я ўваходзіў у рух усё глыбей і глыбей,—піша Гартны,—а яны пачалі ўсё ўцякаць... Натуральна, і цяжар работы клаўся на мяне ўсё больш і больш". Але недарма моладзь ужо ступіла на „грунт будаўніцтва". „Мы, г. зн. я і некаторыя з маіх таварышоў, як Станілевіч Хведар, Радзівон Шкірыч, Рыгор Шкурынскі, заступілі выехаўшых у Амэрыку ды сасланых у Сібір і былі ўведзены ў арганізацыйнае бюро, на чале якога ўсё яшчэ стаяў стары капыльскі соцыялісты Несьцер Чарнушэвіч. У ягонай хаце ўсё яшчэ ажыцьцяўляліся ўсе замеры і пляны". Вядома, і Несьцер Чарнушэвіч вымушаны быў перайсьці на нелегальшчыну; Хвэдар-жа Станілевіч быў арыштаваны, за ім Рыгор Чарнушэвіч, В. Бекіш, Міхась Гомза. Не аднойчы пільнавалі стражнікі і Гартнага на дарозе да суседніх вёсак і мястэчак, куды ён перапраўляў нелегальную літаратуру; здаганялі, старанна шукалі. Пры такіх умовах рух мог заставацца толькі экономічным. Свой выраз ён і знаходзіў у тых забастоўках, добра датрыманых, якія з гэтага часу набываюць рэгулярны характар у капыльскіх гарбарнях.

„Але, ня гледзячы на арышты, усё яшчэ бадзёрыла мяне,—піша Гартны, удзельнік і кіраўнік гэтых забастовак:—і я хадзіў у гарбарню, як на пагулянку. Не зважаў нават на бруд, антысанітарыю, злучаныя з гэтай працай, не заўважаў сьмярдзючага паветра".

## X

Але пасьля 1905 году гэтая рэакцыя ішла знадворку, рэакцыя контррэволюцыі. За рэакцыяй-жа знадворнай пачыналася ўнутраная, якая ішла з самых вызваленчых глыбінь. Гэта ўжо было горай.

Бо гэтая-ж была ўжо пераацэнка каштоўнасьцяй, за якую ўзяліся самі дзеячы руху, цяпер—пасьля 1905 году—кідаўшыя яго. Бо гэта ўжо была паласа распаду рабочых організацый, партыйных цэнтраў.

У паветры ўжо запахнула „Мелким бесом“ і „Саниным“, лігамі каханьня і лігамі самагубцаў,—усім тым, што неяк раптам заўладала нават тымі людзьмі, якіх усе ведалі.

Дайшла гэтая хваля і да Капыля. „Санин“, „Половой вопрос“ Форэля, „Семья и брак“ Амельчанкі... „Неяк раптам зьявіліся кнігі па плоцьным пытаньні ў нашым мястэчку; неяк раптам пачалі імі захапляцца,—чытаем мы.—На тэй самай вуліцы, на якой вось толькі хвалявалася моладзь у соцыяльных, палітычных і партыйных спрэчках, цяпер ішлі гутаркі на тэмы рэакцыі. Тэмы рэакцыі спадабаліся і тут, як і па ўсёй Расіі“. Улетку на сёмуху верхаводы капыльскіх організацый уладзілі дыспут, прысьвечаны „Санину“. Але рабочыя ўжо раз-по-разу сьпявалі „Я хочу веселья, радостного пенья“. Шмат хто ўжо „ведаў пра лігі каханьня і зайздросьціў тэй моладзі, што жыве на ўсю“. Зразумела, у Капылі не магло быць і гутаркі пра што-якое накшталт гэтых ліг. Наадварот, ядро, вакол якога групаваўся рух, высунула супроць „Санина“ „Красную Звезду“ Багданава, супроць модэрністых і дэкадэнтаў—творы Горкага, „За сто лет“ Белямі, зборнік „Литературный распад“. „Больш за ўсіх змагаліся з санінствам бундавец Зіліцкі, потым Бляўчыцкі і Салавейчык“. Аднак, нават Гартны адзін час паддаецца новым павевам. Бо ўсё-ж, усё, здавалася, ізноў зацягнула хмарамі, тымі хмарамі, што год-ад-году, дзесяцігодзьдзі за дзесяцігодзьдзямі віселі над гэтым Капылём, як і над усёй Расіяй. І яму, гарбару, застаецца таксама гніць у задусе, у брудзе гэтай майстэрні, як паном раскашавацца з працы яго рук. І не адзін Гартны паддаваўся часова... Аднак, разам з тым яны чакаюць нейкіх зьмен. Вось ляжыць у мяне ліст: „Любы Хведар,—піша адзін аднаму,—ты заліваеш сябе сумнымі фарбамі, малюеш цяпер сваю хворую душу, як разьбіты бурай човен. Але я адгадваю твой хворы бок. Любы дружа, мне здаецца, што зноў прыдзе час плённай працы“. І Гартны сьцьвярджае, што гэтыя думкі ня доўга панавалі ў яго. „Не, я ня мог пагадзіцца з гэтым, ня мог кінуць старых думак. Толькі адна дарога заставалася мне. Гэта—барацьба і змаганьне да апошніх маіх дзён. І ў маім сэрцы ня згасала вера, што прыдзе панаваньне свабоды, у маім сэрцы гарэла ўсё тая-ж вера ў творчую моц гэтых мас“.

## XI

Дык вось яно—пакаленьне, да якога належаць Хведар Чарнушэвіч малодшы, Гурло, Станілевіч, Шантыр ды іншыя. З старых, як-ні-як, аніводны ня вышаў, як кажуць, у людзі. З маладых-жа, ня кажучы ўжо пра Гартнага, Станілевіч—прыяцель Гасьцева, з якім ён жыў у адным пакоі, друкаваўся ў „Луче“ і „Правде“; Гурло—аўтар кніг „Барвенак“, „Зорнасьць“ ды інш.; Шантыр і Хведар Чарнушэвіч—супрацоўнікі „Нашай Нівы“ і г. д.

Чым-жа яны былі іменна з боку іх ідэй? М. Меньшыкаў у сваім артыкуле пра Горкага—артыкуле, з якім генэтычна так зьвязаны ўдары па ім Меражкоўскага, Філасофава, Айхенвальда,—лічыць, што Горкі мае тую перавагу над іншымі бэлетрыстымі-народнікамі, што ён прайшоў „курс простанароднага жыцьця"; што ў той час, як тыя вывучалі лацінскія спражэньні, Горкі сапраўды вывучаў акіян народу, плаваў у ім сярод цудаў яго падводнага жыцьця, якое чалавеку інтэлігентнаму няпрыступна. Але што, на думку Меньшыкава, зьнікчэмнівае Горкага, гэта тое, што ён адукаваўся праз чытаньне кніг, шляхам таго „разьвіцьця", якое іменна і адрозьнівае інтэлігенцыю з народу[1]).

Чытаючы Горкага, Меньшыкаў праканаўся, што Горкаму вядомы тыя-ж „праклятыя пытаньні", як і акцызнаму з унівэрсытэцкай адукацыяй. І вось з-за гэтай якраз кніжнасьці, на яго погляд, і траціцца сьвежасьць ды арыгінальнасьць Горкага, як і ўва ўсіх інтэлігентаў, якія вышлі з народу. Голас інтэлігента, на думку Меньшыкава,—ужо ня голас народу, бо, уваходзячы ў інтэлігенцыю нашага кола—праз кнігі, праз часопісі,—ён бывае прыгнечаны, прыніжаны ў сваёй сіле. „Іменна адукаванасьць,—піша Меньшыкаў,—спатыкаючы талент, які выходзіць з народу, часта пазбаўляе яго асабістасьці, робіць яго сярэдняй звычайнасьцю, адбірае самы цымус яго таленту—арыгінальнасьць. Вы падумайце толькі, які цяжар разуменьняў, зусім чужых, налягае на сьвежую душу народную, як толькі яна расчыніцца для цывілізацыі. На асьцярожную работу цэлых пакаленьнаў вясковай культуры, на замкненую ў сабе організацыю пачуцьцяў і думак накладаецца мільён штэмпаляў, мільён разуменьняў, самых складаных і нечаканых—з агульным пераканаьньнем, якому мімаволі паддаешся, што гэта якраз і ёсьць сапраўднае, што гэта якраз і дае „твар" чалавеку[2]).

У гэтым заключэньні ёсьць пэўная доля праўды. Народ, вядома, прасьцей за кнігі. Фальшывы романтызм, нахільнасьць да штучнай надуманасьці, псыхолёгічнае калупаньне—усё гэта вынік аналізу, які раскладае жывое пачуцьцё, які зьвязаны з кніжным мысьленьнем. Аднак, уплывы гэтыя больш павярхоўныя, чым яно здаецца Меньшыкаву. Я ведаў гэтую моладзь, пра якую тут ідзе гутарка. З Цішкай Гартным, з Хведарам Станілевічам, з Гурло ў мяне была такая самая сувязь, як з Васілём Татарынчыкам, Шафрановічам, Тарасам Шкілевічам, Янкам Зарамбоўскім. Іншыя, як, напрыклад, Шантыр, Хведар Чарнушэвіч, пісалі мне. І павінен сказаць: як ні дае сябе чуць разумовая культура,—іх кніжныя думкі, іх вычытаныя мары ўсё-ж ня псуюць іх прастэчы. Гэта ўсё-ж не разумовая нэўрастэнія вяршынак. Гэта ўсё-ж інтэлігенты з *народу*, у сапраўдным сэнсе гэтага слова.

[1]) Гэта яшчэ быў Меньшыкаў „Недели", а ня „Нового времени".

[2]) М. О. Меньшыкаў—„Критические очерки", т. II, стар. 35—37.

## XII

Разумовая культура гэтая, сапраўды, не малая. Здавалася-б, яны і пачатковай школы часамі не прайшлі, граматыкі ў руках ня трымалі.

Гартны хоць скончыў пачатковую школу. А вось, напрыклад, Хведар Чарнушэвіч—ня той, што застаўся ў Капылі, а той, што паехаў у Амэрыку, першы настаўнік Гартнага—пастуха. Ён таксама апанаваны словам, як і Гартны. „Дапраўды, брат,—піша ён,—мне здаецца, што калі-б я меў належную адукацыю, то з мяне вышаў-бы пісьменьнік. Ну, вядома, ня клясык,—так званы пісьменьнік сярэдняй рукі. Ці дасі, брат, веры, часамі такое натхненьне находзіць... Неяк самі льлюцца рагі слоў і не абы-якіх слоў, а сапраўдных пісьменьніцкіх слоў". Але... маленькае але... „Як толькі ўспомню пра першыя граматычныя правілы, дык адразу-ж на мяне находзіць сум і нуда. І замест натхнёных слоў у мяне ў галаве пачынаюць праходзіць нейкія „зѣв, зѣвать, ротозѣй"... Гэта тыя словы з граматыкі, якія прымушаюць вучняў вучыць напамяць у школах. Ну, я толькі рукою махну ды галавою пакручу-пакручу і кажу: не, Хведар, выкінь з галавы ўсё глупства. Чытай хоць тое, што другія пішуць, дыйто хопіць з цябе. „А тут яшчэ, як на тое, Марыля граматыкі ня прывезла[1]). Але нічога. Граматыку я ўсё-ткі дастану. Папрабую яшчэ павучыць, кадук яго забяры". Такім чынам, простая граматыка ў яго яшчэ наперадзе. Аднак, прачытайце перапіску гэтага Чарнушэвіча з Цішкам Гартным. І перапіску не пра тое, пра што можна пісаць „шутя и играя". Не, перапіску па такім пытаньні, як... матэрыялізм і ідэалізм.

Ужо самая велічыня гэтых лістоў кажа, што перад вамі ня просты памен думкамі. Гэта ня лісты,—гэта артыкулы ў 30—40 старонак, якія маюць толькі форму лістоў; іх у мяне каля шаснаццаці, галоўным чынам Чарнушэвічавых. Тут гутарка ня толькі пра Маркса, пра Дарвіна, але і пра Арыстоталя, Сократа, Будду, Хрыста... Але той-бы памыліўся, хто-б падумаў, што перад намі „цяжар разуменьняў", налёгшы на душу чалавека з народу. Кніжнасьць корэспондэнтаў відавочна, але ўсё-ж гэта настроі зусім ня кніжныя.

Лісты належаць да гадоў, калі містыцызм і ідэалізм правілі паніхіду над матэрыялізмам, калі незапомныя „Вехи" вытрымлівалі выданьне за выданьнем. Горкі піша сваю „Исповедь", А. В. Луначарскі—„Религию и социализм". Што дзіўнага, калі гэтыя проблемы даходзяць і да нашых капылян. Усе-ж яны былыя сяляне. У той час, як горад даваў нам люмпэн-пролетара, скэптыка і матэрыялістага ада дна, вёска давала нам падарожнага, чалавека ня гэтага сьвету. „Ты не павінен забывацца,—піша Чарнушэвіч,—што ўсё тое, што ўбіраецца чалавекам з дзяцінства, усё тое, што насьледавана ім, можа, за вякі,—усё гэта складае так

[1]) Жонка, якая прыехала нядаўна з Капыля.

званы „характар“ чалавека. І хіба можаш ты згадзіцца, што чалавек, хаця-б і праз навуку, можа зьністожыць або зьмяніць гэты характар?“ Чарнушэвіч меў рацыю. Вось што, напрыклад, пісаў адзін з сяброў Гартнага пра Гартнага тых дзён. „Ты не глядзі на тое, што Жылуновіч (Гартны) такі рэзкі. У яго, як і ў кожнага індывідуума, ёсьць асаблівыя таемнікі ў душы. Учора на гэтую тэму я з ім горача спрачаўся і прымусіў яго прызнацца, што такі „куток“ ёсьць. Але, як пераканаьы матэрыялісты, ён душыць у сабе такія настроі. І вось што я заўважыў: калі чалавек аддзяляецца ад цэльнага, калі ён робіцца духоўна адзінотным, то думкі яго ўсё часьцей скіроўваюцца на цудоўнае, таямнічае, надзвычайнае. Такія хвіліны бывалі і ў мяне“. Гэта мы бачым ува ўсіх сялян, пачынаючы з Кальцова і канчаючы Клычковым. Што дзіўнага, калі і нашых капылян ня мінуў гэты зварот да таго, што зьяўляецца самым сьвятым думкі зямляроба, пасьля 1905 году.

У чым-жа, аднак, сутнасьць спрэчак?

## XIII

Хведар Чарнушэвіч, паехаўшы ў Амэрыку, раптам адчуў недастатнасьць таго, ад чаго ішлі і старыя беларусы і моладзь: патрэбу ў нечым, што выходзіць з рамак мэтэрыялізму. „Я заўсёды быў шукальнікам ісьціны з растучай сьвядомасьцю,—піша ён.—І, вядома, павінен быў зрачыся старога традыцыйнага бога. Аднак, хоць у мяне і выпрацаваліся матэрыялістычныя пераконаньні, але моцнага фундаманту, на якім можна-б было пабудаваць непарушнае, чамусьці не знаходзілася. Голас з сярэдзіны шаптаў мне: „гэта ня тое, гэта ня тое, ідзі далей“. Я маю „Эвангельле“ Талстога, вывучаў астраномію, палітычную экономію, „Капітал“ Маркса,—наогул, прачытаў і чытаю безьліч па розных пытаньнях. І ўсё-ж нечага не хапала. І раптам натрапіў на зусім новае для мяне. І ўсё пайшло дагары нагамі: я адразу-ж зразумеў, што гэта і ёсьць тое, што я шукаў“. Натуральна, пайшоў дагары нагамі і матэрыялізм.

„Я разумею і згаджаюся, што матэрыялізм павінен адыграць сваю ролю ў гісторыі чалавецтва,—піша ён цяпер.—Аднак, надаць яму абсолютнага значэньня я не магу“. Але чым далей, тым больш рэзка адыходзіць Чарнушэвіч ад матэрыялізму, падыходзячы часамі да таго адмаўленьня, якое зьяўляецца ў рабочых вынікам перавагі пачуцьця над лёгікай.

„Так, так, матэрыялізм! Колёсальныя посьпехі! Варта толькі параўнаць нашыя часы з часамі Плятона і Арыстоталя!—піша ён.—Але што-ж у рачаіснасьці? Толькі тое, што нявольнікі працуюць і ствараюць матэрыяльныя каштоўнасьці, а верхаводы ўяўлянага табой матэрыялістычнага рычага жаруць іх“. Вядома, умовы зьмяніліся, зьмяніліся й тыя адносіны паміж нявольнікамі і панамі, якія існавалі ў часы Арыстоталя. „Нявольнікі цяпер называюцца рабочымі, паны—капіталістымі, але прынцып застаўся той самы“. „Ты скажаш, што я ня маю рацыі. Паспрабуй, давядзі!“—прапануе ён.

Зразумела, масы бяднеюць, пролетарызуюцца, багацьці гуртуюцца ў руках некаторых. Вось-вось,—скажуць Гартныя,—„ужо дамо ім дыхту! Ага, галубчыкі, мы працавалі, стваралі ўсё, а вы складалі?.. Цяпер, калі ласка, сюды! Так, гэта добра... Павек не забудуся на вашую дабрату, паны матэрыялістыя! Але... З вашым вучэньнем я дасканала пазнаёміўся і ацаніў!“ Чалавецтва можа быць спакойным: матэрыялістыя вызначылі для яго самыя гладкія і найкарацейшыя дарогі... Вельмі добра! Не, чалавеку патрэбна сапраўднае жыцьцё зараз-жа, у гэтую-ж хвіліну. „Верхаводы-ж матэрыялістычнага падважніка ўважаюць чамусьці за лепшае гаварыць пра будучыню“. Ну, няхай, мы будзем працаваць для будучыні, толькі для будучыні... Ці значыць гэта, што фабрыкі, заводы, чыгункі матэрыялістычнымі шляхамі зробяцца ўласнасьцю ўсіх? Гэта-ж і вучэньне Магомэта, дзякуючы экспансыўнасьці народнай душы, трымаецца праз цэльныя вякі. Ці даводзіць гэта, што пасьлядоўнікі Магомэта выпраўляюцца ў выдуманы ім рай? І пытаньне яшчэ, ці спраўдзіць сябе матэрыялізм. Праходзілі-ж тысячы гадоў, і чалавецтва закалыхвала сябе марамі аб усеагульным матэрыяльным дабры на зямлі. І што-ж мы бачым?—пытае Чарнушэвіч. Вось выразкі з газэт. Яны павінны паказаць, што ёсьць прогрэс матэрыялізму, адэптам якога лічыць сябе Гартны. „Тут ты знойдзеш сёе-тое цікавае пра соцыял-дэмократыю, не пра тэорэтычную соцыял-дэмократыю, аб якой мараць у Расіі, а сапраўднай, практычнай, якая ўжо ажыцьцяўляе свае ідэалы. Скажу проста: соцыял-дэмократыя ёсьць тая самая бюрократыя калі не цалком, калі не ў яе ідэалах, то ў асобе тых шчасьліўцаў, якія выпаўзаюць да старна кіраваньня. Вось чаму я ані ня бачу, з якой прычыны шляхі шуканьняў, вызначаныя матэрыялістымі, зьяўляюцца самымі ўстойлівымі, найлягчэйшымі. Шляхі гэтыя зьяўляюцца найлягчэйшымі для адных—для верхаводаў уяўлянага табою матэрыялістычнага падважніка,—але занадта цяжкімі для другіх“.

Аднак, справа ня ў фактах, справа ў сыстэме. „Дай веры, таварышу, калі-б я ня бачыў дух гэтага матэрыялізму, дык не замерыўся-б крытыкаваць яго“. Сапраўды, адзіная субстанцыя матэрыялізму гэта—матэрыя, у моц чаго чалавек—пан прыроды, вянец стварэньня—зьяўляецца нявольнікам створаных ім самым умоў. „Не, браце, не знадворныя ўмовы вызначаюць ход жыцьця, а ўнутраны стан чалавека. Маю-ж я права, як пан прыроды, як вянец стварэньня, як індывідуум у астатнім выпадку, лічыць матэрыялістычны пункт гледжаньня вузкім, замалым для маёй душэўнай дзейнасьці“!

## XIV

Такі адпраўны пункт. Ад яго-ж Чарнушэвіч прыходзіць да сыстэмы ідэалістычных вобразаў, такіх характарных для сяляніна. Наглядаючы жыцьцё, як яно ёсьць, вывучаючы прыродазнаўчыя навукі, наш амэрыканец з Беларусі прыходзіць да заключэньня, што жыцьцё ёсьць нешта

іншае, як барацьба за існаваньне, як клясавая барацьба; што з аднаго боку—законы прыроды, законы гісторыі, сусьветная эволюцыя, як яна дадзена на павярхоўны погляд, з другога—„тое, што мы называем вышэйшым сапраўдным я“.

Матэрыялістыя, прызнаючы найвышэйшай субстанцыяй матэрыю—ігноруюць „так званую разумную субстанцыю“. „Я-ж веру, што ў чалавека ёсьць душа, разумная, няўмірушчая, маючая частачку гэтай разумнай субстанцыі“. Ёй уласьцівы толькі імкненьні да дасканальства“. Адсюль і найвышэйшая ідэя. Калі яна ёсьць наданьне „разумнай субстанцыі“, вышэйшай сілы, то посьпех ёй забясьпечаны нават пасьля сьмерці яе нашэльніка.

„Разумная субстанцыя“, якая кіруе здольнасьцямі чалавецтва да мысьленьня, прымушае ўспрыняць гэтую ідэю ў вякі. Так было з Хрыстом, так будзе і ўперад. Наадварот, пакуль чалавек будзе трымацца таго погляду, што яго зьвярынае я ёсьць сапраўднае яго я, „залатое царства соцыялізму ня прыдзе ніколі“. Чалавецтва будзе затыхацца ў матэрыялізме. Чалавек павінен паверыць у сваю несьмяротнасьць, „ва ўнутраны голас душы, той голас, які ёсьць у кожнага чалавека, але які заглушоны сілай рэчаў“.

„Ня думай, што я зноў паверыў у існаваньне бога, якога прапаведуе царква. Не, царкву я лічу за астачу балванахвальства; яе цяперашняе існаваньне лічу самай вялікай згубай для чалавецтва,—піша Чарнушэвіч.— Рэлігіі я не прапаведую. Не забываюся я чытаць навуковыя даныя для свайго вышэйшага сапраўднага я; бачу добрыя задаткі ўсіх філёзофскіх сыстэм, вучэньняў і кірункаў, успрымаю ўсё і кладу ў аснову сваіх уласных вучэньняў“. Але адна справа ўсё гэта, другая—тое, што „прымушае паглыбіцца ў самога сябе, зьвярнуцца з усёй проблемай да свайго найвышэйшага я“, не для таго, вядома, каб „выклікаць духаў“, а для таго, каб „прывесьці свой розум у той стан, які робіць мажлівым унутранае разгляданьне, чыстае і яснае мысьленьне“.

Вышэйшы розум працуе, і „ты можаш бачыць азнакі гэтай працы ва ўсім і ўсюды“. „Пахадзі за калодай пчол, і ты праканаешся ў існаваньні найвышэйшага розуму. І ты ёсьць частачка гэтага цэльнага. І ты датыкаешся з цэнтрам, і цэнтр ведае пра цябе і пра сваю роднасьць з табой“. „Вось што вы, матэрыялістыя, несьвядома забіваеце ў сабе. Вось чаму вы, матэрыялістыя, застаіцёся і застаніцёся на пазадворках. Табе здаецца, ня існуй матэрыялістычнага вучэньня, чалавецтва ткнулася-б лбом у сьцяну. Але тое, над чым я працаваў, што вывучаў, ня прынесла мне супакою. Ёсьць нешта іншае, што памагае калі не ўразумець, то зазірнуць у самую загадку жыцьця. Дыхай-жа чыстым здаровым паветрам, пацяшайся з прыгожых зорных ночаў. Слава найвышэйшаму, стварыўшаму так гэты сьвет!“

## XV

Чарнушэвіч—нядаўны заходнік—зьвяртае цяпер узрокі на ўсход. Для яго цяпер „окультыцкая" Індыя даражэй за Ангельшчыну з яе атэістычнай культурай. Свой „окультызм", вядома, ён ачышчае ад сярэднявякоўя.

Аднак, і Гартны не маўчыць яму. „Ты наважыў абы-чым замазаць маю сьвятыню,—адказвае ён,—каб паказаць у лепшым выглядзе сваю. Але гэта табе не ўдалося!" Ані і не пераконвае Гартнага гэтая „аргумэнтацыя" ўжо таму, што гэта „жывое срэбра, якога нельга намацаць—разьбягаецца". Вось вы, богашукальнікі, гаворыце пра найвышэйшы розум. Але што ён такое? Дзе яго рэальнасьць?—пытае ён.—„Для мяне, вузкага матэрыялістага, тое, што выходзіць з тваіх слоў, баіцца ўсіх пяцёх пачуцьцяў. Каб даведацца пра гэты розум, трэба, можа, быць тым, што па-за намі? Нездарма бацькі нашы—сяляне кажуць: бяз бога ні да парога".

„Сэнс іншага быцьця" Гартны стаўляе ў сувязь з патрыархальным душком, са стыхійным сымболізмам сялянства. Чарнушэвіч цяпер пераходзіць да Ўсходу. Так, так, сьветаадчуваньне дзядоў пераходзіць да ўнукаў! Прыглядзімся-ж да „преданий старины глубокой", прапануе Гартны. „Ты кажаш, што з Усходу ідзе тое,—піша ён,—што напоіць жывой вадой усіх сасмаглых. Але што ён такое, гэты Ўсход, калыска тваіх цяперашніх шуканьняў? Калісь, у даўныя часы, Усход, вядома, быў вогнішчам культуры. Ён стварыў сваю навуку, філёзофію, мастацтва. Але ўсякія вучэньні ствараюцца ў тых або іншых умовах. І вось і тое „сьвятое, вялікае, пра што ты кажаш, вышла з палацаў і з пакояў. Уся цывілізацыя, уся культура на „праведным Усходзе" ляжала ў куфрах плютократыі, мірской і духоўнай". Жрацы, прыдворнае магнацтва, раскашаваўшыя за кошт народу, стараліся працягнуць свае земныя выгады і на тым сьвеце, на ўзор, зразумела, земнага жыцьця, з яго слугаваньнем адных другім. Вышэйшая олігархія разумела тую дарагую для сябе ісьціну, што „затуманьваньнем цёмных мас, злоўленых у нявылазныя сеткі, можна цягнуць сваё панаваньне неабмежавана. І ўсе тыя, паважаныя табой цяпер мудрагелі, усе прарокі і жрацы—хто яны са сваімі вучэньнямі? Хто Заратустра, Будда, Сократ? Хто Плятон, хто Арыстоталь, Магомэт? Будда і Сократ хоць будавалі сваё вучэньне на дэмократычных асновах з ухіламі, зразумела, у бок клясавых распластаваньняў. Але Магомет па той бок сьвету стварыў олігархічнае кіраваньне, раскашаваньне адным за кошт другіх. А Арыстоталь, ці ня той гэта Магомэт? Няхай нявольнікі ствараюць матэрыяльныя выгады; мы-ж, жаручы іх, будзем панаваць і мысьліць. Такі-ж і Плятон".

Вось цана вучэньня і тэорый Усходу. Ужо дзесяткі год, як Індыя, краіна натхнёных філёзофаў, пакутуе ў няволі. Аднак, „вяшчуны-окуль-

тыстыя, якія трымаюць у руках ня толькі пяруны земныя, але і нябескія, сядзяць недзе моўчкі. У палацах і пакоях яны дарэмна сядзяць над разгадваньнем цудаў прыроды, над стварэньнем вышэйшага я. Але памагчы народу, палегчыць яго стогны? Усё толькі абяцаюць: прыдзі заўтра! Ужо цэлыя тысячы год гэтыя вяшчуны, паводле тваіх слоў, жывуць і навучаюць; тысячы год ствараюць вышэйшы розум. Што-ж гэта за розум? Як я рабін, ня больш“.

## XVI

Не,—наступае Гартны,—праявы прыроды, вядома, фэтышуюцца людзьмі. Але „уяві хоць адну праяву вышэйшага розуму“. Калі Магомэт у экстазе валадарна крыкнуў: „Гара, падыйдзі да мяне!“ дык натаўп напружана чакаў сілы, якой нібы ўладаў Магомэт. Але гара засталася на сваім месцы! Не, супроць законаў прыроды ніякі розум ня вытрымае. Рэчку не завернеш назад. Мы, матэрыялістыя, ведаем: перад намі толькі сонца, зоркі, зямля, расьліны. Усё, што мы бачым, чуем, нюхаем“... Што-ж могуць зрабіць Чарнушэвічы з сваім вышэйшым я? Тое самае, што і мы, матэрыялістыя.

Так, „быцьцё вызначае сьвядомасьць, а не наадварот“. Жыцьцё, матэрыяльнае жыцьцё толькі сьмяецца над вымудрамі. Ня дзіцяча-прастадушныя ўдасканаленьні свайго я, а барацьба, самая зацятая барацьба за жыцьцё прывядзе да мэты. Спрадвечнае-ж жыцьцё цячэ і будзе цячы. ігнаруючы гэтыя вымудры. Таму вось пад напорам колаў гісторыі, пад напорам матэрыялізму і гінуць мэтафізыкі. А экспэрымэнтальная навука вяла і вядзе гісторыю за сабой. Архімэд, Плютарх, Пітагор, Птолёмэй. Далей: Кэплер, Копэрнік, Галілей, Ньютон, Франклін... Далей: Дарвін, Эдысон, Стэфэнсон... ды ці мала яшчэ. „Ці мала мы пазналі непазнавальнага, ці мала ўцямілі няўцямнага? А што зрабілі окультыстыя, якія перафарбаваліся ў найноўшых богашукальнікаў?“ Гэта-ж і навука дасягла таго, што лечыць гіпнотызмам, штучна выводзіць цыплят, робіць протоплязму, прымушае тыхкаць сэрца, вынятае з чалавека, фабрыкуе органы чалавечага цела. Гэта-ж астрономія загадзя кажа, і ні на хвіліну не памыліцца, калі будуць зацьменьні сонца і месяца, а лётнікі на аэропляях, цяжэйшых за паветра, лётаюць па-над хмарамі; пласьцінкі гавораць, хвалі этару перадаюць гукі на тысячы вёрст, робяць здымкі на адлегласьці.

Але гэта ня ўсё. Матэрыялізм, і дзеючы на жыцьцё, робіць цуд. Ажыцьцявіўшы ідэал матэрыялістычнага вучэньня, Маркс ані не памыляўся. Чалавеку патрэбна жыцьцё земнае, іменна земнае. Тады толькі чалавек і будзе надчалавекам, калі да ўсяго схаванага ў нетрах прыроды ён падойдзе земным крокам. Нездарма пачаў падабацца заходні матэрыялізм і самому Ўсходу. Нездарма і Ўсход ідзе яму насустрач.

Пэрсія будуе чыгункі, заводзіць электрычнасьць, намагаецца рэспублікі. Арабія паўстае супроць турэцкага дэспотызму. Японія і Кітай будуюць унівэрсытэты.

Так, „вы, окультыстыя, не ад таго, каб праехаць па чыгунцы, паклікаць доктара, каб вылечыць сваё вышэйшае я? А чым можа пакарыстацца ад вас матэрыялісты? Анічым! Анічым“! „Мы, матэрыялістыя, паводле тваіх слоў, думаем нібы толькі пра будучыню. А ўсеагульныя забастоўкі, дэманстрацыі, конгрэсы?.. Хіба мы адкладаем васьмігадзінны рабочы дзень на будучыню, адкладаем страхаваньне ад беспрацоўя, няшчасных здарэньняў? А ўсеагульнае, роўнае галасаваньне? Жыць поўным жыцьцём толькі зараз, гэтую-ж хвіліну, а там—хоць трава не расьці? Не! З гэтага нічога ня можа выйсьці“.

## XVII

Як бачыце, адчуваюцца кніжныя хваляваньні. Патрэбен-жа шэраг пакаленьняў, прайшоўшых разумовую культуру, каб інтэлект селяніна, інтэлект рабочага выявіў сябе самабытна! І ўсё-ж ткі голас Чарнушэвіча, голас Гартнага—галасы людзей з народу. Гэта ўсё-ж масавікі, стопроцантавыя масавікі, якія, можа, гавораць кніжна, але адчуваюць памужыцку, папролетарску...

Так рассыпаліся капыляне—хто ў Сібір, хто ў Амэрыку. Застаюцца ў Капылі Гартны, Станілевіч, Шантыр, Гурло, Хв. Чарнушэвіч малодшы. Але вось прыходзіць і да іх чарга. Іх-жа пільнуе ня толькі арышт, іх пільнуе і беспрацоўе, што часамі горш за арышт. Памятаеце беспрацоўнага гарбара, „Гарбара на вандроўцы“ Цішкі Гартнага:

Дожджык накрапляе.
Дзень стаіць халодны.
Шпаламі клыпае
Ў пуць гарбар галодны.
Ногі чуць клыпаюць
І грабуць нясьмела;
Вочы пазіраюць
Сумна, асавела.
Апусьціліся рукі
Ад цяжкой утомы...
Дзе-ж сканчэньне мукі
Яго—невядома.
Сэрца болем рэжа,
Ў зношанай адзежы
Холадна аднача!
Косьці боль ламае.
Цяжар дацінае...
Гарбар есьці хоча,
Хоча, ды ня мае.

Гэта-ж выкідаюць рабочых на вуліцу ўжо не з-за простай выгады. Гэта ўжо помства за выступленьні, за рэволюцыйны настрой. Гэта—бяда, бяда пагрозная для рабочага таму, што дробныя і сярэднія гаспадары, якія ў 1905 годзе былі ня супроць, каб рабочыя лілі кроў за волю,—абы толькі выгады ад перамогі былі ім,—цяпер убачылі, што яны ашукаліся. Ці маглі яны не перамяніць фронту ў прамысловых цэнтрах? Тым гастрэй стаяла справа тут. Хто цяпер накорміць Гартнага або Станілевіча там, дзе іх ведаюць?

А на крык „работы“!
„Ў нас няма!“—гукаюць;
І з дзікаю ахвотай
Далей адсылаюць,—
Ня спытаўшы брата,
Ці ён есьці хоча,
Ці ён знойдзе хату
Адпачыць уночы...
Вось ідзе памалу,
А куды—ня знае;
З шпалы ды на шпалу
Ціханька ступае... [1])

Так, надыходзіць момант, калі заваяваньні нашых беларусаў адбіраюцца адно за адным; становішча хоць-бы тых самых гарбароў пагаршаецца нават у параўнаньні з тым, што было да рэволюцыі. І Гартнаму, і Станілевічу, і Гурлу і Шантыру пагражае ня толькі арышт, але і голад і беспрацоўе.

## XVIII

Гэта-ж бацькі і так паглядаюць скрыва на нашых бунтароў. А тут яшчэ лішні рот, рукі без работы... Пара ехаць і ім.

Але куды накіраваць свой човен? Зразумела, думкі нашых эсдэкаў каля прамысловых цэнтраў. Гэта мары пра Пецярбург. Бо тадышні-ж Пецярбург—цэнтр мэталёвай прамысловасьці Расіі, калыска ўсяго, што выклікала на сьвет рабочы рух. Вось-вось пачнуць выходзіць „Звезда“ і „Правда“; вось-вось зноў ажывуць профэсыянальныя організацыі рабочых. І Станілевіч першы едзе ў Пецярбург.

„У лістох да мяне,—піша Гартны,—ён раіў і мне перабрацца туды. Яшчэ да нашага ад'езду з Капыля мы гаварылі пра гэта. І ён абяцаў, калі сам асталюецца ў Пецярбурзе, перацягнуць туды і мяне“. Але Станілевіч сам сядзеў без работы і, пакуль застаўся на завод Айваз, зарабляў тым-сім у мяне. Значыць, ехаць за Станілевічам Гартнаму дый іншым не выпадала.

Але калі не Пецярбург, дык Вільня, цэнтр нашаніўскага адраджэнцтва-

[1]) Цішка Гартны—„Песьні працы і змаганьня“. Бэрлін, 1922 г., стар. 22.

Бо ўсе-ж яны ня толькі марксыстыя, але і беларусы-адраджэнцы. Пачынальнікам капыльскага адраджэнцтва быў Гартны. Да яго далучыўся Хведар Чарнушэвіч, які перайшоў на беларускую мову ў сваіх вершах, затым Станілевіч, Рыгор Шкурынскі. У хуткім часе ў Слуцку знайшлося некалькі беларусаў-адраджэнцаў, як Шантыр, Крывадубаў, Зяньковіч ды іншыя. Гэта вось і стварыла грунт для працы ў гэтым кірунку. Ня лёгка было штурхаць гэтыя дзьве хвалі. Але ўсе яны з захапленьнем чытаюць беларускія газэты і кніжкі, вядуць спрэчкі на гэтыя тэмы; выпрацоўваюць з сябе палкіх барацьбітоў за беларускасьць; ня толькі пішуць пабеларуску, але нават з не-беларусамі гавораць толькі пабеларуску. Вядома, не абыходзіцца бяз кпінаў. Не-беларусы што ні крок перакрыўляюць іх. Нават Красуцкі, які пабыў у Кіеве і вярнуўся з гарадзкімі прывычкамі, папікае іх тым, што яны захапляюцца ліха ведае чым. Аднак, яны ўпэўнены, што „Наша Ніва“ стаіць на правільнай дарозе. Натуральна, у часіну бяздаражы яны думаюць ня толькі пра Пецярбург, але і пра Вільню.

І як у Пецярбург першы выпраўляецца Станілевіч, у Вільню першы надумаў ехаць Гартны. „А мо‘ застануся там на работу, буду працаваць,— думае ініцыятар адраджэнства ў мястэчку, які ўжо 3—4 месяцы сядзіць бяз працы.—Буду пісаць у „Нашу Ніву“ і ня будзе мяне мучыць беспрацоўе“. Рэдакцыя... свае людзі... Ня можа тое быць, каб яны не памаглі ў Вільні. Ня толькі ён сам, але і ўсе таварышы думаюць гэтак. І вось ён стаіць з сваім марксызмам, з аднаго боку, беларускасьцю— з другога, перад рэдакцыяй „Нашай Нівы“.

## XIX

Аднак, у Вільні Гартнага чакае расчараваньне, як у Пецярбурзе Станілевіча. Не таму толькі, што няма работы, не, расчараваньне яго глыбейшае.

З першых сустрэч з „Нашай Нівай“ ён пераконваецца, што адраджэнства ня ёсьць нешта зьяднанае. Гэта, з аднаго боку, інтэлігенты, тыя, што кіруюць „Нашай Нівай“, з другога—поэты, бэлетрыстыя, дапісчыкі з народу, якія пішуць на старонках часопісу, як супрацоўнікі яго. І паміж імі зусім няма таго агульнага, чаго наш гарбар чакаў.

Ён пасябраваў з экспэдытарам Сьцяпанам, які памагае яму застацца часова на завод, з Палуянам—найбольш левым з публіцыстых „Нашай Нівы“. Сьцяпан, сам рабочы, глядзеўшы на жыцьцё вачыма рабочага, наводзіць Гартнага на думку, што „як-ні-як—ён чалавек рабочы і да таго-ж рабочы самай ніжэйшай катэгорыі: тыя-ж, як-ні-як—кваліфікаваныя інтэлігенты“. Тое самае кажа яму Палуян, нездаволены вяршынкай „Нашай Нівы“. Ён вінаваціць яе ў „інтэлігеншчыне, якая перашкаджае больш цесным адносінам газэты з пісьменьнікамі з народу“. Самая малая няветласьць, роўнадушнасьць,—казаў ён,—і толькі што выяўлены навічок, які абяцае, можа, вялізную падмогу, гіне для справы. Гэтак

толькі на гутарках з імі Гартны адпачывае душой ад холаднасьці да яго такіх, здавалася-б, блізкіх людзей. А прыдзе ў рэдакцыю, спаткаецца з адным, з другім і разойдуцца, як чужыя.

„Адзінотным чуўся я ў Вільні,—піша Гартны,—не знаходзіў сабе спакою ў рэдакцыі". Ня тое, каб ён вінаваціў у гэтым нашаніўцаў, наадварот, Ластоўскі (Власт) „ачараваў яго сваёй ласкавасьцю і гасьціннасьцю". Ня меншае ўражаньне зрабіў на яго Лявіцкі, які паказваў яму горад. Але ўжо сушэйшымі здаліся Луцкевічы, потым Бульба і Тройца. І ці магло быць іначай? На іх-жа ляжаў вялікі цяжар. Без капейкі пачалі яны выдаваць часопісь, без капейкі вялі яго і далей, пры варажасьці як з боку ўраду, гэтак і з боку польскага панства; за часопісам-жа стаяла падпольная работа. Трэ' было ня мала напружаньня, каб утрымаць гэты цяжар. Дзе там ім было цацкацца з Гартным. Аднак, былі прычыны і глыбейшыя, тыя іменна, пра якія казаў Палуян. Гэта выявілася ў інцыдэнце з нашаніўцам Іваноўскім, пра які Гартны піша ў сваіх запісках.

Работы для Гартнага ўсё ня было. Тады Іваноўскі павёз яго да сябе ў маёнтак. Ня думаючы, што і як там будзе, Гартны паехаў. Але як прыехалі, Іваноўскі пайшоў да сябе ў пакоі, а яму паказаў хатку, дзе пераначаваць. У хаце, як у сьвінарніку, было брудна і сьмярдзела. Была процьма мух. Ня было дзе нават сесьці. Чорная печ, пол паказвалі, што тут жывуць парабкі. „Я аглядзеў іх непачэснае жыльлё,—піша Гартны,—параўнаў з пакоямі самога нашаніўца і мяне за жывое забрала гэтая рэзкая процілежнасьць паміж панам і парабкам. Мільганула ў галаве думка: ці не за парабка прывёз мяне сюды Іваноўскі. Ці ня думае ён аддаць мяне пад загад аканому, які будзе зьдзекавацца з мяне і прымусіць тут, у глушы, далёка ад буйнага цэнтру, узбагачаць і так ужо багатага пана. Гэтак я прасядзеў гадзіны са тры ў гэтай сабачай будцы. А ў гэты час у Іваноўскага балявалі. Чуваць было сьмех, рояль, сьпевы". Нашто яго прывёз дзядзька Іваноўскі? Няўжо ён так паказвае сваю ўвагу да яго? І вось, „схаваўшы глыбока ў сэрцы памяць аб Іваноўскім", ён закідае за плечы свой клунак і ідзе на станцыю дваццаць вёрст пехатой, каб вярнуцца назад у Вільню.

## XX

Дзякуючы Сьцяпану, Гартнаму ўдаецца папрацаваць тут і на заводзе. Упяршыню пажыў ён „жыцьцём заводзкага рабочага, усімі перажываньнямі заводзкага бытаваньня, аж даператрэсак пры ўваходзе і выхадзе з заводу". У Капылі працаваў ён у напоўкапіталістычных прадпрыемствах. Па спэцыяльнасьці-ж ён быў пасадчык, юхтоўшчык, а работа на заводзе была шчыгрэневая, гамбурская. Самы спосаб работы быў ня той, да якога ён прызвычаіўся... І вось ён зноў выпраўляецца ў дарогу. Не ў Капыль-жа варочацца лішнім едаком!

У такім-жа становішчы, зразумела, і Чарнушэвіч, і Гурло, і Шантыр ды іншыя. І вось трэба толькі ўявіць сабе этапы працы, па якіх ганяе голад такога пролетара. Тут і мястэчкі, накшталт Капыля: Смаргоні, Вількамір, Брагін, Лоеў, Шаўлі, Панявеж, Жлобін, Васількаў, Белая Царква; тут і такія гарады, як Бабруйск, Менск, Палтава, Дзьвінск, Магілеў, Мітава; тут, нарэшце, Кіеў, Рыга... Што гэта было за становішча, можна бачыць па самых пераездках. Знайсьці работу сьвядомаму рабочаму ўжо ня так проста. І ён працуе дзе месяц, дзе тыдзень; рэшту-ж часу жыве на тварыскія складкі, якія, раз завёўшыся, трымаюцца дагэтуль. Чаму ён едзе ў Смаргоні? Таму што Смаргоні дагэтуль слынуць сваёй сьвядомасьцю. Але тут якраз цяпер і цяжэй дастаць работу.

І вось ён то начуе пад голым небам, то сярод ночы яго будзяць, выганяюць на вуліцу, то перабіраецца ён з месца на месца пехатой, у дзіравых камашах, з клункам за плячыма. Даводзіцца жыць і сярод басякоў, і часамі сам ён марыць пра басяцтва. Аднак побыт гэтых людзей, якія хоць і любяць волю, але зусім бясхрыбетныя, хутка яму наскоміў. „Шмат разоў пытаўся я сам у сябе,—піша наш пролетары,—дзе тое прыгаство, пра якое пісаў Горкі? І думкі пра басяцтва прагнаў". Але што-ж заставалася рабіць? „Дайшло да таго,—чытаем мы,—што я пачаў думаць, каб зрабіць сабе сьмерць". Бо ішлі-ж гады за гадамі... „Аб гэтым намеры я напісаў у „Нашу Ніву". Але Власт разагнаў маю роспач. Паддаў духу да далейшай работы".

Пра гэта самае думае ўжо не адзін Гартны. „Вось пытаньне, якое мучыць маё я. Паглядзеце на фабрыкі і заводы. Колькі там мысьлячых істот, асабістасьць якіх утаптана ў гразь, якія просяць работы... работы... толькі, каб жыць,—піша Станілевіч.—Якое-б шчасьце было мець работу! Якія страшныя людзі, як страшны мне іх справы! Я прашу працы, працы! Я, галодны, абшарпаны шукальнік людзкога шчасьця, але маё шчасьце самае дурное,—мець работу, працу. А вазьмеце капіталістага: ён вам скажа, што пакутуюць людзі з-за гультайства". „Эх, жыцьцё маё, адзінотнае, закінутае,—піша ў гэтыя дні і Гурло.—Ня жыву, а пакутую. Пакутую бясконца. Я жыць хачу, але гэта толькі адно хаценьне. Што далей? Жыцьцё плыве і гоніць дзень за днём".

> Ходзіш-блудзіш і, здаецца,
> Ўраз-бы ўпаў ў магілу—
> Гэткім болем сэрца рвецца,
> Гэтак ўсё няміла...
> Няма працы... цяжка гэта
> Мне цярпець бяз меры,
> Бо ў ёй зоў мой, мая мэта—
> Ў ёй спадзеў і вера [1]).

---

[1]) Ц. Гартны—„Песьні працы і змаганьня", стар. 21—22.

## XXI

Гэтыя, бязумоўна, самыя цяжкія гады нашых беларусаў, засьпетых рэакцыяй, з аднаго боку, беспрацоўем—з другога. Але ў сталіцах бадзёрачыя галасы ўжо растуць. Хваля новага жыцьця зноў коціцца па фабрыках, па заводах. У мядзьведжых кутох залом яшчэ ня зьняты. Але мядзьведжыя будні ўсё-ж ня ў змозе згладзіць героічны ўздым адышоўшых дзён у нашых капылян. Вось ужо пачынае выходзіць „Звезда", а за ёй „Правда", „Луч", хоць і недзе далёка...

Вось лісты, лісты іх усіх да Хведара Станілевіча, лісты тых гадоў, пра якія тут ідзе гутарка. Яны ўжо пад напорам тых самых думак і тых самых пачуцьцяў.

„Газэту „Луч" атрымліваю акуратна, апрача, вядома, нумароў конфіскаваных. Вельмі дзякую табе за тое, што ты зрабіў гэта,—піша Чарнушэвіч.—Чытаю з прыемнасьцю, з цікавасьцю. Калі ты заплаціў толькі за месяц, дык прашу цябе заплаціць і за сьнежань, каб ня было перапынку". „Прашу цябе паслаць у рэдакцыю на ўзмацненьне фонду ад спачувальніка,—піша другі.—Хацеў-бы вельмі сам паслаць што-небудзь на гэта, але ў мяне з грашыма вельмі туга". „Ты, зразумела, ужо атрымаў і перадаў у рэдакцыю „Луча" наш протэст супроць полемікі з „Правдой". Як відаць, „Луч" адмовіўся надрукаваць яго. А пажадана было-б, каб гэты протэст быў надрукаваны. Вельмі ўжо дрэннае ўражаньне робіць на нас гэтая грызьня". „Трэба-б і нам афяраваць на ўзмацненьне фонду,—піша чацьверты.—Але ты ведаеш матэрыяльнае становішча рабочых зараз. Вышла-б надзвычайна мізэрная сума". Гэта ня ўсё: нашыя капыляне ўжо цягнуцца ў „Звезду", і ў „Правду", і ў „Луч," і ў профэсыянальную рабочую прэсу, як дапісчыкі (Гартны, Станілевіч, Гурло)...

Яны падтрымліваюць бадзёрасьць адзін у адным. Як мы бачылі, і Станілевіч думаў быў пра сьмерць. І яму піша Курловіч: „З радкоў твайго лісту вее апатыя, мэлянхолія, а гэта ворагі нашай справы. Скажы, якое ты права маеш разбураць тое, што не табой створана. Гэта-ж за такую натуру, як ты, прырода можа не дала шмат і шмат каму таго, што прыпадала на іх долю, а, сконцэнтраваўшы ў табе, паслала на барацьбу. Паслала на барацьбу, каб ты ў сто разоў вярнуў атрыманае. Якое-ж права маеш ты адбіраць ад жыцьця тое, што яно стварыла найвышэйшага? Вер мне, таварышу, мне, на якога можна сьмела здацца. У спрэчках пра людзей будучыні мне заўсёды дакаралі, што я ідэалізую, што вобразы мае фантастычныя: такіх, бач, людзей, якіх я малюю, няма ў жыцьці. І я ня мог фактычна абвергнуць гэтыя погляды. Але цяпер іншая справа! Я чую гэтую сілу ў тваёй асобе. І ты думаеш аб выхадзе з жыцьця тады, калі нашая справа ня толькі не падыходзіць да канца, але яшчэ пагоршала. Але ці доўга гэтае жыцьцё будзе браць

з нас такія падаткі? Не, для ўсяго ёсьць граніца! Таварышу, ты жадаеш мне весела спаткаць сьвяты. Не, без цябе я ня ручуся за сябе. Тады і мне ня будзе сэнсу існаваць: ня хопіць веры ў перамогу соцыялізму. Не, няхай зноў жыцьця ніякага. Але ўсе ўжо чакаюць, чакаюць з нецярплівасьцю вясны. Увесну жыцьцё зноў павінна закрынічыць, новыя сілы павінны зноў прысьці".

## XXII

Сапраўды, ужо растае, ужо вясна ня толькі ў цэнтрах, але і ў провінцыі. Разыходзіцца змрок і тут. І адпаведна з тым, як тухне балотны аганёк, тое, што нагадвае 1905 год, зноў бярэ пад сваю ўладу і Станілевіча, і Гартнага, і Гурло, і Шантыра. „У Вількаміры ў гэты час,—піша Гартны ў сваіх запісках,—ужо ня было ніякіх рабочых організацый. Аднак, людзей, гатовых у кожны момант узяцца за гэтую справу, было аж занадта, бо ўсе-ж яны былі нядаўна членамі розных партый". І ён ужо бярэцца за работу. „Я быў цьвёрдакаменным соцыял-дэмократам,—чытаем мы,—і, зразумела, знаходзіў глебу для сваіх ідэй. У бібліотэцы, на вуліцы, дзе толькі спатыкаў рабочых,—я ўжо вёў пропаганду. Нават гімназыстым тлумачыў пры зручным выпадку програмы розных партый. Бо я-ж ведаў, як стаяць справы ў Петраградзе, праз Хведара. Ну, з Вільні, Адэсы, Магілева таксама меў паведамленьні".

Уздым 1911—13 г. г. характарызуецца імкненьнем мас да пытаньняў культуры, літаратуры, мастацтва. Іменна ў 1911—13 г. г. вырастае сетка рабочых-поэтаў, рабочых-бэлетрыстых, крытыкаў; іменна ў 1911—13 г. г. ствараецца рабочы тэатр і рабочы актор; выходзяць зборнікі пад рэдакцыяй Горкага, і нашыя беларусы кіруюцца ў гэты бок. Станілевіч усё бліжэй зьвязваецца з „Лучом", Гартны, Гурло—усё бліжэй з „Правдой", з „Нашай Нівай", „Маладой Беларусьсю"; Шантыр і Хв. Чарнушэвіч застаюцца толькі на старонках віленскіх выданьняў, але зьвязваюцца ўсе з друкам мацней і мацней.

І вось што цікава. Іх асноўныя інтарэсы—у беларускасьці, у беларускім адраджэньні. Аднак, ад гэтага не зьмяншаюцца ў іх інтарэсы расійскай літаратуры, інтарэсы агульнарасійскага руху. Трэба было толькі пачацца цкаваньню на Горкага—у сувязі з пастаноўкай „Бесов" у Мастацкім тэатры,—каб Станілевіч, ужо на парозе ўздыму, пісаў мне: „Горкі памёр, Горкі сьціх,—кажа шэраг буржуазных крытыкаў і публіцыстых.—І ім даюць веры. Але хто? Усе тыя, хто агледзеўся і зразумеў, дзе Горкі, з кім пайшоў, дзе апынуўся. Дзе-ж вы, тыя, што пахавалі яго? Ага, спалохаліся нашага Максіма і жыўцом кладзіцё яго ў труну. Вядома, для вас ён страшны. Вам ён чужы. Але ведайце і памятайце раз назаўсёды: ён ніколі ня быў ваш. Мы, рабочыя і сяляне, нарадзілі яго з сваёй народнай душы, уклалі ў яго моўнасьць, якой-бы ён вёў нас, натхняў тых, хто застаецца ззаду, будзіў тых, хто сьпіць.

„Буревестник—грозной молнии подобный—реет“. „На ўсё жыцьцё застанецца ў мне тое хваляваньне, якое ўвайшло ў маю душу, калі я прачытаў словы: „Не баючыся, трэба плыць супроць вады. Як прыемна разьбіваць напор хваляў“,—піша мне другі.—Так, думаў я, вось дзе Горкі. Значыцца, ён наш, мой, прынамсі. Мой пясьняр-натхняльнік. Людзі гаротныя і абцяжаныя, мы не адны, мы з Горкім“. Быццам полымя душы пісьменьніка—іх уласнае полымя, якое яны зноў разьдзімаюць!

Пасьля сьмерці Талстога Гартны піша мне: „Калі Расію напаткала вялікае няшчасьце—сьмерць Талстога,—я, хоць і не падзяляў яго поглядаў на жыцьцё, мораль, яго філёзофію грамадзкіх адносін, усё-ж спалохаўся: быццам скаланулася пада мной зямля. І спытаў я сябе: што будзе без Талстога? Хто застоіць, хто параіць? І горкую нікому невядомую сьлязу зраніў на мокрую, брудную зямлю. Зрабілася жудасна, і пачаў я шукаць людзей у літаратуры, на каго-б абаперціся, як на моральны аўторытэт. Перабраўшы ўсіх, я спыніўся на Караленку. І не памыліўся. Дзейнасьцю сваёй Караленка вырастаў у вялікага славутага чалавека, які цалком прываблівае мяне сваёй асобай. І я ня ведаю, ці вытрымаю я тую страту, страту паважанага Караленкі, калі толькі лёс прымусіць мяне перажыць яе! О, я не хачу нават думаць пра гэта! Хацелася-б тварыць цуды, каб пазбавіць яго сьмерці. Бо што тады будзе з Расіяй, дзе яна знойдзе такіх сыноў“.

## XXIII

Новыя ўмовы ўжо ня могуць не ствараць новы фундамант і пад нашых беларусаў. Іх марай, як мы бачым, быў горад, гарадзкі цэнтр, організуючы і волю сялянства, і волю рабочай клясы. І вось—мы бачым—адны зьвязваюцца, нарэшце, з Вільняй, другія—з Пецярбургам, дзе ўжо набіваюць здаровыя і моцныя мускулы на фабрыках і заводах.

З першымі забастоўкамі, першым размахам уздыму мы ўжо бачым Станілевіча рабочым заводу Айваз, дзе ён працуе разам з Гасьцевым, Гартнага і Гурло—рабочымі завода „Вулкан“ у Пецярбурзе. Але тут ужо іх чакае разыходжаньне: Станілевіч схіляецца да „Луча“, Гартны—да „Правды“.

„У 1913 годзе,—піша мне Гартны,—я ўжо вёў заўзятыя дыскусіі з меншавікамі, будучы членам культурна-асьветнага таварыстве „Знание“ на Вялікай Грабяцкой. Мяне цягнулі ў меншавікі, у газэту „Луч“ меншавікі члены таварыства—Станілевіч, Фядулаў, Шымкун ды іншыя. Але я далучаўся да міжраёнцаў і бальшавікоў. Праўда, некалькі маіх вершаў зьявіліся ў газэце „Луч“. Але ў асноўным я пісаў у „Правду“, а яшчэ раней—у „Звезду“. І чым далей, тым разыходжаньне робіцца глыбейшым. Бо-ж над Расіяй, над Беларусьсю ўжо вісіць пагроза вайны. Ужо стаяць адны супроць адных абаронцы, з аднаго боку, паражэнцы—

з другога. „Шмат хто з іх трымаецца пагляду абаронцаў. Гэтага пагляду трымаецца і мой блізкі таварыш Станілевіч, захоплены меншавіцкім настроем,—піша мне Гартны.—І мне трэба весьці з ім гострыя дыскусіі“.

Яно і зразумела. К часу-ж вайны ня толькі Вільня, але і Пецярбург робіцца цэнтрам беларускага руху, організацыі беларускіх сіл. У той час, як Станілевіч адыходзіць ад беларускасьці, увесь аддаўшыся агульнарасійскай рабоце, Гартны, як і Гурло, як і Шантыр, зьвязваюцца з беларускасьцю ўсё цясьней ды цясьней. Але беларусы, як і бальшавікі, усе стаяць на позыцыі „паражэньня“...

---

Гэтак усё, што было выдатнейшага ў нізавой Случчыне, увесь вынік работы пакаленьняў беларусаў-сялян, беларусаў-рабочых, найбольш яскрава адбілі два чалавекі: Хведар Станілевіч і Цішка Гартны. Нездарма і злучала іх такая сувязь. Нездарма і трымалася за іх гэтая моладзь нават і пасьля таго, як яны адарваліся ад Случчыны. Але вайна, рэволюцыя... Новая Расія, перамены вялізнай важнасьці... Перад усім гэтым ужо траціцца асобны чалавек і яго лёс...

Рэволюцыя з яе практыкай, зразумела, рассыпала капылян па гарадох, па вёсках. Як адно цэльнае, яны не захаваліся. Але характэрна гэтая спроба, спроба двух пакаленьняў беларусаў-сялян асьвятліць мядзьведжы кут сьвятлом дарэволюцыйных гадоў. Характэрна гэтая лінія ад Васіля Татарынчыка да Цішкі Гартнага, так памятная мне з восемдзесятых гадоў.

„Тарас Шкілевіч, Піліп ды Янка Зарамбоўскія, Міхась Дзямідовіч,—піша мне Гартны,—і зараз яшчэ жывыя, і зараз перадавыя сьвядомыя людзі“. І нічога дзіўнага, раз у іх ёсьць ужо ня толькі дзеці, а і ўнукі, няма ў тым, што мы маем ужо пакаленьне, якое ідзе на зьмену Станілевічам і Гартным. Бацькі і дзяды пакінулі памяць аб сабе, як бачылі мы вышэй. Але новыя парасткі—новыя птушкі; новыя птушкі—новыя песьні, як кажа адзін з гэтых унукаў:

> Зарасло мінулае быльлём;
> Засталося толькі успамінам.
> Новым дням мы правім акцябрыны,
> Новым дням вітаньні ў песьнях шлём.

# З. ЖЫЛУНОВІЧ, ЯК ГІСТОРЫК

## М. Мялешка

### I

З. Жылуновіч добра вядомы шырокім колам працоўных мас у Беларусі і па-за межамі яе ня толькі, як найвыдатнейшы пролетарскі пісьменьнік, як найвыдатнейшы публіцысты і літаратурны крытык, як рэволюцыянэр і грамадзкі працаўнік, але і як гісторык нацыянальна-рэволюцыйнага руху ў Беларусі.

Гістарычныя элемэнты мы часта сустракаем у літаратурных творах З. Жылуновіча (Цішкі Гартнага). У яго поэмах: „Капыль“ [1]), якая напісана яшчэ ў 1914 г., „З цыклю „Чырвоная радзіма“—„Случчына“ [2]), і зноў „Капыль“ [3]) і інш., выяўляюцца рысы гістарычнага жыцьця Беларусі, паказваюцца клясавыя суадносіны ў гістарычным кругабегу, малююцца вобразы заняволеных сялян і рамесьнікаў і магнатаў-эксплёататараў. Але поэта ў сваіх вершах, поўных рэволюцыйнай бадзёрасьці і гарту, зьвяртаючыся да гістарычных падзей, ня імкнецца даць поўны малюнак нашай гісторыі, ён, падкрэсьліваючы толькі паасобныя моманты, надае чытачу больш рашучасьці ў змаганьні за вызваленьне прыгнечанай Беларусі і яе працоўнага народу.

З 1922 г. ў друку, пераважна ў часопісе „Полымя“, зьяўляецца цэлы шэраг нарысаў З. Жылуновіча па гісторыі нацыянальнага і рэволюцыйнага руху. Аўтар у сваіх монографіях не паглыбляецца ў „пыл вякоў“, не вывучае пытаньні, якія мала зьвязаны з сучаснымі падзеямі і з бягучым гістарычным момантам у Беларусі. Яго гістарычныя нарысы шчыльна зьвязаны з тымі пытаньнямі, якія так нядаўна хвалявалі беларускую грамадзкасьць. Ён імкнецца на падставе гістарычнага разьвіцьця правільна разьвязаць пастаўленае жыцьцём тое ці іншае пытаньне ў соцыялістычным будаўніцтве Савецкай Беларусі. Гэта ён робіць дасканала і навукова, як вельмі добры знаўца нацыянальнага і рэволюцыйнага пытаньня ў Беларусі.

Яго гістарычныя нарысы, бязумоўна, маюць вялікую каштоўнасьць і становяць у беларускай гістарычнай літаратуры новыя пытаньні, новыя проблемы.

---

[1]) Газ. „Вольная Беларусь“, 1917 г., № 22.

[2]) „Полымя“, 1925 г., № 3, стар. 21.

[3]) „Полымя“, 1926 г., № 1, стар. 73.

Свае гістарычныя працы ён піша вельмі сьцісла, грунтуецца амаль выключна на дакумантальных крыніцах і на фактах па ўласных успамінах. Некаторыя яго нарысы да гісторыі БССР зьяўляюцца выкладам гістарычных фактаў і падзей, якія маюць вялізнае значэньне для гісторыі Беларусі.

Усе гістарычныя працы З. Жылуновіча можна падзяліць на тры часткі: 1) гісторыю рэволюцыйнага руху ў Беларусі ў дарэволюцыйны пэрыод; 2) гісторыю нацыянальна-рэволюцыйнага руху і 3) гісторыю ўтварэньня БССР.

## II

У вывучэньні гісторыі рэволюцыйнага руху ў Беларусі ў дарэволюцыйны час З. Жылуновіч зьяўляецца піонэрам. Пакуль не зьявілася ў друку яго грунтоўная праца *„Рабочы рух у Беларусі ў 1905 г. і яго разьвіцьцё з 1890 г.“* [1]), у беларускай гістарычнай літаратуры па гэтым пытаньні ня было ніводнае працы, якая-б магла больш-менш здавольваць патрэбы ў вывучэньні барацьбы пролетарыяту на Беларусі. Аўтар дасканала высьветліў пастаўленае перад сабой пытаньне. Ён у поўнай меры скарыстаў даныя, раскіданыя па розных выданьнях і нават зарубежных расійскіх газэтах. Апрача гэтага, аўтар вывучаў і архіўны матэрыял і высьветліў некаторыя яшчэ ня зусім вядомыя факты.

З. Жылуновіч у гэтай сваёй працы, як і ў іншых, грунтуецца выключна на фактах і, апісваючы асобныя моманты змаганьня рабочых, з усёй дакладнасьцю і паўнатой падае і характарыстыку гэтага змаганьня.

Спыніўшыся спачатку пабежна на рэволюцыйным выбуху 1905 г., аўтар далей разгортвае старонкі гісторыі рабочага руху з 1890 г. Разглядаючы ўсе этапы рабочага руху з марксыцкага пункту гледжаньня, ён увесь свой досьлед грунтуе на соцыяльна-экономічных падставах і на разьвіцьці прамысловасьці Беларусі. Гэта і надае досьледу большую дакладнасьць і каштоўнасьць. Вывучэньне руху аўтар пачынае з масавых кас, якія ў Беларусі ў свой час былі прототыпам профсаюзаў, далей пераходзіць да характарыстыкі прамоў рабочых на першамайскіх маніфэстацыях у г. Вільні ў 1892 г. Дакладна з лічбамі аўтар падае даныя аб цяжкіх умовах працы, спыняецца на экономічным змаганьні і яго характары. „Ня дзіва,—кажа аўтар,—што вакол экономічна-профэсійных пытаньняў і вярцеліся прамовы рабочых на сьвяце першага мая ў 1892 г. ў г. Вільні. Як палепшыць свой стан—было асноўным заданьнем на першых часох сьвядомага рабочага руху на Беларусі. Адгэтуль—патрабаваньні чыста экономічнага характару ў тых забастоўках, якія вынікаюць з спрэчак між рабочымі і гаспадарамі. Політычны элемэнт далучаецца ўжо тады, калі ў Беларусі пашыраецца праца соцыялістычных партый

[1]) „Полымя“, 1925 г., № 8, стар. 113—157.

і асабліва яўрэйскай партыі „Бунд“, якая ў 1897 г. злажылася ў масавую партыю. Бунд захапіў пад свой уплыў шырокія гушчы яўрэйскіх рабочых і аб'яднаў многа гарадоў ды мястэчак Беларусі. З гэтага часу ўплыў яго на рабочых хутка расьце і характар рабочага руху паступова зьмяняецца“ [1]).

Ён спыняецца на вядомай забастоўцы рабочых цыгарнай фабрыкі Эдэльштэйна ў Вільні, на забастоўках, што распачаліся ў 1895 г. ў Вільні, Менску, Беластоку, Рослаўлі, Смаргоні і інш. У Менску з 1894 па 1896 г.г. адбылося 45 розных забастовак, а ў Вільні нават 56. Усё гэта характарызуе рост рабочага руху. „У 1897 г. адмеціўся новы ўздым забастовак,— кажа аўтар.—Шчотачнікі, тытуньнікі, краўцы, шаўцы выставілі патрабаваньні дзесяцігадзіннае працы ў дзень, замест 14—16 гадзін, і павялічэньне заработку. Забастоўка ў гэтым годзе ахапіла: Віцебск, Слонім, Берасьце, Беласток і Менск. Зьвярнула на сябе ўвагу ня толькі Беларусі, а і ўсёй Расіі вялікая забастоўка беластоцкіх ткачоў, у якой прымала ўдзел 26.000 чалавек“ [2]). Усе гэтыя забастоўкі былі мала арганізаваны і таму, як, напрыклад, Беластоцкая, скончыліся няўдачна для рабочых. Але затое яны сьведчылі, што рабочым патрэбна арганізаванасьць і згуртаванасьць. З другога боку, уздым гэты падрыхтоўваў добрую глебу для соцыялістычных ідэй, якія неўзабаве пачалі распаўсюджвацца віленскімі соцыял-дэмократамі.

Далей аўтар спыняецца на стварэньні розных палітычных партый і іх уплыве на рабочы рух у Беларусі. Рабочы рух набывае іншы характар,—выразна ўжо вызначаецца палітычны бок, і змаганьне рабочых набывае большую ўпарадкаванасьць, рашучасьць і моц. Гэтаму дапамагае прамысловасьць, якая паступова ўзрастае ў Беларусі і ўтварае, хаця і невялікі, кадр чыстага пролетарыяту. Нацыянальны ўціск таксама, як і соцыяльна-экономічны, зрабіў свой уплыў на рабочы рух у Беларусі. У такім кірунку З. Жылуновіч паступова высьвятляе рабочы рух да 1905 г., спыняючыся падрабязна на ўсіх праявах гэтага змаганьня.

На падставе зробленага З. Жылуновічам досьледу, мы бачым, што рабочая кляса Беларусі была падрыхтавана даволі грунтоўна ў упартым змаганьні цэлага шэрагу гадоў напярэдадні 1905 г., каб у першай расійскай рэволюцыі распачаць рашучае змаганьне з капіталістычным ладам за вызваленьне рабочае клясы.

Пасьля дакладнага аналізу рабочага руху да 1905 г. З. Жылуновіч пераходзіць да высьвятленьня паўстаньня рабочых і сялян у 1905 годзе. Рэволюцыя 1905 году ўскалыхнула працоўныя масы Беларусі, прабудзіла ў іх палітычную сьвядомасьць і выклікала на рашучае змаганьне. Весткі аб пецярбурскіх падзеях 9(22) студзеня 1905 г. ў беларускіх рабочых

[1]) „Полымя“, 1925 г., № 8, стар. 115—116.

[2]) Ibidem, стар. 116.

выклікалі нячуванае абурэньне. „Буйныя забастоўкі шырокаю хваляю пранесьліся па ўсіх кутках Беларусі, захапіўшы дзесяткі тысяч рабочых і рамесьнікаў. У палітычны рух на гэты раз увашлі гушчы рабочых-беларусаў, якія да 1905 году далёка адставалі ад рабочых-яўрэяў“ [1]). Аўтар з усёй грунтоўнасьцю і дакладнасьцю прасачыў за разьвіцьцём рэвалюцыі 1905 г. ў Беларусі і за яе паражэньнем. Ён паасобку апісвае рэвалюцыйныя выбухі ў кожным горадзе, у кожным мястэчку, закранае сялянскія паўстаньні і чыннасьць розных соцыялістычных партый. Як вядома, у Беларусі ўжо к 1905 году існаваў, апрача С-ДРП і Бунду, цэлы шэраг нацыянальных партый, якія так ці іначай рабілі ўплыў на рабочы рух у 1905 г. ў Беларусі. Рэволюцыйныя падзеі ў Беларусі З. Жылуновіч узгадняе з падзеямі, што адбываліся ў Расіі і на Украіне. Аўтар таксама зазначае некаторыя асаблівасьці рэволюцыйнага руху ў Магілеўшчыне і Віцебшчыне ў параўнаньні з іншымі часткамі Беларусі.

Аўтар з усёй паўнатой разглядае расстрэл рабочых 18 кастрычніка 1905 г. ў Менску на пляцы ля Віленскага вакзалу,—здарэньне, якое ўвайшло ў гісторыю пад назвай Курлоўскага расстрэлу. На гэтую жудасную расправу царскай улады з паўстаўшымі рабочымі Менску, якія спакойна сабраліся на пляц, каб даведацца аб маніфэсьце 17 кастрычніка, аўтар зьвяртае пільную ўвагу і падрабязна апісвае ўвесь ход падзей. Для высьвятленьня гэтага пытаньня З. Жылуновіч скарыстаў шмат новых даных, якія зьявіліся ў друку пасьля рэволюцыі. Аўтар падае некалькі цытат з кнігі ген. П. Курлова „Конец русского царизма“, дзе ён выстаўляе сябе невінаватым у гэтым расстрэле. З. Жылуновіч кажа: „Па чыйму распараджэньню было гэта зроблена, дагэтуль асталося няясным. У дакумантах і запісах ня знойдзена пакуль гэткіх указаньняў. Ды гэта ня цікава: аддаваў прыказ страляць той ці другі жандар, той ці іншы прадстаўнік улады. Бязумоўна, факт адзін: што ў гэтым расстрэле павінна ўся менская ўлада на чале з губарнатарам Курловым. Апошні, як галава гэтае ўлады, зьяўляецца непасрэдным віноўнікам расстрэлу. Яшчэ 12 кастрычніка, сазваўшы да сябе на кватэру ўсіх прадстаўнікоў вайсковых частак, ён абвясьціў ім „настойчивую патребность действовать при подавлении беспорядков оружием“ [2]).

Спыніўшыся таксама на расстрэле рабочых у Вільні 21 кастрычніка, З. Жылуновіч пераходзіць да разгляду рэволюцыйных падзей, пачынаючы з кастрычніка, у Магілеўшчыне, Віцебшчыне і Горадзеншчыне.

Як вядома, з кастрычніка м-ца наогул рабочы рух абхапіў шырокія колы і перапалохаў буржуазію, якая спачатку выступала проці царызму. Зрада буржуазіі дала перавагу царызму, які, як вядома, у сьнежні месяцы зусім прыдушыў рабочы рух у Расіі. „На гэты раз,—кажа аўтар,—самадзяржаўе знайшло сілы справіцца з рэволюцыйным выбухам і закрапіць

[1]) „Полымя“, 1925 г., № 8, стар. 124.
[2]) Ibidem, стар. 145—146.

свае позыцыі на грудах целаў рабочых. Гэтыя позыцыі яно трымала яшчэ цэлых 12 год, спраўляючы нясупынныя оргіі распраў з няўстрашным, новым уздымам рабочых гушчаў, які прайшоў люты і кончыўся кастрычнікам 1917 г."[1]).

Нібы дадаткам да разгледжанай вышэй працы З. Жылуновіча, зьяўляецца напісаная ім прадмова да кнігі „Соцыялістычны рух на Беларусі ў проклямацыях 1905 г." (1927 г.), уложанай М. Мялешкам. У гэтай прадмове (стар. 7—10) аўтар вельмі сьцісла разглядае дзейнасьць розных соцыялістычных партый і іх значэньне ў рабочым руху 1905 г.

Водгукам на расстрэл рабочых 18 кастрычніка 1905 г. была пастанова Менскай організацыі партыі соцыялістых-рэволюцыянэраў забіць віноўніка расстрэлу—менскага губарнатара П. Курлова. Выканаць гэту пастанову самаахвотна згадзіўся сябра організацыі С.-Р. Ян Пуліхаў. 14 студзеня 1906 г. ён разам з Зосяй Ізмайловіч прабаваў забіць Курлова. Бомба, якую кінуў Пуліхаў, не разарвалася, а Ізмайловіч страляла, але не папала ў Курлова. Ваенна-палявы суд іх абодвых прысудзіў павесіць, але для Ізмайловіч замяніў потым гэтую кару на катаржныя работы, для Пуліхава прысуду не зьмянілі, і ён быў павешаны ў Менску на браме Менскага вастрогу.

Пуліхаў перад сьмерцю напісаў ліст да сваіх таварышоў. Пра гэты надзвычайна цікавы дакумант ня ведалі ні дасьледцы, ні шырокія колы грамадзянства, пакуль яго не адшукаў і не апублікаваў З. Жылуновіч[2]). У гэтым лісьце Я. Пуліхаў апавядае сваім сябром, як адбываўся суд над ім і Ізмайловіч і як яны трымаліся на судзе і, урэшце, назаўсёды разьвітваўся з сваімі таварышамі.

З прац З. Жылуновіча да гісторыі змаганьня з царызмам варта яшчэ адзначыць яго нарыс *„Менскае таварыства прыгожых мастацтваў"* (*З гісторыі опозыцыйнага руху ў Беларусі*)[3]).

У 90-х гадох XIX ст. у Менску стварылася таварыства прыгожых мастацтваў, афіцыяльная мэта якога была культурная работа. Паступова гэта таварыства пачало папаўняцца дзеячамі розных рэволюцыйных партый. У яго ўваходзяць народавольцы: С. Кавалік, А. Бонч-Асмалоўскі і с.-р. С. Скондракоў і іншыя. Паколькі гэта таварыства трымалася левых поглядаў, а ў 1904—05 г. г. выразна выявіла рэволюцыйныя імкненьні, дык царскія чыноўнікі пачалі пісаць рапорты губарнатару Курлову аб тым, што таварыства пашырае шкодныя ідэі. Аўтар тут і высьвятляе лёс таварыства перад яго ліквідацыяй, на аснове афіцыяльнай перапіскі, узятай З. Жылуновічам з архіву і апублікаванай ім.

---

[1]) „Полымя", 1925 г., № 8, стар. 157.

[2]) З. Ж[ылуновіч]. „Перадсьмертны ліст Я. Пуліхава", „Полымя", 1924 г., № 2 (10), стар. 215—218.

[3]) „Полымя", 1924 г., № 3 (ІІ), стар. 160—166.

Вышэйпаданымі працамі, калі ня лічыць некаторыя нарысы З. Жылуновіча, надрукаваныя ў беларускіх газэтах,—яны маюць некаторае гістарычнае значэньне ў вывучэньні рэволюцыйнага руху ў дарэволюцыйны час,—абмяжоўваецца З. Жылуновіч у сваіх досьледах па гісторыі рэволюцыйнага змаганьня ў Беларусі. Цяпер яго цікавяць другія пытаньні ў нашай гісторыі, пытаньні, якія шчыльна зьвязаны з нашымі днямі соцыялістычнага будаўніцтва Савецкай Беларусі.

III

Працы З. Жылуновіча па гісторыі нацыянальна-рэволюцыйнага руху ў Беларусі даюць гістарычнае ўгрунтаваньне шмат якім зьявам у беларускім нацыянальным пытаньні і выяўляюць той грунт, на якім расла і разьвівалася нацыянальна-рэволюцыйная сіла ў Беларусі. Гэтаму пытаньню аўтар прысьвяціў некалькі грунтоўных нарысаў, на якіх мы тут і спынімся.

У нацыянальным пытаньні не малую ролю на Беларусі адыгрывала інтэлігенцыя. Беларуская інтэлігенцыя разьвівалася і жыла ў асаблівых умовах, таму ў часе кастрычнікавых дзён сярод беларускай інтэлігенцыі, якая стала на бок савецкай улады, у нацыянальным пытаньні выявіліся розныя плыні. Нават яшчэ ў 1926 г. пытаньне ідэолёгічнага афармленьня беларускай інтэлігенцыі шырока абгаварвалася ў грамадзкіх колах Савецкай Беларусі.

У сувязі з гэтым З. Жылуновіч напісаў цікавы досьлед *„Беларуская інтэлігенцыя ў гістарычным аспэкце“* [1]). Аўтар вызначае, якія існуюць плыні і погляды ў беларускай інтэлігенцыі, як ставіцца да інтэлігенцыі савецкая ўлада ды комуністычная партыя і якое значэньне мае для ўмацаваньня рабоча-сялянскай улады на Беларусі супрацоўніцтва пролетарыяту з тэй інтэлігенцыяй, што стаіць на баку рабоча-сялянскіх мас. Аўтар ставіць цэлы шэраг пытаньняў тым інтэлігентам, што ня хочуць зразумець, якія цяжкія пытаньні стаяць перад беларускім савецкім урадам у вырашэньні нацыянальных проблем.

„Каб дасканала адказаць на пастаўленыя пытаньні,—кажа З. Жылуновіч,—трэба азірнуцца назад, у мінулае гісторыі разьвіцьця беларускага нацыянальнага руху і прасачыць: з якіх слаёў грамадзянства надыходзіла ў яго інтэлігенцыя, ці аднастайны быў яе склад, якую ролю кожная катэгорыя гэтае інтэлігенцыі адыгрывала, якія мэты спаганяла і, нарэшце, на якой па соцыяльным складзе частцы інтэлігенцыі, галоўным чынам, беларускі нацыянальны рух грунтаваўся [2]). Ад пачатку XIX ст. З. Жылуновіч сочыць за нараджэньнем беларускае інтэлігенцыі і тымі этапамі, якія яна прайшла. Ён разглядае інтэлігенцыю шляхецкую, дробнабуржуазную, якая выхоўвалася ў польскай культуры, але

[1]) „Полымя“, 1926 г., № 6, стар. 74—98.

[2]) Ibidem, стар. 77—78.

пад уплывам соцыяльных абставін, ідэй француской рэволюцыі і романтыкі вярнулася да беларускага селяніна. Я. Баршчэўскі, В. Рыпінскі, Т. Манькоўскі, Я. Чачот, пазьней А. Дарэўскі-Вярыга, В. Каратынскі, В. Дунін-Марцынкевіч,—уся гэта плеяда ў сваіх творах на беларускай мове апісвала быт беларуса са свайго шляхецкага, лібэральнага пункту гледжаньня. Для іх былі далёкія і чужыя імкненьні беларускага прыгнечанага селяніна.

Але ў 50-х гадох XIX ст. выступае П. Бахрым, пазьней рэволюцыянэр К. Каліноўскі са сваёй групай „чырвоных“, зьяўляюцца творы Ф. Багушэвіча і інш. Яны думаюць ужо ня толькі над нацыянальнымі, але і соцыяльнымі пытаньнямі ў Беларусі. Гэта былі ўжо сейбіты народніцкіх ідэй, але інтэлігенцыя часу Ф. Багушэвіча яшчэ не магла прыняць цалкам ідэй К. Каліноўскага.

Толькі ўжо ў 90-х гадох, калі ў Беларусі ўзмацняецца разьвіцьцё беларускай прамысловасьці, нараджаецца кадр пролетарыяту, узьнікаюць марксыцкія групоўкі і сярод беларускай інтэлігенцыі ўзьнікаюць больш радыкальныя соцыялістычныя плыні. У друку зьяўляюцца творы Каруся Каганца і Цёткі, якія прасякнуты соцыялістычнымі ідэямі. „У скутку праз соцыялістычныя партыі выхавалася новая беларуская інтэлігенцыя, якая ўжо цалкам прыняла на сябе справу вырашэньня нацыянальнага руху ў яго складанасьці з соцыялістычных пытаньняў і пытаньняў політычных. Выразных політычных традыцый у гэтае інтэлігенцыі ня было“ [1])...

Спыняючыся на значэньні рэволюцыі 1905 г. для беларускага нацыянальнага руху, аўтар кажа, што 1905 г. пераламаў сваімі падзеямі хронолёгічную паступовасьць у афармленьні шмат якіх ідэй і ў эволюцыі клясавага напластаваньня. „Кадры новых прыходцаў у беларускую справу з гушчы сялян ды рамесьнікаў,—кажа ён,—унясьлі ў яе адпавядаючыя соцыяльнаму стану пераважнай большасьці беларускага народу мэтоды і характар... Асноўным рухачом інтэлігенцкае думкі і працы надалей стала выключна інтэлігенцыя работніцка-сялянская. Яна пераняла пасьля 1905—06 г. г. на свае плечы цалкам беларускую справу і яна пачала пісаць яго гісторыю і разам гісторы сваю“ [2]).

Аўтар паступова разглядае дзейнасьць Беларускай Соцыялістычнай Грамады, спыняецца на „нашаніўскай“ пары, высьвятляе ролю інтэлігенцыі, якая прыняла пролетарскую ідэолёгію, а таксама на інтэлігенцыі з буржуазна-шляхецкай афарбоўкай. У такім кірунку З. Жылуновіч вывучае мінулае беларускае інтэлігенцыі ў сьвятле асаблівасьцяй нацыянальнага і соцыяльна-экономічнага становішча Беларусі да Лютаўскай рэволюцыі.

---

[1]) „Полымя“, 1926 г., № 6, стар. 79.

[2]) Ibidem, стар. 80.

Лютаўская рэволюцыя 1917 г. акрыліла нацыянальныя групоўкі беларусоў надзеямі на адраджэньне Беларусі. Адразу вырас цэлы шэраг нацыянальных організацый, якія ставілі перад сабой далёка неаднолькавыя мэты. Гэтыя мэты сьведчылі аб іх соцыяльнай сутнасьці. З. Жылуновіч, выкарыстаўшы ў поўнай меры адпаведныя крыніцы, дае надзвычайна каштоўны нарыс змаганьня на Беларусі розных беларускіх згуртаваньняў пасьля Лютаўскай рэволюцыі. Ён дакладна разглядае паасобку нацыянальныя гурткі і організацыі, вызначае іх соцыяльныя карэньні, падае шэраг найменьняў удзельнікаў, адзначае даты розных зьездаў, нарад, падае цэлыя выняткі з пастаноў і рэзолюцый і да т. п. Аўтар спыняецца на окупацыі Беларусі палякамі, на змаганьні Беларускай рады з савецкай уладай, на ўрадзе Беларускай Народнай Рэспублікі і яго сувязях з літоўскім урадам. Разглядае ідэолёгію беларускай эміграцыі, яе памылкі і тыя прычыны, якія гэту эміграцыю ў большасьці прымушаюць вярнуцца ў Савецкую Беларусь і шчыра працаваць у справе адраджэньня Савецкай Беларусі.

Гэты свой нарыс З. Жылуновіч канчае заявай, што „рашучая політыка Савецкай улады ў нацыянальным пытаньні дашчэнту зьнішчае ўсякія спробы да культываваньня антыбеларускай русіфікатарскай акцыі... Ахоўнікі нацыянал-дэмократычных поглядаў сярод беларускае інтэлігенцыі вырадзяцца ціха і бязбольна, не парушаючы цьвёрдае, акрэсьленае гістарычнаю неабходнасьцю хады беларускага соцыяльнага ды культурна-нацыянальнага адраджэньня пад сьцягам Савецкае ўлады“ [1]).

Дапаўненьнем да гэтай працы зьяўляецца нарыс З. Жылуновіча *„Алесь Бурбіс“ (рэволюцыйная характарыстыка)* [2]). Алесь Бурбіс зьяўляўся тыповым беларускім інтэлігентам, у асобе якога адбіваўся ўвесь складаны гістарычны комплекс нацыянальных і соцыяльных суадносін заняволенай Беларусі. Усё жыцьцё, уся рэволюцыйная чыннасьць А. Бурбіса былі водгукам трагічнага становішча Беларусі і змаганьня за яе вызваленьне.

Характарызуючы рэволюцыйную дзейнасьць А. Бурбіса, аўтар выяўляе і воблік беларускага інтэлігента і характар змаганьня за вызваленьне Беларусі. „А. Бурбіс,—кажа З. Жылуновіч,—будучы гімназістым, разам з іншымі беларускімі студэнтамі закладае ў 1902 г. Віленскую організацыю Беларускай рэволюцыйнай грамады. Гэтая беларуская соцыялістычная партыя, якая першая паставіла грунтоўна пытаньне аб соцыяльна-нацыянальным вызваленьні беларускіх працоўных гушчаў, займала ўсю кіпучую чыннасьць А. Бурбіса“ [3]). Калі БРГ мяняе назву на Беларускую соцыялістычную грамаду, А. Бурбіс уваходзіць у склад яе ЦК і ўвесь аддаецца працы. Не без яго ўдзелу БСГ стварае „Беларускі

[1]) „Полымя“, 1926 г., № 6, стар. 98.

[2]) „Полымя“, 1927 г., № 2, стар. 180—195.

[3]) Ibidem, стар. 180.

сялянскі саюз", „Беларускі саюз настаўніцкіх сэмінарый", організуе „бульбяную" забастоўку, забастоўку сталяроў у Менску, утварае „Майшаголскую Рэспубліку" і да т. п. Урэшце, А. Бурбіс трапіў у турму, дзе сядзіць каля 3-х гадоў.

У рэволюцыі 1905 г. беларусы заваявалі сабе права на беларускае друкаванае слова. Пачынае выходзіць „Наша Доля", а пасьля „Наша Ніва" і іншыя беларускія выданьні, каля якіх групуецца беларуская працоўная інтэлігенцыя. Побач з гэтым царскі ўрад закладае шэраг русіфікатарскіх гурткоў і выдае газэту „Северо-Западная Жизнь", якая на сваіх старонках вядзе кампанію проці беларусаў. З. Жылуновіч яскрава высьвятляе тагачасную чыннасьць як беларусаў, так і монархічных русіфікатарскіх урадавых колаў, якія аселі ў г. Вільні.

Алесь Бурбіс, вышаўшы з турмы, з надарваным здароўем, застаецца ў г. Вільні, дзе працуе ў БСГ і організуе беларускі тэатр. Аўтар высьвятляе адносіны А. Бурбіса да імпэрыялістычнай вайны, да беларускага руху, гаворыць аб яго шырокіх ведах у розных галінах. „Займайся-б А. Бурбіс навуковаю працай, — кажа З. Жылуновіч, — ён-бы даў шмат каштоўных укладаў у беларускую навуку, асабліва ў галінах экономікі і нацыянальнага пытаньня. Але ён быў створаны не для ціхае маруднае габінэтнае працы.. Яго прызначыла жыцьцё быць рэволюцыянэрам-разбурыцелем. Яго натура, яго склад, яго псыхіка былі наладжаны на нясупыннае хваляваньне, рух, непакой. Ён чула адгукаўся на найменшыя політычныя падзеі. І трэба было блізка ведаць гэту чуласьць Бурбісаўскае істоты,—кажа аўтар,—каб уявіць сабе тое ўражаньне, тое захапленьне, якія надала яму Лютаўская рэволюцыя" [1]).

Лютаўская рэволюцыя застае А. Бурбіса ў Маскве, куды ён пераехаў з Вільні ў 1915 г. Адразу пасьля перавароту А. Бурбіс закладае Маскоўскую організацыю Беларускай соцыялістычнай грамады. „А. Бурбіс,— кажа З. Жылуновіч,—пераварочваецца ў машыну, якая нясупынна рухае, верціцца: наладжвае сходы сяброў організацыі БСГ, робіць зборы беларусаў-бежанцаў, устанаўляе сувязь з вайсковымі беларусамі ў Маскоўскім-гарнізоне, з паштавікамі-беларусамі, з чыгуначнікамі і рабочым розных фабрык і заводаў; сам піша шэраг адозваў і проклямацый; прымае ўдзел ва ўсіх міжпартыйных нарадах, у рэволюцыйных установах; вядзе заядлае змаганьне з беларускаю чорнасоценшчынаю, якая ў Маскве, як і ў іншых гарадох, адразу-ж пасьля Лютаўскае рэволюцыі выступае адзіным фронтам з эсэраўшчынаю супроць беларускага рэволюцыйнага руху" [2]).

Далей аўтар характарызуе А. Бурбіса, як чалавека, які ненавідзіць ўсё варожае Беларусі і рэволюцыйнаму ўздыму, як рэзкага прамоўцу і

---

[1]) „Полымя" 1927 г., № 2, стар. 187.

[2]) Ibidem, стар. 187—188.

чалавека цьвёрдага ў сваіх пераконаньнях. У канцы нарысу аўтар знаёміць з адносінамі Маскоўскай організацыі БСГ да Ленінградзкай організацыі Грамады; гаворыць аб уплыве беларускага конгрэсу ў сьнежні 1917 г. на А. Бурбіса, аб яго памылковасьці ў ацэнцы Менскай Беларускай Рады і, нарэшце, аб яго шчырай працы па адраджэньні Савецкай Беларусі—спачатку ў Наркамземе БССР, а пасьля на пасадзе намесьніка народнага камісара замежных спраў, дзе яго і застала сьмерць.

Пасьля Лютаўскай рэволюцыі беларускі нацыянальна-рэволюцыйны рух увайшоў у новую фазу свайго разьвіцьця. З аднаго боку, каля беларускіх нацыянальных організацый концэнтруюцца новыя сілы, а з другога боку—адбываецца шпаркае клясавае распластаваньне гэтага руху. З. Жылуновіч гісторыі нацыянальнага руху ў гэты пэрыод прысьвяціў спэцыяльны нарыс пад назвай *„Люты—Кастрычнік у беларускім нацыянальным руху“* [1]). Аўтар у кароткіх рысах спыняецца на беларускім нацыянальным руху напярэдадні Лютаўскай рэволюцыі—у часе імпэрыялістычнай вайны 1914—18 г. г. У адносінах да імпэрыялістычнай вайны аўтар заяўляе, што „праз увесь час беларусы трымаліся „паражэнчага“ пункту гледжаньня, бачачы ў паражэньні царскае Расіі выйсьце да нацыянальнага вызваленьня Беларусі“ [2]).

Далей З. Жылуновіч падае надзвычайна каштоўны гістарычны нарыс беларускага нацыянальнага руху з пачатку Лютаўскай рэволюцыі. „Рашучы ўдар яе (рэволюцыі) зразу разламаў турму прыгнечаных народаў і адчыніў шырокі шлях да нацыянальнага вызваленьня. На гэты шлях пакіраваліся беларускія працоўныя гушчы. Ужо назаўтра пасьля рэволюцыі адзначыўся той магутны ўздым нацыянальнай сьвядомасьці сярод беларусаў, які дзень-ада-дня, паглыбляючыся, рос і мацнеў нясупынна да самага Кастрычніка“ [3]).

Аўтар пераходзіць да характарыстыкі беларускіх організацый, спыняецца на Беларускай соцыялістычнай грамадзе, якая неўзабаве стварыла шэраг сваіх організацый у Беларусі і па-за межамі яе і стала на чале беларускага руху. Расьлі і другія беларускія гуртаваньні. „Але трапілася так,—кажа аўтар,—што і ў парэвалюцыйны час пашырэньне беларускай нацыянальнай сьвядомасьці сустрэла перашкоды. Іх пачалі ўжываць гаспадары тагачаснага становішча, меншавікі і эсэры ў хаўры з кадэцкай буржуазіяй і чорнасотніцкім чыноўніцтвам, багата разбавіўшы іх рады пасьля рэволюцыі. Узрост нацыянальнай сьвядомасьці сярод беларусаў таіў у сабе пагрозу цэласьці „адзінай недзялімай“, а гэта супярэчыла і програме і духу новаўленых дзяржаўнікаў. Вось яны і прыняліся з заядласьцю яго ганьбаваць і цкаваць. Для гэтага яны не шкадавалі памый і інсынуацый“ [4]).

---

1) Зборнік „Беларусь“, выд. ЦВК БССР, 1294 г., стар. 182—194.

2) Ibidem, стар. 184.

3) Ibidem, стар. 184.

4) Ibidem, стар. 185.

Не зважаючы на гэта, беларускі рух шырыцца і пачынае прабівацца ў армію і флёт. У вайсковых часьцях закладаюцца беларускія соцыялістычныя і нацыянальныя гурткі. „У хуткім часе тысячы салдат-беларусаў сталі нацыянальна сьвядомымі. А к кастрычніку м-цу нельга было назваць буйнага гораду, ці хоць-бы адну армію на фронце, дзе-б не існавала організацыя беларусаў вайсковых. Нацыянальная сьвядомасьць знаходзіла беларусаў і на Далёкім Усходзе, і ў Туркестане, і на Каўкаскім фронце, чапаючы ўсе слаі, усе службы“ [1]).

Пасьля аўтар у гэтым нарысе разглядае паасобна кожную беларускую організацыю, высьвятляе яе клясавую сутнасьць і яе чыннасьць у беларускім нацыянальным руху. Перад чытачом праходзяць „Беларуская народная грамада“, „Беларусы аўтономістыя“, „Беларускі нацыянальны камітэт у Магілеве“, „Саюз беларускай дэмократыі ў Гомлі“, „Беларускі народны саюз у Віцебску“, „Хрысьціянская дэмократычная злучнасьць беларусаў“ і „Беларуская партыя народных соцыялістых“. „Пералічаныя організацыі,—кажа аўтар,—настойліва вялі змаганьне з рэволюцыйным ухілам беларускага нацыянальнага руху. На мітынгах і зьездах яны востра накідаліся на Беларускую соцыялістычную грамаду, стараючыся вырваць у яе ўплыў на беларускі нацыянальны рух“ [2]).

Больш дакладна і падрабязна аўтар спыняецца на дзейнасьці Беларускай соцыялістычнай грамады. Ён падае яе програму-мінімум, якая была прынята на другім зьезьдзе, дае характарыстыку яе змаганьня на зьезьдзе беларускіх партый і організацый у Менску 8—12 ліпня 1917 г. З гэтага часу пачаў вызначацца раскол Грамады на левую і правую часткі. Правыя грамадаўцы ў інтарэсах „агульна нацыянальнай справы“ ішлі на коаліцыю з буржуазнымі групоўкамі, а левае крыло Грамады, пры няўхільным рэволюцыяваньні гушчаў імкнулася кіраваць нацыянальным рухам бяз удзелу буржуазіі. На трэцім зьезьдзе БСГ у Менску 14—20 кастрычніка 1917 г. крызіс ужо меў выразныя адзнакі; а другая сэсія Беларускай рады крызіс гэты паглыбіла.

„Дух клясавага змаганьня настойліва прабіваўся ў глыбіні нацыянальна-рэволюцыйнага руху, вядучы яго найпрасьцейшым шляхам да канцовых мэтаў“, так канчае аўтар гэты свой вельмі цікавы і грунтоўны нарыс.

Надзвычайна каштоўныя даныя да гісторыі беларускага нацыянальнага руху падае З. Жылуновіч у сваім невялічкім нарысе: *„Зьезд беларускіх нацыянальных організацый 25 сакавіка 1917 г.“* [3]). Гэта быў першы вольны беларускі зьезд нацыянальных організацый і асобных дзеячоў у нацыянальным руху. Аўтар сьцісла, дакумантальна паказвае склад гэтага зьезду, парадак заняткаў зьезду, хто выступаў і аб чым

---

[1]) Зборнік „Беларусь“, выд. ЦВК БССР, 1924 г., стар. 186.

[2]) Ibidem, стар. 189.

[3]) „Полымя“, 1925 г., № 6, стар. 202—206.

гаварыў. Апісвае інцыдэнт, які адбыўся ў сувязі з прамовай Метліна, як зьмяняўся прэзыдыум зьезду, працу сямі камісій зьезду і іх утопічныя пастановы. Урэшце, спыняецца на выбарах зьездам Беларускага нацыянальнага камітэту і яго складу. Аўтар прызнае, што абраны Беларускі нацыянальны камітэт, як вынік гэтага зьезду, займае значнае месца ў гісторыі беларускага нацыянальнага руху. Ён лічыць таксама, што абраньне Скірмунта старшынёю камітэту зьяўляецца памылкай і сумнай старонкай у гісторыі разьвіцьця беларускага нацыянальнага руху.

Адна ідэя нацыянальнага адраджэньня Беларусі, зразумела, не магла зьліць у адну грамаду розныя паводле свайго соцыяльна-экономічнага стану пласты беларускага насельніцтва. З раней разгледжанага артыкулу З. Жылуновіча мы ўжо бачылі розныя паводле іх політычнай афарбоўкі беларускія організацыі. Нават Беларуская соцыялістычная грамада, вакол якой групаваліся працоўныя гушчы Беларусі і працоўная інтэлігенцыя, у агні рэволюцыі раскалолася і, урэшце, падзялілася на два непагодлівыя паміж сабой лягеры. Тут, бязумоўна, адбілася таксама і культурнае становішча Беларусі. Гэтаму пытаньню З. Жылуновіч прысьвячае нарыс: *„Два бакі беларускага руху“* [1]). Аўтар кажа: „Гісторыя беларускага нацыянальнага руху цесна сплецена з гісторыяй беларускай культуры. Калі-б хто не дакрануўся апошняй, ён ня можа абыйсьці першага. Дый гэта зразумела: у нацыі, якая доўгія вякі ня знала сябе, ня жыла для сябе, а толькі выпаўняла бесканечную павіннасьць прыгону то на адных, то на другіх захопнікаў, іначай і не магло скласьціся. Гістарычны закон разьвіцьця народаў захапіў беларускую нацыю на аднакавым узроўні яе культурнага і нацыянальнага асьведамленьня. Гэтаму, пэўна, дапамагло шмат тое, што сама беларуская нацыя моцаю розных варункаў, на працягу даўгіх вякоў, хавала свае сокі ў адным монолітным стане— стане малазямельнага сялянства і часткаю ў стане беднага местачковага рамесьніцтва. Гэтыя дзьве катэгорыі беларускай нацыі выпаўнялі абавязкі нявольнікаў і ім ня было калі думаць аб тых ці іншых патрэбах душы. Багацьцем як матэрыяльным, так і духоўным валадалі ў Беларусі багатыя станы ды к таму яшчэ чужых народаў“ [2]). Але за тое, калі быў разьбіты ланцуг нявол над Беларусьсю, то „атрымалася так, што нямінучы ў гісторыі кожнай нацыі тэрмін нацыянальнага ўздыму паў на працоўныя слаі беларускага народу. Гэта ў свой чарод прывяло да таго, што беларускі нацыянальна-культурны рух зьліўся з соцыялістычным рухам і сумесна з ім захапіў беларускую сялянскую і рамесьніцкую інтэлігенцыю“ [3]).

Рэвалюцыя ўсьцяж ад сакавіка да кастрычніка паглыблялася, і, зразумела, адбывалася хуткая дыфэрэнцыяцыя клясавага стану. Напярэдадні Кастрычніка да беларускага нацыянальнага руху далучыліся буржуаз-

[1]) „Полымя“, 1923 г., № 3—4, стар. 69—74.
[2]) Ibidem, стар. 69.
[3]) Ibidem, стар. 69.

ныя элемэнты, якія шукалі паратунку ў нацыянальным беларускім руху. У бурлівыя часы ад сакавіка да кастрычніка м-ца ня раз вынікала пагроза, што беларускі нацыянальны рух трапіць пад варожыя пролетарыяту і беднаму сялянству ўплывы, але мах гісторыі да гэтага не дапусьціў. Аўтар нам даводзіць, што з моманту ўсебеларускага зьезду ў сьнежні 1917 г. „беларускі рух фактычна прыняў два кірункі. З аднаго боку, асталіся незалежнікі, якія прытулілі пад сваё крыльле ўсё агіднае, наноснае, чужое і варожае беларускаму працоўнаму народу, а з другога—згуртаваліся пакуль малыя, але моральна і ідэёва крэпкія беларускія савецкія элементы“ [1]). Загастралася клясавае змаганьне, якое не магло не загастраць і нацыянальны рух. Зьезд у сьнежні 1917 г. гэта пацьвердзіў. Ужо няма суцэльнай БСГ, якая ўступае ў коаліцыі з буржуазнымі групоўкамі. Правыя групоўкі яе ішлі проці рэволюцыі, проці Кастрычніка; наадварот, левае крыло БСГ цалкам пераходзіць на бок пролетарыяту і беднага сялянства ў момант яго рашучай бойкі з сваімі клясавымі ворагамі. 11 сакавіка 1918 г. Ленінградзкая організацыя БСГ абвяшчае бязьлітаснае змаганьне беларускім радам, заяўляе, што ленінградзкая організацыя БСГ „пастолькі прымае ў сваёй програме нацыянальны рух, паколькі ён не парушае еднасьці рэволюцыйнага фронту і памагае хутчэйшаму вызваленьню працоўнага народу ад усякага ўціску“. Беларускі нацыянальны рух загастраецца на клясавых імкненьнях. Ленінградзкая організацыя Беларускае соцыялістычнае грамады, аб'яднаўшыся з Беларускай соцыял-дэмократычнай організацыяй, утвараюць Беларускі нацыянальны камісарыят.

З гэтага часу лёс беларускага нацыянальнага руху зьвязваецца непасрэдна з лёсам Савецкай улады.

## IV

Кастрычнік на Беларусі быў заваяваны значна пазьней. Да стварэньня дзяржаўнага організму Савецкай Беларусі на Беларусі адбывалася заядлае змаганьне паміж соцыялістычным і капіталістычным сьветам. У гэтым самым змаганьні нарадзілася і вырасла Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка. Гэты момант у гісторыі Беларусі прыцягвае да сябе надзвычайную ўвагу, і нарысы З. Жылуновіча па гэтым пытаньні маюць вялізнае значэньне ў гістарычнай літаратуры.

З. Жылуновіч ня мог не ацаніць таго значэньня, якое мае для гісторыі гэтага пэрыоду зьбіраньне матэрыялаў і высьвятленьня гістарычных пытаньняў гэтага часу. Ён першы ў Беларусі выступае ў 1923 г. з артыкулам: *„Пара пісаць гісторыю рэволюцыі“* [2])—рэволюцыі Кастрычніка на Беларусі. Аўтар кажа: „Гэта надзвычайны гістарычны час у разь-

[1]) „Полымя“, 1923 г., № 3—4, стар. 71.

[2]) „Полымя“, 1923 г., № 5—6, стар. 89—91.

віцьці працоўнага народу, у разьвіцьці яго політычнага, экономічнага і культурнага жыцьця. За гэтыя гады рэволюцыі разам з суседнімі краямі Беларусь перажыла столькі буйных социяльных парушэньняў, колькі не налічвае яе ранейшая гісторыя працягам сотняў гадоў. Болей таго, у перажытай політычнай сытуацыі на долю Беларусі выпала перацярпець шмат гэткіх крутых зьмен і цяжкіх пэрыпэтый у бегу рэволюцыі, якіх ня бачылі другія савецкія рэспублікі" [1]).

Аўтар зазначае, што час бяжыць, соцыялістычнае будаўніцтва разгортваецца, і часта ў процэсе рэволюцыйнага будаўніцтва мы забываемся на тое, што так нядаўна для нас мела вялікае значэньне; паміраюць людзі, якія былі самі творцамі вялікіх гістарычных падзей, і шмат якія моманты ў нашай гісторыі могуць застацца зусім невядомымі. З. Жылуновіч спасылаецца на тое, што другія народы СССР пачалі пісаць гісторыю рэволюцыі, і заклікае да гэтай працы і ў Беларусі. „Трэба брацца за пісаньне гісторыі рэволюцыйнага руху на Беларусі,—кажа аўтар.— Ужо і так мы адсталі ад другіх на вельмі многа, і ня руліцца нагнаць— шкодна для самое справы рэволюцыі і для яе пазнаньня" [2]).

Сьледам за гэтым атрыкулам, на працягу 1923 і 1924 г. г. у часопісі „Полымя" пачалі зьяўляцца нарысы З. Жылуновіча да гісторыі Савецкай Беларусі. У першым з гэтых сваіх нарысаў пад назвай „*Уступамі да Акцябра*" [3]) аўтар падрабязна разглядае тыя абставіны і тую атмосфэру, у якой нараджалася рэволюцыйная сіла ў беларускіх нацыянальных організацыях. У гэтым сваім нарысе аўтар спыняецца амаль цалкам на беларускіх організацыях г. Ленінграду, бо, пасьля разбурэньня беларускіх організацый у г. Вільні і наплыву ў Ленінград уцекачоў з Беларусі, Ленінград зрабіўся да некаторай ступені організоўным цэнтрам беларусаў.

Падаючы цэлы шэраг фактаў з чыннасьці Беларускай соцыялістычнай грамады, пасьля Лютаўскай рэволюцыі, З. Жылуновіч паступова выяўляе перад чытачом малюнак, як на фоне агульных рэволюцыйных падзей гартавалася беларуская рэволюцыйная думка, адкідаючы ад беларускага нацыянальнага руху ўсё варожае пролетарыяту і бяднейшаму сялянству. Таксама аўтар падае шмат прыкладаў, як варожыя леваму кірунку Беларускай соцыялістычнай грамады організацыі і прыватныя асобы намагаліся шляхам хлусьні, маны, спробамі „ўзрыву з нутра" разьбіць беларускі рэволюцыйны рух. Гэтымі ворагамі аўтар слушна лічыць меншавікоў і эсэраў—супраціўнікаў беларускага нацыянальнага руху, ды розныя правыя партыі.

Зразумела, у Ленінградзе беларусы былі далёка ад сваёй краіны, знаходзіліся ў іншых абставінах, і нацыянальна-рэволюцыйны рух сярод

[1]) „Полымя", 1923 г., № 5—6, стар. 89.

[2]) Ibidem, стар. 91.

[3]) „Полымя", 1923 г., № 5—6, стар. 141—149 і № 7—8, стар. 86—91.

беларусаў тут праходзіў у іншых варунках. Сюды трапіла пераважна беларуская бедната і буржуазна-дэмократычныя ідэі тут не асталяваліся. У Менску-ж у гэты час умацоўваліся беларускія організацыі, варожыя соцыялістычным ідэям; тут беларускія організацыі комплектаваліся тымі элемэнтамі, для якіх беларускі рух быў сродкам аховы свайго соцыяльнага становішча ад націску пролетарскай рэволюцыі. Ворагі беларусаў мяшалі ў адно розныя беларускія організацыі і беларускі нацыянальны рух лічылі панскімі і наогул польскімі інтрыгамі. Усё гэта аж да Кастрычнікавай рэволюцыі ў поўнай меры высьвятляе аўтар у сваім нарысе.

У чарговай сваёй працы *„Ад кастрычніка 1917 г. да лютага 1918 г.“* [1]) З. Жылуновіч спыняецца на падзеях беларускага нацыянальнага руху ўжо пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Гэты момант у гісторыі Беларусі надзвычайна цікавы. За гэты пэрыод у беларускім нацыянальным руху адбыліся значныя зьмены, беларускія організацыі выразна падзяліліся на два варожыя паміж сабой клясавыя лягеры. Беларуская соцыялістычная грамада на трэцім сваім зьезьдзе канчаткова раскалолася. У гэты-ж час у Ленінградзе ўзьнікае новая беларуская організацыя пры Ўсерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў, так званы Беларускі абласны камітэт з эсэраўскай ідэолёгіяй. „Маючы выразны расійскі характар, не прызнаючы беларускае культуры, хаваючы ў сваёй істоце процібеларускія ідэі—Абласны беларускі камітэт меўся спаралюшаваць беларускі нацыянальна-рэволюцыйны рух, меўся стаць яго гегемонам“, так проста і выразна З. Жылуновіч характарызуе мэты гэтага камітэту.

У сьнежні месяцы 1917 г. ў г. Менску быў склікаты Ўсебеларускі конгрэс. Аўтар, які сам прымаў удзел у гэтым конгрэсе і стаяў на чале яго левага крыла, спыняецца на працы конгрэсу, на яго складзе і на настроях пад канец працы. „І вышла нарэшце,—кажа, аўтар,—што ў астатнюю хвіліну сваёй працы зьезд аказаўся суцэльным ва ўсёй сваёй масе. Хто ведае, як-бы пашла яго праца далей, да чаго-б яна давяла—толькі ўсё-ж можна зараз сказаць, што ўплыў левага блёку меў вялікае значэньне і глыбокі адбітак на ўсіх пастановах і рэзолюцыях зьезду“ [2]).

Далей аўтар апавядае аб адносінах левага крыла Беларускае соцыялістычнае грамады да Расійскага ўстаноўчага сойму (учредительного собрания). Грамада ня верыла, што Расійскі ўстаноўчы сойм вырашыць беларускае нацыянальнае пытаньне, і стаяла за разгон яго. Аўтар разглядае, як беларускае пытаньне вырашалася на трэцім зьезьдзе саветаў у студзені 1918 г. і даводзіць свой нарыс да часу стварэньня Беларускага нацыянальнага камісарыяту пры Народным камісарыяце па нацыянальных справах.

[1]) „Полымя“, 1924 г., № 1(9). стар. 163—173.
[2]) Ibidem, стар. 169.

Далейшым гістарычным падзеям аўтар прысьвячае свой досьлед пад назвай *„Арганізацыя сіл“* [1]). 14 лютага 1918 г. распачаў сваю чыннасьць Беларускі нацыянальны камісарыят. Савецкая ўлада, як улада дыктатуры пролетарыяту, адразу стала на правільны шлях у справе вырашэньня нацыянальнага пытаньня. Беларускія нацыянальныя організацыі—прадстаўнікі беларускага пролетарыяту і сялянскай беднаты—атрымалі поўную магчымасьць правадзіць справу адраджэньня Беларусі пад сьцягам Савецкай улады. У нарысе „Организацыя сіл“ З. Жылуновіч разглядае ўсе надзвычайна вялікія гістарычныя падзеі на працягу ад стварэньня Беларускага камісарыяту да організацыі БССР.

На Беларусі ў гэты час адбывалася грамадзянская вайна. Нямецкія і польскія імпэрыялістыя вабілі да сябе тыя беларускія організацыі, якім была не да смаку дыктатура пролетарыяту і якія ня словам, а зброяй пачалі абараняць свае клясавыя інтарэсы. Да іх далучыліся і некаторыя беларускія групоўкі, якія ня верылі пастановам і дэклярацыям Савецкага ўраду па нацыянальным пытаньні, хаця паводле свайго клясавага складу яны і былі блізкімі да рабочае клясы.

Тымчасам на долю Беларускага нацыянальнага камісарыяту прыпала вялікае гістарычнае заданьне—пракласьці шлях да Савецкай Беларусі. З. Жылуновіч знаёміць нас з гісторыяй стварэньня Беларускай комуністычнай партыі, якая неўзабаве ўлілася ў РКП з правамі аўтономнай сэкцыі, з організацыйнай структурай і працай БНК і яго філіаламі, з газэтай „Дзяньніцай“. Дае характарыстыку чыннасьці Беларускай рады ў Менску, беларускіх незалежніцкіх організацый у Вільні і іх адмоўных адносін да Польшчы і да Савецкай Расіі, падае выняткі з протэстаў розных беларускіх організацый проці окупацыі Беларусі польскім войскам і проці політыкі Беларускай рады, апісвае сход у Кранштадзе беларусаў-маракоў і прыватных жыхароў і падае выняткі з пастаноў, прынятых па гэтым сходзе.

30 кастрычніка 1918 г. ў Маскве была склікана нарада адказных працаўнікоў камісарыяту і яго аддзелаў і прадстаўнікоў Беларускіх комуністычных сэкцый.

Было вырашана пытаньне аб стварэньні пры Маскоўскім Камітэце РКП беларускай сэкцыі. Вакол Беларускага камісарыяту склалася моцнае партыйнае ядро, Камісарыят шырока разгарнуў працу.

„У паветры ўжо насіўся подых блізкага прыходу вялікага нараджэньня Беларускай Незалежнай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі“ [2]), так канчае аўтар гэты свой каштоўны нарыс.

Гэта нараджэньне адбылося неўзабаве, і яму З. Жылуновіч прысьвячае новую працу пад назвай *„Гістарычны момант“* [3]). Чырвоная армія ў

---

[1]) „Полымя“, 1924 г., № 2, стар. 163—179.
[2]) Ibidem, стар. 179.
[3]) „Полымя“, 1924 г., № 4 (12), стар. 144—158.

канцы 1918 г. вызваляе Беларусь ад імпэрыялістычных окупантаў, і для Беларускага нацыянальнага камісарыяту і для беларускіх сэкцый РКП распасьціраецца поле беларускіх абшараў для чыннасьці. 20 сьнежня 1918 г. назначаецца ў Маскве конфэрэнцыя беларускіх сэкцый РКП. Перад гэтай конфэрэнцыяй, беларуская, маскоўская сэкцыя РКП выдае да беларусаў адозву, у якой між іншым гаворыцца:

„Таварышы беларускія комуністыя! Новым магутным націскам сусьветнай рэволюцыі зьняты окупацыйныя ланцугі з беларускага працоўнага народу. Слаўная Чырвоная армія нясупынна рухае наперад, і дзеньада-дня ўсё новыя ды новыя соткі тысяч беларусаў становяцца вольнымі грамадзянамі вялікай сям'і Расійскай Соцыялістычнай Фэдэрацыйнай Рэспублікі. Адчыняецца неабмежаваная праца—будаваць Савецкую Беларусь, і гэта, наперад усяго, шчасьлівая павіннасьць і адказьнейшы абавязак наш, беларускіх комуністых". І заканчваецца: „Усе беларусы-комуністыя і тыя, што ім спачуваюць, усе, хто аддаў свае сілы савецкаму жыцьцю, ідзеце ў сэкцыю, шчылюйце нашы рады: тысячы комуністых-беларусаў патрэбны цёмнай Беларусі, якая вызваляецца для самае рознастайнае партыйнае і дзяржаўнае працы. Цяжкі крыжовы шлях беларускага народу, вялікі заняпад экономічнага і духоўнага жыцьця яго краю, але магутнасьцю комуністычнага аднаўленьня будзе адбудавана Савецкая Беларусь, і на гэту працу мы завем усіх беларусаў-комуністых" [1]).

Гэта адозва ўжо выразна сьведчыла, што надышоў час утварэньня Савецкай Беларусі. „У паветры,—кажа аўтар,—сама сабой насілася акрэсьленая ідэя стварэньня новае беларускае дзяржавы. Гэта ідэя прасочвалася ў душы беларускіх працаўнікоў, бадзёрыла іх, падымала натхненьне, акрыляла ў працы" [2]).

Конфэрэнцыя беларускіх організацый у Маскве адчынілася 21 сьнежня 1918 г. На конфэрэнцыі былі пастаўлены наступныя пытаньні: 1) інформацыя камітэту маскоўскай беларускай сэкцыі РКП і агляд політычнай працы беларусаў-комуністых на мясцох; 2) нацыянальнае пытаньне; 3) сучасны політычны стан на Беларусі і ўзаемаадносіны паміж політычнымі партыямі; 4) стварэньне работніцка-сялянскага ўраду на Беларусі; 5) наступныя заданьні беларусаў-комуністых: а) стварэньне аб'яднанага бюро, б) рэорганізацыя беларускага нацыянальнага камісарыяту, в) выданьне партыйнага органу, г) агітацыйна-політычная і організацыйная праца (беларуская Чырвоная армія, сельскія комуны, культурна-асьветная праца, сродкі, адпраўка на месцы і інструкцыя ад'яжджаючым, адозва да беларускага народу і беларускіх комуністых); 6) мобілізацыя беларускіх комуністых і 7) бягучыя справы.

---

[1]) „Полымя", 1924 г., № 4(12), стар. 145—146.

[2]) Ibidem, стар. 146.

Нацыянальнае пытаньне і стварэньне работніцка-сялянскага ўраду зьвярнулі на сябе найбольшую ўвагу дэлегатаў конфэрэнцыі. „Фактычна абодва гэтыя пытаньні, зьліўшыся ў адно,—кажа аўтар,—у процэсе працы конфэрэнцыі занялі тры чвэрткі часу яе паседжаньняў. Яны выклікалі надзвычайны ўздым сярод удзельнікаў конфэрэнцыі і разгарнулі далёка ўшыр ды глыб вакол сябе спрэчкі“ [1]).

У выніку абгаварэньня пастаўленых пытаньняў конфэрэнцыя прыняла рэзолюцыю, якая зараз мае вялікае гістарычнае значэньне.

Быў прыняты яшчэ цэлы шэраг пастаноў, а таксама пастанова аб скліканьні ўсебеларускага партыйнага зьезду і, нарэшце, адозва да беларускага працоўнага народу, якую аўтар у сваім нарысе падае цалкам.

Пачынаецца гэта адозва так: „Таварышы—браты беларусы!—Вы, якія цэлыя вякі стагналі пад прутамі польскіх ды літоўскіх каралёў, пад казацкімі нагайкамі расійскага самадзяржаўя, вы, па чыёй зямлі прайшоў ўсё-руйнуючы молах жахлівае вайны, кінуўшы мільёны ўцекачоў, сьпярэсьціўшы магіламі сваіх бацькоў, мацярок, жанок і дзяцей—усё неахопнае гала Расіі, вы бедныя сыны абяздоленай мацеры Беларусі слухайце: настала пара ўваскрашэньня беларускага працоўнага народу; патугамі рабочых ды сялян разбурана расійскае самадзяржаўе; за ім сьледам пакаціліся кароны іншых цароў ды каралёў...“ Далей у гэтай адозьве падрабязна разглядаецца агульнае палітычнае становішча, а таксама палітычнае становішча Беларусі і канчаецца адозва такім заклікам: „Таварышы беларусы! Сотні вас, выгнанцаў, ужо вярнуліся на зруйнаваныя родныя пажарышчы. Тысячы штодня прыбываюць з палону. Пачынайце-ж хутчэй будаваць новае жыцьцё, закладайце па вёсках, мястэчках і гарадох беларускія комуністычныя ячэйкі, сельскія комуны, валасныя сельскія саветы. Закладайце Чырвоную беларускую армію. Нясеце замірэньне халупам і няшчадную вайну палацам“... „Няхай жыве сусьветная працоўная комуна! Няхай жыве Інтэрнацыянал! Няхай жыве свабодная Работніцка-Сялянская Савецкая Беларусь у цеснай фэдэрацыі з Савецкай Расіяй“ [2]).

„Гэткім чынам,—кажа аўтар,—конфэрэнцыя беларускіх сэкцый РКП сыгналізавала агромнай важкасьці думку стварэньня Савецкай Беларусі—беларускім працоўным гушчам. Апошнія горача сустрэлі яе і з нецярпеньнем чакалі далейшага разьвіцьця здарэньняў“ [3]).

Аўтар далей гаворыць аб пастановах памянёнай конфэрэнцыі, аб сходзе беларусаў 29 сьнежня ў Маскве, пад дэвізам—„Беларусы—дахаты“, дзе сабралася да поўтысячы чалавек і на якім была прынята пастанова, дзе гаварылася: „1) складанае і адпаведнае перад рэволюцыяй міжнароднае і ўнутранае становішча Беларусі настойна дыктуе хутчэй

[1]) „Полымя“, 1924 г., № 4(12), стар. 148.

[2]) Ibidem, стар. 150—152.

[3]) Ibidem, стар. 153.

стварыць моцную Савецкую Беларусь для таго, каб можна было з посьпехам бараніць яе, як форпост соцыяльнай рэволюцыі, на які, у першую чаргу, стане накідацца міжнародны драпежны імпэрыялізм; 2) толькі Беларускай Савецкай уладзе, ва ўмовах данага моманту, удасца з посьпехам вырашыць заданьне—поўна адрадзіць беларускі народ" і да т. п.

Аўтар, як бачым, вельмі дакладна знаёміць чытача з тым цікавым момантам, калі нараджалася самастойная савецкая соцыялістычная Беларусь. Гэты грунтоўны нарыс, пабудаваны на дакумантальных даных і на ўласных успамінах, з апублікаваньнем тутака-ж цікавейшых гістарычных дакумантаў, сьведчыць, якую вялікую гістарычную працу выканалі беларускія комуністыя ў Маскве, закладаючы падваліны БССР.

У гэты час была склікана шостая Абласная конфэрэнцыя бальшавікоў у Смаленску. 31 сьнежня 1918 г. Абласная конфэрэнцыя абвясьціла Незалежную Беларускую Савецкую Соцыялістычную Рэспубліку ў складзе Менскае, Горадзенскае, Магілеўскае, Віцебскае і Смаленскае губэрань.

З. Жылуновіч воляю паўстаўшых рабочых і сялян Беларусі стаў на чале Першага часовага рэволюцыйнага ўраду БССР, і 1 студзеня 1919 г. напісаў і абнародваў ад імя Беларускага рэволюцыйнага ўраду ўсім вядомы маніфэст, які станавіў рэволюцыйную законнасьць у Беларусі і пачынаў новую эру ў жыцьці многапакутнага беларускага народу.

Каб скончыць агляд нарысаў З. Жылуновіча па гісторыі стварэньня БССР, трэба яшчэ крыху спыніцца на яго невялічкім артыкуле *„1 студзеня—рэволюцыйна-гістарычнае сьвята Савецкай Беларусі"* [1]).

Аўтар у гэтым нарысе спыняецца на пытаньні—якое значэньне мае для беларускага працоўнага народу роля дзяржавы. Ён робіць невялічкую гістарычную прадпасылку, у якой разглядае становішча беларускага працоўнага люду да Кастрычнікавай рэволюцыі. Пасьля маніфэсту 1-І—19 г. „Беларусь упяршыню,—кажа аўтар,—на працягу доўгавяковае гісторыі стала дзяржаўнаю адзінкаю, роўнаю з усімі соцыялістычнымі краінамі дзяржаваю. Беларускі рабочы і селянін з неаформленага, з нявыясьненага блудзячага парабка стаў гаспадаром свае краіны. З тутэйшага ў панскім прыгоне, і з тутэйшага ў цара ў няволі ён стаў самавітаю асобаю, рэволюцыйным грамадзянінам. І, стаўшы гаспадаром свае соцыялістычнае дзяржавы-рэспублікі, беларускі працаўнік на ўвесь сьвет абвясьціў гэта, як сваё заваяваньне. Ён абвясьціў перад працаўнікамі ўсіх краін і ўсіх народаў, што знайшоў свае правы, сваё імя, знайшоў іх праз вялікае паўстаньне. Няхай ведаюць усе заняволеныя ў прыгоне капіталу! Тым-жа, хто бачыў у беларускіх грамадах сродак для нажывы, сілу для эксплёатацыі, было дадзена знаць, што гэткім ён быў да 1 студзеня 1919 г., а з 1 студзеня ўжо стаў поўнапраўным вольным гаспадаром у адваяванай у ворагаў сваёй краіне" [2]).

[1]) „Полымя", 1922 г., № 1, стар. 41—44.

[2]) Ibidem, стар. 42—43.

Далей аўтар коратка спыняецца на падзеях, якія прывялі да Рыскае мірнае згоды 1921 г., і ў канцы свайго нарысу тлумачыць вялікую значнасьць дня 1 студзеня для Беларусі і даводзіць патрэбнасьць урачыста кожны год адзначаць гэты дзень, як дзень стварэньня Рабоча-Сялянскай Савецкай Беларусі.

## V

З зробленага намі вышэй бягучага агляду гістарычных прац З. Жылуновіча і адзначаных даных відаць, якое паважнае месца займаюць працы З. Жылуновіча ў нашай гістарычнай літаратуры, пакуль-што даволі беднай на гістарычныя працы ў галіне беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху. Аўтар разгледжаных прац, апрача досьледаў наогул па гісторыі рэволюцыйнага руху ў дарэволюцыйны час, ня ставіў сабе мэтай напісаць поўную гісторыю Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі; ён ставіць у сваіх нарысах гэта пытаньне крыху вузей і разглядае толькі тыя рухавыя сілы ў рэволюцыі на Беларусі, якія мелі беларускі характар. І ў гэтым кірунку аўтарам праароблена значная праца. З навуковай дакладнасьцю З. Жылуновіч разглядае гісторыю змаганьня за Савецкую Беларусь з Лютаўскай рэволюцыі, даўшы нарыс нацыянальна-рэволюцыйнага руху напярэдадні лютага 1917 г., і даводзіць гэта высьвятленьне да 1 студзеня 1919 г.—часу стварэньня самастойнай Савецкай Беларусі.

Аўтар сам вышаў з хаты беднага беларускага рамесьніка-рабочага, прайшоў у маладыя гады цяжкую школу рэволюцыйнага змаганьня пры царызьме за вызваленьне працоўнае клясы Беларусі з няволі, у цяжкія часы сам стаяў на чале беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху, сам на барыкадах змагаўся за Савецкую Беларусь, і таму добра ведае тыя пытаньні, якія ён высьвятляе. Гэта суровая школа бязупыннага змаганьня дала З. Жылуновічу правільнае марксыцка-ленінскае разуменьне вялікіх гістарычных падзей, якія адбыліся на Беларусі напярэдадні стварэньня самастойнай Беларускай савецкай рэспублікі.

Нарысы З. Жылуновіча па гісторыі нацыянальна-рэволюцыйнага руху, як нарысы самога ўдзельніка і творцы вялікіх гістарычных дзеяў на Беларусі, набываюць яшчэ большую каштоўнасьць. Гэтыя гістарычныя яго нарысы пазьней самі ўвойдуць у гісторыю Беларусі як дакументы. І каб не зьявіліся яны ў друку, наша гісторыя зусім ня ведала-б шмат якіх падзей, надзвычайна важных пры вывучэньні гісторыі стварэньня БССР і нацыянальна-рэволюцыйнага руху ў Беларусі

Канчаючы наш агляд гістарычных прац З. Жылуновіча, мы дазволім сабе спадзявацца, што аўтар іх дапоўніць новымі сваімі досьледамі і яшчэ больш узбагаціць беларускую гістарычную літаратуру такімі-ж каштоўнымі працамі.

# ТРЫ ЭТАПЫ

*(Пра мастацкую прозу Цішкі Гартнага)*

**Аркадзь Галь**

Вывучаючы бэлетрыстычную творчасьць Цішкі Гартнага [1]), мы яскрава бачым, як яна падзяляецца на тры асноўных моманты: 1) перад-рэволюцыйная пара; 2) Кастрычнікавае паўстаньне, грамадзянская вайна і 3) пэрыод соцыялістычнага будаўніцтва.

Гістарычная паступовасьць падзей, аргумантацыя замены аднаго пэрыоду другім, асабліва характарныя рысы кожнага з гэтых пэрыодаў— занатаваны ў творчасьці Цішкі Гартнага.

Праз кожны гэты этап прайшоў і сам пісьменьнік, вывучаючы жыцьцё ў розных яго праявах. Гэтае жыцьцё і было тэй багатай крыніцай, адкуль пісьменьнік браў матэрыял для свае творчасьці. Цішка Гартны прайшоў паласу пролетарызацыі, школу рэволюцыйнай барацьбы і стаў адным з актыўных кіраўнікоў соцыялістычнага адраджэньня нашае краіны.

Першы этап—перад-рэволюцыйная пара.

Страшэнны разгул рэакцыі, соцыяльны і нацыянальны ўціск, немагчыма цяжкія ўмовы жыцьця беларускай сялянскай беднаты.

У многіх апавяданьнях Цішка Гартны вельмі пуката-ярка рысуе нам жыцьцё беларускай вясковай беднаты, жыцьцё надзвычай цяжкае. І толькі таму, што і сам Цішка Гартны вышаў з гэтай асярэдзіны, яму і ўдалося жыцьцё абяздоленага, забітага, прыгнечанага сялянства мастацка адбіць у сваёй творчасьці.—„Бедныя сяляне—чорнарабочыя—мае бацькі... У нас ня было ні каня, ні каровы, ні поля, каб рабіць... На адзінаццатым годзе, разам з пачаткам вучэньня, я пайшоў у найміты-пастухі..." [2]).

У бедных сялянскіх сем'ях—голад і холад. Сваіх дзяцей-малалетак аддаваць на службу, і часта на службу да пана,—было агульнай зьявай. У апавяданьні „Лайдак" Цішка Гартны і паказвае нам якраз гэты момант жыцьця... Аддаюць свайго сына на службу да пана. Але над ім там

---

[1]) Мы абмяжоўваемся выключна апавяданьнямі Ц. Гартнага, зьмешчанымі ў яго зборніках „Трэскі на хвалях", „Прысады" і аповесьцю „Гаспадар" („Полымя", № 1 за 1928 г.), не кранаючы роману „Сокі цаліны", які вымагае спэцыяльнае літаратурнадасьледчае працы.

[2]) Выняткі з аўтобіографіі Цішкі Гартнага, якая зьмешчана ў зборніку—„Цішка Гартны на дзень пятнаццацёхгадовага юбілею яго літаратурнай працы". І. Б. К. 1923 г. Менск.

кпяць, яго крыўдзяць, морапь голадам і працай. Хлопчык уцякае дахаты, панскія слугі забіраюць назад. Ня здолеў хлопчык цярпець паняверку, голад і зьдзек і абрывае сваё жыцьцё,—ён кідаецца ў балоцістую сажалку.

Контраст, якім карыстаецца Цішка Гартны, як мэтодам, яскрава выяўляе буржуазна-клясавую сутнасьць пануючага ладу жыцьця.

Мужыкі, іх дзеці свае сілы аддаюць паном, а сваё жыцьцё-долю ахутваюць змрочнымі фарбамі. Надыходзіць сьвята—вялікдзень. Адны рыхтуюцца правесьці яго багата, урачыста, другія ня маюць скарынкі чорствага хлеба. У апавяданьні „Вялікодная каробка“ пісьменьнік малюе жыцьцё беднае сялянскае сям'і. У хаце недастача. Дзеці галодныя. Яны бачаць, як другія дзеці забаўляюцца сытыя і бесклапотныя. Просяць бацьку купіць вялікодную каробку, бо—„а чаму ўва ўсіх будзе каробка, а ў нас не?“ Не ўдаецца бацьку ўсьцешыць дзяцей.—„Чуючы звон і бачачы сьвяточны рух, ён (бацька) даходзіў да злосьці, праклінаючы сваё жыцьцё і грамадзкі лад“.

Грамадзкі лад прымушае жанчыну-сялянку, пакінутую мужам, прадавацца, каб жыць і гадаваць дзяцей („Распусьніца“).

Або сакавіта перадана Цішкам Гартным, у апавяданьні „Шукаючы працы“, крыўда маладых вяскоўцаў-дзяцюкоў, дзе іх гарачыя надзеі знайсьці працу, сродак для пражыцьця, тухнуць, абрываюцца, зьнікаюць.

Зьяўляюцца ўжо настроі нездаволеньня, вынікае нянавісьць да пануючага ладу, але вынікаюць ужо новыя надзеі,—прыдзе час—адплацім!

Афармляліся настроі нездаволеньня ў формах забастовак і сярод саматужнікаў-рабочых, пераважная большасьць якіх—выхадцы з вясковай беднаты, ішлі гутаркі, чыталі нелегальную літаратуру.

Афармляўся сьветапогляд у тую пару ў Цішкі Гартнага.—„Папаў на мітынг с.-д. організацыі.. Чытаў „пастароньнія“ кніжкі... (Як ведама, у гэты час Ц. Г. быў ужо рабочым-гарбаром. *А. Г.*). Зрабілі агульную забастоўку. „Пабядзілі“ паліцыю. Я зрадніўся з організацыяй с.-д.“ [1]).

Вольныя рукі, вольная рабочая сіла на вёсцы расла поруч з ростам голаду. Моладзь ідзе ў горад шукаць працы. У дарозе, церпячы крыўду, розныя нягоды, яны ўжо задумваюцца, шукаюць прычыны такога становішча.—„Нарэшце мяне абурае ўсё гэта. Выходзіць, што мы лішнія на зямлі“.—„Паганы лад—агню просіць,—ведаеш, зьнішчыць-бы яго дарэшты“.—„Пачакай, брат;—успомнім і адплацім зараз“ („Шукаючы працы“).

Абуджаюцца бунтарскія настроі сярод сялянства, рабочыя конкрэтнымі формамі выступаюць, організуюць забастоўку, вымагаюць палепшаньня ўмоў жыцьця і працы. Але яднаньне рабочых парушаецца, знаходзяцца адзінкі, якія па розных прычынах адыходзяць ад солідарнасьці рабочых, адыходзяць ад грамадзкае справы, ідуць на фабрыку і, наперакор таварышом, становяцца за працу („Штрэйкбрэхер“).

---

[1]) З біографіі Цішкі Гартнага.

У такіх надзвычай цяжкіх умовах цягнулася жыцьцё беднаты аж да Кастрычнікавага паўстаньня.

Нездаволеньне існуючымі ўмовамі жыцьця ўсё больш і больш апаноўвала настроямі прыгнечаных, і трэба была кіруючая сіла, якая-б арганізавала так людзей і зьнішчала-б векавую навалу ўціску. Такой сілай і зьявіўся пролетарыят—і жыцьцё зьмянілася.

Новы кругабег гісторыі.

Трэба здабытыя ў Кастрычніку правы абараніць.

Пачынаецца грамадзянская вайна.

І гэты этап у розмастайных праявах шырока адбіты ў творчасьці Цішкі Гартнага.

Клясавая барацьба, фронт, окупацыя, бандытызм, пералом псыхолёгіі чалавека, перабудова бытавых укладаў жыцьця, ворагі і прыхільнікі,—вось асноўны стрыжань тэм другога пэрыоду бэлетрыстычнай творчасьці Цішкі Гартнага.

Так, здабытыя ў Кастрычніку новыя, жаданыя ўмовы жыцьця трэба абараняць і ад панскага войска і ад унутранага ворага—бандыта. Гэтай задачай і апанаваны шмат якія героі апавяданьняў Цішкі Гартнага, багатыя запалам, вялікім уздымам рэволюцыйнай барацьбы. Толькі перамога над клясавым ворагам дазволіць хутчэй дасягнуць пастаўленыя перад сабой мэты. Таму ў гэтай барацьбе гіне і так небагатая гаспадарка беларускага селяніна, хоць адначасна зьяўляюцца і парасткі новага, вынік здабытага („На новым месцы").

У гэтай барацьбе за новае жыцьцё гінуць лепшыя, адданыя справе рэволюцыі барацьбіты; рвуцца-рушацца меркаваньні, надзеі, мары асобных людзей („Панкел Ліпа", „Спатканьне").

За справу рэволюцыі разам з бацькамі гінуць і іх дзеці („Сымонка-інжынэр").

Рэволюцыйны настрой, рэволюцыйная романтыка захоплівала маладое пакаленьне, клікалаісьці на бой абараняць заваёвы працоўных. Нянавісьць да сваіх ворагаў гадуецца з малых гадоў, перадаецца з матчыных вуснаў.

„Дойдзем, сынок"—новэля, якою Цішка Гартны глыбока ўзрушае пачуцьці чытача. Сялянка з сваім сынам уцякае ад наступаючых белапалякаў, з якімі змагаецца яе муж. Але—„ці дойдзем мы да свае мэты"?—вуснамі хлопчыка сымболічна ставіць пытаньне аўтар і ўпэўнена адказвае:—„Дойдзем, сынок!.."

А ня ўсе спрыяюць, ня ўсе аддаюць свае сілы на змаганьне з ворагам. Знаходзяцца такія, што пакідаюць чырвоныя акопы, уцякаюць. Але не рабочыя і сяляне дэзэртуюць. Цішка Гартны паказвае, як адзін шляхціц пакідае бальшавіцкі фронт. Прыходзіць у сваю вёску, вёску займаюць палякі. Апошнія (ня было часу разьбірацца, шляхціц ён ці не), як чырвонаармейца, выводзяць „у расход" („Багунец").

Урачыстасьць змаганьня, перамогу сьвяткуе працоўны народ. Яго дзяржава, яго ўлада. Але гаспадарка разбурана. Гуртуюцца сілы для пераходу ў новую паласу—аднаўленьне гаспадаркі. Будаваньню новага жыцьця працоўным перашкаджаюць скрытыя ворагі—бандыты. У барацьбе з імі гінуць сумленныя працоўнікі савецкае ўлады („Прысады"). Але не атрымаць перамогі і бандытам, не спаралюшаваць творчы ўздым вызваленага працоўнага люду. Бандытызм зьнішчаны.

Без перашкод—за аднаўленьне гаспадаркі.

У апавяданьні „На новым месцы" Цішка Гартны закранае асобныя моманты організацыі савецкіх гаспадарак, людзей адданых справе будаўніцтва, людзей з імкненьнем разгарнуць культурную працу.

Кожны сумленны, шчыры чалавек сучаснасьці імкнецца палажыць і сваю цагліну ў фундамант новага жыцьця.

Вясковы працаўнік, церпячы шмат перашкод, усё-ткі адбудоўвае млін і бачыць у гэтым адно, мо' і невялікае, але зробленае на карысьць грамадзкае патрэбы, аднаўленьня гаспадарства („Свае блінцы").

Кастрычнік паставіў цэлы шэраг пытаньняў, якія тычацца сям'і, быту, перавыхаваньня чалавека.

Гэтая проблема не абойдзена Цішкам Гартным. Менавіта, як гэта задача вырашалася, якія формы яна прымала—Цішка Гартны паказаў у цыклі псыхолёгічных апавяданьняў.

Рэволюцыя вызваліла жанчыну. Рэволюцыя аформіла сьветапогляд, сьвядомасьць жанчыны. Наўпрэкі сваім бацьком, якія яе ўціскаюць, яна ідзе да свайго любага, байца Чырвонае арміі („Спатканьне").

Рэволюцыя запаланіла творчым уздымам многіх людзей, яны ўсю сваю здольнасьць аддаюць ёй. Мэханік Ладымер увесь вольны свой час аддае на організацыю культурнай працы. Гуртуе сілы. Жонка яго сумуе, у яе абуджаецца рэўнасьць. Падпадае пад уплыў акружаючай яе асярэдзіны і мужу адказвае зрадай („На новым месцы").

Чырвоны камандзір пакідае сваю жонку. Незадоўга яна выяжджае за ім, яго не застае, ён на фронце. Яна залічаецца ў санітарны атрад—сястрой. У дарозе даведваецца, што муж ёй зрадзіў. На фронце, пасьля бою, яна знаходзіць мужа раненым. Вернасьць жаночага каханьня выратоўвае яго („Ядзя Жучок").

Перад чытачом пісьменьнік выкрывае патайныя куткі жаночае душы, трагедыю маладой жанчыны, выкліканую некаторымі асаблівасьцямі новага быту („Дыягноз").

У гэтых апавяданьнях, створаных на фоне грамадзянскае вайны, ёсьць зарысоўкі новага быту (акцябрыны), паказаны процэс перавыхаваньня: перадом, перабудова псыхолёгіі чалавека.

Да цыклю псыхолёгічных апавяданьняў трэба аднесьці і „Таварыш інспэктар", дзе рысуецца жыцьцё дзяўчыны, закінутай у глуш вёскі.

Этап соцыялістычнага будаўніцтва краіны.

Людзі, якія-б змаглі прыняць удзел у гэтым будаўніцтве, якія-б маглі прынесьці карысьць, карыстаючыся markрознымі мэтодамі, ухіляюцца, выкручваюцца ад будаўніцтва, ад творчае працы. Інтэлігенцыя расшчапляецца, адна частка сьвядома проці, другая бярэцца за пляны, за цыркуль, за малаток, за цамэнт („Трэскі на хвалях").

Аповесьцю „Гаспадар" Цішка Гартны пераходзе ў новую паласу свае творчасьці. Яго героі цяпер—новыя людзі, людзі-будаўнікі, заводзкія рабочыя. Цішка Гартны расчыняе перад намі заслону ў другое жыцьцё, уздымае новыя пытаньні, актуальныя, пытаньні сёньнешняга дня, над якімі завастрае ўвагу ўся савецкая грамадзкасьць.

Завод працуе. На заводзе шмат рабочых. Але ня ўсё ў парадку. На заводзе безгаспадарнасьць, адмоўныя адносіны часткі рабочых да вытворчай працы. У заводакіраўніцтва вылучаецца стары рабочы. Ён уводзіць дысцыпліну, ён вымагае належнае продукцыйнасьці і якасьці працы. З ім лепшыя рабочыя-актывістыя. Проці яго—частка „заўсёды нечым нездаволеная". Выступленьні, хуліганскія папрокі, розныя ўчынкі стрымліваюць ініцыятыву рабочага-вылучэнца. Але яго словы: „Трэба разумець, што ты працуеш не на вецер, ня ў чужую кішэню. Працуеш— гэта ствараеш. Чым лепш створыш тую ці іншую рэч, тым больш прынясеш сабе карысьці",—яны паклалі канец безадказным выступленьням проці рабочага, стаўшага на чале заводу. Гэтыя словы яго таварышамі-рабочымі былі горача ўспрыняты, а кучка нездаволеных падпарадкавалася агульнай дысцыпліне.

Тэматыка Цішкі Гартнага, як мы бачым, рознастайная. Умелым разьвіваньнем сужэту пісьменьнік заваёўвае чытача, эмоцыянальна ўзрушае.

Цішка Гартны не калупаецца ў пачуцьцёх герояў, адкінутых бурлівым жыцьцём, не захлынаецца любаваньнем уласных перажываньняў, не лятуціць у адцягненай ад жыцьця фантазіі, а рэальнымі рысамі мастацка занатоўвае сучаснасьць. Рэальнае жыцьцё—гэта моцны грунт, ад якога Цішка Гартны не адрываецца ніколі.

Цішка Гартны ідзе крок у крок з жыцьцём, высуваючы перад грамадзкасьцю ўсё новыя і новыя задачы.

Кожная тэма апавяданьня—гэта актуальнае пытаньне нашага часу, гэта тыя адмоўнасьці, з якімі трэба весьці рашучую барацьбу, або тыя дадатныя бакі, якія трэба шырыць і паглыбляць.

Апавяданьні, асабліва першага пэрыоду, часамі не дасягаюць цалкам пастаўленае перад сабой мэты толькі з тэй прычыны, што яны носяць характар у пэўнай меры нейкае цягучасьці.

Вакол героя нанізваецца шмат розных эпізодаў, што стварае расьцягнутасьць, парушае суцэльнасьць малюнку, затушоўваецца ідэя, а таму і не заўсёды організуе пачуцьці чытача.

Але ў творчасьці другога пэрыоду, асабліва ў апавяданьнях зборніка „Прысады", гэты ў пэўнай меры адмоўны бок зьнікае. Тут мы

наглядаем большае нарастаньне фактаў (замест ранейшага доўгага апісаньня), рух дзеяў, асобных сцэн. Трэба падкрэсьліць, што асноўную ўвагу ў сваёй творчасьці Цішка Гартны зварочвае на тэматычнасьць і разьвіцьцё сужэту і гэты бок узьняты на належную вышыню. Апавяданьні другога пэрыоду вызначаюцца большай удасканаленасьцю тэхнікі, сьвежасьцю эпітэтаў і параўнаньняў. Да-рэчы трэба сказаць, што і лексычны бок апавяданьняў прыцягвае да сябе ўвагу чытача. Дыялектычны характар мовы Цішкі Гартнага можа паслужыць для спэцыяльнай працы, спэцыяльнага досьледу, каб выявіць яго этнографічныя асаблівасьці.

Творчасьць Цішкі Гартнага мае асаблівую вартасьць для беларускай літаратуры. Яго тэматыка—дарэволюцыйны рух, Кастрычнік, барацьба, гімн барацьбе, колектыўны штурм будаўніцтва,—гэта шлях стварэньня ў Беларусі пролетарскае літаратуры.

Цішка Гартны ўзбагаціў беларускую літаратуру новымі мотывамі, новаю тэматыкаю. Цішка Гартны палажыў пачатак і беларускай савецкай літаратуры.—„Першым словам аб пролетарыяце ў беларускай літаратуры, першым гучным словам аб беларускай рабочай клясе, якая толькі нараджалася—была творчасьць Цішкі Гартнага“ (В. Кнорын. „Аб рашаючых „дробязях“ у вялікім пытаньні“).

Этапамі, якімі ішла рэволюцыя, гэтымі этапамі і прышоў у беларускую літаратуру Цішка Гартны, гэтымі этапамі прышоў Цішка Гартны ў грамадзка-політычнае жыцьцё нашае рэспублікі.

„Песьні“ навальніцы ўскалыхнулі „Трэскі на хвалях“ і запанавала „ўрачыстасьць“ „Песьняў працы і змаганьня“. Стромка вырасьлі „Прысады“ на „Крыжавых дарогах“ нашае краіны.

Дзякуючы вялікаму скарбу мастацкай творчасьці, які падарыў беларускай літаратуры Цішка Гартны, беларуская літаратура хуткімі крокамі рушыцца наперад, абагачаючыся ўсё новымі і новымі заваяваньнямі, пераходзячы ад новэль і апавяданьняў да аповесьцяй і роману, адыгрываючы буйную ролю ў справе культурнага будаўніцтва, у справе афармленьня беларускае пролетарскае культуры.

# ГРАМАТЫЧНЫ СКЛАД МОВЫ Ц. ГАРТНАГА

*Юбілейны нарыс*

Я. Лёсік

Пачатак дасьледаваньню граматычнага складу мовы (фонэтыкі, морфолёгіі і сынтаксу з слоўнікам) нашых пісьменьнікаў паложан проф. П. А. Бузуком. Ім напісан кароткі нарыс аб мове Якуба Коласа („Мова і правапіс у творах Я. Коласа“, зьмешчаны ў зборніку „Якуб Колас у літаратурнай крытыцы“, стар. 137), потым „Увагі аб мове і стылю маладнякоўцаў“ (часопіс „Маладняк“ за 1927 г. № 5). Пісаў П. А. Бузук і аб мове Ц. Гартнага—„Галоўныя асаблівасьці мовы Ц. Гартнага“ (часопіс „Полымя“ за 1926 г., № 5).

Сюды належыць новая работа Л. М. Цьвяткова „Мова Ф. Багушэвіча“, якая чыталася, як даклад, сёлета ўвосень у Клясе мовы і літаратуры Б. А. Н. Да такіх работ трэба аднесьці цікавую і каштоўную работу Л. Цьвяткова „Увагі аб мове філёматаў“, дзе гутарка ідзе аб асаблівасьцях беларускае мовы ў беларускіх філёмацкіх творах Яна Чачота і аб беларусізмах у філёматаў у іх польскіх творах [1]).

Работы П. А. Бузука, пры іх каштоўнасьці, носяць, аднак, выпадковы і недакладны характар. Гэта асабліва датычыць яго работ аб мове Коласа і Гартнага. Аўтар ня выкарыстаў у належнай меры патрэбных крыніц, і часта прыпісвае некаторыя граматычныя і лексычныя факты пісьменьнікам, як іх уласьцівасьці, у той час як яны належаць да фактаў, пашыраных у літаратурнай мове або зьявіліся ў творах пісьменьнікаў у рэзультаце стылістычнай рэдакцыі або рэдакцыйнага правапісу. Напрыклад, да лексічных дыялектызмаў Ц. Гартнага аўтар аднёс такія словы, як *вымерхаўшыся, скрэмзаную, сьлібізуючы, рупіцца, луста, пашлёгвала, чаўпецца, скароджаньне, нарымсьцілася, плявузгае, хэўра, кпіш, не шманаў, кацёлка, машастоваю, ласьне, наўда, аскабалачкі, бадзяліся, сьцігалі, атаса, бізунец* і многа іншых. Гэтыя і падобныя словы можна сустрэць у Коласа, Каганца, Гарэцкага, Ядвігіна Ш., А. Гаруна і, значыць, належаць да звычайных літаратурных слоў. Гэтак сама, штучныя напісаньні, як *лясьнічаго, першаго, катораго, соцкаго, гоманом, Нёманоў* (з ненаціскным *о* ў другім складзе пасьля націску), уведзеныя

---

[1]) Гэта работа Л. Цьвяткова вышла ў 1297 г. двума асобнымі адбіткамі з „Прац Б. Дз. У.“. № 16.

выдавецтвам „Нашае Нівы“ і „Загляне сонца і ў наша аконца“, аўтар гатоў прыпісаць правапісу самога Я. Коласа.

Нельга згадзіцца і з некаторымі паглядамі і палажэньнямі аўтара, выказанымі ім у пералічаных вышэй работах. Напрыклад, у рабоце— „Увагі аб мове і стылю маладнякоўцаў“ аўтар піша, што „унясеньнем дыялектычных асаблівасьцяй пісьменьнікі пашыраюць і збагачаюць літаратурную мову“. Такая агульная формулёўка можа прынесьці не карысьць, а шкоду літаратурнай мове. Выставіўшы такое агульнае палажэньне, трэба быць паступовым і дапускаць у літаратурнай мове ўсю дыялектычную рознастайнасьць у фонэтыцы, спражэньні і скланеньні. А якая будзе карысьць, напрыклад, калі ў літаратурнай мове дапусьціць гук „р“ рознай цьвёрдасьці і мяккасьці або розныя тыпы скланеньня і спражэньня?

Рознастайнасьць фонэтычных і морфолёгічных зьяў не становіць багацьця мовы. Разьвіцьцё мовы выражаецца не ў павялічэньні гэтых граматычных фактаў, а якраз наадварот,—у іх спрашчэньні і скарачэньні. Фонэтычныя і морфолёгічныя дыялектызмы, занесеныя ў літаратурную мову, не ўзбагацяць яе, а толькі парушаць адзінства і зграбнасьць, што становіць канечны атрыбут кожнае літаратурнае мовы.

Узбагачваньне і разьвіцьцё мовы адбываецца ня спосабам агульнага, някрытычнага перанясеньня ў яе дыялектычных асаблівасьцяй, у пераважнай большасьці вузка меснага і архаічнага характару, а спосабам уважных адносін да агульна-прынятых граматычных норм, папаўняючы лексычны і фразэолёгічны запас літаратурнага дыялекту матэрыялам, з густам узятым лепшымі, узорнымі пісьменьнікамі-стылістымі з народных, або дыялектычных, крыніц з дадачаю да гэтага ўласных зваротаў іноватвораў гэтых мастакоў слова. Кожная літаратурная мова вызначаецца *адзінствам фонэтыка-морфолёгічнае базы,* а ўжо на гэтай адзінай базе будуецца ўся рознастайнасьць яе лексыкі, сэмантыкі і сынтаксу.

Адгэтуль дзіўным здаецца і другі погляд аўтара, выказаны ім у той-жа рабоце на граматыку. Там мы чытаем: „Гэта парушэньне граматычных законаў... прыносіць, праўда, нямала няпрыемнасьцяй тым настаўнікам у школе, якія баяцца адступіць ад падручнікаў граматыкі, але, к вялікаму шчасьцю, у гэтай справе школьныя падручнікі граматыкі недалужны і ня здолеюць спыніць разьвіцця мовы“. („Маладняк“ 1927 г., № 5, стар. 73).

Калі-б сапраўды школьныя граматыкі зьяўляліся такім тормазам у справе разьвіцьця літаратурнае мовы, то яснае дзела, што іх трэ‘ было-б выкінуць з школы, як прадмет навучаньня... Гэты, як нам здаецца, анархісцкі погляд на граматыку зноў-жа нічога, апроч шкоды, прынесьці ня можа. Граматычныя нормы, як грамадзкія, або дзяржаўныя законы, не запыняюць разьвіцьця, а рэгулююць яго і тым дапамагаюць яго поступу і росквіту. Толькі організаванай і дысцыплінованай грамадзе

забясьпечаны бесьперабойны прогрэс і дасягненьне сваіх мэтаў; толькі граматычна-правільная, г. зн. нармаваная мова можа дасягнуць свайго вышэйшага разьвіцьця, недаступнага народным дыялектам, якія залежаць ад самых markdown розных і часта выпадковых прычын і ўплываў.

---

Звычайна фонэтычныя і морфолёгічныя асаблівасьці ў мове пісьменьніка сьціраюцца пры стылістычнай рэдакцыі іх твораў устаноўленым правапісам і граматычнымі нормамі нават у тых выпадках, калі-б сам пісьменьнік з тых ці іншых прычын і дапусьціў гэтыя асаблівасьці свайго роднага дыялекту. У такіх разох гаварыць аб гэтых асаблівасьцях можна толькі паводле стылістычна-рэдакцыйных недаглядаў, але гэты матэрыял ненадзейны, бо мог зьявіцца ў рэзультаце рэдакцыйнай вы праўкі, прычым у зьмененай і папсаванай форме.

Але гэта і ня важна, паколькі родны дыялект кожнага цяперашняга пісьменьніка лёгка аднавіць, дасьледаваўшы яго на месцы. Пры дасьледаваньні мовы пісьменьніка важна не фонэтыка і морфолёгія, а яго сынтакс, лексыка, сэмантыка, стыль.

Наша задача—граматычны склад мовы Ц. Гартнага. З гэтага боку мова Гартнага становіць шчасьлівае выключэньне. Некаторыя свае творы Ц. Гартны сам выдаваў і сам назіраў за іх карэктаваньнем, прычым у тыя часы, калі ня было яшчэ ні беларускай граматыкі, ні ўстаноўленага правапісу, калі кожны стараўся пісаць больш-менш так, як у іх гавораць, або так, як яму здавалася лепш, натуючы, такім парадкам,—сьвядома ці несьвядома—усе асаблівасьці свайго роднага дыялекту, паколькі пазваляла графічная магчымасьць і не замінаў уплыў некаторых тагочасных беларускіх выданьняў і расійскай граматнасьці.

Гэтак пісаў і Ц. Гартны. Ня маючы ўстаноўленага правапісу і граматычных правіл, ён зрабіў правільную ўстаноўку ўпісаньні, арыентуючыся ва ўсім на сваю родную гаворку. Гэтая акалічнасьць дае магчымасьць калі ня поўнасьцю, то блізка да пажаданае паўнаты выявіць граматычны і лексычны склад яго мовы.

Але наша работа носіць юбілейны характар і не протэндуе на паўнату і дакладнасьць. Яна пішацца ў сувязі з дваццацілецьцем літаратурнай творчасьці пісьменьніка і мае на ўвазе выясьненьне выдатнейшых граматычных асаблівасьцяй у мове юбіляра.

У васнове гэтае работы ляжаць творы юбіляра—поэзія і проза, зьмешчаныя ў газэце „Дзяньніца“ за 1916 г. і 1918 г. і ў зборніку „Зажынкі“, якія выдаваліся самым пісьменьнікам пры яго рэдагаваньню і беспасрэдным наглядам за друкам. Яго іншыя творы—„Сокі цаліны“ ч. І-ая і ІІ-ая, зборнік „Трэскі на хвалях“ і „Прысады“, „Песьні працы і змаганьня“, што прайшлі ўжо стылістычную рэдакцыю, служылі галоўным чынам для выбаркі сынтаксычнага і фразэолёгічнага матэрыялу.

Пры паказаньні крыніц будуць ужывацца наступныя скарачэньні:

1. ДЗ. 6..—.„Дзяньніца“ 1916 г.
2. ДЗ. 8...—„Дзяньніца“ 1918 г., прычым другая цыфра будзе паказваць номер газэты.
3. З.—зборнік „Зажынкі“, выд. 1918 г.
4. П.— „ вершаў „Песьні працы і змаганьня“ выд. 1922 г.
5. С.—роман „Сокі цаліны“, ч. І-ая, выд. 1922 г.
6. Сц.— „ „ „ „ ІІ-я, „ 1926 г.
7. Т.—зборнік „Трэскі на хвалях“, выд. 1924 г.
8. Пр.—зборнік „Прысады“, выданьне 1927 г. Цыфры пры літарах паказваюць старонку кнігі.

## Фонэтыка

### 1. Галосныя

Цішка Гартны родам з м. Капыля, Слуцкае акругі. Яго мова належыць да гаворкі з т. зв. моцным, або вялікім, аканьнем. Гэтую асаблівасьць свае роднае гаворкі пісьменьнік адбівае цалкам.

1. Кожнае ненаціскное **о**, а таксама **э** пасьля зацьвярдзелых зычных незалежна ад складу і націску, як у словах сваіх, так і чужаземных, перадаецца літараю **а**, напр.: *атгаварыўся* Дз. 6, 5, *паабедай* З. 6, 4, *маладчына* Дз. 6, 7, *гэтак та гэтак* З. 5, *та ўперад, та назад* З. 4, 6 *багародзіцы* С. 69, *чалавечае* Дз. 6, 5, *пеpажагнаўся* Дз. 6, 2, *галадранца* Дз. 5, 6, *можам* З. 6, *грашыць*, З. 82, *няжанаты* З. 1, *па хвабрыца* Дз. 6, 7, *раваліоцыя* Дз. 8, 15, *сакрэтам* Дз. 8, 16, *дакляроўвалі* Дз. 8, 9, *пратасамі* Дз. 8, 11, *палітычнага* З. 126, *каламашку* З. 33, *дэямакрат* З. 15, *раваліоцанэрамі* З. 15, *рэакцыя* З. 128, *пралятарыя* З. 130, *бібліатэцы* Дз. 8, 15, *акстазу* З. 122.

У складаных словах з выразнымі складанымі часткамі знаходзім *о*: многабокі З. 128, скорамоўна С. 34, трохшыбнымі С. 22, чатырохкантовы С. 23. Гэтак сама трапляецца ненаціскное э ў чужаземных словах: вэтарынара З. 8, пад уплывам этымолёгічнага пісьма.

Але поплеч з поўным аканьнем, прыметнікі муж. і ніякага роду адзін. л. у родным склоне часьцей пішуцца з *о* ў апошнім адкрытым складзе пасьля націску, калі склад будзе другі або трэцьці: чыстаг*о* З. 36, палітычнаг*о* З. 126, нашаг*о* З. 138, шырокаг*о*. З. 138, жончынаг*о* Дз. 8, 14, зьмерклаг*о* Дз. 40, дрэннаг*о* З. 5, шчаснаг*о* З. 62, цьоплаг*о* З. 62 і гэтак далей, але тут-жа—*гэтага* Дз. 6, 7, *яшнага* Дз. 6, 7, як *сьвятога*.

На гэтае напісаньне зьвярнуў увагу і праф. П. А. Бузук, пішучы аб мове і правапісу Якуба Коласа. Ён піша: „Аканьне (у мове Я. Коласа. *Я. Л.*) адрозьніваецца ад таго моцнага тыпу, які ўзаконен правапісам Тарашкевіча. Ня ведаю, якою прычынаю выклікана гэта зьява, але ва

ўсякім разе ў ранейшых выданьнях твораў Т. Гушчы мы знаходзім такую цікавую асаблівасьць: у вапошніх адчыненых складох, калі ён будзе другім пасьля націску, заўсёды застаецца *о*... („Якуб Колас у літаратурнай крытыцы“, стар. 137).

Мова Якуба Коласа мне асабіста знаёма, як мая родная гаворка, і, разумеецца, ні ў мове Коласа, ні ў мове Ц. Гартнага ненаціскное *о* ў паказаных палажэньнях ня мае ніякае фонэтычнае падставы. Гэта штучнае напісаньне, уведзенае паказанымі вышэй выдавецтвамі, якія пасвоему імкнуліся праводзіць на пісьме дысыміляцыйнае аканьне і яканьне, не дапускаючы ў некаторыя разох зьбегу двух **а** і **я**, калі адно з іх вытваралася аканьнем ці яканьнем. Гэтым-жа аб'ясьняецца, што яны пісалі „апаведаньня“ а не „апавяданьне“ (з ненаціскным *е* перад складам з **а**), аб чым упамінаецца П. А. Бузуком у той-жа рабоце. Гэтае напісаньне ненаціскнога *о* ў паказаных формах прыметнікаў перадавалася часам і Ц. Гартным.

У Гартнага сустракаецца таксама ненаціскное **о** ў формах загаднага ладу: пабачымо З. 20, 22, але—павячэрайм*а* ДЗ. 6, 2. Гэта таксама ўплыў нашаніўскага напісаньня, бо трэба лічыць бясспрэчным, што гаворка Ц. Гартнага вызначаецца поўным аканьнем як ненаціскнога *о*, так і э (пасьля шыпячых і *р*, *ц*).

2. Гэтак сама кожнае ненаціскное **е** (пасьля мяккіх зычных), незалежна ад складу і націску, Ц. Гартны перадае літараю **я**, напрыклад, 1) *перад націскам*: с*я*нажаць Дз. 8, 41, сьц*я*ражэ Дз. 6, 5, ц*я*мнавата Дз. 8, 41, прал*я*патала (пралепятала) Дз. 8, 41, забясьпечвала Дз. 8,30, б*я*сіоды Дз. 8, 12, с*я*л*я*дзец Дз. 8, 19, в*я*с*я*лухі З. 64, б*я*дакоў З. 39, в*я*с*я*ліцца З. 11, дз*я*с*я*ціна З. 3 і тут-жа—дз*е*с*я*цінак, дзесяцін; п*я*рамясьціўся С. 34 (нават у выданьні з стылістычнай рэдакцыяй), н*я* вінавата Дз. 6, 7, п*я*райшоў Дз. 6, 4, п*я*рабег Дз. 8,41, н*я*бывалы Дз. 8,41, н*я*чуваны Дз. 8, 41, п*я*рашэптваліся Дз. 8, 31, п*я*рамагчы Дз. 8, 31, н*я*самавітыя Дз. 8, 31, н*я*падгатаванага Дз. 8, 15, б*я*сп*я*расьціханьня Дз. 8, 15, с*я*рабрацца Дз. 8, 14, н*я*спадз*я*вана Дз. 8, 19, н*я*пастаянна Дз. 8, 12, н*я*справ*я*длівасьць Дз. 6-8—3, 4, 9, н*я*патрэбны Дз. 8, 9, н*я*баракі З. 31, н*я* зарабіла З. 56, н*я* чалавечым З. 80, н*я* б*я*з угашчэньня З. 37, н*я* адкладаючы З. 24, н*я* дачакацца З. 18, н*я* падашукаяш З. 26, н*я* дав*я*раяш З. 9, п*я*рапраўляючым З. 12, в*я*с*я*ліцца З. 11, н*я*каторыя З. 2., **ня** павярніся З. 3.

Але па месцы адмоўя „не“ бывае і „ні“ [1]); *ні*ма Дз. 6, 7, Дз. 8, 4, З. 22 (бадай што заўсёды) *ні*спадзівана Дз. 6, 7, Дз. 8, 21, *ні* паварнуся Дз. 6, 7, *ні* бачылі З. 52, *ні* загоднымі (ні за воднымі) З. 35, *ні*ведаю З. 18, 2, 4, *ні* ведаеш З. 5.

---

[1]) У Дз. 6 трэба адрозьніваць літару „і“ ад „ї“ (з двумя кропкамі зьверху); апошнюю часам перадавалася ненаціскное „е“ перад націскам; гэтак сама літараю *а* з двумя кропкамі зьверху перадавалася ненаціскное э у дзеяслоўных формах.

2. *Літара* **я** *па месцы ненацískнога* **е** *пасьля націску:* вецяр Дз. 6, 5, тыдзянь Дз. 6, 5, вылязла Дз. 6, 5, гасьціняц Дз. 6, 4, хлопяц З. 1, мацяры Дз. 6, 4, зяцям Дз. 6, 3, алеям З. 1, заўчасьня З. 9, у роцяДз. 6, 4, на прызьбя Дз. 8 12, па дарозя З. 5, кажэця З. 13, пярабірая З. 9, аслухаямся З. 38, пашкадуяш З. 26, чуяця З. 8, застаўляя З. 4, спыняяцца З. 4, шанцуя З. 4 шпацаруя З. 6, засьляпляя Дз. 8, 15, тоя З. 5, кожная слова Дз. 8, 12.

У местным склоне на месцы ненацíскнога *е* бывае і *і* (бач. морфолёгія).

Ненацíскное *е* пасьля націску бадай што не спатыкаацца, калі ня лічыць аднаго, двух разоў (пераможаце З. 14.). Перад націскам спатыкаецца яно ў прыстаўцы „пера“, у вадмоў і „не“ ў другім і далейшых складох, дзе можа быць і іншае ненацíскное *е*, напр.: пераглянуліся Дз. 6, 4, пераінача́ыўся Дз. 6, 4, перажываце З. 14, пераможаце З. 14, не абапіраліся Дз. 8, 21, не пашкадавала З. 56, неміласэрдна Дз. 8, 41 вечарамі З. 13.

Але агулам кожнае ненацíскное *е* можа перадавацца літараю *я*, як гэта відаць было з прыкладаў. Як глядзець на такое напісаньне? Аб існаваньні моцнага яканьня гаворыцца ў Карскага („Беларусы“, т. II, стар. 205-6), але ёсьць падстава думаць, што гэта мэханічнае, несьвядомае перанясеньне дысыміляцыйнага яканьня на кожнае ненацíскное *е*.

Мова Ц. Гартнага бясспрэчна належыць да гаворкі з т. зв. моцным яканьнем, але напісаньне некаторых слоў (вечарамі З. 13, пераможаце З. 14) пры сыстэматычным яканьні з іканьнем у некаторых разох, пазваляе думаць, што і ў мове Ц. Гартнага ненацíскное *е* ня ў кожным палажэньні дае *я*. Калі-б гэтае меркаваньне падцьвердзіў досьлед на месцы, то можна было-б лічыць даведзеным, што ў беларускай мове няма пэўнага яканьня, а ёсьцьтолькі дысыміляцыйнае яканьне тыпу *сяло—села*.

Цікава, што Янка Купала і Якуб Колас разам з Цішкам Гартным згаджаліся на Акадэмічнай Канфэрэнцыі ў справе рэформы беларускага правапісу перадаваць кожнае ненацíскное *е* літараю *я*, спасылаючыся на свае родныя гаворкі. Але досьлед гаворкі Янкі Купалы[1]), зроблены мною на месцы, паказаў, што ў той гаворцы, на якую ён спасылаўся, няма моцнага яканьня. Акопская і суседняя Карпілаўская гаворка вызначаецца выразным дысыміляцыйным яканьнем тыпу *сяло—сяло*, напрыклад, мною занатованы такія выпадкі ў вымаўленьні ненацíскнога *е:* а) *у першым складзе перад націскам, калі ў націскным складзе няма* **а**: цяпер ужо, ня будзе, на пяскох, нядзелі, ня трэба, ня піша, ні цячэ; б) *у першым складзе перад націскам, калі ў націскным складзе ёсьць* **а**: не дай бох ні беда, драбеза працекае, ена прасоліцца; в) *у другім складзе перад націскам:* не было, у сераду—у сіраду, прычым у такіх разох чуецца *е*

[1]) Я. Купала гадаваўся ў хутары Акопы вёрст 30 на поўнач ад г. Менску.

вузкае і часам выразнае *і*; г) *пасьля націску:* вецер, восім рублей; крые, пэўне, сыпе, пашэнце, дзінькуе, ня будзе; у дзеясло́ўных формах 3-яе асобы адзін. л. *е* таксама вужэйшае за нармальнае; *німа* і *ніхай* заўсёды з „і". Звонкія перад глухімі і ў канцы слова пераходзяць у глухія: не дай бох, сьнех, падвесьці, другі вос, бліска.

Мова Ц. Гартнага вельмі падобна да мовы Якуба Коласа, г. зн. і да мае роднае гаворкі (м. Капыль ад с. Мікалаўшчыны вёрст 40—42); і ў нас кажуць: у шапца, на лузя і—на шапцы, на лузі, але сказаць, якога характару Мікалаўскае яканьне, не магу, ня быўшы дома гадоў 20.

3) Замест **е** знаходзім **і** ў мове Гартнага ў наступных разох: ліваю рукою Дз. 8, 22, лівое рукі Дз. 8, 22, розцвіт Дз. 8, 26, рассьвіло (разьвіднелася) С. 69, на колінках Дз. 8, 26, усьміхнулася Дз. 8, 22, кірмашом Дз. 8, 15, цвікамі Дз. 8, 9, кілішак Дз. 6, 3, а таксама: сьоньні і—сягоньня Дз. 8, 30, З. 4, дзісяткі Дз. 6, 7, дзісятак Дз. 8, 31, дзісяткаў Дз. 8, 21, 19, дзісяцкія З. 1, дзісяткі З. 22.

У Дз. 6 спатыкаюцца напісаньні з *ы—і* на месцы ненаціскных *о—е* і часам *а—я*, напрыклад: дачыкацца, кавалачык, гырачылася, хочыцца, хочыш, дзіўчата, сьоліта. У іншых выданьнях падобных напісаньняў няма, але—ціжарны П. 75—цяжарнае П. 80, іскравай П. 80—яскравым П. 86, ікрас Дз. 6, 7—якраз Дз. 6, 6, ікрас (якраз) З. 34, ціжарнымі З. 80, піцьдзісят Дз. 8, 4, 14, дзіндобры З. 21, цяперыча—знаходзім і ў іншых выданьнях.

Ыканьне і іканьне занесены ў творы Ц. Гартнага, зьмешчаныя ў Дз. 6, супрацоўнікам гэтае газэты Эд. Буцькам, родам, здаецца, з Будслава, Вілейскага павету, які імкнуўся даць некаторыя правапісныя правілы ў сваім артыкуле „Кіньма думкі да граматыкі", надрукаваным у той-жа газэце за 1916 год. Там ён і гаворыць пра такія напісаньні з „ы" і „і", як—*кажыш, хочыш, сёліта, дзіўчаты*.

4) На месцы **і—ы** знаходзім **е—э** ў наступных словах: Расея Дз. 8, 15, сіберны Дз. 8, 31, П. 75, сібернейшы П. 38, патэры Дз. 8, 30, і наадварот—нутрыны́ Дз. 6, 7, прыпону Дз. 8, 29, адрыс, Дз. 8, 12, трызвон С. 22 (бач. 17), кожын Дз. 6, 6, З. 13 і—кожны Дз. 6, 6, П. 9, з горына П. 16, да канцыляры З. 37, але шпацаруе П. 89.

5) Няма пераходу **е** ў **ё** ў наступных разох: крыжэўнік Дз. 6, 3, шэптам З. 52, нашэптвала Дз. 6, 2, пярашэптваліся Дз. 8, 3, рашчэсаныя З. 1, ужэ Дз. 8, 9, З. 60, 56, 50, няўжэ Дз. 8, 11, З. 57 і—ужо З. 3, 4, Дз. 8, 14, есьць З. 4 і—іосьць З. 4, ашчапенак З. 57, далека З. 8, капеж С. 98, гаршчэчкі З. 52, вячэрная С. 61, але запьорла Дз. 6, 4, лажочніку З. 7, маладзёж С. 3, пры *молаць* Дз. 8, 15, цёгся Дз. 8, 11, цёгшы кроў П. 99, пачостку С. 45, правёў чортку П. 41, пёрайкам С. 129, бясёда С. 26, бясіоды Дз. 8, 11, 12, працёгшы П. 9, 68, пяроймы С. 109, уваскрос—уваскросьлі—уваскросла З. 35, 34, 55, П. 98, папярочная С. 14, 34, гулёшчы С. 31, жыцьціо З. 51, Дз. 6, 7, памёрлі П. 74, пяройдзе П. 32.

Формы *ужо* і *ёсьць*, як відаць, неўласьцівы мове Ц. Гартнага, а занесены ў яго мову ўплывам нашаніўскага ўжываньня.

6) Прыстаўкі „пера“ і „перад“ часта скарачаюцца ў „пра“ і „прад“: *пра*шкоды П. 38, 75, 91, *пра*шкаджае Дз. 8, 30, *пра*сьцярагалі Дз. 6, 2, бес*пра*станку П. 36, *прад* вачыма П. 37, *прад* сабою П. 36.

7) Ненаціскныя **о** і **е** ў закрытых складох падмяняюцца гукам у (**ю**) звычайна ў канчатку прыметнікаў адзін. л. у месным склоне, а жаночага роду і ў давальным склоне: нек*у*лькі З. 11, аб неч*у*м З. 11, у гэн*у*м З. 35, цікаўн*у*м З. 11, у дваров*у*м З. 11, па крайн*ю*й З. 3, суседн*ю*й Дз. 6, 3, у сін*ю*м Дз. 6, 3, прыгож*у*м Дз. 6, 2, гладк*у*м Дз. 6, 7, гразк*у*м Дз. 6, 2, дзіўн*у*м Дз. 6, 2 і г. далей.

8) У наступных словах знаходзім **э** на месцы **а**; ашчэдны П. 43, ашэдкі С. 25, ашчэднасьць С. 6, заўчэсьне П. 37, З. 9, Дз. 8, 15.

9) Гук **ы** на месцы **а** маем у слове: уд*ы*р П. 70, удыр за уд*ы*рам П. 66.

10) Праясьненьне глухіх знаходзім у наступных словах: бязоднай (ты увагі бязоднай гадна) З. 64, с*а*сох (ссох) З. 7, пад*о*швах Дз. 6, 6, бязоднымі вачамі С. 55, с*ы*пынім (спынім) Дз. 6, 2, ак*е*нца С. 21, вак*е*нцамі С. 22, аг*е*ньчык Дз. 8, 11, 31, аг*е*ньчыкаў Дз. 8, 11.

11) Пры звычайных поўнагалосных формах (*валадыр* С. 36, *пад норай* З. 37) знаходзім: *злотам* П. 25, 94, *злоце* П. 45, *срэбра* П. 25, *сраб*рысты П. 19 і—*глаўнае* С. 77. Калі форма „глаўнае“ яўны ц.-славянізм, запазычаны з расійскай літаратурнай мовы, то словы *злота* і *срэбра* вельмі пашыраны ў беларускай мове, а слова „злото“ знаходзім і ў надпісу на крыжы Эўфрасіньні Полацкае, хоць акад. Карскі гэтае слова ў старабеларускай мове адносіць да „несомненных полонизмов“ („Белоруссы“, т. II, ч. I, стар. 301—2), а на стар. 302-ой піша,—што і ў жывой беларускай мове „злота“ становіць палёнізм, дапускаючы гэтае вытварэньне ў песеннай мове нараўне з „млоды“, „вроны“ і падобнымі ў сілу страты ненацікснога *о* для вершу. Але пры беларускім аканьні ў такіх разох скарэй-бы вытвараліся формы **з а**: *млады, драгі*, а ня *дрогі* (дарагі). Цікава, што народная мова дапускае формы з **о** і з **а**, але часьцей з **о**, напр.: Напала брага на свайго *ўрага*. З адным богам на сто *ўрогаў*. Сабачы *глос* ня йдзе да нябёс. Сей пшаніцу на Сымона Зілота—будзе, як *злота*. *Злоты* вароты, *злотнічкі*-работнічкі, *млода* маладзюсенька. *Злотам* іскры скачуць (Я. Колас) і г. далей.

12) На месцы старога „ѣ“ (яць) знаходзім **а** (**я**) пад націскам у такіх словах: цалкам С. 28, бляск С. Ц. 40, разьядае П. 22. Націскное **я** на месцы яці часта сустракаецца і ў Я. Коласа ў выражэньні; *ад'яда* сэрца. Сюды аднясом і такія выпадкі, як: *бляды* З. 50, *блядую* П. 48, *збялдзела* З. 51, *недавяркова* С. 134, хоць тут **я** не пад націскам і вытварылася з ненацікснога **е**. Слова „недавярак“, якое можна сустрэць у Гартнага і Я. Коласа, яўны паланізм.

Гук „ы“ ў слове „цылая“ (цылая душа С. 67) незразумелы мне, гэтак сама *о* замест *у* ў слове „бойныя“ (бойныя сьлёзы Дз. 8, 41). Сустракаюцца яшчэ такія выпадкі: *рыжовыя* Дз. 8, 41 замест „ружовыя“. потым „бэчся, бэчся, дзевачка“ С. 119 пры „што яна бочыцца“ С. 120,

13) На месцы націскнога **о** знаходзім **а** у слове: гарды П. 69, гáрдай П. 69, гáрда П. 39, З. 39, гáрдасьць З. 136.

14) Сьляды насавых галосных гукаў знаходзім у наступных словах: *енк* С. 36, П. 98, *енчыць* П. 22, *навярэджвалася* гаварыць С. 126, *нэндза* Дз. 8, 27, П. 21, *хэнць* З. 11, П. 25, 21, *хэньця* П. 17, *пэнд* П. 78, *нашчэнт* П. 63, З. 51, *асьвянчаючы* П. 65, *дрэнчыш* П. 17, *дрэнчыла* Дз. 6, 7, *дранцвелі* Дз. 8, 22, *пэнту* П. 34, Дз. 8, 29, *падрэнчы* Дз. 8, 9, *пасьвянчэньня* Дз. 8, 11, *заўзента* З. 6, *цёнгля* Дз. 8, 26, *валэндацца* С. 69.

Сярод гэтых слоў пераважная большасьць бясспрэчных палёнізмаў, але словы *енк, енчыць, нэндза, нашчэнт, цёнгля, дранцьвець, дрэнчыць* даволі пашыраны ў некаторых дыялектах нараўне з *злота, срэбра, дрэва.*

15) Словы дзеяслоўнага пахаджэньня з суфіксам **э**: *старэнна* Дз. 6, 7, Дз. 8, 11, 31, 41, П. 17, С. 77, *старэнная* З. 110, *заблішчэла* З. 62, Дз. 8, 11, 43, *заззвінчэлі* З. 52, *запішчэла* З. 80, *крапчэў* З. 80, С. 96, *хрушчэў* З. 80, *дрыжэў* Дз. 8, 11, *затрашчэў* Дз. 8, 11, *прагучэў* П. 70, *загучэў* П. 70, *старэньняў* П. 90, *блішчэла* С. 141, *апушчэльнасьць* С. 122, *тырчэў* С. 84, *дрыжэць* С. 64, *даражэла* С. 41, *тарчэўшы* С. 36. Сюды прыпішам: пагледзім Дз. 8, 31, абгледзіў С. 69.

16) Дзеяслоўныя формы з шматразовым значэньнем заўсёды ўжываюцца бяз **ы—і** ў суфіксе і не зьмяняюць націскнога карэннага **о** на **а**: распытвацца Дз. 6, 7, абрадваць Дз. 6, 7, нашэптвала Дз. 6, 2, адпісваю Дз. 8, 12, забясьпечвала Дз. 8, 30, заплюшчвай П. 11, але *падтрымлівала* П. 99, дзе знаходзім „і“, каб ухіліцца ад зьбегу трох зычных; загароджваюць С. 84, зблытвалі С. 71, зварочвалі С 73, абменьваліся С. 67, зварочвай П. 76, сыгаворваючы Дз. 6, 7, адгароджвалі Дз. 8, 31, выраствалі З. 79, выпрошваць З. 38, падкопваўся З. 9, заварожваеш С. 83, дакляроўвалі Дз. 8, 9, паварочваючы Дз. 6, 7 і тут-жа—*выпрашваць* Дз. 8, 12, яўна запазычанае вытварэньне з расійскае мовы; аднеквацца, закусваць Дз. 6, 4 і г. далей.

17) Склады **ры—лы**: дрыгва З. 56, дрыжаў З. 56, трывожыла Дз. 6, 5 скрыжытала Дз. 8, 31, скалынула Дз. 8, 31, акрываўлю Дз. 8, 31, палымнее П. 73, трывогаю П. 75, крывавым П. 17, дрыжачаю П. 37, дрымоту П. 33 і—драманьне П. 33, загрымнуць П. 33, але—грамацеў (грымацеў) С. 29, трасьцінка С. 79; зблыталі С. 71, трызвон С. 22.

18) Заўсёды знаходзім: *лыжку* (ложку) З. 35, *смурод* П. 22, 23, 24, *прыморак* (прымурак) З. 4, *прыморку* З. 13, *суботу—суботнюй—суботняя* Дз. 8, 30, а таксама—*грумада* З. 16, *грумадамі* Дз. 8, 11, *жукетку* З. 19, 52, *ютрань* (утрань) С. 21.

19) Прыстаўныя галосныя: ілбу Дз. 6, 3, С. 90, ільвінаю П. 27, ільністыя З. 1, Дз. 8, 11, імчаліся Дз. 6, 7, ільга З. 116, іржышча Дз. 8, 9, цэрківі З. 18, чырвань П. 68, каўбаса З. 19, а таксама—*і*грушкі С. 107, *і*сподняе С. 34, *і*голкі Дз. 8, 41, яе *і*голкаю С. 91, *і*начай Дз. 8, 22, *і*зноў Дз. 8, 22, заўсёды ўжываюцца з гукам „і" на пачатку слова.

Прыназоўнік „з" таксама прымае „і", калі наступнае слова пачынаецца зьбегам зычных: *із* збанка З. 3, *із* стала З. 52.

20) Адпадзеньне пачатковых ненаціскных галосных **і—а**: *у меньня* З. 56, *меньня* З. 3, *па меньнях* Дз. 8, 1, *канастас* С. 157, *Гнат* ДЗ. 8, 9, *Гнатам* Дз. 8, 9, *Нухрэй* Дз. 8, 40.

21) Устаўныя галосныя: цэнтар З. 116, акцябарскі П. 71, цемер П. 78.

22) Скарачэньне слоў: *здэцца* Дз. 6, 2, П. 17, 35, *шчэ* Дз. 8, 11, П. 16, 18, *мо*' З. 35, *трэ*' З. 2, П. 17, *жвот* З. 35, Дз. 8, 9, *у жваце* З. 6, *выварай* З. 20, *пайдыр* (павадыр) Дз. 8, 40, *на стрэчу* П. 24, *нат* (нават) З. 9, усё *ткі* З. 5, *нічой* спагады Дз. 8, 11, *рэўлюцнэра* П. 85, *рэўлюцыйным* П. 85. Апошнія два словы належаць пісьменьніку, скарочаныя ім для вершу.

23) Ненаціскныя пачатковыя гукі **і—у** скрачаюцца пасьля галосных, а мы *й* ня чулі З. 26, а ты *й* верыш З. 34, ня йшлі Дз. 8, 33, трэ йсьці, С. 76, але—рыну *усё* і *усіх* П. 8. Для вершу пісьменьнік скарачае „і" нават у такіх выпадках: *Й* за якую й я даў дачу П. 8.

24) У прыстасаваных словах ад „ісьці", „ішоў" нескладовае *й* знаходзім у такіх разох: прайходзіць З. 127, прайходжваўся Дз, 8, 41, прайходзіліся С. 93, вайсьці З. 80, прайсьці З. 111, Дз. 8, 9, прайшоў Дз. 8, 9, прайшла Дз. 8, 31, зайходзючага Дз. 8, 9, прайшло Дз. 8, 11, зайшла Дз. 8, 33, разыйшліся Дз. 6, 5, знайходзілася Дз. 6, 7, пярайшоў Дз. 6, 7 і—*падыці* Дз. 8, 30, *пашла* Дз. 8, 33, *знашоў* П. 15, *нашлося* Дз. 8, 33.

25) Ненаціскное *о* ў суфіксе „ова" падмяняецца гукам *у*, вытвараючы суфікс „ува": *дзякуваць* З. 57, Дз. 6, 3, *дзякуваў* Дз. 6, 4, *разэлуваў* Дз. 6, 4, *узрадувалася* З. 52, *злувалі* Дз. 8, 9, *злувацца* Дз. 8, 14, *сапробуваў* Дз. 8, 9, *брудцуваты* З. 50 (бач. Карскі „Белоруссы" т. II, ч. II, стар. 70, I ч. 113—114), а таксама—п*у*рэчачкі (парэчкі) Дз. 8, 41.

26) Дыфтонгі не абазначаюцца за адсутнасьцю графічных магчымасьцяй, але ў слове „нядушлая" (=нядошлая—нядушлая) можна бачыць дыфтонг, калі гэта ня іншае вытварэньне.

*Зычныя*

У сфэры зычных заўважваюцца наступныя зьявы:

1) Асыміляцыя звонкіх з глухімі і наадварот і пераход звонкіх у глухія ў абсолютным выгучэньні слова: ця*ш*ка З. 8, вылясьці Дз. 6, 7, дзя*ц*ьку Дз. 6, 3, лесьці Дз. 6, 3, сусе*ц*кі З. 1, ля*х*чэй З. 15, у ля*х*чыні З. 19, пальо*х*кі З. 29, нябо*ш*чык З. 10, калама*ш*ку, З. 33, шалу*ц*ька З. 33, ня ѓадыхо*ц*ьця Дз. 8, 35, бакла*ш*каю П. 24, дзе*т*ку (кліч. ф.

дзедку) Дз. 8, 40, бясклапотныя С. 31, на*т*та Дз. 6, 7, сту*ш*ка Дз. 6, 7, уперамe*ш*ку С. 67, му*ш*чыны С. 47, палю*ц*ку Дз. 8, 11, сце*ш*ку З. 112, дзя*ц*ькі З. 34, ця*ш*ка З. 51, Дз. 8, 11; про*з*ьбу Дз. 6, 2, про*з*ьбаю З. 57; мола*ц*ь (моладзь) Дз. 8, 16, пасяро*т* Дз. 6, 7, пае*ш* П. 55, памо*х* Дз. 8, 9, падбе*х* З. 34, бу*ц*ь (будзь) Дз. 6, 3, паро*х* Дз. 8, 14, З. 16, мі*х* (міг) З. 130, е*ц*ь (едзь) З. 7, нашле*х* З. 5, е*ш* (еж) З. 21, небу*ц*ь З. 18, чаго*ш* З. 33, божа-*ш* мой З. 28. цэ*т* (цэд) З. 10.

2) Асыміляцыя іншых зычных: баі*сь*ся Дз. 6, 4, ра*шч*эсаныя З. 1, апра*цц*ы З. 18, ра*шч*ытацца З. 20, ня адкараскаясся З. 26, рашчот С. 28, ма*цц*ы (матцы) Дз. 8, 12, бра*шч*отка С. 29, ука*шч*ык Дз. 8. 42, е*сь*ця (ежце) З. 9, да*цц*э Дз. 8, 39, у ру*цц*э Дз. 8, 35, ра*шч*ынілі дзьверы Дз. 8, 14, ма*чч*ын (матчын) Дз. 8, 11.

Злучэньне „кк“ у слове „мяккая“ З. 3, „мяккія“ Дз. 8, 12 застаецца нязьменнае.

3) Зьліцьцё асымілёваных зычных: растара*ц*ца З. 34, раступ*і*цца Дз. 8, 41.

4) Пераход **ц** і **з** у **с:** гусікі (гузікі) Дз. 6, 5, Мысаю (мызаю) З. 4, мосна (моцна) З. 51, Дз. 8, 11, наймасней З. 61, бяспамосны Дз. 8, 9, моснага Дз. 8, 12, мосна—ы Дз. 8, 33, і тут-жа—бязмо*ц*ны Дз. 8, 22, сноты (цiжарнае сноты) П. 67.

5) Пераход *ч* і *с* у **ш;** *яш*нага Дз. 6, 2, сма*ш*ныя Дз. 6, 4, сеня*ш*ніх дзьвярэй Дз. 6, 4, З. 12, ве*ш*ніц З. 6, 27, Дз. 8, 25, 31 (весьніць), ве*ш*ніцам Дз. 6, 5, на*ш*лех З. 5, на на*ш*лезя З. 6, сьвято*ш*нюй З. 18, збу*ш*ніком З. 35, пра*ш*нуўся Дз. 8, 11, 42, сулі*ш*нага Дз. 8, 12, пра*ш*нулася, Дз. 8, 30, ру*ш*нік Дз. 8, 33, сэрдэ*ш*ную Дз. 4, 6, сьвято*ш*ніх Дз. 6, 7, сьвято*ш*нія П. 61, сьвято*ш*нім П. 93, *ш*астакол, *ш*астаколу (частакол, мусіць, ад „шастаць“) Дз. 8, 31, по*ш*ля Дз. 8, 12, 25.

6) Дысыміляцыя зычных: па*ш*тальён Дз. 6, 7, Дз. 8, 12, ды*х*туе П. 89, С. 91, у та*х*т П. 14, ды*х*тавала П. 40, сяльнік (сяньнік) З. 11.

7) Асыміляцыя ў мяккасьці і цьвёрдасьці: пасьпяшая З. 18, гасьціняц Дз. 6, 4, засьляпляя Дз. 8, 15, дзьверы З. 15; дзе*н*добры С. 38, але—ме*н*ьшала Дз. 8, 12, пры*з*ьба С. 22, пры*з*ьбы С. 145, лаха*н*ьку З. 6. Хоць асыміляцыя зычных у мяккасьці не заўсёды азначаецца, але можна заўважыць, што прыставачны зычны застаецца цьвёрдым перад наступным мяккім зычным, як, прыкладам, развярнуць З. 3.

8) Прыназоўнік—прыстаўка „ад“ мае старое „т“, хоць пападаецца і „д“ пад уплывам кніжнага напісаньня: а*т* мяне З. 76, а*т* гэтага Дз. 6 7, а*т* усіх Дз. 6, 7, а*т* начальства З. 20, а*т* думак Дз. 8, 14, а*т* другіх Дз. 8, 29; а*т*абраў Дз. 6, 7, а*т*ыдзі П. 80, а*т*вагай З. 63, о*т*бліскі Дз. 6, 2, а*т*гаварыў Дз. 6, 4, а*т*рыўна З. 6, а*т*даў З. 24, а*т*далі З. 18, а*т*дала З. 56, а*т*даць Дз. 8, 11, а*т*вярнуўся Дз. 8, 9, а*т*асланыя Дз. 8, 12, а*т*агнаўшы Дз. 8, 12, а*т*дачы Дз. 8, 35 і—а*д*платы З. 24, а*д*арвацца Дз. 8, 12, а*д*піваю Дз. 8, 12, 18, 12, а*д*німалі Дз. 8, 12, а*д*чапіцца Дз. 6, 7, а*д* яго, а*д*няло Дз. 6, 7.

9) Цьвёрдасьць зычных перад галоснымі пярэдняга раду е—і знаходзім у наступных словах; *Ст*эпа Дз. 6, 7, *Г*элячка Дз. 8, 14, Юс*т*ына Дз. 8, 11, А*д*элі Дз. 8, 12, Фэйга Дз. 8, 33, Агус*т*ын Дз. 8, 40, мамэнт П. 91, за*п*эцканы Дз. 8, 41, у*п*эцканая Дз. 6, 7, *м*эндлямі С. 148, сэрцам П. 9, ж*в*ыр П. 15, *п*эўна З. 25, на*п*эўна Дз. 6, 7, але—ня*пе*ўныя Дз. 9, 41, да*пе*ўніцца Дз. 8, 21, *пе*ўнымі Дз. 8, 25, *пя*ўней Дз. 8, 33; *д*алікатныя Дз. 8, 30, сэр*д*эшную Дз. 6, 4, *б*эзам Дз. 6, 5, *д*ыван Дз. 6, 6, швэндаю Дз. 8, 26, пра*т*эсамі Дз. 8, 9, пасэсара Дз. 8, 30, *б*элькі Дз. 6, 2, бу*т*элькаю Дз. 6, 3, са*т*ыру З. 127, піа*н*эр З. 127, А*н*эля З. 4, майс*т*эрні Дз. 8, 12, *с*эрца С. 126 Дз. 8, 11, *б*эзу Дз. 8, 31, ква*т*эру Дз. 8, 12, ар*д*ынарыі З. 4, у *т*эрмін З. 20, ін*т*арэсаў З. 20, ку*ф*эрак С. 34. *с*эрца З. 22, ч*в*эрць С. 126, *з*эдлік З. 21, 52, сур*в*этаю З. 18, атра*м*энтам Дз. 6, 7, сакрэтнум З. 11, *Ст*эпа З. 50, ма*т*ары З. 36, *т*эрміна З. 110, на*б*эдры С. 126, с'мяр*т*эльнум З. 64, ві*д*эльцы С. 40, маг*н*эсам З. 110, д'я*м*ант С. 93, а *к*ыш З. 32, камі*з*элька С, 108, ту*т*эйшы С. 61, швэндацца С. 74, мі*з*эрны С. 37, карсэцік С. 98, але—ма*н*ер С. 81, *п*ерлы Дз. 8, 14, *х*еўра Дз. 8, 9, і—*х*эўра С. 26, ван*д*зігай С. 108, *д*зямакрат (уплыў расійск. вымаўленьня) З. 15, млін З. 7, мі*н*юты З. 50, П. 39.

10) Пры*с*таўнымі (протэтычнымі) зычнымі бываюць *г* і *в*: ня*г*опытная С. 44, *г*арaць П. 16, *г*ары (ф. загадн. л. ад „араць“) П. 7, ні*г*одная З. 9, гэнай П. 37, з *г*астым З. 11, гэтта З. 28, *г*авечкі Дз. 6, 7, *г*остра П. 23, *г*остраю З. 75, ніза*г*одным З. 35, ні з *г*одным Дз. 8, 14, вагромністаю П. 100, х*в*урманкі Дз. 8, 9, ак*в*урат (=як+у рад?) Дз. 6, 7, *в*акно П. 23, за *в*акном П. 8, з *в*акна Дз. 6, 5, к *в*орыву і—орыва, з орыва Дз. 6, 6, З. 5, *о*гірам З. 9, *о*маль З. 9, *о*бмацкам Дз. 8, 33; к *в*улішнаму *в*акну Дз. 6, 3, з *в*адным З. 4, *в*агню З. 10, ара*в*олі (арэоль) П. 48, *в*ураднік З. 38, *в*астрогі З. 63, з *в*агнём З. 61, П. 40, *В*олька С. 94, *в*агні Дз. 8, 9, *в*осы Дз. 8, 32, *в*учылішча Дз. 8, 30, на *в*ушак Дз. 8, 22, к *в*аднаму Дз. 8, 15, *в*урокамі Дз. 8, 26, *г*опыт (опыт) Дз. 8, 26.

Як бачым, прыстаўное „в“ бывае ня толькі перад націскным *о*, а і перад „а“ з ненаціскнога „о“, перад якім было „в“.

11) На месцы „ф“ знаходзім „хв“ або „п“, але не заўсёды, напр., хварбаю Дз. 6, 7, атшлі*х*ованая Дз. 6, 5, ко*п*тка Дз. 6, 3, з карто*п*лямі З. 2, карта*п*лянішча З. 13, шу*х*ляваньнямі С. 37, *хв*анабэрна С. 20, *хв*альбарковы С. 20, *Хв*ірсон З. 50, *хв*артухом З. 52, *хв*акт З. 110, *хв*урманкі Дз. 8, 9, *хв*артусе Дз. 8, 12, *хв*ігура Дз. 8, 26, *П*іліп *Дз*. 8, 22, *хв*абрык Дз. 8, 15, маніх*в*эстацья Дз. 8, 19, *хв*амілі Дз. 8, 15, ах*в*іцэр Дз. 8, 15, *хв*унтамі Дз. 8, 15, але ку*ф*эрак С. 37, Шафрановіч (прозьвішча) Дз. 8, 15, Фліор (імя) Дз. 8, 26, фарфуровыя талеркі Дз. 6, 3.

12) На месцы злучэньняў „цьц“, „дзьц“ і ў аналёгічных выпадках знаходзім „й“: улада*й*цы З. 109, мала*й*чына С. 138 і—*маладчына* Дз. 6, 7, *маладчына* С. 137; мало*й*чыка С. 112, ме*й*сца, ме*й*ста З. 6, 128, трэ*й*ці Дз. 8, 9, З. 16.

13) Зьбег галосных у чужаземных словах разьбіваецца ўстаўкаю ёта пасьля: *акіян* П. 92, *легіён* П. 94, а два галосных з націскным „о“ ўстаўкаю „в“: араволі (орэоль) П. 48, але—*піанэр* З. 127.

14) Злучэньне „дл“ знаходзім у наступных словах: *модлы* С. 103, Дз. 8,40, *кавадлам* П. 16, *скрыдлы* Дз. 8,38, *жыдзідла* С. 37, *спадлі* П. 18, *надаедлі* Дз. 8,38.

15) Так зв. падваеньне зычных: сабаччаха (сабачага) Дз. 6,5 ламачча Дз. 8, 36, рэччу Дз. 6, 2, П. 48, у руццэ З. 6, Дз. 8,33, пазаплоцьцю З. 79, багацьця З. 10, зельля З. 8, ноччу З. 22, Аўдоцьця З. 50, пачэньням З. 11, будзьдзень Дз. 8, 33 (тут маем мэханічны зьбег зычных). Але падваеньне зычных не заўсёды перадаецца, напр.: *зранья* З. 11, *начыня* З. 11, *бацьвіня* З. 8, *начыне* П. 14, *з вачу* П. 99, *зіяючых* П. 77, *зьяючай* П. 67, *болью* Дз. 8, 12, 19, *застол‘я* З. 10, *зранья* З. 11 і—*разуверра* Дз. 8,12.

16) Устаўныя зычныя: гэстым З. 7, здрадным П. 77, зайздрасьцяў З. 11.

17) Пасьля губных зычных знаходзім ёт: *аўёс* С. 108, *прам‘я* С. 90, *ім‘я* С. 96, П. 100, *ім‘ю* Дз. 8, 11, *у прам‘і* П. 57, 75, Дз. 8,14, *сем‘я* П. 55, Дз. 8, 15, *м‘яса* Дз. 8, 41, *паўіоў* (павёў) З. 62, *жывіола* З. 9, вым‘я З. 10

18) Розныя зьмены зычных: *ябруку* (япруку) З. 9, паскі (пасхі) Дз. 8, 11, каргоў (кархоў) С. 84, карсэцік С. 98, хвальбарковыя С. 20, просскварку (просфарку) С. 20, паралюш З. 33.

19) Дысыміляцыя зычных санорных і перастаноўка зычных: леварвэр С. 74, лыцар П. 95, лыцараў П. 92; прашпарт Дз. 8, 15, нышпарыць (шныпарыць) Д. 8, 9, абсацам (абцасам) С. 73.

20) Выпадзеньне зычных: *тады* З. 14, але—*гдзесь* Дз. 6, 5 і—*дзе* З. 63, *наслества* Дз. 6, 2, *плявузгаць* З. 11.

21) Словы *далонь* і *талерка* ўжываюцца з нармальным гукавым складам.

22) Цікавы папісаньні слоў з літараю „х“ замест *г:* сабаччаха Дз. 6, 5, паяхджаючыя З. 111, праяхджала Дз. 8, 30, прыяхджалі Дз. 8, 15, прыехжых—прыяхджаюць—ад‘яхджаючы Дз. 8, 15, наяхджаўшыя Дз. 8,15.

Пры асыміляцыі глухіх з звонкімі, якая існуе ў мове Ц. Гартнага, а ў слове „сабаччага“ і бяз гэтага, трэба прыпусьціць, што ў некаторых разох пісьменьнік не адрозьнівае фрыкатыўнага звонкага „г“ ад глухога „х“.

23) Гук „ц“ на месцы *ч:* абяцаў З. 33, цудным П. 44.

24) Пры „рожная“ Дз. 8, 26 знаходзім: дарагенькая Дз. 8, 12, масяндзовы С. 90 (у Насовіча *мосензовы*, а іншых дыялектах *масянжовы*), а пры мяккім „л“ у чужаземным слове *пляну* Дз. 8, 33 знаходзім цьвёрдае „л“ у словах: *Луцэя* (ж. імя) Дз. 8, 40, крышталам П. 20 (у Насовіча *крышталь*).

25) Заўсёды знаходзім: *тарка* С. 85, *пад прасам* Дз. 8, 12, *анёла* С. 67

*(Канец будзе).*

# КНІГАПІС

**Я. Колас.—Збор твораў, т. I, выпуск 1,** *стар. 243. Цана 2 руб.* **Збор твораў т. I, выпуск II,** *стар. 203. Цана 1 руб. 60 кап. Менск, Белдзяржвыдавецтва. 1928 г.*

Збор твораў Я. Коласа, том I, вышаў у двох выпускак. Гэтыя два выпускі зьмяшчаюць у сабе лірыку Я. Коласа. Поэта не захаваў у гэтым выданьні двух вядомых сваіх зборнікаў „Песьні жальбы“ і „Водгульле“, як паасобных зборнікаў, а стварыў, зьнітаваўшы вершы з абедзьвюх кніжак, нешта новае, прычым некаторыя вершы, якія, відавочна, здаваліся аўтару малакаштоўнымі, не ўвашлі ў новае выданьне; апрача таго, уключаны новыя вершы, якіх ня было ў папярэдніх зборніках (каля 50 вершаў).

Прынцыпы разьмяшчэньня вершаў узяты тыя самыя, якія былі паложаны ў аснову зборніка „Песьні жальбы“,—зборніка, складзенага і выданага бяз ведама, але на вялікую радасьць поэты, у той час, калі ён сядзеў у турме. Да пяці разьдзелаў гэтага першага зборніка аўтар дадае ў новым выданьні яшчэ шосты разьдзел—„На грамадзкі лад“,—разьдзел, у які ўвайшлі палітычныя вершы, напісаныя ў эпоху рэакцыі, пасьля рэволюцыі 1905 году, вершы антымілітарыстычныя, напісаныя ў час імпэрыялістычнае вайны,—дзьве групы вершаў, якія не маглі быць надрукаваны ў час іх напісаньня. У гэты-ж разьдзел уключаны вершы, якія заклікаюць беларускі народ да працы і барацьбы, вершы, накіраваныя проці ворагаў сялянства, паноў. Нарэшце, апошнія вершы гэтага разьдзелу зьяўляюцца водгульлем на сучасныя нам здарэньні,—на становішча нашых братоў у Заходняй Беларусі, паасобку—на процэс Грамады. Увесь разьдзел, а з ім і кніга, прыгожа замыкаюцца вершам „Змагальнікам за Кастрычнік“, датаваным 1927 годам, годам дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавае рэволюцыі.

Узяўшы пяць разьдзелаў свае першае кнігі, „Песьні жальбы“, і дадаўшы да іх адзначаны вышэй шосты разьдзел, г. зн. разьмясьціўшы свае вершы тэматычнымі цыклямі, аўтар у межах гэтых цыкляў выбраў парадак хронолёгічны, прычым амаль пад кожным вершам паставіў дату. Такім чынам, які-б разьдзел не ўзялі, мы ўбачым, што кожны з іх пачынаецца вершамі 1904—1907 гадоў і канчаецца вершамі дваццатых гадоў. Выключэньнем зьяўляецца эпізодычны цыкль „З астрогу“, зьвязаны са зьняволеньнем поэты (1908—1911) і цыкль „Сялянскае жыцьцё“, вершы якога канчаюцца 1916 годам, што, думаецца, трэба тлумачыць тым, што аўтар перайшоў да буйных форм вершаванае эпікі і адмовіўся ад фрагмэнтарнай распрацоўкі адпаведных тэм у форме бытаапісальнай лірыкі, г. зн. у форме дробнага жанру, у якой поэту стала цесна.

Кожны ўдумлівы чытач вершаў мае два жаданьні: жаданьне бачыць вылучанымі асноўныя тэматычныя лініі творчасьці поэты і жаданьне бачыць шлях поэты ў яго разьвіцьці. Гэтым двум жаданьням чытача пашоў насустрач Я. Колас, палажыўшы в аснову пабудовы кнігі вершаў два

прынцыпы: тэматычны і хронолёгічны. Для поэты, які аглядае пройдзены 23-летні творчы шлях (першы верш Я. Коласа памечаны 1904, апошні—1927 годам), выбраныя ім прынцыпы прывядзеньня ў парадак свае лірычнае спадчыны зьяўляюцца зусім апраўданымі. Інакш стаяла-б справа, калі-б поэта ўспрымаў свае выпушчаныя раней зборнікі вершаў як закончаныя ў сабе пэрыоды свае творчае працы, дзе паасобныя вершы зрасьліся ў моцнае цэлае, якое не падлягае ніякаму істотнаму парушэньню. У даным выпадку гэтага ня было. Зборнік „Водгульле“ ня меў ніякай цыклізацыі вершаў, што рабіла кнігу архітэктонічна-бясформнай, і вершы „Водгульля“, з вялікай для іх карысьцю, уліліся ў адпаведныя разьдзелы „Песень жальбы“.

Апрача падзелу на шэсьць разьдзелаў, лірыка Я. Коласа падзелена на два выпускі, прычым кожны з іх мае сваё аблічча. У першым выпуску маем тры разьдзелы: „Думкі“, „Родныя абразы“, „Сялянскае жыцьцё“, у якіх поэта ідзе ад свайго ўласнага я да вакольнага сьвету, ад асабовай лірыкі праз прадметную лірыку, лірыку паасобных жыцьцёвых сытуацый, да лірыкі фабульнай, г. зн. лірыкі блізкай да эпікі, лірыкі, якая дае не адну сытуацыю, а іх зьмену ў форме эмоцыйна-афарбаванага апавяданьня.

У адрозьненьне ад першага выпуску, у пабудове якога відаць істотны шлях нашага поэты, другі выпуск зьяўляецца больш эпізодычным па тэматыцы вершаў. Сюды ўваходзяць вершы, якія Гётэ называў Gelegenheitsgedichte, вершы, напісаныя на тое ці іншае здарэньне. Найбольш рознастайным зьяўляецца разьдзел „На ростанках“,—разьдзел, у які ўвайшлі паасобныя вершы, што засталіся па-за ўстаноўленымі поэтай тэматычнымі цыклямі; некаторыя з іх зьяўляюцца высокімі дасягненьнямі чыстае лірыкі („Звон шыбаў“, „Цені-страхі“). Але для разуменьня агульнага шляху поэты больш важным зьяўляецца першы выпуск. У пераходзе ад тэм асабовае элегіі, ад суму па страчанай моладасьці, па няўстойлівасьці асабовага жыцьця наогул, да ўспрыманьня колектыўнага гора людзей—крыніцы вялікае моральнае сілы Я. Коласа. У аснове коласаўскага ўспрыманьня сьвету ляжыць пачуцьцё айца. Вось чаму тэматычна так важны для яго поэзіі вобразы сірот, няшчасных дзяцей, рана адарваных ад роднага дому, дзяцей, што надрываюць свае слабыя сілы ў занадта яшчэ цяжкай для іх працы. Вось чаму стылістычна такімі характарнымі зьяўляюцца для Я. Коласа вобразы дзяцей у параўнаньнях і мэтафорах: „думкі—сэрца дзеці“, „думкі, гора дзеці“, „хмаркі, сонца дзеці“, „хмаркі—дзеткі прастору“, „дзеткі блакітных стэпоў“, „віхры — ветравыя дзеці“, „прытуліўся хлеўчык, як дзіця да маткі“, „ідзеце-ж к народу, як добрыя дзеці“, „катаржане-хлебаробы, дзеці вёсак, поля“.

Гэтае любоўнае айцоўскае пачуцьцё да сьвету дало поэту мужнасьць, дапамагло яму перамагчы вастрату ўласнай нядолі, уласнага суму і перайсьці ад трэнічных мотываў асобовых элегій да спачуваньня гору вакольных поэту людзей і да бадзёрае пацехі словам. Зразумела, тое, да чаго прышоў поэта, было ўжо заложана ў ім, і яго лірыка дае нам толькі малюнак разьвіцьця і разгортваньня адных мотываў і адсуваньне другіх.

Поэта цешыў гаротнае пакрыўджанае сялянства, выяўляючы глыбокую ўпэўненасьць, што грамадзка-палітычны лад, які санкцыянаваў уціск працоўнае масы, павінен рушыцца. Поэта заклікаў да бадзёрасьці, да барацьбы, да нянавісьці. Але шляхоў перамогі яму, сялянскаму поэту, ня было відаць. Пролетарыят, як саюзьнік сялянства, які паказаў гэтыя шляхі, быў па-за кругавідам поэты. Не ў нашаніўскую эпоху, але толькі цяпер, пасьля Кастрычніка,

поэта пазнаў і прызнаў гэтага саюзьніка.

Я адзначыў толькі галоўныя, як мне здаецца, моральныя і грамадзкія рысы поэзіі Я. Коласа. Зусім ясна, што гэтыя-ж рысы ў іншых варыяцыях паўтараюцца ва ўсіх поэтаў нашаніўскае пары, што зьвязаны ў сваёй творчасьці з тэй-жа грамадзкай клясай.

Устанавіць, выходзячы з аналізу паасобных поэтаў, агульны стыль нашаніўскае лірыкі, у якім індывідуальныя стылі поэтаў знойдуць сваё месца, як яго варыянты, высьветліць на падставе гістарычнага матэрыялізму соцыяльны генэзіс гэтага стылю—адна з бліжэйшых задач беларускага літаратуразнаўства. Прыведзены ў зграбны парадак і прадатаваны збор лірычных твораў Я. Коласа зьяўляецца каштоўным падарункам для літаратуразнаўцаў, якія ставяць сабе мэты, адзначаныя вышэй.

Але выпушчаныя дзьве кніжкі не задаволяць патрэб шырокага чытача: папершае, таму, што кнігі зьяўляюцца недаступнымі па цане (2 р.+1 р. 60 к.), падругое, таму, што чытачу, які ня мае яшчэ таго, што можна было-б назваць культураю чытаньня, не патрэбны варыяцыі тых-жа самых ці падобных мотываў: ён ня ўмее яшчэ бачыць дэталі і, ня цікавячыся імі, ён папікне аўтара ў аднастайнасьці. З свайго пункту погляду гэты чытач будзе мець рацыю. Для яго патрэбна з гэтых двух кніжак стварыць адну невялікую кніжку. Соцыяльная значнасьць коласаўскіх вершаў, моральнае аблічча поэты, якое выступае за імі, даюць упэўненасьць, што такая кніжка (я мысьлю яе як кніжку адпаведнай сэрыі) адыграла-б вялікую ролю ў пашырэньні беларускага мастацкага слова.

Спынюся цяпер на самым тэксьце вершаў. Рыхтуючы данае выданьне, аўтар узяўся за іх выпраўленьне. Праца поэтаў над вершамі, здавалася-б ужо закончанымі ў сваёй рэдакцыі і апублікаванымі, пры падрыхтоўцы іх новага выданьня бывае вельмі рознастайнай. Так, нямецкі поэта эпохі імпрэсыянізму Рыхард Дэмель зусім занова перааапрацаваў многія свае вершы, таму і першая, і другая рэдакцыі маюць самастойную мастацкую вартасьць. Нямецкі лірык сярэдзіны XIX веку Эдуард Мёрыкэ папраўляў свае вершы, што, паводле назіраньняў аднаго дасьледчыка [1]), мела на мэце ўдасканаліць унутраную эўфонію вершу, стварыць алітэрацыі і асонансы; прычым поэта, перапрацоўваючы свае творы, зусім ня цікавіўся іх вобразным бокам. Даволі значна перапрацоўваў свае ранейшыя вершы Валеры Брусаў, прычым, удасканальваючы іх мастацкую форму, ён ахвяраваў непасрэднасьцю перажываньня,—удасканаленьне досыць спрэчнае. Не заўсёды папраўкі аўтара зьяўляюцца палепшаньнем. Гэнрых Гейне часта хістаўся пры падрыхтоўцы сваіх твораў да новага выданьня і часамі адкідваў папраўкі апошняга выданьня, каб зьвярнуцца да ранейшага, першага тэксту [2]).

Пры вывучэньні гэтага віду працы поэты трэба мець на ўвазе, што мотывы, якімі карыстаўся поэта, робячы тыя ці іншыя папраўкі, застаюцца для дасьледчыка таямніцай. Таямніцай застаюцца яны часамі і для самога поэты, які, папраўляючы верш, часамі думае, што так будзе лепш, але не ўсьведамляе сабе—чаму лепш. Так, А. Фішлі выказвае дапушчэньне, што Мёрыкэ карыстаўся тым, што падказваў яму яго поэтычны слух, і бадай ці ўсьведамляў сабе мотывы зробленых ім у тэксьце паасобных зьмен. Што датычыць дасьледчыка, то ён, ня ведаючы мотываў поэты, можа высьветліць, якая зьмена зроблена ў тэксьце і ў уражаньні ад тэксту тэй ці іншай яго перааапрацоўкай.

---

[1]) A. Fischli. Über Klangmittel im Vers-Innern aufgezeigt an der Lyrik E. Mörikes. Bern. 1921.

[2]) H. Saedler. Die Urform von Heines „Nordseebildern". — Festschrift für B. Litzmann. Berlin. 1921.

Высокае мастацтва, якога дасягнуў у наш час Якуб Колас, давала яму магчымасьць удасканальваць свае вершы для новага выданьня. Гэта можна бачыць на наступным прыкладзе. У вершы „Хмаркі“ тэкст „Водгульля“ дае наступную строфу:

> Золатам сонца іх аблівае,
> Срэбны у ноч іх калёр,
> З хмарак кароны неба сплятае,
> Летняга ранку убёр.

У гэтай строфе ёсьць шэраг недахопаў. Другі радок вобразна бедны. Пераход у строфе ад дзеннага вобразу да ночы і зварот стварае блытаніну: радок аб ночы нібы ўстаўлены ў дзенны малюнак. Апрача таго, маем сутычку галосных: ранк*у* *у*бёр. Але найбольшым недахопам, неабходнасьць зьнішчэньня якога, па прызнаньні самога поэта ў прыватнай са мной гутарцы, і зьявілася выточным пунктам перапрацоўкі ўсёй строфы, гэта няправільны націск на слове калёр (замест колер). Пасьля перапрацоўкі атрымалася новая строфа, у якой захаваўся толькі першы радок:

> Золатам сонца іх аблівае,
> Месяц ім срэбра дарыць,
> Грозную песьню ім гром прасьпявае,
> Вецер на крыльлях імчыць.

У чатырох радкох—чатыры анімістычных вобразы, чатыры зьявы прыроды, з якіх кожная мае свае адносіны да хмарак. Мастацкая перавага новай рэдакцыі відавочна. Але такая значная зьмена тэксту, поўная перапрацоўка строфы, сустрэлася мне на працягу дванаццаці разгледжаных мною вершаў толькі адзін раз. Характарныя для Я. Коласа папраўкі ў форме замены аднаго слова ці вобразу іншым, прычым від рыфмы захоўваецца, таму ня ўзьнікае патрэбы ў пераапрацоўцы другога радка, які рыфмуецца з даным. Колас імкнецца так перарабіць радок, каб гэта пераробка не патрабавала пераапрацоўкі іншых радкоў. Такім чынам, поэта значна не зьмяняе сваіх вершаў. Аднак-жа, у сярэднім у кожным з разгледжаных мною вершаў ёсьць каля пяці папravак. Вялікая ўвага звараchалася пры гэтым на правільнасьць і чыстату мовы. Некаторыя папраўкі датычаць морфолёгічных форм слоў. Сустракаюцца папраўкі лексычнага характару. Вельмі часты папраўкі ў расстаноўцы слоў. Замена аднаго слова другім часамі мае на мэце выправіць рытміку ці палепшыць фонэтыку вершу (замест „Як-бы матылёчкі ў маі—Нібы матылёчкі ў маі“, замест „Жыта пабіў град“—„Жыта выбіў град“, замест „І ты, чалавеча, як сьнег той ў адлігу“—„І ты, чалавеча, як сьнег у адлігу“). Характарнымі для Я. Коласа зьяўляюцца дробныя папраўкі, якія адкідаюць няважную для агульнай думкі ці настрою вершу знадворную дэталь і часта замест гэтага даюць вобраз, які больш увязваецца са зьместам твору, адпавядае яго асноўнай тэме, падтрымлівае і ўзмацняе яе. Часта гэтым імкненьнем тлумачыцца замена аднаго эпітэту другім. Такім чынам, многія папраўкі прадыктаваны сэнсам усяго вершу, жаданьнем даць больш адэкватны выраз асноўнай тэме. На мой погляд, папраўкі Я. Коласа зроблены рукою дасягнуўшага свае вышыні майстра поэтычнае мовы, рукою старannай, уважлівай, але рукою якая беражна адносілася да калісьці перажытага і адлітага ў пэўную форму. Знаёмства з імі дае цікавы матэрыял для высьвятленьня працы поэты над удасканаленьнем сваіх твораў і зьяўляецца карысным для тых, хто імкнецца аўладаць мастацтвам слова.

Што да тэхнічнага боку выданьня, дык можна зазначыць наступнае. Кнігі апраўлены ў простую, але прыгожую кардонавую аправу і маюць прыемны выгляд. Аднак значным недахопам зьяўляецца неаднолькавы формат кніжак. Першы верш цыклю „З астрогу“ памылкова надрукаваны як апошні верш разьдзелу „На ростанках“, дзе ён гучыць дысонансам. Ёсьць і вельмі грубыя памылкі друку, якія пазбаўляюць тэкст усякага

сэнсу. У першым выпуску, на стар. 40, надрукована (апошні радок) „Тая-ж вымершая *гладза*“, замест „гладзь“. У другім выпуску, на стар. 194, надрукована „І родны кут, ды вось *ня мой*“, замест „ня люб“. Замест *ў* (кароткага) часамі надрукавана *у* (складовае), і наадварот; напрыклад, у першым выпуску—на стар. 103, 118, у другім выпуску на стар. 45. У вершах гэткія памылкі зьяўляюцца вельмі няпрыемнымі.

У першым выпуску збору твораў надрукаваны крытыка-біографічны нарыс аб поэце, напісаны Ул. Дзяржынскім. У нарысе ёсьць многа новых фактаў, якія датычацца як біографіі пісьменьніка, так і таго асяродзішча, у якім ён вырас. Дзякуючы гэтаму, нарыс, які разьлічаны на шырокае кола чытачоў, мае каштоўнасьць і для спэцыялістага. У характарыстыцы творчасьці Ул. Дзяржынскі правільна зразумеў мэты такога сваясаблівага віду літаратуразнаўчае працы, як крытыка-біографічны нарыс.

Высьвятляючы асноўныя рысы творчасьці поэты і не ўдаваючыся ў падрабязнае іх дасьледваньне, аўтар адзначае проблемы, якія стаяць перад дасьледчыкам і могуць быць у пасільнай форме пастаўлены і выкладчыкам перад вучнёўскай моладзьдзю. Толькі там, дзе аўтар выказвае свой погляд пра оптымістычны характар нашаніўскае поэзіі, ён пераходзіць да абароны свайго тэзісу, падтрымліваючы яго цэлым арсэналам цытат, што было-б дарэчы ў спэцыяльным артыкуле, але не ў агульным нарысе. Гэта адзінае месца, дзе аўтар ня вытрымаў удала знойдзенага тону і спосабу выкладаньня. Як вельмі дадатны бок артыкулу, трэба адзначыць тое, што аўтар прасякся духам поэты, аб якім піша, дзякуючы чаму яго нарыс, душэўна-тонкі і ў той-жа час просты, не зьяўляецца ў кнізе Я. Коласа чымсьці чужародным.

**А. Барычэўскі.**

**Максім Гарэцкі. Маладняк за пяць гадоў 1923—1928 г.** *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск, 1928 г., стар. 122. Цана 65 кап.*

Прыемным зьяўляецца тое, што аб Маладняку мы маем ужо цэлую монографію, складзеную згодна з усімі вымаганьнямі навукова-крытычнага марксыцкага мэтоду.

Кніга багата на факты і вывады з іх, лішняе фразэолёгіі вельмі мала.

Перш за ўсё, пасьля вельмі кароткіх уводных заўваг, даецца гісторыя Маладняка за пяць год. Факты выкладаюцца і ацэньваюцца зусім аб'ектыўна, бесстаронна. Выяўляюцца прычыны расколаў і абгаварваюцца іх вынікі. На думку аўтара монографіі, абодва расколы, ідавочна, зьяўляюцца непажаданымі, хоць ён іх і ня ганіць. У выніку адыходу пэўнае часьці пісьменьнікаў ад „Маладняка“—утварылася „Узвышша“. Далей, частка маладнякоўцаў прыняла ўдзел у організацыі аб'яднаньня „Полымя“. („Прабліск“ і „Літаратурна-мастацкая комуна“ існавалі вельмі кароткі час, прытым праблiскаўцы не пасьпелі нават выпусьціць і зборніка сваіх твораў).

Асьцярожная позыцыя М. Гарэцкага ў пытаньні аб расколах, якія перажыў Маладняк, тлумачыцца рознымі меркаваньнямі.

Папершае, ня ўсе мотывы і чынныя прычыны гэтых фактаў выявіліся з поўнаю дакладнасьцю. Падругое, падзеі паказалі, што тры аб'яднаньні могуць усё-ткі існаваць, і самае выпярэдніцтва паміж імі падвышае іх якасьць (як і наогул кожная конкурэнцыя паляпшае вытворчасьць).

М. Гарэцкі сымпатызуе Маладняку. Са спачуваньнем апісвае М. Гарэцкі героічнае змаганьне Маладняка першага пэрыоду за беларускую культуру, працу сярод працоўных мас, гарадзкіх і вясковых і г. д. Бясспрэчна, вялікія заслугі мае Малад-

няк у гэтых адносінах. Апісваецца таксама і інструкцыйная праца маладнякоўцаў і закладаньне філій і г. д.

Гісторыя „Маладняка“ дана сьціслая і дакладная—багатая на факты.

Разглядаючы сучаснае становішча гэтага аб‘яднаньня, М. Гарэцкі паказвае нам яго соцыяльны склад—пераважна бядняцкі—сялянска-пролетарскі, а далей, ужо вызначыўшы іх клясавую прыналежнасьць, пачынае разгляд іх творчасьці ў розных жанрах.

Тут ён не абмяжоўваецца констатаваньнем фактаў, а дае і парады, часам даволі трапныя і ўдалыя, напрыклад, адносна пашырэньня тэматыкі, трактоўкі сюжэтаў, пачуцьця меры, выступае супроць трафарэтнасьці, прымітыўнасьці, аднастайнасьці мовы і няўмелае, голае тэндэнцыйнасьці некаторых аўтараў і да т. п.

Далей ідзе альфабэтны крытыка-біо-бібліографічны слоўнік пісьменьнікаў маладнякоўцаў.

Гэты слоўнік дае нам портрэты пісьменьнікаў, як мастакоў і грамадзкіх дзеячоў, а самім пісьменьнікам паказвае, як у люстры, дадатныя і адмоўныя бакі іх творчасьці, што фактычна зьяўляецца тымі-ж самымі вельмі карыснымі парадамі добрага прыяцеля крытыка. Часам аднэю, дзьвюма цытатамі паказвае М. Гарэцкі пісьменьніку яго слабы бок. Напрыклад, Алесь Звонак мусіць ужо адвучыцца ад вульгарнасьці, калі пабачыць на старонцы 78 нашае кніжкі такі пэрл свае поэзіі:

> Ступаю цьвёрда... Знаю мэту нашу—
> Шляхі наперадзе няўхільныя адны...
> І, як другія, мэты не дагнаўшы,
> Я ня згублю дарогаю штаны...

дзе апошняе прыгожае слова абарачае гэту ўзьнёслую строфу ў нешта зусім недарэчнае.

Таксама і Алесь Вечар спыніцца крыху над сваім сказам: „Білі сьвету старому па мордзе“ і, магчыма, будзе наперад вытрымліваць у высокай поэзіі больш паважны тон, бо інакш будзе дысгармонія.

Грубы натуралізм і вульгарнасьць некаторых месц у „Францішку Скарыне“ Сымона Хурсіка таксама адзначаны і слушна закінуты пісьменьніку. Часам у нашых пісьменьнікаў няма пачуцьця меры. Некаторыя з іх ня ведаюць розьніцы паміж нормальнаю эротыкаю і бруднаю порнаграфіяй, іншыя не разумеюць клясавага змаганьня бяз стрэлаў і разаніны, некаторыя перапаўняюць свае творы агітацыйнымі прамовамі, наіўнымі паводле зьместу і суха-кніжнымі з боку формы, і г.д. і г.д.

М. Гарэцкі ўсё гэта адзначае і ганіць, але вельмі добрадушна і бяскрыўдна, пабацькаўску.

У канцы кнігі мы знаходзім некалькі старонак, прысьвечаных маладнякоўцам-крытыкам.

Погляд М. Гарэцкага на сучасны стан беларускае крытыкі наогул і маладнякоўскае ўпаасобку вельмі невясёлы.

На думку М. Гарэцкага ідэолёгічны бок твораў часам яшчэ асьвятляецца добра, але формальна-мастацкі бок у некаторых выпадках нават зусім не закранаецца. Што да марксыцкага разгляду твораў, дык усе стараюцца даць яго, але рэдка могуць зрабіць гэта ў вытрыманым выглядзе. Пасьля агульных уваг аб маладнякоўскай (і наогул беларускай крытыцы) аўтар дае портрэты некаторых маладнякоўцаў-крытыкаў.

Кніжка робіць наогул добрае ўражаньне.

Напісана бесстаронна, сакавіта і з мэтамі ня толькі навуковымі, але і практычна-грамадзкімі. Дый цана яе—65 капеек—даволі танная. Затое няма тут фотографій пісьменьнікаў, што ўжо ня вельмі добра. Але наогул надворны бок выданьня ня кепскі. Варта было-б калі-небудзь напісаць падобныя-ж кніжкі і аб іншых пісьменьніцкіх аб‘яднаньнях.

**А. Цьвяткоў.**

**З. И. Горбовец. Гравюры на дереве.** Предисловие *Всеволода Воинова*, текст *И. П. Фурмана*. Віцебск. 1927, 247×175 мм., 15 ст.+10 гравюр на асобных лістох. Тыраж 75 экз., цана не паказана.

**С. Юдовин. Гравюры на дереве.** Текст *И. Иоффе* и *Э. Голлербаха*. Ленінград. 1928, 249×178 мм., 48 ст., 49 гравюр у тэксьце. Выданьне С. Б. Юдовина, 1200 экз., цана 1 р. 75 кап.

**І. П. Фурман. Віцебскія мастакі-граверы**. У зборніку „Віцебшчына", т. II, Віцебск. 1928, 217×147 мм. ст. 174—183, 3 гравюры ў тэксьце на асобных лістох.

**Ал. Шлюбскі. Exlibirs'ы А .Тычыны.** Беларускае Таварыства Бібліофілаў (?), Менск. 1928, 224×157 мм., 48 ст., 16 кніжных знакаў на асобных старонках. Тыраж 200 экз., цана не паказана.

У той час, як чужаземная літаратура: нямецкая, польская, літоўская, расійская ды інш. а беларускім мастацтве даволі багатая, хоць і мала вядомая нашым шырокім колам,— літаратура а беларускім мастацтве і мастацтве на Беларусі на беларускай мове вельмі бедная. Беларускае мастацтвазнаўства яшчэ толькі нараджаецца. Нашы нешматлікія выданьні аб мастацтве на беларускай мове яшчэ далёка не складаюць тэй скарбніцы, якую можна было-б назваць беларускаю навукаю а беларускім мастацтве. Адбываецца пакуль што процэс зьбіраньня. У такіх умовах дасьледчыкі ды аматары нашага мастацтва асабліва даражаць здабытымі, часамі пераважна з чужаземных літаратурных крыніц, ведамі аб нашым мастацтве і часамі-ж неасьцярожна сьцьвярджаюць, што, напр., праца вось яго зьяўляецца нібы толькі популярызацыяй маёй працы („Полымя", 1926, 7, 178) і да т. п. Але ў асноўным атмосфэра ў галіне дасьледваньня нашага мастацтва здаровая, аб чым сьведчаць усё новыя і новыя выданьні аб ім. Разам з тым адраджэньне Беларусі выклікала яшчэ большую зацікаўленасьць нашых суседзяў праявамі мастацтва на нашай тэрыторыі. Дзякуючы гэтаму чужаземная літаратура аб нашым мастацтве яшчэ ўзбагачаецца, прыкладам чаго і зьяўляюцца названыя вышэй два расійскія выданьні.

Літаратура аб сучасным мастацтве, значна ўплываючы на разьвіцьцё яго, у пэўнай меры залежыць ад стану самога мастацтва. Наша сучаснае мастацтва яшчэ вельмі беднае. Мы зьяўляемся сьведкамі ператварэньня тэрыторыяльна беларускага, буржуазнага па зьместу, мастацтва ў нацыянальна беларускае, пролетарскае па зьместу, мастацтва. Дакладней кажучы—сьведкамі нараджэньня другога на аснове скарыстаньня тэхнічных дасягненьняў першага. Таму нам нельга зусім занядбаць асабліва сучаснае, тэрыторыяльна беларускае мастацтва. А да мастакоў, якія ўжо становяцца нацыянальна беларускімі, у нас павінна быць выключная ўвага.

Пералічаныя вышэй выданьні гавораць аб наступных мастаках: С. Б. Юдовіне, З. І. Гарбаўцы, Е. С. Мініне і А. М. Тычыне. Першы з іх— сьвядомы, глыбокі, нацыянальны яўрэйскі культурны працаўнік; З. Гарбавец — абруселы яўрэй, анацыянальны; Е. Мінін — беларус з моцна абруселай сям'і і А. Тычына—сьвядомы беларус. З. Гарбавец паходзіць з Украіны; іншыя—з Беларусі. Усё гэта ў значнай меры абумоўлівае іх творчасьць, але ўсе яны ў сваіх творах адбіваюць Беларусь, на тэрыторыі якой і пачалася іх мастацкая чыннасьць.

З. Гарбавец, як сьцьвярджае І. Фурман, „у Беларусі зьявіўся выпадкова і, як мастацкая велічыня, вызначыўся адразу". Але ўжо зусім не выпадкова, што з 10 выразаных Гарбаўцом гравюр 6 адбіваю ць, бясспрэчна, мясцовыя тыпы і краявіды Мо' дасьледчык сваімі словамі хацеў падкрэсьліць тое, што для данага мастака пакуль што ўсё роўна, што

паказваць на сваіх творах—ці Віцебшчыну, у якой ён жыве, ці Семіпалацінск, ці што іншае, сапраўды-ж мастак можа тварыць толькі з матэрыялаў, якія ў выглядзе ўспрыйманьняў паназапашаны ў ім, і затым ён паказвае пасвойму пертворанае мясцовае жыцьцё. Гэты закон усім вядомы і, мабыць, таму аўтар пра яго не ўспамінае. Але тады ў большай меры трэ' было падкрэсьліць, што мастак яшчэ пакуль што малацікавіцца адшуканьнем і выяўленьнем мясцовых індывідуальных асаблівасьцяй краю. Праўда, І. Фурман зусім слушна сьцьвярджае, што ў Гарбаўца вялікае імкненьне да формальных дасягненьняў, якімі ён заслужана можа пахваліцца. Гэта вельмі важна, і правільна адзначае Войнаў, калі кажа, што на аснове разьвіцьця гэтых дасягненьняў Гарбавец здолее даць „моцныя ня толькі формальнымі сваімі якасьцямі, але і нутраной значнасьцю“ творы. Для гэтага, паміж іншым, трэба зьвярнуць увагу на больш сьвядомае адбіцьцё краіны ў сваіх творах, агульначалавечая вартасьць якіх у выніку ўзбагацее, а краёвая — нязьмерна павялічыцца. Фурман цалком справіўся з сваім заданьнем і дакладна выявіў сутнасьць гравюр мастака, а Войнаў—яго значэньне і адраджэньне беларускага мастацтва.

У той час, як Гарбавец, жывучы ў Віцебску, пакуль што ня імкнецца сьвядома паказаць гэты горад у сваіх творах, ад чаго апошнія маюць некаторую сухасьць і трацяць на жывасьці пры сваёй высокай тэхнічнай дасканаласьці,—Юдовін, жывучы ў Ленінградзе, у сваіх творах усё яшчэ адбівае сваю родную Віцебшчыну. Каб не адыйсьці ад гэтага і мець належны матэрыял, ён свой леташні адпачынак правёў на працы ў Гарадку, Віцебскай акругі. У выніку гэтай сьвядомай працы Юдовін стаў выдатным мастаком беларускага яўрэйства. Амаль усе чыста яго творы, выкананыя да гэтага часу, пяюць прыгожую песьню аб жыхарох былой „черты оседлости“. У межах гэтай агіднай і жудаснай зьявы мастак знайшоў харство, поэзію і пяе аб ім сваім гледачом. Дзякуючы сур'ёзнай увазе зьместу сваіх твораў, Юдовін, як мастак, вызначыўся ня зусім адразу. Але затое зараз яго высокая, дасканалая, своеасаблівая, яго ўласная тэхніка цалкам суладна зьместу яго твораў. Гравюры Юдовіна выклікаюць замілаваньне да сябе асабліва тым, што яны *жывыя* творы, а ня форма, не адзежына толькі і не адцягненая думка. Гэта, так кажучы, інтэгральнасьць формы і зьместу Юдовіна і прынесла яму слыннасьць ня толькі ў БССР ці СССР, але і ў Эўропе ды Амэрыцы, дзе на выстаўках яго творы былі таксама адзначаны. У свой час у Віцебску вышла кніжка гравюр Юдовіна з тэкстам на беларускай мове; зараз вышла гэта кніжка з тэкстам на расійскай мове. У ёй пераважная большасьць зусім новых, яшчэ невядомых твораў. У іх, як і ў ранейшых, Юдовін паказвае беларускага яўрэя, яго працу, быт, акружэньне, у якім ён жыве. Юдовін—лірычны эпік. Ён не выдумляе, не маралізуе, ён проста апавядае; але разам з тым, усюды відаць яго адносіны—у асноўным гэта замілаваньне да ўсяго таго, аб чым ён апавядае. Яно відаць і ў портрэце яўрэя-містыка, і ў портрэце яўрэя-рэалістага, і ў мотывах грамадзянскай вайны, і ва ўсіх творах наогул. Усё гэта—жыцьцё. А паказаць яўрэйскае жыцьцё на Беларусі, да таго яшчэ своеасаблівым яўрэйскім стылем, і мае на мэце Юдовін. Як мастак, што глыбока адчувае гармонію, суладнасьць, ён паказвае нам не бязладнасьць жыцьцёвую, але творыць вялікую поэму гравюр. Спачатку ён паказаў нам старых тыпаў, старое жыцьцё, якое так хутка адмірае. З палкасьцю археолёга ён захаваў для нас гэтыя помнікі старасьветчыны. Але ўжо і тады ён даваў у сваіх творах і

сучасную працу беларускіх яўрэяў. У гэтай кніжцы асабліва шчыра можна вітаць чарговы этап—яго гравюры з грамадзянскай вайны. У гэтых моцных творах відаць магутнасьць маладых жыхароў „черты оседлости“, якія разам з беларускай беднатой змагаюцца з багацьцем. Далейшаю тэмаю, над якой працуе мастак, зьяўляюцца яўрэйскія пагромы.

Аўтары тэксту кніжкі аб Юдовіне— Ёфэ і Голербах, — добра выявіўшы соцыяльныя мотывы творчасьці мастака і яе характар, на жаль, не захацелі адзначыць таго, што Юдовін малюе жыцьцё *беларускага* яўрэйства, што першая кніжка яго твораў была *беларускай* і шмат іншых, вартых увагі, дробязяй, у чым ніяк нельга вінаваціць раней названага расійскага дасьледчыка — Войнава. Сваёй творчасьцю Юдовін дапамагае далейшаму збліжэньню дзьвёх нацыянальнасьцяй — беларусаў і яўрэяў, і гэта варта адзначыць. У кнізе часамі трапляюцца ляпсусы: Гірш Лекерт—гэта адзін рэволюцыйны герой, а ня два („Гіршов, Лекертов...“), як думае Голербах.

У сваёй чарговай працы „Віцебскія мастакі-граверы“ Фурман дае шмат новага і цікавага аб трох віцебскіх ксілёграверах—Юдовіне, Мініне і Гарбаўцы. У даным выпадку нас асабліва цікавіць Мінін, монографіі аб якім (а ён яе заслужыў бадай у большай меры, чым іншыя беларускія мастакі) мы яшчэ ня маем. Мінін сьвядома паставіў сабе мэту адбіцьцё жыцьця мясцовага краю і прыватна Віцебску, і Віцебску беларускага, бо яўрэйскую частку яго паказаў Юдовін. Дык Мінін, наогул, лічыць сябе заклікaным паказаць у сваіх творах *беларускае* жыцьцё. Каб знайсьці адпаведны стыль для гэтага, ён асабліва старанна выўчае старую беларускую гравюру, стары і сучасны беларускі орнамэнт і да т. п. У выніку ўсяго гэтага Мінін „выявіў вялікую тэхнічную дасканаласьць, культывуючы перавaжна „чорны штрых“, як сьцьвярджае і Фурман. „Работы Мініна заўсёды прыгожныя і сьведчаць аб вялікім мастацкім гусьце іх майстра“, зусім слушна падкрэсьлівае аўтар працы. Мінін мае шмат надзвычайна цікавых работ, прымаў удзел у 7 розных выстаўках у СССР, Эўропе дый Амэрыцы і быў адзначаны, як выдатны мастак. На жаль, творчасьць яго невядома шырокім беларускім колам; яго творы зьяўляліся толькі выпадкова ў нашым друку ў якасьці ілюстрацый да вестак аб ім, як і ў даным выпадку. Наша грамадзкая думка аб разьвіцьці нашага мастацтва пакуль што зьяўляецца стаячым балотам, узрасьці на якім і выбрысьці з якога вельмі цяжка. Трэ' каб, ад каго гэта залежыць, балота гэта скалануць і асушыць. Тады і творчасьць Мініна стане даступнай ня толькі вузкім колам аматараў. Фурман у гэтай працы, як і ва ўсіх сваіх іншых, коратка, але дасканала дасягнуў свае мэты — высьвятленьня асноўных уласьцівасьцяй віцебскіх ксілёгравераў.

Анатоль Тычына—добра вядомы беларускі графік. У даным выпадку мы маем выданьне не аб яго творчасьці наогул, але толькі аб яго кніжных знаках, якія пакуль што не зьяўляюцца самым моцным момантам яго працы. Паколькі выданьне, паводле слоў аўтара тэксту Шлюбскага, мае выключна рэгістрацыйныя мэты і зарэгістравала ўсе кніжныя знакі мастака бяз жаднага адбору, пастолькі яно саслужыла дрэнную службу і для мастака і для таварыства бібліофілаў, назва якога нейкім дзіўным чынам апынулася на тытульнай старонцы выданьня. Шмат што ў гэтым выданьні мае ляборaторны характар і з карысьцю для мастака магло ў выданьне не зьмяшчацца. А трапіўшы туды, яно шкодзіць сапраўды вартым увагі творам. Усё-ж,

ня гледзячы на гэту дробязь, кніжка паказвае нам і шмат што цікавае з творчасьці самага вядомага ў сучасным беларускім жыцьці мастака. Шлюбскі, як і заўсёды, коратка ды вычэрпваюча, даў свае весткі, канечна патрэбныя для лепшага ўразуменьня твораў мастака. Трэба паклапаціцца, каб на гэтым ня спынілася выданьне беларускіх мастацкіх кніжак.

Усе гэтыя кніжкі выданы на добрай паперы, удала падабраным шрыфтам, з умелым разьмеркаваньнем ілюстрацый, здавальняючаю фарбаю, і з боку тэхнічнага ад іх ня можна патрабаваць нічога лепшага. Шкода толькі, што ў нас, на Беларусі, выданьне мастацкіх кніжак залежыць ад волі і кішэні нашых аматараў мастацтва. Час за гэту справу ўзяцца Дзяржаўнаму Выдавецтву і ўнесьці сыстэматычнасьць ды плянавасьць у яе разьвіцьцё.

**М. Касьпяровіч.**

**„Наш Край“. Штомесячнік Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Інбелкульце. № 8—9, жнівень—верасень. 1928.** *Стар. 106. Ц. 75 к.*

Разгляданы нумар часопісі „Наш Край“ цалкам прысьвечаны толькі аднэй Мазырскай акрузе. За ўвесь час існаваньня „Нашага Краю“ гэта толькі першы выпадак, калі ўвесь нумар цалкам прысьвечаны аднэй акрузе. Зьяўленьне спэцыяльнага Мазырскага нумару „Нашага Краю“ ёсьць, з аднаго боку, акт удзячнасьці Краязнаўчаму Таварыству Мазырскай акругі за тое, што яно сабрала самую большую колькасьць падпісчыкаў на часопісь, а з другога боку—гэта першая спроба сыстэматычнага ды плянавага краязнаўчага апісаньня паасобных раёнаў Беларусі. Бяручы пад увагу апошні момант, трэба адразу-ж устанавіць: удалая ці не гэта спроба.

Ня гледзячы на адсутнасьць у нумары артыкулаў пра стан прамысловасьці ды сельскае гаспадаркі па важных прычынах, адзначаных рэдакцыяй, Мазырская акруга параўнаўча поўна асьветлена—такі адказ. Чытач атрымлівае амаль суцэльны малюнак Мазырскай акругі. Мы кажам „амаль“ з тае прычыны, што няма там артыкулаў аб культурным жыцьці Мазыршчыны. Але, ня гледзячы на гэта, разгляданы нумар, з пункту погляду краязнаўчага, усё-ж такі дае шмат аб Мазыршчыне.

Нумар пачынаецца грунтоўным геаграфічным нарысам Мазырскае акругі, напісаным М. Азбукіным. Потым ідзе артыкул А. Крукоўскага „Карысныя выкапні“. Артыкул гэты ёсьць компіляцыйна-сьціслы зьмест тых даных аб карысных выкапнях, што маюцца ў кнігах проф. П. А. Туткоўскага: „Геологический очерк Минской губ.“ і „Геологические исследования на территории б. Минской губ.“, а таксама кнігі „Россия. Т. IX: Верхнее Поднепровье и Белоруссия, под ред. В. П. Семенова“. Компіляцыя ўдалая. Крукоўскі добрасумленна кожны раз раней, чым пачаць новы разьдзел, зьвяртаецца да Туткоўскага. Але хіба гэта выпраўдвае зьяўленьне яго артыкулу ў часопісі, дзе павінен гаварыць краязнаўца-дасьледчык, а не краязнаўца-компілятар. Няўжо арт. Крукоўскага—прыклад краязнаўчага апісаньня? Калі не, то навошта ён у часопісі? Калі так, то кіруючы орган краязнаўства Беларусі ўхваляе краязнаўчыя працы, дзе пераказваюцца толькі чужыя дасьледваньні, г. зн. піхае па шляху найменшага супраціўленьня.

Наступны артыкул І. А. Некрашэвіча „Мэліорацыя на Мазыршчыне“ падае каштоўныя весткі аб стане мэліорацыйных работ да рэволюцыі і аб дасягненьнях у гэтай галіне за час існаваньня савецкае ўлады.

Артыкул С. І. Кацнэльсона „Лясная гаспадарка Мазыршчыны“ цікавы. Што да арт. Тарановіча „Старасьветчына Мазыршчыны ў матэрыяльных помніках“, то хоць ён і напісаны на падставе чужых даных, але ўсё-ж

гэта не компіляцыя тыпу Крукоўскага. Артыкул напісаны з пэўнай самастойнасьцю і адчуваецца, што тут ня толькі пераказваньне, але і шмат сваіх уласных досьледаў.

Потым ідуць самастойныя цікавыя артыкульчыкі П. Чайкоўскага: „На Сямурадзкіх пяскох“, „Млыноцкі вал“ і „Народнае апавяданьне аб Тураве“, запісанае аўтарам са слоў селяніна в. Запясочча, Тураўскага р., Апанаса Шабельніка.

Праца Яз. Бараноўскага „Санітарна-бытавы стан вёскі Радзілавічы, Букчанскі с.-с., Тураўскі раён, Мазырская акруга“—адна з самых лепшых, зьмешчаных у разгляданым нумары „Нашага Краю“. Напісаная па „Схэме санітарна-бытавога абсьледваньня вёскі“ (укладзенай д-рамі Ів. Цьвікевічам і З. Магілеўчыкам і выданай ЦБК), яна дае поўнае і ўсебаковае прадстаўленьне аб в. Радзілавічы, прычым закрануты і эканомічны і культурны бакі стану гэтае вёскі. Артыкул Яз. Бараноўскага—прыклад краязнаўчай працы. Па ёй, а не па артыкулах тыпу Крукоўскага, павінны раўняцца краязнаўцы. У працы Яз. Бараноўскага адчуваецца зацікаўленасьць да краязнаўства, а ня толькі жаданьне друкавацца, што заўважаецца, на жаль, у некаторых краязнаўцаў. Каштоўнасьць працы Бараноўскага, як правільна зазначыў у сваёй прадмове да яе і д-р Ів. Цьвікевіч, вялізная, і да падобных прац трэба ўсялякім спосабам падахвочваць.

Пасьля таго прыемнага ўражаньня, якое атрымліваецца ад арт. Яз. Бараноўскага, цяжка чытаць артыкул М. Грынблята „Некаторыя матэрыялы да вывучэньня пастушаства і жывёлагадоўлі Тураўшчыны“ (этнографічныя нататкі). Аўтар хацеў даць нешта каштоўнае, а ў выніку даў вельмі мала цікавага. Закрануўшы бязумоўна цікавую тэму, М. Я. Грынблят амаль нічога не зрабіў для ўзбагачэньня гэтае галіны краязнаўчае працы новымі данымі.

Арт. А. Адзінца і Ів. Юрашкевіча „Нататкі аб асаблівасьцях мовы Тураўшчыны“ каштоўны і цікавы. Артыкул гэты зьяўляецца нязначнай часткай тае працы, якую зрабіла краязнаўчая экспэдыцыя студэнтаў БДУ на Тураўшчыне. Мяркуючы толькі па працах А. Адзінца—Ів. Юрашкевіча і Яз. Бараноўскага, зьмешчаных у даным нумары, нельга не адзначыць, што студэнтамі, членамі навукова-дасьледчага краязнаўчага т-ва Бел. Дзярж. Ун-ту, да ліку якіх належаць і названыя асобы, праводзіцца вялізарная і карысная праца ў галіне краязнаўства.

Нарэшце, у арт. Т. Кулакова „Мястэчка Азарычы, Мазырскае акругі“ (кароткае апісаньне), чытач знойдзе патрэбныя весткі аб гэтым мястэчку.

У разьдзеле „Хроніка“ зьмешчаны добры арт. І. Лакіна „Краязнаўчы рух на Мазыршчыне“. Апрача гэтага, тут мы маем артыкулы: Т. Кулакова—„Азарыцкае раённае краязн. т-ва“; У. Палявога—„Капаткевіцкае раённае т-ва краязнаўства“; С. Марозава—„Шкоднікі садоў г. Пятрыкова“; С. Кірыка — „Сьнежная бура 13—14 красавіка ў даліне р. Прыпяці“. Нумар канчаецца параўнаўча грунтоўнай бібліографіяй Мазыршчыны, укладзенай Ул. Пракулевічам паводле матэрыялаў бібліографічнае Камісіі ІБК.

Вывад: практыка гэтага нумару сьведчыць за тое, што, пры больш уважлівых адносінах да матэрыялу, рэдакцыя „Нашага Краю“ здолее і павінна ў далейшым час-часом даваць цэлыя нумары, прысьвечаныя пэўнай мясцовасьці (акрузе, раёну) Беларусі.

**Б. і Ф.**

# ДА ДВАЦЦАЦІГАДОВАГА ЮБІЛЕЮ БЕЛАРУСКАГА ПРОЛЕТАРСКАГА ПОЭТЫ І ГРАМАДЗКАГА ДЗЕЯЧА ЦІШКІ ГАРТНАГА—З. ЖЫЛУНОВІЧА

У суботу 15 сьнежня 1928 г. ў Доме працасьветы, пры паўнюткай залі, адбылося ўрачыстае, організаванае аб'яднаньнем „Полымя“, паседжаньне, прысьвечанае юбілею беларускага поэты і грамадзкага дзеяча Цішкі Гартнага—Зьмітрака Жылуновіча. Пасьля ўступнага слова ад імя літаратурнага аб'яднаньня пісьменьнікаў „Полымя“ Міхася Чарота, які адчыняў паседжаньне, быў прачытаны вялікі даклад аб жыцьці і творчасьці юбіляра Цішкі Гартнага проф. М. Піотуховічам. З успамінамі аб шляхох, творчым сумесным жыцьці і барацьбе юбіляра выступалі Янка Нёманскі (Пятровіч) і Ўл. Галубок. Віталі Цішку Гартнага ад шмат устаноў і грамадзкіх і літаратурных організацый (Наркамасьветы, Белдзяржвыдавецтва, 1-й дзяржаўнай друкарні, ад настаўніцтва гор. Менску, Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту, БЕЛАПП і часопісі „Маладняк“ ды інш.). На гэтым-жа вечары чыталі свае творы, прысьвечаныя юбіляру, Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александровіч, Паўлюк Трус, Алесь Дудар.

Ад літаратурнага аб'яднаньня пісьменьнікаў „Полымя“ Цішку Гартнаму быў прыпаднесены адрас, а ад супрацоўнікаў Белдзяржвыдавецтва кніга ў мастацкім пераплёце „Цішка Гартны ў беларускай літаратурнай крытыцы“.

Урачыстае паседжаньне-вечар быў зазьняты Белдзяржкіно. На імя юбіляра атрымана шмат тэлеграм і прывітаньняў, каторыя тут і прыводзяцца:

**Менск. „Маладняк“**

Вітаю песьняра працы і змаганьня беларускага народу.

Кіраўнік Беларускага аддзелу член сойму **Пігулеўскі.**

Рыга, 15-XII-28 г.

**Беларусь. Цішку Гартнаму**

Беларускі сялянска-работніцкі пасольскі клюб, як прадстаўнік працоўных мас Заходняй Беларусі, вітае першага беларускага пролетарскага песьняра з 20-годзьдзем літаратурнай працы. Няхай мацнеюць рады працоўных!

**Гаўрылік, Дварчанін, Валынец, Грэцкі.**

Варшава, Сойм 14-XII-28.

## „Полымя“. Гартнаму

Вітаем поэту-юбіляра і шчыра жадаем натхненьня і моцы.

Таварыства настаўнікаў—**Карнаухова**. Тэатральная фэдэрацыя „Прасьвета“—**Жэрдзіў**. Таварыства выбаршчыкаў—**Раткін, Аратай, Ціхаміраў**. Гімназія—**Сахараў**. Пачатковая школа—**Барткевіч**.

г. Дзьвінск, 15-XII-28.

## Vàzeny soudruhu,

u prilezitosti jubilea Vasi dracetileté literárni cinnosti zasilaji Vam Vasi ceskoslovensti pratelé prani mnoha sdaru k dalsi praci.

Jsme presvedceni, ze Vase prace bude i v budoucnosti rozmnozovat kulturu beloruskeho pracujliho lidu.

## Z pozdravem

Zenek Najedly, Konst. Biebl, Julius Fucik, Jos. Hora, K. Konrad, Helena Malirova, Marie Majerova, K. Novy, Jar. Siefert. Vl. Vancura, F. C. Wiesskopf. Ivan Olbracht.

## Паважаны таварыш!

З выпадку юбілею Вашай дваццацігадовай літаратурнай чыннасьці пасылаюць Вам Вашы чэха-славацкія прыяцелі жаданьне многа посьпеху да далейшай працы.

Мы перакананы, што Ваша праца будзе і ў будучыні павялічваць культуру беларускага працоўнага люду.

З прывітаньнем:

**Здэнэк Няедлы, Костусь Бебль, Юльян Фучык, Язэп Гора, К. Конрад, Галена Маліжова, Мар'я Маерова, К. Новы, Яраслаў Зэйфэрт, Вл. Ванчура, Ф. Вайскопф, Іван Ольбрахт.**

## Дороги Пісьняр Білоруськоі Землі

В день 20-ліття пісьменінкоі праці буйного і бурного талянту Цішки Гартного сердечно здоровкю щирим побажаньнем могутню розвитку як творчости Юбіляра, так і білоруськоі літаратури взагалі.

**Ілар. Свенцицкі.**

Національний Музей у Львові.
8-VII-28 г.

## „Полымя“. Цішку Гартнаму

Вітаем з дваццатымі ўгодкамі працы на беларускай літаратурнай ніве.

**Беларускі Студэнцкі Саюз.**

Вільня, 15-XII-28.

## „Полымя“. Ц. Гартнаму

Сардэчнае пажаданьне шчасьця Цішку Гартнаму.

**Гэргарт Поль.**

Бэрлін, 14-XII-28.

## Менск. Ц. Гартнаму

У дзень 20-х угодкаў літаратурна-грамадзкай працы шлём табе шчырае прывітаньне і жадаем адважна стаяць на варце інтарэсаў працоўных.

**Моладзь Віленскай Беларускай Гімназіі.**

Вільня, 14-XII-28 г.

## Цішку Гартнаму

Беларуская асоцыяцыя пролетарскіх пісьменьнікаў і рэдакцыя часопісу „Маладняк" ад імя сваіх сяброў і супрацоўнікаў пасылае шчырае прывітаньне юбіляру—поэту і рэволюцыянэру—Цішку Гартнаму ў дзень дваццатых угодак яго літаратурнай дзейнасьці.

Прышоўшы ў беларускую літаратуру з масы працоўнага сялянства, першым адбіваючы ў сваіх творах цяжкую працу беларускага рамесьніка, Цішка Гартны даў беларускай пролетарскай літаратуры песьні працы і змаганьня і змагаўся сам у шэрагах барацьбітоў за Савецкую Беларусь.

На працягу далейшых год свае літаратурнае дзейнасьці Цішка Гартны адбіў у сваіх творах эпоху змаганьня за нашу Рэспубліку працоўных, эпоху соцыялістычнае перабудовы краіны.

Жадаючы посьпехаў у далейшай літаратурнай дзейнасьці, мы ўпэўнены, што Цішка Гартны яшчэ шмат зробіць на карысьць росквіту беларускай пролетарскай літаратуры.

Мы спадзяемся, што ў асобе Цішкі Гартнага сустрэнем падтрыманьне і дапамогу ў нашым змаганьні за беларускую пролетарскую літаратуру.

Прывітаньне і пашана юбіляру.

**Праўленьне Белапп. Рэдакцыя „Маладняк".**

15-XII-28 г.

## Белгосиздат Жилуновичу.

Дорогой Гартный! Ваша заслуга перед пролетарской литературой велика и оценена советской общественностью. Сердечно поздравляю с двадцатилетним литературным юбилеем. Лишен возможности лично обнять, выразив глубокую радость удовлетворения. Желаю долгой жизни успеха пера.

Преданный **Владимир Ричиотти.**

Ленинград, 15-XII-28 г.

## „Полымя". Шановні Товариші!

Спілка революційних письменників „Західня Украіна" просити передати т. Гартнаму Цішці в день 20-ліття його літературноі праці сердечний привіт та побажання усьпішноі праці на користь пролетарськоі літератури.

**З даручэньня Управы Спілкі Член Управы Д. Рудик.**

## Наркамасьветы. Зьмітру Тодаравічу Жылуновічу

Паважаны і вельмі шаноўны Зьмітрок Тодаравіч! Мы, рабочыя і служачыя Гомельскае гарадзкое станцыі Заходніх чыгунак, сышоўшыся на гурток беларусазнаўства, шчыра вітаем у Вашай асобе поэту і грамадзяніна ў час юбілею, выказваем адданасьць і прыязьнь, як барацьбіту за правы працоўных. Жадаем моцы на творчым пачэсным шляху!

Гомель, 14-XII-28 г. **Па даручэньню гуртка Мясцком.**

## „Полымя". Жылуновичу.

Плуг щиро вітае шановного юбіляра Гартного та бажае дальшоі успішноі праці на користь трудящих молодоі радянськоі культури.

Харків, 14-XII-28 г.

## „Полымя". Жылуновичу

Вітаю видатнішого із вождів Белорусіі радянськоі культури поета людину Гартного з двадцятіліттем.

**Поліщук.**

Харків, 14-XII-28 г.

### Галоўмастацтва Жылуновічу

Вітаем пролетарскага беларускага пісьменьніка Цішку Гартнага з дваццацігодзьдзем літаратурнай чыннасьці.

**Працаўнікі і вучні Мастацкага тэхнікуму.**

Віцебск, 15-XII-28 г.

### „Полымя". Жилуновичу

Передайте привет и поздравление Тишке Гартному, первому подлинному поэту трудовых масс белорусского народа, борцу за возрождение свободной Белоруссии в день двадцатилетия служения родному народу и культуре.

Доцент **Пушкаревич.**

Ленинград, 15-XII-28 г.

### Наркамасьветы. Цішку Гартнаму

Працаўнікі аддзелу пуці Заходніх чыгунак шчыра вітаюць дарагога юбіляра з дваццацігодзьдзем літаратурнай і грамадзкай дзейнасьці. Няхай квітнее далейшая Ваша плённая творчасьць на доўгія гады!

**Пуцейцы.**

Гомель, 14-XII-28 г.

### „Полымя". Жылуновічу

Нацбюро УВПП і Беларуская сэкцыя „Кузницы" вітае бацьку беларускай пролетарскай літаратуры Цішку Гартнага з дваццацігодзьдзем літаратурнай і грамадзкай працы.

Масква, 15-XII-28 г.

Государственная Академия Художественных Наук приветствует товарища Гартного в день его юбилея и желает дальнейшей плодотворной деятельности.

Президент **Гахн Коган.**

Москва, 13-XII-28 г.

### Наркамасьветы. Жылуновічу

Ад імя беларускіх організацый і сябе горача вітаем цябе з дваццацігодзьдзем грамадзкае і літаратурнае дзейнасьці.

Жыві і працуй, абымаем

**Паўлюкевіч, Пяцюкевіч.**

Масква, 14-XII-28 г.

### „Полымя". Жилуновичу

Приветствуем Тишку Гартного—собрата по перу—з двадцатилетней творческой деятельностью.

**„Кузница".**

Москва, 15-XII-28 г.

### Дом працаўнікоў асьветы. Цішку Гартнаму

Настаўнікі і студэнты Гомельскага беларускага тэхнікуму горача вітаюць свайго песьняра з 20-годзьдзем яго дзейнасьці і жадаюць далейшай шчырай працы на карысьць пролетарыяту.

**Дырэктар Слуцкі.**

Гомель, 15-XII-28 г.

## „Полымя“. Жилуновичу

Привет ВОКСА Тишке Гартному—писателю, воспевшему белорусского рабочего и крестьянина в тяжелые времена царизма и внесшему своим творчеством значительный вклад в культуру советской Белоруссии.

**Каменева.**

Москва, 14-XII-28 г.

## Наркомпрос. Гартному

Дарагі даядзька Гартны! Дваццацігадовы юбілей літаратурнае працы—наша сьвята, сьвята працоўных і сялян. З далёкай поўначы шлем Вам сваё шчырае прывітаньне і жадаем пасьпешнае працы.

Хай песьні працы мацней гучаць! Хай гімны Вашы абуджаюць усіх прыгнечаных братоў.

**Праўленьне Белдомасьветы.**

Ленінград, 15-XII-28 г.

## Галоўполітасьветы. Жылуновічу—Гартнаму

Вучні, настаўнікі і тэхпрацаўнікі другой Чэрыкаўскай сямігодкі Вашага імя на урачыстым вечары ў дзень дваццацігадовага юбілею літаратурнай дзейнасьці шчыра вітаюць Вас і жадаюць посьпеху ў далейшай літаратурнай, рэволюцыйнай і грамадзкай працы на карысьць працоўных.

**Загадчык школы Валюжанец.**

Чэрыкаў, 15-XII-28 г.

## Паважаны таварыш Цішка!

Прымі ад мяне шчырае прыяцельскае прывітаньне і найлепшыя пажаданьні ў тваёй далейшай карыснай працы для разьвіцьця пролетарскай беларускай культуры.

Прабачай, што я так каротак. Я ўпэўнены, што з гэтых кароткіх слоў ты такс ма зразумееш мае пачуцьці к табе, якія заўжды былі самыя найлепшыя.

Яшчэ і яшчэ вітаю і выказваю найлепшыя пажаданьні.

**Твой Браўковіч.**

Варшава, 10-XII-28 г.

## „Полымя“. Цішке Гартнаму.

Літературна організація та журнал „Молодняк“ щиро вітають двадцаторіччям літературноі діяльности організатора братньоі білоруськоі пролетарскоі літератури.

**„Молодняк“.**

Харьків, 14-XII-28 г.

## Тишке Гартному

Всероссийский Союз поэтов в день Вашего двадцатилетнего юбилея шлет зачинателю пролетарской литературы свой самый горячий привет.

**Правление.**

Москва, 13-XII-28 г.

## „Полымя“

Вітаю дарагога Цішку з юбілеем. Няхай ня гнецца, як ня гнуўся.

Загадчык Віцебскага Музэю **Васілевіч.**

Віцебск, 15-XII-28 г.

## Паважанаму тав. Ц. Гартнаму

У дзень дваццацігадовага юбілею Вашай літаратурнай дзейнасьці саюз студэнтаў-грамадзян БССР у Чэхаславакіі пасылае Вам многа пажаданьняў. Усё беларускае паступовае і савецкае студэнцтва вельмі добра бачыць тую аграмадную працу, якую Вы выканалі за гэтыя 20 год сваёй рэволюцыйнай, бадзёрай песьняй на карысьць працоўных гушчаў Беларусі. Вашая песьня была, і мы перакананы, што і надалей будзе той „Песьняй працы і змаганьня“, якая сваёй баёўнасьцю і энтузыязмам паднімае бадзёры настрой між працоўнымі Беларусі ў іх змаганьні за лепшую будучыню—комунізм.

Прага, 8 сьнежня 1928 г. За Саюз: Старшыня **М. Каўцэвіч.**
Сакратар **М. Шыманко.**

## Песьняру рабочых, змагальніку за волю—Цішку Гартнаму

Настаўніцтва—асьветнікі гор. Рэчыцы, сабраўшыся на ўрачыстым сходзе, прысьвечаным 20-цігадоваму юбілею пясьнярска-грамадзкай чыннасьці пролетарскага поэты Цішкі Гартнага, шлюць свае шчырае прывітаньне і віншуюць песьняра з яго 20-цігадовым сьвятам

Дваццаць год прайшло з таго часу, калі Вы, дарагі, слаўны пясьняр, узьнялі чырвоны сьцяг волі над сваім родным краем за шчасьце і долю працоўных. І дваццаць год цярністым шляхам ішлі Вы з аднэю думкаю аб шчасьці Беларусі. Гэты шлях па-над роднай сваёй нівай прайшлі Вы з непамернай гордай сілай баяна, з упэўнасьцю „Комунара“, што гарыць ён у агні бунтарскага змаганьня і „ад слоў яго ідзе агонь“.

Гэта вялікі шлях—крывавы шлях, поэты рэволюцыянэра, поэты рабочага-гарбара, поэты-генія-самавучкі, поэты-грамадзяніна, заступніка працоўнага народу, культурна-грамадзкага дзеяча—гэта Ваш шлях, слаўны поэта Цішка Гартны.

Ваша творчасьць—само жыцьцё, рэволюцыйная барацьба, рэальнасьць. Новыя сьвежыя родныя нам думкі, наш комуністычны, пролетарскі настрой, клясавы сьветапогляд, наскрозь відаць у Вашай творчасьці. Ад усіх Вашых твораў вее магучая сіла жыцьця рабочага: яго думкі і пачуцьці, літаньні і мары, цяжкая праца, беспрасьветны стан—усё, што абкружае работніка-беларуса, пролетара, усё, чым жыве рабочы, знайшло сабе адбітак-водгук на Вашай вяччуньняй ліры. Яе пролетарскія струны нязмоўкна зьвінелі і гукі іх песень луналі на фабрыкі і заводы, у вольныя абшары, у сялянскія дзярновыя папары, яны клічам агнёвым к барацьбе заклікалі за сусьветнае шчасьце і згоду паміж народамі, за братэрства народаў, за згіненьне клясавай няроўнасьці.

Вашы пролетарскія песьні—песьні саміх рабочых, бо Вы—пролетар сьвядомых клясавых інтарэсаў і гатовы ў кожную хвіліну аддаць усё сваё жыцьцё за інтарэсы працоўных.

Наша шчырае прывітаньне Цішку Гартнаму.

г. Рэчыца, 1-я школа 2-й ступені. **Прэзыдыум урачыстага сходу.**

Пералік асоб, прывітальныя тэлеграмы і лісты якіх, з прычыны абмежаванасьці месца ў часопісі „Полымя“, ня зьмешчаны.

## Літаратурнае аб'яднаньне „Полымя“. Менск.

Таварышы!

У дзень, калі Цішка Гартны, поэта і адзін з першых публіцыстых Беларусі, канчае 20-ы год сваёй пісьменьніцкай дзейнасьці, далучаю і я свой голас да вашай радасьці. Жадаю, каб юбіляр і ў новым дзесяцігодзьдзі сваім запалам яшчэ больш разьдзімаў-бы ваша „Полымя“.

Ушаноўваю разам з вамі гэты дзень ня толькі словам, але і ўчынкам. Перакладу адно апавяданьне Гартнага, а таксама напішу аб ім у некаторыя нашы газэты.

З таварыскім славянскім прывітаньнем

Праф.-д-р **Францінсак Ціхі.**

Браціслава,
Preyszowa.
12 сьнежня 1928 г.

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

## Сярод беларускіх пісьменьнікаў, поэтаў, літаратараў

* *Алесь Дудар* падрыхтаваў да друку новы зборнік сваіх апавяданьняў пад назвай „1928 год". Зборнік будзе друкавацца ў Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве.

* *Валеры Маракоў* піша новую поэму „Рабінавая ноч".

* *Александровіч Андрэй*канчае пісаць вершаваны роман „Нараджэньне чалавека". Роман будзе друкавацца ў „Полымі" ў першых нумарох з 1929 г.

* *Хведаровіч М.* Здаў да друку Белдзяржвыдавецтву зборнік сваіх вершаў „Настроі".

* *Хурсік Сымон* рыхтуе да друку зборнік апавяданьняў з вясковага жыцьця".

* *Трус Паўлюк* зараз працуе над другой часткай поэмы „Сірата Алеся".

* *Каваль Васіль* працуе над шэрагам апавяданьняў з студэнцкага жыцьця. Гэтыя апавяданьні будуць друкавацца у часопісе „Полымя".

Гэты-ж аўтар здаў да друку Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву новы зборнік апавяданьняў пад назвай „Крыніца".

* *Янка Маўр* піша новую прыгодніцкую аповесьць для дзяцей пад назвай „Беларускія Робінзоны".

* Беларускі студэнцкі саюз у Вільні наладзіў урачыстую вечарыну з прычыны 10-х угодкаў літаратурнай працы беларускага поэты Міхася Чарота. Вечарына адбылася ў залі Віл. Бел. Гімназіі па наступнай програме: 1) рэфэрат студэнта А. Бартуля аб творчасьці М. Чарота, 2) дэклямацыя і 3) хор пад кіраўніцтвам гр. Шырмы.

* Аддзел гуманітарных навук Беларускай Акадэміі Навук прысьвячае 2-гі том працы клясы філёлёгіі беларускаму пісьменьніку Цішку Гартнаму (Жылуновічу) у сувязі з яго 20-гадовым юбілеем літаратурнай і грамадзка-палітычнай дзейнасьці.

## Тэатр, мастацтва, музыка

* У канцы сьнежня ў Гомельшчыну выяжджае Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр пад кіраўніцтвам Ул. Галубка. У Гомельшчыне тэатр мае быць месяцы два.

Пры галоўмастацтве ўтвораны камітэт па падрыхтоўцы 3-яй усебеларускай мастацкай выстаўкі. У склад камітэту ўваходзяць прадстаўнікі Галоўмастацтва, Беларускай Акадэміі Навук, мастацкіх аб'яднаньняў і г. д. Старшынёй камітэту абраны М. Грамыка. У выстаўцы прыме ўдзел, апрача менскіх, і шэраг маскоўскіх і ленінградзкіх мастакоў, як: Ахрэмчык, Руцай, Дваракоўскі, Юдовін ды інш. Віцебск будзе прадстаўлены мастацкім тэхнікумам і групай мастакоў на чале з Пэнам і Мініным. Выстаўка мае быць наладжана ў будынку Цэнтральнага дому селяніна і працягнецца 3 тыдні.

* Справа Беларускага тэатру расьце і разгортваецца. Побач з будаўніцтвам дзяржаўных беларускіх тэатраў пачынае разьвівацца грамадзкая ініцыятыва, якая на Украіне дала ўжо значныя вынікі (там стварылася каля 15 так званых рабсельтэатраў). Так, у Менску працуе зараз пад кіраўніцтвам Міколы Красінскага сама-

дзейная драматычня трупа, якая ўзяла на сябе назоў „Наш Тэатр". Пачаўшы з аматарскіх пастановак, без належнай падрыхтоўкі і кіраўніцтва, за апошнія месяцы колектыў „Наш Тэатр" падрыхтаваў некалькі высокамастацкіх пастановак з глыбокім соцыяльным зьместам, як „Босыя на вогнішчы"—М. Чарота, „На стыку" — Цішкі Гартнага, „Гірд з ваўчынага логу" латвійскага пісьменьніка Райніса і інш.

Колектыў зараз працуе пад рэжысурай артыста БДТ-I т. Ждановіча. Коштоўнасьць гэтага колектыву заключаецца яшчэ ў тым, што ў складзе яго знаходзяцца маляры, якія самі малююць дэкарацыі, самі артыстыя майструюць макеты, шыюць вопратку і, наогул, самі выконваюць усё тое, што датычыць пастановак і мастацкага іх афармленьня.

Зараз колектыў ладзіць пастаноўкі па рабочых клюбах, чырвонаармейскіх часьцях і ўсюды карыстаецца посьпехам.

* Менск узбагаціцца з кастрычніка гэтага году яшчэ адным надзвычайна добрым тэатральным памяшканьнем. У новым будынку Цэнтр. Дому Селяніна пабудавана добрае тэатральнае памяшканьне на 420-500 асоб. Асабліва добра пабудавана сцэна, якая мае жалезную проціпажарную заслону, пад'ёмку для дэкорацый (адразу з двара на балькон сцэны) і 8 пакояў-акторняў ды кінобудку. У фойэ (на абодвух паверхах, бо тэатр двохярусны) будуць разьмешчаны часткова экспонаты сел.-гасп. музэю, як, прыкладам, акварыумы і г. д.

* Мастак Віер выканаў па заданьні БДМ даволі значную работу па рэстаўрацыі цэлага шэрагу вельмі каштоўных, але папсутых карцін і абразоў.

Некаторыя карціны флямандзкага пісьма былі так папсаваны, што наватня было надзеі паправіць іх. Заразжа, пасьля рэстаўрацыі, карціны выглядаюць вельмі добра, і толькі дужа напрактыкаванае вока можа заўважыць папраўкі.

Таксама вельмі ўдала папраўлены некаторыя абразы старога беларускага пісьма.

* З верасьня месяца ў Аршанчыне працуе вандроўны тэатр „Полымя" пад кіраўніцтвам рэжысэра Чэпулкоўскага.

Першыя пастаноўкі тэатру былі ў саўгасе Станіслава, Дубровенскага р. Там былі пастаўлены „Бабы ліхадзейкі", „Два жаніхі", „Чортава кузьня", „Паўлінка" і „Госьць з катаргі". Апрача гэтага рэпэртуару у распараджэньні тэатру ёсьць п'еса „Наймітка".

Тэатр рабіў пастаноўкі на Асінбудзе для рабочых торфараспрацовак, на Дубровенскай фабрыцы „Дняпроўская мануфактура", у саўгаспадарцы імя Леніна (Горацкі р.) было зроблена 5 пастановак у г. Горкі ў тэатры с.-г. акадэміі, тры пастаноўкі ў м. Дрыбіне.

Усюды, дзе тэатр робіць пастаноўкі, гледачы, асабліва рабочыя саўгасаў, застаюцца вельмі задаволены і просяць трупу наведаць іх яшчэ раз.

* ЦБ краязнаўства пастанавіла выдаць пахвальныя лісты за лепшыя экспонаты, якія былі выстаўлены на 1-й усебеларускай выстаўцы краязнаўчых фотографій і зарысовак, наступным асобам: фотографам—Фурману, Салавейчыку і Фальковічу; мастаком—Пархаменку, Астаповічу і Тычыне; колекцыянэрам—тав. Сэрбаву і т. Фурману, а таксама Шацкаму і Слуцкаму краязнаўчым організацыям.

* Зараз, калі ўдалося пабудаваць у Ленінградзе ўласную кіно-фабрыку, Белдзяржкіно атрымала магчымасьць плянаваць сваю вытворчасьць.

* Белдзяржкіно мае магчымасьць на бліжэйшы год выпусьціць толькі 10 мастацкіх фільмаў і 4 культурныя, г. зн. вельмі абмежаваны контынгент карцін.

Пры выбары сваіх тэм Белдзяржкіно галоўную ўвагу зьвярнула на тэмы, якія адпавядаюць патрэбам беларускай савецкай сучаснасьці або адбіваюць мінулае жыцьцё Беларусі.

Галоўная ўвага накіравана на *сацыяльна-бытавыя тэмы*, якія закранаюць рад важнейшых пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва. Плянам запроектаваны па тры тэмы з гарадзкога і вясковага жыцьця, разам шэсьць, сюды трэба далучыць яшчэ адну тэму агульна-політычнага зьместу, што дае разам 7 тэм з сучаснай эпохі.

Мінуламу Беларусі прысьвечаны толькі тры тэмы. Дзіцячых фільмаў проектуецца дзьве.

У другую чаргу, а таксама ў „запас“ пастаўлены тэмы, якія вымагаюць часу для сцэнарызацыі. Напрыклад, „Асінбуд“ або „Новы Шлях“.

У тэмах соцыяльна-бытавога зьместу будуць закрануты пытаньні нашага будаўніцтва, з яго станоўчымі і адмоўнымі бакамі (*„Грышка сьвінапас“*); быт і барацьба моладзі (*„Палаючы мост“*); разьвіцьцё рабочай жыльлёвай коопэрацыі (фільм *„У вышыню“*).

На матэрыяле вёскі будуць пабудаваны наступныя тэмы: *„Перадзел“*— барацьба кулацтва супроць коопэрацыі і роля вясковай моладзі ў пабудове розных форм коопэрацыі; *„Бабская атака“*—актыўная роля вясковых жанчын у стварэньні колектыўнай гаспадаркі і *„Лес“*—экономічна-вытворчая роля лесу пры памешчыках і пры савецкай уладзе. Сёмы фільм — *„Ля рубежных слупоў“*— малюе ўмовы жыцьця зарубежнай беларускай вёскі, сялянства якое актыўна змагаецца з контра-бандытызмам.

Усе гістарычныя тэмы будуюцца на аснове клясавага асьвятленьня гістарычных падзей.

*„Наша крэпасьць“* малюе падзеі ў 1905 годзе ў бабруйскай крэпасьці і дае быт старай царскай арміі.

*„З-пад ярма“* пераносіць нас, праўда, ужо ў XVII век, аднак, дае малюнак героічнай барацьбы, якую вялі працоўныя, каб разьбіць ланцугі экономічна-нацыянальнага ўціску ў былой Беларусі.

*„Канец блазна“* малюе часы Паўла I на Беларусі, калі асабліва лютаваў прыгон, а таксама дае нарыс бунтаў рабочых на мануфактурах.

Сэрыя політычна-асьветных тэм *для культурных* фільмаў падабрана адпаведна патрэбам нашага часу.

Мы яшчэ слаба ведаем свой край. Каб шырока здаволіць патрэбы ў веданьні краю, запроектаваны фільм *„Кіно-атлас“*, які павінен пазнаёміць гледача з прыродай Беларусі, яе багацьцямі, прамысловасьцю, сельскай гаспадаркай і ўкладам жыцьця вёскі і гораду.

* Пастановаю НКА Дзяржаўная капэля прыкамандыроўваецца да опэрнай клясы Музтэхнікуму, пад кіраўніцтвам т. т. Ягорава і Сэляха.

Дзякуючы гэтаму пры музтэхнікуме будзе сталы хор. У першай палове тэатральнага сэзону будзе пастаўлена опэра „Русалка“, у якой будзе прымаць удзел Дзяржаўная капэля.

* Кіно-экспэдыцыя фільму „Хвоі гамоняць“ (Атаман Аса) вяла інтэнсыўна здымкавую працу ў Гомелі і каля яго. Асыстэнтам пры рэжысэры Маўчанаве працуе аўтар сцэнарыя Анат. Вольны. З вядомых Менску артыстак у гэтым фільме здымаюцца арт. БДТ-I В. Полла і кіно-артыстка Кудзелька. Натурная здымка, калі будзе добрае надвор‘е, магла-б быць скончана праз 7—10 дзён.

* Ня так даўно ў памяшканьні музтэхнікуму быў заслуханы новы музычны твор „Беларуская сымфонія“, напісаная т. Цікоцкім, прыехаўшым з Бабруйску. Твор быў заслуханы ў прысутнасьці выкладчыкаў музтэхнікуму, музычных тэорэ-

тыкаў, студэнтаў музтэхнікуму ды іншых культурных працаўнікоў. У гэтым творы аўтар перадае ў гуках барацьбу на Беларусі з белапалякамі і магутнасьць сучаснага будаўніцтва. Агульны характар музыкі — пераможна-радасны. Уражаньне на слухачоў сымфонія зрабіла вельмі добрае. Пасьля выкананьня твору крытыкі прышлі да перакананьня, што твор зьяўляецца каштоўнай музычнай рэччу, якая заслугоўвае ўвагі.

Твор рыхтуецца да выкананьня оркестрам.

* Белдзяржкіно склала ўмову з вялікаю нямецкаю фірмаю „Хомфільм“ аб супольным выпуску дзьвёх фільм „Шатан“ Л. Талстога (па іх выбару) і „1912 год“ (Нёман і Бярэзіна) — па выбару Белдзяржкіно. Здымкі з натуры будуць рабіцца ў нас, павільённыя—на фабрыцы „Хомфільм“.

* Юры Тарыч напісаў для Белдзяржкіно новы сцэнары „Вір“ з жыцьця вучнёўскай моладзі Заходняй Беларусі. Гэтымі днямі сцэнары „Вір“ падаецца на разгляд мастацкай рады пры Галоўмастацтве і пасьля зацьверджаньня будзе перадан Ю. Тарычу для пастаноўкі. Новы фільм будзе выпушчаны Белдзяржкіно да восені 1929 г.

* Композытар Н. Равенскі напісаў кантату да 10-годзьдзя БССР. Па водкліках профэсароў Маскоўскай консэрваторыі, праслухаўшых кантату, апошняя мае значную мастацкую каштоўнасьць і заслугоўвае вялікае ўвагі.

* Замест інстытуту мастацтва організована камісія народнага мастацтва, якая ўваходзіць у склад катэдры этнографіі Беларускай Акадэміі Навук. Камісія народнага мастацтва ставіць сваёй задачай вывучэньне орнамэнту, тканіны, разьбярства і інш.

Камісія мае ў сваім карыстаньні надзвычай цікавы альбом беларускіх зарысовак.

* БДТ-І прыступіў да падрыхтоўкі раду новых п'ес. Прыступлена да работы над новай п'есай артыстага Рамановіча „Мост“. П'еса малюе сучаснае жыцьцё на шляхох да індустрыялізацыі і будзе пастаўлена да 10-годзьдзя абвяшчэньня БССР. Композытар Маркевіч вядзе інтэнсыўную работу над перапрацоўкай п'есы „Машэка“ ў музычную драму. Асноўныя ролі ў п'есе будуць перадааны сьпеваком. Рэпэртуарная камісія разглядае п'есу М. Зарэцкага „Белыя ружы“.

Дырэкцыяй наладжана сувязь з тэатрамі Харкава і Кіева, адкуль чакаюцца навіны украінскага тэатру.

Для азнаямленьня трупы з сучасным напрамкам тэатральнага мастацтва запрошаны з Масквы вядомы лектар Ларкаў. Для зьнішчэньня хібаў у беларускай мове на сцэне, дырэкцыяй тэатру запрошаны дырэктар інстытуту мовы—Язэп Лёсік, які пры ме ўдзел у працы тэатру. Для пастаноўкі ў другой палове сэзону эўропэйскай клясычнай п'есы запрошаны рэжысэр тэатру Вахтангава т. Папоў.

У бліжэйшы час будуць організованы вялікія балетныя вечары пад кіраўніцтвам балетмэйстэра Сямёнава.

* Белмузтэхнікум рыхтуе да 10-годзьдзя абвяшчэньня БССР пастаноўку першай беларускай опэры „Тарас на Парнасе“. Музыка напісана композытарам Аладавым і лібрэто Ю. Дрэйзіным.

У дні сьвяткаваньня Белмузтэхнікум наладзіць вялікі сымфонічны концэрт. Будуць выкананы беларуская сюіта, напісаная композытарам Рагоўскім у 1911 г., сымфонічны твор музыкі Цікоцкага і інш.

* Рэжысэр Гардзін напісаў і перадаў Белдзяржкіно новы сцэнары „Наша крэпасьць“. Гэты кіно-сцэнары адбівае ход паўстаньня ў Бабруйскім дысцыплінарным батальёне ў 1905 г. Здымка гэтай карціны мае адбыцца ў Бабруйску.

* Савет Народных Камісараў БССР зацьвердзіў організацыю дадатковай клясы сьпеваў пры Белдзяржмузтэхнікуме. Для выкладаньня сьпеваў у гэтай клясе прыехаў з Масквы вядомы проф. Баначыч. Такім чынам, організацыя гэтай клясы будзе першым крокам да рэорганізацыі музтэхнікуму ў Беларускую консэрваторыю.

## Хроніка друку

* Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва здае ў друк гістарычную драму Л. Цьвяткова—„Паўстаньне" ў 5 дзеях. Драма адбівае жыцьцё мінулых гадоў г. Магілева.

* Белдзяржвыдавецтвам друкуецца п'еса А. Міровіча — „Кастус Каліноўскі".

* 10 сьнежня г. г. вышаў нумар газэты-аднаднёўкі „Комсамол—школе".

* У Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве зараз друкуюцца п'есы „Каля тэрасы"—Міхайлы Грамыкі, „Дрыгва"—І. Гурскага.

* Да 10-годзьдзя БССР выходзіць кніга „Барысаў за 10 год", выданьня Барысаўскага Краязнаўчага Таварыства.

* Работа па перакладу твораў Леніна на беларускую мову распачалася з 1924 году. Тады было вызначана скласьці Цэнтральную Камісію па выданьні твораў Леніна, першы склад якой быў вызначаны ў канцы 1924 г.

Камісія выдзеліла звычайную рэдакцыйную колегію і работа фактычна ляжала на рэдакцыйнай колегіі.

З самага пачатку працавала 2 стылістычныя камісіі: адна дзеля выданьня збору твораў Леніна, а другая дзеля выданьня паасобных популярных брошур Леніна.

Дзеля падрыхтоўкі выданьня збору твораў Леніна была вызначана камісія ў складзе т. т. Сэрбэнта, Чаржынскага і Коласа.

У 1925 г. ў нас пачалі выходзіць паасобныя артыкулы тав. Леніна популярнага характару. У 1925 годзе вышла 7 назваў. У 1926 годзе вышла 6 назваў. Тут ёсьць такія назвы, як аб нацыянальным пытаньні і аб новай экономічнай політыцы. У 1927 г. вышла 6 назваў, у ліку якіх, паміж іншым, праца Яраслаўскага „Жыцьцё і праца Леніна".

У 1928 годзе ўжо вышла толькі 6 аркушоў, бо тут зьвярталася ўвага не на паасобныя популярныя творы Леніна, а на выданьне збору твораў Леніна.

Усяго популярных твораў выдана 22 назвы на 95 друкаваных аркушох.

Па выданьню збору твору Леніна трэба адзначыць наступнае: два томы ўжо набраны, гэтыя томы прайшлі праз стылістычную камісію, праз рэдакцыю і праз навуковыя ўстановы Інбелкульту.

Гэтыя два томы пасьля невялікай тэрмінолёгічнай апрацоўкі хутка выйдуць.

Зараз падрыхтаваны да друку, г. зн. праведзены праз стылістычную камісію, праз рэдакцыйную яшчэ ня цалкам, — чатыры томы. Адрэдагавана, але не канчаткова, таксама каля 4 томаў. Засталося яшчэ перакласьці два-тры томы.

* Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва рыхтуе да друку наступную дзіцячую літаратуру: „На караблёх Васка-да-Гама" і Д. Кэр, апавяданьне; Джэк Лёндон — „Сабакі", зборнік апавяданьняў; „Таямніца сьнягоў"— А. Джуда, апавяданьне ды інш.

* Пісьменьнік Янка Маўр здаў у друк Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву новы роман для моладзі „Амок" з часоў паўстаньня на высьпе Ява.

* Слуцкае раённае краязнаўчае т-ва да 10-годзьдзя аглашэньня БССР рыхтуе да выданьня зборнік „Случчына". У зборнік уваходзяць матэрыялы аб старажытнасьці краю і дасягненьнях ва ўсіх галінах гаспа-

даркі і культуры, якіх дасягнуў раён за апошнія 10 год.

* На днях пры Галоўмастацтве адбылася нарада па пытаньні аб выпуску музычных твораў. Мяркуецца ў першую чаргу задаволіць музычнымі зборнікамі школьныя хоры на 2—3 галасы.

Будзе таксама выпушчана музыкальная хрыстаматыя і інш. музычныя творы. Апрача гэтага, будуць выпушчаны аркестравыя творы (квінтэт Аладава і сюіта Рагоўскага).

* Перавыдаюцца Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам наступныя кнігі: Якуб Колас — „У палескай глушы“, 3-ім выданьнем; Чаржынскі Ўл.—„Выпісы з беларускае літаратуры XIX і XX ст.“, 2-ім выданьнем.

* Да 10-годзьдзя аглашэньня БССР выдаецца спэцыяльная аднадзенная газэта, прысьвечаная дасягненьням МОПР‘у ў БССР за 5 год свайго існаваньня.

* Віцебскае краязнаўчае т-ва выдала кнігу І. П. Фурмана, якая дэманструе нашы дасягненьні за 10 апошніх год у галіне тэорыі і практыкі беларускае гравюры. Кніжка дэмонструе працы этнографічнага музэю ў Ленінградзе С. Б. Юдовіна, былога профэсара віцебскага мастацкага практычнага Інстытуту Е. С. Мініна, які выконвае зараз альбом гравюр старой беларускай драўлянай архітэктуры, С. Гарбаўца, б. выкладчыка віцебскага мастацкага тэхнікуму.

Кожны з іх пасвойму адлюстраваў сучасную Віцебшчыну.

### Хроніка навукі

* Інбелкульт унёс ва ўрадавую камісію распрацаваны статут Беларускай Акадэміі Навук.

* Урачыстае адкрыцьце Акадэміі адбудзецца 1 студзеня. Урачыстасьці будуць адзначаны таксама ў Віцебску і Гомлі.

У Менск на гэтыя ўрачыстасьці запрашаюцца прадстаўнікі наркамаў асьветы саюзных і некаторых аўтономных рэспублік, галоўнавук саюзных рэспублік, акадэміі і марксыцка-навукова-дасьледчых устаноў.

Запрашаюцца таксама некаторыя выдатныя вучоныя з-за мяжы.

Да адкрыцьця Акадэміі выдаецца спэцыяльны бюлетэнь.

* Галоўнавука высунула проект організацыі ў Беларусі навукова-дасьледчага інстытуту пэдагогікі і пэдолёгіі. Пры ім намечана організацыя пэдагогічнага музэю. Інстытут будзе вывучаць проблемы марксыцкай пэдагогікі, рацыяналізацыі пэдагогічнай работы і г. д.

* Бабруйскі краязнаўчы музэй зьяўляецца адным з багатых краязнаўчых музэяў у БССР. У музэі знаходзіцца да 4000 розных экспонатаў. Асабліва багаты і рознастайны аддзел прыроды, куды сабрана шмат чучал зьвяроў, птушак і інш.

* Пабудову памяшканьня пад Беларускую Акадэмію Навук мяркуецца распачаць у бягучым годзе. Будынак БАН мяркуюць будаваць на Савецкай вул. супроць унівэрсытэцкага гарадка. Бібліотэка Акадэміі і Беларуская дзяржаўная бібліотэка мае зьмяшчацца ў доме мэталістых, недалёка ад месца, дзе будзе будавацца БАН.

* У Геолёгічны інстытут аддзелу прыроды і гаспадаркі запрошаны ў якасьці спэцыялістага па сэлікатнай прамысловасьці вучоны-спэцыялісты проф. Рыгор Абрамавіч Каплан.

* У пачатку сьнежня пры аддзеле прыроды і гаспадаркі Беларускай Акадэміі Навук зачыніўся чарговы пленум камісіі па вывучэньню вытворчых сіл Беларусі. Пленум заслухаў даклад профэсара Бліёдуха аб дзейнасьці геолёгічнага інстытуту. У 1927 годзе інстытут быў адчынены ў складзе аднэй сэкцыі рэгіяльнае геолёгіі, у 1928 годзе была створана сэкцыя прыкладной геолёгіі.

Спачатку 1927 году Інстытут пачынае вывучаць адклады ў БССР.

Пасылаюцца супрацоўнікі ў Клімавічы, у Амсьціслаўль і інш. месцы дзеля вывучэньня пяскоў, фосфорытаў, флёрыдынавых глін і інш. выкапняў. Мінулай зімой праводзілася камэральная апрацоўка гэтых матэрыялаў. Адначасна з гэтым у мінулую зіму праводзілася апрацоўка палявых матэрыялаў, якія былі сабраны у Савецкай Беларусі ў пэрыод 1924—26 г. у Магілеўшчыне; прычым проф. Сіроцін правёў досьледы радыёактыўнасьці некаторых старажытных адкладаў.

Праводзіцца праца па вывучэньню мінэральных угнаеньняў, галоўным чынам фосфорытаў, вапнякоў і інш.

Проф. Шчапоцьцеў праводзіў вывучэньне сучаснага пляնктону некаторых вадаёмаў у розных акругах з мэтаю падыходу да вывучэньня палеопляնктону.

На падставе дабытых матэрыялаў і старых літаратурных крыніц была складзена геолёгічная мапа Беларусі ў этнографічных межах.

У 1927—28 годзе былі праведзены досьледы па выяўленьню адкладаў фосфорытаў у ваколіцы вёскі Гразь, а таксама па-за межамі рэспублікі. Было праведзена вывучэньне вадазбору ракі Асьлейкі і Вэхра, дзе былі знойдзены першапачатковыя адклады фосфорыту. Вывучаны часткова вадазбор рэчкі Сожу. Праведзена некаторае абсьледваньне ў Полацкай акрузе. Былі выезды некаторых супрацоўнікаў для вывучэньня сьвідраваньня шчылін з мэтаю выяўленьня адкладаў.

* ІБК багата ўжо сабраў слоўнікавага матэрыялу як з крыніц жывой народнай мовы, так і з літаратурнамастацкіх твораў беларускіх пісьменьнікаў. У наступным годзе мяркуецца першы том акадэмічнага слоўніка падрыхтаваць да друку. Адначасна з гэтым будзе апрацоўвацца орфографічны слоўнік.

* У сьнежні г. г. адбудзецца перавучот краязнаўчых організацый, якія знаходзяцца на абшарах БССР. У пачатку 1929 г. будзе склікана Ўсебеларуская Краязнаўчая Конфэрэнцыя, у якой прымуць удзел толькі тыя краязнаўчыя організацыі, якія ўвойдуць у сьпіс і пададуць справаздачу аб сваёй дзейнасьці.

* Гэтымі днямі зьбіралася камісія па падрыхтоўцы проекту дадаткаў да статуту Беларускай Акадэміі Навук, які павінен быць падany на разгляд у камісію пры ЦВК і СНК БССР пасьля рэорганізацыі ІБК у Беларускую Акадэмію Навук.

* Асноўнымі момантамі працы краязнаўчых організацый на мясцох на наступны год паводле пляну ЦБ краязнаўства вызначаецца зьбіраньне і організацыя раённых музэяў, укладаньне раённых слоўнікаў мовы і географічных, організацыя сталых досьледаў па фэнолёгіі, мэтэоролёгіі, вывучэньне колектыўных форм сельскай гаспадаркі, укладаньне мясцовай бібліографіі і археолёгічных карт.

* Чэрвеньскае краязнаўчае т-ва правяло значную працу па абсьледваньні экономікі раёну: сабраны дакладныя весткі пра стан ураджаю за некалькі апошніх год, аб стане прыватнага гандлю на вёсцы, аб лясох дзяржаўнага значэньня, а пчалярстве і г. д.

Краязнаўца т. Дземяшкевіч склаў экономічны нарыс б. Ігуменшчыны, які зьяўляецца цікавым матэрыялам у галіне вывучэньня гаспадаркі гэтага раёну.

* Аддзел прыроды і гаспадаркі Інбелкульту выдае дазымэтрычную карту (гушчыня залюдненьня Беларусі), а таксама складае картатэку георафіі. Апрача таго, катэдра батанікі аддзелу прыроды і гаспадаркі ў гэтым акадэмічным годзе распачынае працу па апрацоўцы матэрыялаў аб флёры Беларусі з поўным сьпісам.

* Этнографічная экспэдыцыя—ад катэдры этнографіі Інбелкульту і Белдзяржмузэю вяла сёлета до-

сьледы ў кірунку Слуцак—Мазыр праз Паўстынь, Галь, Любань, Азарычы, Даманавічы, Асташковічы, Славяны.

На чале экспэдыцыі стаяў кіраўнік катэдры этнографіі Інбелкульту тав. Ластоўскі.

Экспэдыцыя сабрала вельмі каштоўныя экспонаты беларускай народнай разьбы па дрэве ў ліку 70 штук, беларуска-мастацкага ткацтва да 500 штук экзэмпляраў, у якое ўваходзяць узорныя тканіны, вопратка і часткі вопратак.

Экспэдыцыі між названымі экспонатамі ўдалося знайсьці вопраткі, якія былі выраблены ў канцы XVIII сталецьця.

Апроч таго, экспэдыцыя сабрала 100 штук тканых паясоў, прычым кожны пояс ёсьць асобная адмена ўзору. Усе здабытыя экспонаты пераданы ў Белдзяржмузэй.

* Этнограф Сэрбаў зараз працуе над вывучэньнем гістарычнай мяжы паміж летапіснымі славянскімі пляменьнямі радзімічаў, дрыгвічоў і крывічоў. Па археолёгічных досьледах і этнографічных назіраньнях мяжа гэта ўжо ўстаноўлена ад Быхава па рацэ Дняпру, па рацэ Улясьці, балоту Чыстыя Лужы, да стоку р. р. Проці і Сожам, а затым па р. Проці да яе вытокаў каля д. Дабрынь, Аршанскай акругі. На ўсход ад гэтае мяжы яскрава выступаюць сьляды культуры радзімічаў, а на захад—дрыгвічоў.

У Дубровенскім р., Аршанскай акругі, мінулым летам экспэдыцыя ЦБ краязнаўства ўстанавіла стык гэтых пляменьняў, дзе з поўначы паміж радзімічамі і дрыгвічамі ўкліньваюцца смаленскія крывічы.

Адзнакі культуры радзімічаў вельмі добра захаваліся там у в. в. П'янька і Жорнаўка, а жыхары іх носяць агульную назву „Гарчан". Дрыгвічы выступаюць з сваёй культурай на захад ад Дабрыні ў кірунку да Воршы. Культура крівічоў заметна ў кірунку на м. Леніна (раней Раманава) і далей на Смаленск.

Археолёгічныя дасьледваньні паказалі асаблівасьці курганнага пахаваньня радзімічаў, а таксама асаблівасьці розных рэчаў убраньня. Напрыклад, радзімічы ў старадаўнія часы любілі насіць вялікія завушніцы і розныя прывескі.

У дрыгвічоў старажытная культура мае таксама свае асаблівасьці, што можна бачыць з раскопак Сэрбава каля Менску.

Этнографічныя назіраньні гадоў 30—40 таму назад паказваюць асаблівасьці матэрыяльнай культуры, пераважна ў вопратцы і галаўных уборах. Дрыгвічы насілі нізкую магерку, а радзімічы—высокую шапку-валёнку, таксама была розьніца ў спосабах павязкі хустак у дрыгвічоў: хусткі пераважна завязваліся з вялікімі рагамі, а ў радзімічаў—з меншымі ці зусім кругла.

У крывічоў як полацкіх, так і смаленскіх былі свае асаблівасьці ў вопратцы і галаўных уборах. У іх пераважна ўжываліся белы палатняныя насовы, на падабенства белай сьвіткі, а хусткі завязваліся ў большасьці кругла.

Асінаўскае балота, як відаць, паслужыла ў свой час мяжой паміж радзімічамі, дрыгвічамі і крывічамі.

* Гомельскае краязнаўчае т-ва наладзіла сёлета экспэдыцыю па вывучэньню палявых шкоднікаў Гомельскай акр. Вынікам гэтае экспэдыцыі зьяўляецца брошура агронома Крылова аб шкодніках акругі, якая падрыхтавана да друку.

* Барысаўскі заказьнік зьяўляецца адным з найбольш каштоўных заказьнікаў СССР. На ўсесаюзным зьезьдзе заолёгаў гэты заказьнік прызнаны маючым усесаюзнае значэньне. У ім есьць жывёла, якая зьяўляецца рэдкасьцю ня толькі для Беларусі, але і для ўсёй Эўропы (бабры).

Цікавым зьяўляецца барысаўскі заказьнік таксама і з боку сваёй флёры і лясного масыву, які ахоплівае Бярэзінскую водную сыстэму. Аднак,

знаходжаньне заказьніка пад загадам ляснога кіраўніцтва Наркамзему, які вядзе ў ім шырокую эксплёатацыю лесу, ставіць пад пагрозу далейшае існаваньне запаведніка.

Галоўнавука зараз высунула проект рэорганізацыі заказьніка ў беларускі парк аховы прыроды з правядзеньнем там сталай стацыянарнай навукова-дасьледчай работы.

* Гомельскае акруговае краязнаўчае т-ва нядаўна правяло вывучэньне бабровых колёній у цэлым шэрагу раёнаў. Экспэдыцыя выявіла 10 сем'яў баброў у Веткаўскім р. і ў шэрагу інш. раёнаў. Экспэдыцыя сабрала шмат бабровых хатак і інш. экспонатаў з жыцьця гэтае жывёлы.

* Першыя каменчыкі ў падмурак ІБК былі заложаны ўтварэньнем у 1921 г. Навукова-Тэрмінолёгічнае Камісіі пры НКА. Цяжкія і складаныя задачы паўсталі перад гэтаю камісіяй: атрымаўшы практычныя заданьні—укладаньне навуковых тэрмінолёгій і падручнікаў для беларусізацыі школ,—яна з першых дзён працы сустракаецца амаль з поўнай адсутнасьцю папярэдняга дасьледваньня Беларусі. Гэтую прагаліну камісія павінна была запоўніць сваімі навукова-дасьледчымі працамі. А гэта значыць, што яна павінна была організацыйна пашырацца, прыцягваць да працы навуковыя сілы, ахапляць усё больш і больш комплекс об'ектаў дасьледваньня... Так тэрмінолёгічная камісія падыходзіць да ІБК—навукова-дасьледчае ўстановы комплекснага характару. Рэорганізацыя камісіі ў ІБК адбылася ў 1922 годзе.

Структурная пабудова Інстытуту Беларускай Культуры была ў 1927-28 акадэмічным годзе наступная: установы пры прэзыдыуме ІБК, аддзел гуманітарных навук, які складаўся з 7-мі катэдраў, 2 інстытуты, 18 камісій і 1 музэй, аддзел прыродазнаўчых і гаспадарчых навук, які складаўся з 7-мі катэдраў, 1 інстытут, 5 камісій, 1 навуковае т-ва, 4 лябораторыі і нацыянальныя сэктары: яўрэйскі, польскі, катэдра гісторыі Літвы і камісія для вывучэньня культуры латышоў.

На наступны 1928—29 акадэмічны год установы пры прэзыдыуме засталіся бяз зьмен.

Аддзел гуманітарных навук пашырыўся наступным парадкам.

Пры інстытуце навуковае мовы ўтвораны дзьве сэкцыі: сэкцыя гуманітарных навук і сэкцыя прыродазнаўчых навук.

Самастойная этнографічная камісія перайменавана ў катэдру, пры якой устаноўлены 3 новых камісіі: камісія для вывучэньня беларускага народнага мастацтва, камісія беларускай народнай музыкі і песьні і камісія для вывучэньня беларускага народнага тэатру.

Археолёгічная камісія перайменавана ў катэдру з дзьвюма камісіямі для вывучэньня старога і новага каменнага веку і камісія для вывучэньня жалезнага веку.

Адчынена катэдра сучаснага беларускага права з дзьвюма камісіямі.

Камісія для вывучэньня гісторыі беларускага мастацтва ўведзена ў склад катэдры гісторыі Беларусі.

Камісія для вывучэньня гісторыі асьветы на Беларусі далучана да катэдры гісторыі Беларусі.

Зьліквідаваны: катэдра гістарычнай географіі, катэдра гісторыі народнай гаспадаркі і інстытут мастацтва.

Гэткім чынам, у 1928—29 акадэмічным годзе аддзел гуманітарных навук будзе складацца з 10-ці катэдраў, 1 інстытуту, 19 камісій сталых і 2 часовых і 1 музэю.

Аддзел прыроды і гаспадаркі пашырыўся на 1928—29 год наступным парадкам:

Пры геолёгічным інстытуце будзе адчынены аддзел застасоўнае геолёгіі.

Адчыніцца катэдра хэмічнай тэхнолёгіі.

У выніку па аддзелу прыроды і гаспадаркі будзе працаваць 8 катэдраў, 5 камісій, 1 інстытут з двума аддзеламі, 1 ботанічны сад, 2 музэі, 4 лябораторыі і 1 навуковае таварыства.

Яўрэйскі нацыянальны сэктар застанецца бяз зьмен; у польскім сэктары ўстаноўлена 1 катэдра; катэдра гісторыі Літвы перайменавана ў катэдру літоўскае культуры.

Па ўсяму-ж Інстытуту ў 1928—29 акадэмічным годзе будзе працаваць 18 катэдраў, 24 сталых і 2 часовыя камісіі, 3 музэі, 2 інстытуты, 4 ляборторыі і 1 таварыства.

У 1927—28 акадэмічным годзе энэргічна праходзілі навукова-дасьледчыя работы на мясцох—выяжджала 12 экспэдыцый.

Дыялектолёгічная экспэдыцыя правяла свае нагляданьні па Бабруйскай, Магілеўскай і Полацкай акругах.

Экспэдыцыя для зьбіраньня народных мэлёдый вяла запісы ў Бабруйскай, Мазырскай, Гомельскай і Полацкай акругах.

Экспэдыцыя для вывучэньня гісторыі мастацтва вывучыла архітэктурныя помнікі XVII ст. ў Полаччыне і драўляныя старасьвецкія будынкі ў Слуцку.

Археолёгічная экспэдыцыя па Сожу, Дняпру, Дзьвіне і Сьвіслачы за лета 1928 г. раскапала 50 стаянак, 7 селішч, 42 гарадзішчы і 128 курганоў.

Комплексная экспэдыцыя ЦБ краязнаўства вывучала ў Дубровенскім раёне этнографію, географію, гаспадарку.

Геолёгічная экспэдыцыя вывучала ў Магілеўскай акрузе геолёгію і геолёгічныя адклады.

Антрополёгічная экспэдыцыя вывучыла ў Полаччыне і на Палесьсі антрополёгічны тып беларуса.

Географічная экспэдыцыя дасьледвала тэрыторыю Асінбуду.

Экспэдыцыя для вывучэньня хатніх рамёстваў вывучала ганчарную і ткацкую сялянскую прамысловасьць.

Экспэдыцыя для вывучэньня курортных месц выяжджала ў Полацкую акругу.

Экспэдыцыя для вывучэньня харчовай прамысловасьці вывучала браварную прамысловасьць.

Этнографічная экспэдыцыя ў Слуцкай, Бабруйскай, Мазырскай і Полацкай акругах вывучала беларускую народную вопратку і орнамэнтыку.

Сабраныя нагляданьні на мясцох і энэргічная лябораторная праца ў сьценах Інстытуту Беларускае Культуры адбілася на выдавецкай дзейнасьці Інстытуту. У 1927—28 г. Інстытут Беларускае Культуры выпусьціў у сьвет 550 друкаваных аркушоў сваіх прац, а на 1928—29 год ёсьць рукапісаў па аддзелу гуманітарных навук на 400 аркушоў, па аддзелу прыроды і гаспадаркі—на 200 аркушоў, па ўстановах пры прэзыдыуме нацсэктараў — на 300 друкаваных аркушоў.

На 1928—29 год значна павялічыўся і склад навуковых працаўнікоў. У 1927-28 г. было 47 навуковых працаўнікоў першай катэгорыі і 23 другой катэгорыі. Гэты навуковы актыў Інстытуту Беларускае Культуры ўзрос на 15 навуковых працаўнікоў.

Навуковую сувязь з іншымі навуковымі ўстановамі Інстытут Беларускае Культуры вёў праз камандыроўкі сваіх супрацоўнікаў у навуковыя ўстановы Саюзу і заграніцу, праз корэспондэнцыю і абмен выданьнямі. У 1927—28 акад. годзе Інстытут Беларускае Культуры абменьваўся сваімі выданьнямі з 96 навуковымі ўстановамі СССР і 32 навуковымі ўстановамі заграніцай.

Зараз Інбелкульт пераходзіць у вышэйшую форму—Акадэмію Навук.

* Месяц назад Мазырскім акруговым таварыствам краязнаўства закончана ўкладаньне краёвага слоўніка мовы Мазыршчыны.

У слоўнік увайшло 10.000 слоў. Ён зьявіцца матэрыялам для ўкладаньня Беларускай Акадэміяй Навук акадэмічнага слоўніка Беларусі.

Да слоўніка Мазыршчыны прыложана дыялектычная прадмова з тае прычыны, што ў гаворцы Мазыршчыны назіраецца надзвычайная рознастайнасьць моўных фактаў.

Краязнаўчым таварыствам сабрана шмат матэрыялаў па дыялектолёгіі Калінкавіцкага, Нараўлянскага і Караліцкага раёнаў. Матэрыялы гэтыя цяпер прыводзяцца ў парадак, і калі будуць сродкі на заканчэньне дыялектолёгічных досьледаў, дык у бліжэйшым будучым можна будзе пачаць укладаньне працы асаблівасьцяй гаворкі ў гэтых раёнах (дыялектолёгічныя нарысы).

* Страхагент тав. Лукомскі, знаходзячыся ў м. Чачэрск, Гомельскай акругі, знайшоў у рацэ касьцяны нож-гарпун, які зьяўляецца прыладаю першабытнага чалавека для лоўлі рыбы. Такіх нажоў-гарпуноў у Беларусі ўсяго знойдзена два, з якіх першы быў вывезены белапалякамі і зьмешчаны ў Кракаўскі музэй.

* Спачатку 1928—29 акадэмічнага году археолёгічная камісія ператворана ў катэдру археолёгіі пры Беларускай Акадэміі Навук. Археолёгічная камісія распрацавала наступныя навуковыя даклады: „Аршаншчына ў археолёгічным асьвятленьні“—С. А. Дубінскі, „Аршанскае гарадзішча“—А. М. Ляўданскі, „Нарысы з гісторыі Аршанскага замку“—З. І. Даўгяла, „Археолёгічныя помнікі Смаленску“—А. М. Ляўданскі, „Раскопкі Нова-Быхаўскага поля пахавальных вурнаў“—І. А. Сэрбаў, „Ухлясьцінскае гарадзішча па досьледах 1926—27 г.“—І. А. Сэрбаў, „Раскопкі палеолітычнай стаянкі“—К. М. Палікарповіч і інш.

У розных мясцох БССР у нябывалым дагэтуль разьмеры ўдалося разгарнуць за апошні год плянавыя раскопкі і досьледы. Усяго было дасьледвана 42 гарадзішцы, да 130 курганоў, звыш 50 стаянак і некалькі селішч і сабраны вялізарны навуковы матэрыял.

Праз адпаведныя органы ІБК камісія наладзіла сувязь з археолёгічнымі інстытуцыямі Захаду: Польшчай, Літвой, Латвіяй, Фінляндыяй.

Ва Ўсесаюзны Інстытут прыкладной ботанікі і новых культур адасланы на дасьледваньне зерні, знойдзеныя пры раскопках Банцараўскага гарадзішча. Апроч гэтага, наладжана сувязь з Акадэміяй гісторыі матэрыяльных культур, зоолёгічным музэем Акадэміі Навук, гістарычным музэем у Маскве і інш.

Трэба адзначыць прыезд у Менск для вывучэньня на месцы сабранага матэрыялу (остэолёгічнага матэрыялу з раскопак палеоліту, курганоў і гарадзішч) члена Акадэміі матэрыяльнай культуры проф. А. А. Сьпіцына і навуковага супрацоўніка зоолёгічнага музэю В. І. Громава.

У выніку працы т. Громава, камісія організавала публічныя пасяджэньні з дакладамі аб знойдзенай палеолітычнай стаянцы і была організавана трохтыднёвая выстаўка палеолітычнага матэрыялу.

Паміж іншымі находкамі, якія маюць вялікую гістарычную каштоўнасьць знойдзены косьці жывёл, чэрап аўцабыка (саўгас Лошыца пад Менскам), зубы насарога (в. Паўзухі, Горацкага р.), зубы дагістарычнага каня (с. Баўчас, Чэрыкаўскага р.) і ў розных мясцох косьці маманта.

**Рознае**

* Гэтымі днямі Беларуская дзяржаўная бібліотэка атрымала па кнігаабмену буйную партыю кніг (звыш 1.000 шт). З гэтай колькасьці атрымана каля 500 кніг ад бібліотэкі Конгрэсу ў Вашынгтоне (Амэрыка).

Апрача гэтага, атрыманы каштоўныя кнігі ад нямецкага аб'яднаньня навуковых установ, ад Японскай акадэміі, Брэслаўскага унівэрсытэту (Чэха-Славакія) і ад Чэскай акадэміі.

* Цэнтраархіў выявіў цікавыя дакуманты, якія датычацца забароны сьвяткаваньня 21 лютага 1914 г. ста-

годзьдзя з дня нараджэньня Тараса Шаўчэнкі. Менскі губарнатар таго часу разаслаў сакрэтны абежнік усім адказным чыном паліцыі не дапускаць ні дэмонстрацый, ні публічных выступленьняў, зьвязаных з ушанаваньнем памяці украінскага поэты Тараса Шаўчэнкі.

* Колегія Наркамасьветы зацьвердзіла статут беларускіх дзяржаўных музэяў. Былыя аддзяленьні Белдзяржмузэю па акругах рэорганізуюцца ў самастойныя ўстановы.

Менскаму і Віцебскаму музэям надаюцца назвы—Беларускія дзяржаўныя культурна-гістарычныя музэі; Гомельскаму—Беларускі мастацка-культурны музэй, Магілеўскаму—Беларускі дзяржаўны акруговы краязнаўчы музэй. Віцебскі зоолёгічны музэй перадаецца пад загад Беларускага вэтэрынарнага інстытуту.

Для павышэньня кваліфікацыі музэйных працаўнікоў уводзіцца асьпірантура па музэйным будаўніцтве. Пастаноўлена таксама павялічыць водпуск сродкаў на набыцьцё новых музэйных экспонатаў.

* Галоўпрофасьветы РСФСР намеціў адкрыць беларускае аддзяленьне ў Омскім рабфаку. Гэта будзе першы беларускі рабфак у Сібіры, што мае асаблівае значэньне, бо ў Сібіры налічваецца некалькі сот тысяч беларускага насельніцтва.

* Беларускі камітэт саюзу эспэрантыстых пачаў рыхтавацца да сьвяткаваньня 10-годзьдзя агалашэньня БССР. Да часу сьвята будзе паслана сэрыя артыкулаў у замежныя газэты і часопісы аб гаспадарчым і культурным будаўніцтве БССР за 10 гадоў яе існаваньня.

Апрача гэтага, будзе выпушчаны спэцыяльны нумар эспэранцкай радыё-газэты, прысьвечаны юбілею.

* 1 лістапада ў залі Віленскай Бел. Гімназіі адбылася вечарына для ўшанаваньня памяці бел. поэты Бутрыма, у 100-ю гадавіну яго народзін, а таксама і Кастуся Каліноўскага, першага нацыянальнага змагара-рэволюцыянэра за вольнасьць беларускага народу ў 1863 г., у 90-ю гадавіну яго народзін. Рэфэрат аб Бутрыме прачытаў гр. Антон Луцкевіч, а аб К. Каліноўскім—вучань Урбановіч.

* Мінула 5 год існаваньня Дзяржаўнага музэю. Ня гледзячы на тое, што белапалякі вывезьлі ўсе экспонаты, сабраныя абласным музэем, тэмп работы па організацыі Беларускага дзяржаўнага музэю шпарка разгортваўся. У 1923—24 г. бюджэт музэю складаўся з 4.859 руб., а ў 1927—28 г. бюджэт музэю дасягнуў 37.018 руб.

За час існаваньня БДМ набыта 16.445 экспонатаў.

Музэй распадаецца на наступныя аддзелы: *археолёгічны, зброі, нумізматычны, палеографічны, этнографічны, мастацкі, яўрэйскі, стары Менск, царкоўны аддзел і бібліотэка.*

*Археолёгічны аддзел* сабраў шмат экспонатаў па археолёгіі. У сучасны момант у музэі ёсьць колекцыі, якія сьведчаць аб жыцьці на Беларусі ў эпоху палеоліту (стара-каменны век), нэоліту (нова-каменны век), бронзавага пэрыоду і пачатку жалезнага веку.

*Нумізматычны аддзел* мае колекцыю грошай, якая поўнасьцю паказвае тэхніку разьвіцьця вырабу грошай, пачынаючы з кіеўскай грыўні і да апошніх часоў.

*Аддзел зброі* імкнецца даць малюнак разьвіцьця ўзброеньня, пачынаючы з 14—15 ст. аж да 20 ст. Аддзел гэты яшчэ вельмі бедны. Тым ня менш, ужо падабраны матэрыял, на падставе якога можна адзначыць галоўныя моманты ў зьмене тэхнікі і характар узброеньня.

*Этнографічны аддзел* даволі багаты. За кароткі час аддзел сабраў шмат каштоўных колекцый. Для збору вопраткі, рознага начыньня, абсталяваньня і інш. рэчаў, якія даюць поўны малюнак жыцьця беларускага

сялянства, організоўваюцца спэцыяльныя экспэдыцыі.

У *мастацкім аддзеле* сабраны працы вядомых расійскіх мастакоў, як Рэпін., Сераў, Макоўскі і інш. Ёсьць працы вядомых эўропэйскіх мастакоў—Свэнэвельлі (Голяндыя—17 ст.), Шэфэр (Нямеччына—19 ст.), Росі (Італія—19 ст.). У копіях ёсьць карціны Рэбранта, Рубэнса і інш.

Апроч гэтага, БДМ сабраў па магчымасьці ўсё лепшае з беларускага мастацтва. Да 10-годзьдзя агалашэньня БССР музэй організуе спэцыяльную выстаўку, на якой будуць паказаны нашы дасягненьні ў галіне беларускага мастацтва.

*Яўрэйскі аддзел* сабраў багатую колекцыю экспонатаў старога яўрэйскага быту: ёсьць колекцыі вопраткі, рэчаў хатняга ўжытку, рэчы дапаможнага яўрэйскага мастацтва 17—18 ст. і карціны, якія ілюструюць быт яўрэяў.

*Царкоўны аддзел* мае шмат прадметаў царкоўнага ўжытку. Там ёсьць шмат такога, што дае ўяўленьне аб народнай мастацкай творчасьці. Старая беларуская іконаграфія 15—18 ст. сьведчыць аб існаваньні на тэрыторыі Беларусі асобнай малярскай школы, якая стварала часта нешта зусім орыгінальнае, самабытнае і ў высокай меры каштоўнае.

*Бібліотэка* БДМ зараз мае 3.500 томаў, у якой знаходзяцца розныя каштоўныя кнігі. БДМ наладзіў сувязь з цэлым шэрагам навуковых установ СССР, якія высылаюць у музэй свае выданьні.

У сучасны момант галоўнай задачай БДМ зьяўляецца навуковая апрацоўка сабранага матэрыялу. Зараз гэта праца падыходзіць к канцу.

**Замежныя краіны аб Беларусі**

* У газэце „Юманітэ“, орган ЦК французскай компартыі, зьмяшчаны артыкул аб сучаснай беларускай вёсцы.

* Прыватнае выдавецтва Ніколя Андрыц выдала на харвацкай мове (г. Загрэб, Сэрбія) вельмі мастацкі асобнай кніжкай аповесьць Якуба Коласа „У палескай глушы“. Да выданай кніжкі напісана прадмова А. Вазьнясенскім.

* У бюлетэні міжнароднага пэдагогічнага прэсбюро, які выходзіць у Орлеане (Францыя), зьмешчаны артыкул аб сыстэме народнай асьветы ў БССР.

* У Маскоўскай газэце „Гудок“ № 286, ад 9/XII—28 г., орган ЦК саюзу чыгуначнага транспарту, зьмешчаны вялікі артыкул пра Цішку Гартнага т. Пацюкевіча—„Дваццаць год творчай дзейнасьці“ і портрэт юбіляра.

* У бэрлінскай газэце „Prager Presse“ № 346 ад 14 сьнежня 1928 г. зьмешчана пра юбілей Цішкі Гартнага.

* У украінскай часопісі „Авангард“ № 1 за 1929 г. друкуецца артыкул—„Дваццацігадовы юбілей Цішкі Гартнага“.

У часопісе „Гарт“, № 12 за г. г. перакладзены на украінскую мову верш В. Маракова—„Чуеш, Беларусь“.

## ХРОНІКА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ ЗАМЕЖНЫХ КРАІН

* У новай опэры Франца Шрэкэра „Пяючы чорт“ з часу зьнішчэньня паганства ў Нямеччыне ўпяршыню зноў ужываюцца старажытныя „арганы“ ці „рэгала“. Гэтыя арганы былі зроблены дакладна паводле старажытнай модэлі ў Дзяржаўнай акадэмічнай музычнай школе ў Бэрліне, фірмай Шыдмайэр.—На першым прадстаўленьні 7 сьнежня ў Дзяржаўнай опэры „Unter der Linden“ у Бэрліне гэты інструмант ужываецца ўпяршыню. Падрыхтоўваецца опэра і ў Празе (новы нямецкі тэатр).

* Эдгарам Уэльсам зацікаўлены ў Амэрыцы ня менш, чым на яго ангельскай бацькаўшчыне. Дзівяцца ў Амэрыцы, як гэта вышла, што Уэльс нарадзіўся ў Англіі, а ня ў Злучаных Штатах. Нью-Ёркская газэта „Wordl“ гаворыць, што Уэльс у романе і драме вытварае тое самае, што Форд у моторной індустрыі, а ангельцы і ня ведаюць, які вялікі піонэр жыве сярод іх. Але Лёндон крыха-па-крысе зачароўваецца Уэльсам. Гавораць многа аб яго прыбытках, аб гадзінах яго працы, яго жарты таксама тлумачаць і пераказваюць, як і жарты Гэнры Форда. Фактычна Уэльс ёсьць Форд ад літаратуры: у 1927 годзе напісаў ён 26 романаў і 6 тэатральных п'ес. Да канца сакавіка 1928 году прададзены 5.000.000 томаў яго твораў. Усяго напісаў ён 140 романаў, а можа і больш—Уэльс і сам забыўся. Ён дыктуе свае творы ў дыктафон і больш іх ніколі ня чытае. Аб далейшым клапоцяцца яго жонка і сакратары.

* У выдавецтве франкфурцкага друкарскага саюзу зьявіўся роман „Вайна“ Людвіга Рэнна.—Арнольд Цвэйг працуе над романам „Маладая жанчына 1914 году“.—Ліон Фэйктвангер—над романам „Удача“.

* З Будапэшту паведамляюць: уся прэса занята тымі лістамі, якія пісаў Бэрнард Шоу чэха-славацкаму пісьменьніку Чапэку і ў сувязі з гэтым свайму прадстаўніку ў Будапэшце. У гэтых лістох ён адкрыта выказвае свае думкі наконт палітычнага становішча Вэнгрыі. Правая радыкальная і таксама поўофіцыяльная прэса сур'ёзна перасьцерагае ангельскага пісьменьніка і патрабуе арганізаваць бойкот гэтаму „ворагу“ Вэнгрыі. Патрабуе, каб вэнгерскі тэатр больш ня ставіў яго драм, каб публіка больш ня чытала яго твораў, каб кнігары не прадавалі яго кніг. — Думаюць такім шляхам рэпрэсій прымусіць яго зьмяніць свой пагляд, бо ён „пашкадуе свайго заробку“.

* „Апошні разьдзел“ выданы Т. Кнаўрам (Бэрлін) у колькасьці 160.000 экзэмпляраў.—Апошні яго роман „Бадзяга“ (выданьне Альбэрта Лангена. Мюнхэн) ужо разышоўся ў ліку 50.000 экзэмпляраў.

* Вызначаная выдаўцом Фігюэрам літаратурная прэмія ў 50.000 франкаў была выдана ўпяршыню маладому пісьменьніку Эманцэлю Еов за яго творы, асабліва за абодвы яго романы „Мае прыяцелі“ і „Каліцыя“.

* Як паведамляе евангелічная прэса, евангелічная консысторыя Брандэнбургу на падставе скаргі з боку евангелічных колаў прапануе

распачаць крымінальны процэс проці пастаўленай тэатрам Рэйнгардта комэдыі Газэнклэвэра „Шлюбы складаюцца на нябёсах“, бо розныя месцы гэтае п‘есы зьмяшчаюць факты сьвятакрадзтва.

* Аб‘яднаньне чэскіх модэрнічных пісьменьнікаў „КМЭН“ час-ад-часу наладжвае так званыя вечары, прысьвечаныя літаратурнай чыннасьці паасобных выдатных пісьменьнікаў гэтага аб‘яднаньня. Адзін з такіх вечароў 16 лістапада 1921 году быў прысьвечаны найвыдатнейшему сучаснаму пролетарскаму поэту Язэпу Горы. Вечар адбыўся ў залі „Умэлецкэ Бэсэды“. Ня гледзячы на тое, што білеты былі даволі дарагія, заля была перапоўнена. Між прысутнымі можна было ўбачыць невялічкую, жывую, Менску ўжо знаёмую, фігурку проф. Няедлага, а таксама кіраўніка выдавецтва „Покрок“ Капліцкага.

Уступнае слова-рэфэрат аб поэзіі Горы прачытаў найвыдатнейшы чэскі крытык проф. Ф. Х. Шалда. Рэфэрат быў вельмі цікавы, а з прычыны таго, што ён датыкаўся да літаратурнай дзейнасьці найвыдатнейшага прадстаўніка пролетарскай поэзіі Чэха-Славакіі, думаю, ня будзе лішнім падаць тут хоць у скарочаным выглядзе памянёны рэфэрат проф. Ф. Х. Шалды.

Як поэта, Гора ня ёсьць з роду Волькэра, наадварот: бывае часта проста яму процілеглы. Няма ў яго таго перабою сэрца, якое зьяўляецца і сілай і слабасьцю Волькэра. Гора творыць з роўнавагі і даходзіць да роўнавагі яшчэ большай. Здаецца гэта флегмай, але ёсьць гэта спакой, які ўжо сам па сабе зьяўляецца свая асаблівай сілай. Лірыка не зьяўляецца яму ні сродкам самавыхаваньня, ні агітацыйнай зброяй дзеля новага соцыяльнага парадку. І цікава, што яго кніжка вершаў найболей рэволюцыйна - пролетарскіх „Бурлівая вясна“ (Bourlive Jaro)— найслабейшая кніжка.

Аб яго рэволюцыйнай поэзіі ніхто ня скажа, каб яна выходзіла пад уплывам вонкавае сілы, камандавала кім-небудзь і нечым. Ніколі: Гора і тут пяе толькі тое, што мусіць. Напрыклад, калі апявае вясну, не прыфарбоўвае нічога ўжо проста таму, што ня хоча быць фальшывым, грубым і крыклівым, альбо калі рэволюцыю не пераглушыць і не перакрычыць нічога, бо зьяўляецца „музыкаю цішыні“.

Разглядаючы паступова ўсе зборнікі вершаў Горы і дайшоўшы да кніг—„Працоўны дзень“ (Pracujici den) і „Струны ў ветры“ (Struny ne vêtru), проф. Шалда сказаў, што такіх твораў мала яшчэ было ў чэскай літаратуры. Гэта проста, як ён сказаў, чарадзейныя кнігі. Гаварылася дагэтуль, казаў таксама проф. Шалда, што маем чатыры поэты-мысьленікі, чатыры поэты косму— Маху, Нэруду, Врхліцкага і Бжэзіну. Але цяпер трэба далучыць да іх пятага: Язэпу Гору з яго „Струны ў ветры“.

Канчаючы свой рэфэрат, проф. Шалда сказаў, што пасьля Волькэра Гора зьяўляецца найвыдатнейшым сучасным пролетарскім поэтам.

Пасьля рэфэрату артыстка народнага тэатру Врхліцка і арт. Выдра продэклямавалі шмат Горавых вершаў.

## ХРОНІКА УКРІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны пачынае выдаваць у сьнежні м-цы ↄ. г. пэрыодычны альманах (штомесячна) „Літературний Ярмарок“. У альманаху будуць друкавацца вершы, апавяданьні, аповесьці, романы і г. д.

* Харкаўская філія АХЧУ арганізавала Усеукраінскую перасоўную мастацкую выстаўку.

* Адэскае бібліографічнае таварыства пачало выдаваць бібліографічны слоўнік М. Камарова. Слоўнік будзе выходзіць асобнымі выпускамі.

* Украінскія пісьменьнікі Б. Антоненка-Давідовіч і В. Атаманюк напісалі для ВУФКУ кіно-сцэнары „Не плачем, а мечем“ з быту Заходняй Украіны з часу сусьветнай імпэрыялістычнай вайны.

* Композытар В. Міхальчук напісаў вокальны квартэт „На караблі“.

* Рабочая газэта „Пралетар“ пачала выдаваць штомесячны „Унівэрсальны журнал“ („Уж“) на ўзор часопісу на рускай мове „30 дней“.

* У студзені 1929 г. сьвяткуецца 150 гадовы юбілей ад дня нараджэньня украінскага пісьменьніка Кветкі - Основ‘яненка. Выдавецтва „Пролетарий“ выдае пра Кветку-Основ‘яненка спэцыяльную монографію Айзенштона.

* У канцы верасьня ў Харкаве распачаў зімовы сэзон украінскі тэатр „Березіль“ п‘есай „Пролог“. У рэпэртуар тэатру ўваходзяць новыя п‘есы: „Ділова Людина“ — Газэнклевера, „Над“—Вінічэнка, орыгінальная опэрэта—інсцэнізацыя роману Вотэля „Каралева Далёкага Острава“—Балабана, музыка Крыжаноўскага.

* У хуткім часе Дзяржаўнае Выдавецтва аддае ў друк літаратурны альманах „Новая Беларусь“, пад рэдакцыяй С. Піліпенкі.

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, Я. Купала, В. Васілевіч, А. Баліцкі, М. Чарот.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

# ЗЬМЕСТ